Падпісны індэкс: **74813**
Чытайце «Дзеяслоў» у Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Ілюстрацыі на вокладцы Алены Шлегель:
на 1-й стар.: «Алфавіт», (2010);
на 4-й стар.: «Краіна мрояў», (2009).



Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 631 ад 28 жніўня 2009 г., выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман».
Юрыдычны адрас: вул. Кузьмы Чорнага, 18-2, 220012, г. Мінск.

Адрас рэдакцыі:
220025 г. Мінск-25, а/с 91
e-mail: dzieja@tut.by, dzieja@list.ru
www.dziejaslou.by
Тэл. 200-80-91.

Здадзена ў набор 10.06.2011 г. Падпісана да друку 25.07.2011 г.
Фармат 70х108 1/16. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб'ём — 22 ул.-выд. арк. Наклад 1000 асобнікаў. Заказ №

Паліграфічнае выкананне: сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
ЛВ № 02330/0548592 ад 09.07.2009.
ЛП № 02330/0150444 ад 19.12.2008.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.

Кошт нумару – па дамове.

№4(53)
/ ліпень-жнівень / 2011

# дзеяслоў

ЗМЕСТ

**Проза**

**Сяргей Законнікаў.**
Басанож па зорах. *Вершы.* / 5
**Ірына Хадарэнка.**
Зачараванае кола. *Вершы.* / 62
**Ігар Кананові.**
Крочу далей. *Вершы.* / 97
**Віктар Жыбуль.**
Мая каляровая рэвалюцыя. *Вершы.* / 107
**Ірына Бельская.**
Анёл з параненым німбам. *Вершы.* / 129

**Паэзія**

**Ігар Бабкоў.**
Партрэт мастака, нябачны ў сутонні.
*Раман. (Пачатак).* / 14
**Леанід Дранько-Майсюк.**
У Вільні і больш нідзе. *(Працяг.)* / 67
**Алесь Гізун**.
Трэцяя рука мастака Руневіча.
*Навелы.* / 103
**Людміла Рублеўская.**
Бестыярый майго
савецкага дзяцінства. / 117

**Дэбют**

**Кірыла Стаселька.**
Вечныя дзеці. *Аповед.* / 134
**Ганна Грыдзюшка.**
Не паеду да мора. *Вершы.* / 137

**Пераклады**

**Граф дэ Лотрэамон.**
Песні Мальдарора. *Апавяданне.* / 140
**Ілля Камінскі.**
На танцах у Адэсе. *Вершы.* / 159

**Архівы**

**Сяргей Шапран.**
“Кіно – мастацтва калектыўнае...”
Драматычны кінадраматургічны лёс
Васіля Быкава. *(Працяг.)* / 165

| | | |
|---|---|---|
| **Дзённікі** | **Ніл Гілевіч.**<br>Трагічны дзевяноста шосты.<br>*Выбраныя старонкі дзённіка.* | / 182 |
| **Эсэ** | **Алесь Кіркевіч.**<br>Вясна. Анталія. Вялікдзень<br>*Філасофія турэмнага дворыка.* | / 203 |
| **Словы** | “Век адведзены мне я пражыў не дарма”.<br>*Гутарка Змітрака Вераса*<br>*з Генадзем Бураўкіным.* | / 205 |
| | “Перашкоды і націскі”<br>Дзмітрыя Плакса...<br>*Гутарка Алеся Плоткі*<br>*з Дзмітрыем Плаксам.* | / 243 |
| **Мастацтва** | **Кацярына Безмацерных.**<br>«Няма мастака без любові...»<br>*Гутарка Кацярыны Безмацерных*<br>*з мастакамі Аленай Шлегель*<br>*і Уладзімірам Ганчаруком.* | / 246 |
| **Крытыка** | **Аляксей Рагуля.**<br>Сярод лесу, сярод поля –<br>у цэнтры Еўропы<br>*Эстэтыка і сацыялогія прозы*<br>*Генрыха Далідовіча. (Заканчэнне).* | / 251 |
| | **Марына Весялуха.**<br>Жыць у іншым свеце.<br>*Нататкі пра кнігу Сяргея Календы*<br>*“Іржавы пакой з белымі шпалерамі.* | / 274 |
| | **Леанід Галубовіч.**<br>Вакол першай кніжкі Віталя Рыжкова.<br>*Тэзісы да ненапісанай рэцэнзіі.* | / 277 |
| **Памяць** | **Алесь Бакач.**<br>Смяяўся ў вочы жыццю і смерці.<br>*Згадваючы Яна Збажыну.* | / 283 |
| **Дзеяпіс** | *Новыя выданні*<br>*на кніжных паліцах «Дзеяслова».* | / 289 |

Сяргей Законнікаў



...У краі зацятых зняверцаў
Стаілася рабская ціш...
Тут нават сваёю смерцю
Свабоду не пракрычыш...

# Басанож па зорах

## *ШАЛЁНАЯ СЦЮЖА*

*Генадзю Бураўкіну*

Не трэба расказваць мне казкі
Пра сонца, што скорыць імжу.
Я лепш іх з пяшчотай і ласкай
Унукам сваім раскажу.

Нашчадкам спатрэбіцца болей
Надзеі трывалы запас.
А вечнасць пранізлівым болем
Даўно працякае праз нас.

Хто любіць – на многае згодны...
Гляджу на жыццё, як здаля.
Нясецца праз космас халодны
Сагрэтая намі Зямля.

Яна, як пупышка вясною,
Якую палоніць лядок,
Ды выйдзе святой навіною
На волю зялёны лісток...

На сіверы, мудры мой дружа,
Давай жа трымацца шчыльней...
Сціскае шалёная сцюжа,
А будзе яшчэ халадней.

## ***ВЕРАСЕНЬ***

*Нілу Гілевічу*

Не таму,
Што народжаны ў верасні,
Я прыходжу ў задумлівы бор,
Дзе ў душу разам з цішаю вернецца
Парыванняў юнацкіх дакор.

Не таму,
Што народжаны ў верасні,
Я блукаю па пыльных палях,
Дзе жніво неўміручае вершыцца,
Каб зярнятам даць радасны шлях.

Не таму,
Што народжаны ў верасні,
Я шчымліва яго люблю...
Проста ў ім вольна пішацца,
Верыцца,
Што прыйшоў нездарма на зямлю.

## ***СКРЫПКА***

*“Скрыпка грае – слёз не мае...”*
Народнае выслоўе

Скрыпач, не плач,
Хоць, як на труны,
Глядзіць у заўтра мілы край.
У сэрцы рвуцца, рвуцца струны,
А ты – не плач...
А ты – іграй!

Хай верыцца – яшчэ не вечар,
Хоць “Дзякуй!” некаму сказаць.

Мелодыя сцякае ў вечнасць,
Нібыта па шчацэ сляза.

У родным –
Да крывінкі! –
Краі,
Дзе пекла выціснула рай,
Як на скананне скрыпка грае...
І ты слязы не выцірай.

### *БАСАНОЖ ПА ЗОРАХ*

Пад ветрам грывай калыхнуцца травы –
Даўно маленства сцежкі зараслі...
Дзе ты скакаў па радаснай зямлі,
Дзе волю меў, – нікому не цікава.

Свой сум прад непазбежнасцю агорай
І браму за сабою прычыні...
Забудзь, што быў калісьці на кані,
Ступай паціху басаною па зорах.

### *МАЎКЛІВАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ*

Маўклівая рэвалюцыя
Не хоча боек, крыві...
Дабро, што ў сэрцы заключана,
Шануй, прыстойна жыві.

Шлях мірны шчасліва знойдзены,
Каб знішчыць дарэшты зло,
Каб пустадомкаў і боўдзілаў
Між люду меней было.

Народ, да праўды далучаны,
Змяце пачвараў з трыбун...
Маўклівая рэвалюцыя
Мацней, чым крывавы бунт.

### *ПАЧУЦЦІ*

Смешна мне на самым ускрайку жыцця
Назіраць, як з нічога раздзьмулі пухір,
А цяпер не ведаюць, як яго сцяць,
Каб з ім разам не лопнуў дубінкавы мір.

Горка мне гартаць незалежнасці дні,
Бо жывой Беларусі пакуль не відно,
А грамадства пад звон нахабнай хлусні
Можа каменем булькнуць на самае дно.

Крыўдна мне, што без роднага слова жывем,
Каб давіцца трасянкай, папсою з дзярма.
А тутэйшым дагэтуль не ў галаве,
Што без мовы наогул народа няма.

Сумна мне, што адолеў столькі дарог,
Што нібыта ў людзей не застаўся ў даўгу,
Ды свабодзе пасобіць, як след, не змог...
А тым болей адтуль, як жа я памагу?

## *КРАЙ ЗНЯВЕРЦАЎ*

У краі зацятых зняверцаў
Стаілася рабская ціш...
Тут нават сваёю смерцю
Свабоду не пракрычыш.

## *НА ВЫДЫХ*

*Са светлай згадкай*
*пра Алеся Пісьмянкова*

НЗ мне лёс на рукі выдаў
Ашчадна са шчадрот сваіх.
Жыццё працуе ўжо на выдых,
Хоць некалі было – на ўдых.

А там, дзе я пра шчасце марыў,
Піў з сябрам смех на брудэршафт,
Паўсюль плывуць чужыя твары
І нават зменены ландшафт.

## *ПОКАЗКІ КАРАТКЕВІЧА*

Ішоў Бай па сцяне...
Баяць ці не?

Біў кат па спіне –
Зброю браў касінер...
Мірны час прамільгне:
З братам брат – у вайне...
Баяць ці не?

Баяць!
Бо паміж змаганнямі,
Як згасаў крывавы шал,
Люд меў звычку незаганную
Для душы рабіць прывал...

Ты быў грэшны,
Ты быў праведны,
А найперш – у дошку свой,
Бо свяціўся роднай праўдаю,
Непаўторнай дабрынёй.

Дружбакоў валілі покатам
Жарты вострыя тваe...
Я ўжо – дзед,
Ды мне тых показак,
Як і ўнукам,
Не стае.

Пад шчаку – руку,
І мона-сказ
Закалыша, паглыне...
Уладзімір Свет-Сымонавіч,
Раскажы што-небудзь мне...

## ***ЧУЮ...***

*Лілі*

Мова кахання – маўчанне,
Крохкае, нібы лядок.
Чую, як любай дыханне
Пералятае ў радок.

Так і жыве непакорна
Радасць юнацкіх уцех...
Чую, як з далечы зорнай
Звонка вяртаецца смех.

## ***РУКА***

Твая ласкавая рука,
Нібыта крылца матылька.

То пryляціць, то адляціць,
Таму яшчэ мне можна жыць.

На скроні лёгкая рука,
Нібыта крылца матылька.

### *ДОБРЫ СОН*

Зноў анёл сыпле цішу святую з крыла,
Ноч калыша мне ложа,
Як зыбку,
Ціхутка...
Ты, матуля, адгэтуль сысці не магла,
Вунь ля вербаў мільгае знаёмая хустка.

Новы сон расхінае наўсцяж далягляд,
Каб ясней між жыццёвага хламу
Прад вачыма плылі наша хата і сад...
“Добры дзень,
Мая мілая мама!”

### *АБЛІЧЧА*

Мы жывем ці быццё толькі снім?
Невядома...
Хай будзе, як лічым...
Я ніколі не стану старым,
Покуль бачу тваё аблічча.

### *ЛЯМПА*

*Уладзіміру Някляеву*

У коле сябрукоў даволі вузкім
Ёсць у мяне таварышка адна.
Вытрымлівае творчую нагрузку
Не меншую, чым я, за ноч яна.

Памочніца святлом цярпліва вучыць
Трываць накал душы,
Круты экстрым.
Гары, паэт,
Напружанне накручвай,
Да ранку мо і не перагарым.

Калі за шыбай смела сонца ўстане,
Я стомленую лямпу патушу.
Прыцішацца каварныя пытанні,
Ды не пакінуць гонкую душу.

## СУМ

У вусцішным трымценні гаю
Мацнее цяга скразняку,
Які бярозы абтрасае,
Дае зрух кожнаму лістку.

Але хоць залатая вея
Усё засыпле спакваля,
Не глухне і не бранзавее
Мая цнатлівая зямля.

І нават той,
Хто мог калісьці
Чуць восень,
Як аркестра медзь,
Сумее сум,
Бяздомнасць лісця
Душой адчуць і зразумець.

## ПАЛЕСКІ ЛІС

*Памяці Васіля Несцярэнкі*

Па лесвіцы прыроды доўгі час
Куды ступаем мы: уверх ці ўніз?
Сустрэўся мне ля Прыпяці якраз
Аблезлы і цікаўны надта ліс.

Ён смела і даверліва глядзеў,
Ён падышоў амаль што да нагі,
Відаць, не меў спалоху ад людзей,
Але трымцеў ад нейкае тугі.

Я ў запаведніку не быў даўно,
Скрозь бачны радыяцыі сляды.
А злыдні ладзяць “платнае кіно” –
Турыстаў валакуць ужо сюды.

На тонкай нітцы белы свет павіс,
Яго трывогі нельга занядбаць...
Глядзіць мне ў вочы той палескі ліс,
А ў позірку – касмічная журба.

## ПРА ЖАЎРАНКА І САВУ

Магу прачынацца ў сем, ці ў восем.
Куды мне спяшацца?
Пенсіянер.

А я падымаюся ў пяць цяпер,
Без кружэння вакол сваёй восі.

Раней,
Перш чым цвёрда стаць на ногі,
Варочаўся доўга з боку на бок.
А зараз адразу з ложка прыг-скок:
Я з вамі –
Радасці і трывогі.

Мой лёс паклаў на плечы нямала
Натхнёных,
Жаданых
І нудных спраў:
Світальны жаўранак хлеб зарабляў,
Сава начная вершы пісала...

Але і ў долі маецца донца,
Таму няварта сябе дакараць,
Што засынаць стала –
Як паміраць:
Ці будзе зноў пацалунак сонца?

Кладуся за поўнач з кнігай новай,
А там ужо недалёка і пяць,
Але не шкадую,
Што выпала стаць
Савой і жаўранкам адначасова.

Я вочы расплюшчваю роўна ў пяць:
Цяжка класціся, лёгка ўставаць...

### *ГОНАР МУНДЗІРА*

Для ўзнагарод шмат накручваюць дзірак –
Столькі было юбілеяў розных!
Ды не залежыць гонар мундзіра
Ад жалезак, што бразгаюць грозна.

Мне ж падабаецца кіпеню булькат,
Пах, што заўжды прыемны на дзіва.
Нават неабіраная бульба
Годна бароніць гонар мундзіра.

### *ПІШУ*

Мне даў наказ суровы тата,
Калі ўспаміны варушыў:

“Забілі каты песню брата,
А ты – пішы”.

Мне Быкаў слаў адтуль падмогу,
Дзе камень з хваляй – спарышы:
“Хоць і цябе ўзялі ў аблогу,
А ты – пішы”.

Было ў пачатку нашым Слова,
Яно ўратоўвае душу.
Мой Бог,
Мой лёс –
Святая мова...
І я – пішу.

Ігар Бабкоў



...Каб вярнуцца, трэба адарвацца ад формы,
якую надала нам эпоха. Перастаць быць молатам.
А гэта заўсёды больш складана,
чым пачуць далёкі голас і памкнуцца ў невядомае...

# Партрэт мастака, нябачны ў сутонні

### Ад аўтара

***Перад Вамі – першая частка досыць разлеглага цэлага, назва якога пакуль застаецца таямніцай. Усяго частак – шэсць і яны пачалі паўставаць аўтаномна і паралельна даволі даўно, прасоўваючыся наперад кожная ў сваім рытме. Яны аб'яднаныя голасам аўтара, агульнымі героямі і месцам дзеяння, і гэта яшчэ не ўсё.***

***Калі вызначаць форму гэтага цэлага, літаратуразнаўцы без сумневу выберуць слова ўтопія, а самыя прасунутыя, магчыма, будуць гаварыць пра метараман у кантэксце беларускай версіі магічнага рэалізма.***

***Для самога ж аўтара няма пакуль больш мілага і адэкватнага азначэння, чым раман-павута.***

***Гэтая канцэптуальная метафара можа значыць шмат якія рэчы. І яна яшчэ праявіць сваю ўладу.***

***Тут пакінем толькі нясціплае аўтарскае спадзяванне, што павута словаў, раскінутая ў рамане, дазваляе лавіць не проста сюжэты ды ідэі, але і залаты пыл часу. Той самы славуты Zeitgeist, за якім палююць мастакі, мысляры, паэты.***

***Напрыканцы хочацца пажадаць, каб гэтая гісторыя знайшла свайго чытача. Так, як яна ўжо знайшла сваю эпоху, сваіх герояў, і, не ў апошнюю чаргу, – свайго аўтара.***

## 1.

Францішак любіў казаць, што ён нарадзіўся ў гэтым часе і гэтым месцы толькі дзеля таго, каб пакаштаваць добрай кавы ў прыстойнай кампаніі.

Было, праўда, няясна, жартуе ён ці гаворыць сур’ёзна: інтанацыя, з якой вымаўлялася фраза, заўважна мянялася ў залежнасці ад гадзіны, пары года, месца, а таксама ад колькасці выпітага каньяку.

Гэтая фраза магла гучаць ціха і спакушальна, у каляровай раскошы восеньскага сутоння. Магла роспачна – як званок у хуткую дапамогу. Магла гучаць сціплай канстатацыяй: так, сапраўды, больш анічога не застаецца рабіць у эпоху непапраўнай дэградацыі свету, у часы *Калі-Югі*, як толькі прыйсці ў кавярню і замовіць гэты кубачак з густой, цёмна-духмянай вадкасцю. І потым доўга сядзець, гледзячы кудысьці далёка, працінаючы позіркам сцены і эпохі.

Таксама не было ясна, што значыць “прыстойная кампанія”: усе ведалі, што Францішак любіў піць каву адзін.

***

Зрэшты, я дакладна ведаю, што Францішак зусім не жартаваў. Ён гаварыў чыстую праўду.

Было такое месца ў Менску ў *халодныя часы*. Нават цяпер, калі ўсё змянілася, некаторым людзям – і ў асаблівыя моманты – я прызначаю *там* спатканні.

Назва была дастаткова простая для эпохі, зачараванай пластыкам і сіліконам: *Хвілінка*.

Адкуль яна паўстала, было невядома. Некаторыя думалі, што так пераклалі французска-расейскае *бістро*, іншым чуліся метафізічныя ноткі. Хвілінка, казалі яны, – гэта само чалавечае жыццё, у якое мы патрапляем зусім не велічна, без фанфараў. З няяснымі мэтамі. І дзе кожны спрабуе знайсці штосьці сваё.

Так, сапраўды, для большасці: смачныя пахі, прадчуванне магчымасцяў, спроба выбраць. Потым доўгая чарга. Потым каса, дзе трэба за ўсё заплаціць. Потым...

Але не гэта было галоўным.

*Сюды можна было прыйсці*, — так мы тады казалі.

Гэта было дзіўнае месца.

Уласна кажучы, гэта была зусім і не кавярня. Там не было асобнага ўвахода, гардэроба з люстэркам, не было залы са столікамі і афіцыянтамі. Толькі невялічкі барны закуток з трыма стойкамі, — напрыканцы адной з першых менскіх піцэрыяў. У гэтым закутку стаяў каўны апарат, на якім рабілі эспрэса — таксама адзін з першых у позьнесавецкую эпоху — і, напэўна, найлепшы.

Зрэшты, і гэта яшчэ нічога не тлумачыць. Ясна, былі й іншыя месцы. Былі сапраўдныя кавярні, былі ціхія куточкі ў гастраномах, дзе стаялі каўныя апараты, і ў некаторых кава была някепская. *Пад гадзіннікам*, альбо на *Чырвонай*. Часам усе скіроўваліся туды – у пошуках чагосьці новага, незвычайнага. І тады знаходзілі сябе ў іншых дэкарацыях. Напэўна, проста таму, што *доўга сядзець – стамляе* (так сказаў адзін наш добры знаёмы, калі яго запыталі, навошта ён пацягнуўся ў Кітай з Індыі, адзін, у шостым стагоддзі нашай эры).

Сапраўды, былі розныя магчымасці. Была *Халодная кавярня*, у сутарэннях пад Палацам Мастацтва, дзе каву гатаваць не ўмелі, але дзе можна было чытаць і гаварыць гадзінамі, пакуль не змерзнеш. Была *Звар'яцелая кавярня* ў Траецкім, на другім паверсе, дзе гатавалі толькі па-ўсходняму, і дзе весці размову было немагчыма – бо там гаварылі адразу ўсе, голасна, амаль крычалі.

І ўсё ж такі гэты закутак быў асаблівым.

Перш за ўсё асаблівай была прастора.

Гэта было ўзвышша, самае высокае месца горада. І да таго ж, месца *разлому*.

***

Тут на паверхню выходзіла штосьці вельмі важнае.

З левага боку ад праспекта, на якім стаяла *Хвілінка*, пачынаўся Верхні Горад. Паўзруйнаваны, ён адразу ж абрываўся ў Нямігу, метафізічную раку з крывавымі берагамі, з якой пачалася тутэйшая гісторыя. Яна цякла ў шматлікіх тэкстах і ўжо адтуль патрапляла ў нашую свядомасць. Рака бяссоння, так яе называлі старыя балты.

Людзі, якія жылі тут, былі неяк выкінутыя са звычайнага радаснага колазвароту мільённага горада, з ягонымі тралейбусамі і аўтобусамі, выставамі і кінатэатрамі, новымі мікраранамі, дзе горда луналі духі часу. Яны выглядалі так, як быццам пражываюць ужо не першае жыццё і проста крыху стаміліся ад яго навязлівага карнавалу.

Зрэшты, тут жылі не толькі людзі, але й цені, іншым разам здавалася, што яны і ёсць сапраўднымі жыхарамі менскіх руінаў, што толькі яны маюць правы на іх адлюдненую самоту.

Сярод руінаў меланхалічна блукала Свіслач, аперазаная паркамі. Яна збірала стары горад у адно, пяшчотна злучала гэтыя краявіды, вымывала ўсе крыўды і пакуты, пакідаючы пасля сябе толькі халодны, чысты спакой.

А часам нават і спадзяванне.

***

Вуліцы старой часткі пачыналіся неяк незаўважна і паводзілі сябе дзіўна. Перайменаваныя не адзін раз, яны адрываліся ад назваў, якімі эпохі спрабавалі іх прыручыць, скідвалі іх з сябе як танныя апранахі. Яны бунтавалі, не пагаджаліся – ішлі то паралельна рэчаіснасці, то перапляталіся, з ёй і міжсобку, скрыжоўваліся і разыходзіліся ў невядомых кірунках.

Іх было, зрэшты, няшмат, але яны шчасліва пераблытваліся ў свядомасці, і ніхто не мог пасля сказаць, што гэта было, і куды мы патрапілі: Падгорная? Дамініканская? Энгельса? Замкавая? Рэвалюцыйная?

Яны перасталі адгукацца нават выпадковым мінакам, заціхлі ў маўклівасці.

Часам здавалася, што ў гэтай маўклівасці хаваецца ціхая пагарда, і не толькі да радасных і бадзёрых новых мікрараёнаў, але і да рэальнасці як такой.

Зрэшты і сам Праспект, на якім прытулілася Хвілінка, існаваў крыху асобна ад рэальнасці. Гэта кідалася ў вочы не адразу, але для ўважлівых назіральнікаў было відавочным.

Праспект быў не проста самай доўгай вуліцай у горадзе, ён працінаў горад наскрозь, з захаду на ўсход. Хвілінка мела на ім дакладны адрас: дом 22. Яго можна было знайсці ў даведніку, і я аднойчы так і зрабіў. Проста каб упэўніцца, што ўсё гэта мне не прыснілася. Што Хвілінка сапраўды існуе, альбо існавала. У адным з гарадоў аднае з краінаў.

Справа ад Праспекта і паралельна яму ішла зарослая старымі дрэвамі і невялікімі мадэрнымі будынкамі вуліца Карла Маркса. Самая рэспектабельная, самая ціхая і буржуазная вуліца горада. Па ёй было добра шпацыраваць, але там чамусьці не адбывалася анічога сутнаснага.

І ўсё ж найлепей падыходзіць да Хвілінкі было менавіта па ёй, каля Музея Усіх Мастацтваў збочыць налева, нырнуць у затоку сквера, і выйсці на паверхню ўжо на Праспекце, каля самага ўваходу.

Прайсці наскрозь бістро, дайсці да барных стоек і заняць сваё месца каля вакна, з левага боку.

Праз вакно адкрываўся асаблівы від, як унутр, так і навонкі.

***

Бістро пачынала працаваць а восьмай гадзіне, а бар – толькі аб адзінаццатай. І таму, калі пасля адзінаццаці ў Хвілінку пачыналі збірацца госці, паветра вакол было прапітанае пахамі падгарэлай піцы, нішчымнага бульёну за восем капеек і іншымі сціплымі познесавецкімі гастранамічнымі радасцямі. Трэба адразу сказаць, некаторыя не вытрымоўвалі выпрабаванняў і заварочвалі назад, затыкаючы насы і вушы. Але тыя, хто дайшоў да канца, былі ўзнагароджаныя. Не адразу, вядома.

Спачатку трэба было агледзецца.

Справа – барная стойка. За ёй стаяў невысокі чалавек і ўважліва глядзеў на *тых, хто дайшоў*.

Гэта быў бармен, але штосьці відавочна было не так у яго выглядзе, гэта адзначалася амаль адразу. Зрэшты, было незразумела, што менавіта. Нейкія дробязі: троечка выглядала на ім занадта добра, амаль па-прафесарску, погляд уважлівы, але без ацэнкі. Калі ты прыходзіў сюды трэці раз, ты ўжо чамусьці разумеў, што яго завуць Леа, – хаця вы й не знаёміліся, проста нейкія ўрыўкі размоваў, цьмяныя прадчуванні.

Ён выходзіў у залу ўрачыста, за паўгадзіны да пачатку работы і ўключаў каўны апарат, каб той нагрэўся. Потым сядаў на высокі зэдлік з таго боку барнай стойкі і заціхаў на пэўны час. Чытаючы кнігу, альбо запісваючы штосьці ў вялікім сшытку, які потым хаваўся ў сейфе. Большасць лічыла запісы ў сшытку чымсьці накшталт бухгалтарскіх нататак, але самыя ўважлівыя здагадваліся, што гэта не так. І што наперадзе нас чакаюць дзіўныя падзеі.

Злева былі тры даўгія высокія стойкі з двума ўзроўнямі. Стаяць за імі можна было толькі абапіраючыся зверху, нават крыху навісаючы над імі.

Але самае галоўнае – вялікае, на ўсю сцяну зашклёнае вакно з нізкім шырокім падвоканнем. Яно ішло перпендыкулярна да стоек, і таму на

падвоканні можна было сядзець, паставіўшы свой кубак з кавай на рагу ніжняга ўзроўня. Можна было б сказаць, што гэта не вакно, а шкляная сцяна, за якой штосьці адбывалася. Некаторыя адважваліся называць гэтае штосьці, даваць яму пэўныя імёны. Але мы проста ведалі: за вакном раскінуўся магічны тэатр свету. Толькі было незразумела, пра што п’еса і з якога боку гледачы.

Бралася звычайна падвойная, за дваццаць сем капеек, хаця й адзінарная тут была някепская кава, а падвойная каштавала амаль як абед у таннай заводскай ядальні.

Падвойная насамрэч была пропускам, тыя, хто браў падвойную, складалі эліту Хвілінкі. Канечне, можна было браць і звычайную, ніхто нічога не сказаў бы, але падвойная сапраўды была знакам абранасці, яна ўводзіла і далучала...

Хаця да чаго далучала, рабілася зразумелым не адразу.

Да тых, хто зайшоў на хвілінку папіць кавы і тут затрымаўся?

Да тых, хто штосьці ўбачыў, зразумеў, у свеце і сваім жыцці, стоячы за старой абшарпанай стойкай?

*Гэта было так мала...* І ўсё ж...

Калі ўсё складвалася добра, Леа прыязна ўсміхаўся, кава смакавала, за вакном шалела восень, поруч – блізкія, знаёмыя твары, як быццам бы вы сабраліся сюды з іншых жыццяў, дзе не да канца нагледзеліся адно на адных, не дагаварылі...

Тады тыя, хто патрапіў сюды, раптам разумелі: гэта не проста адно з месцаў, у адным з гарадоў, у адной з краінаў ...

Тут сапраўды адбываецца штосьці надзвычай важнае. Штосьці такое, што застаецца з табой на рэшту жыцця. Грэе і асвятляе, калі няма на што спадзявацца. Калі ўжо зусім блага.

Што гэта такое, заставалася *загадкай* нават у тыя часы, калі ўсе мы бралі ў ім удзел.

***

Мы называлі гэты рытуал *каўнай цырымоніяй.*

Лагічна падумаўшы, што калі там, на Усходзе, ёсць цырымонія *чайная*, альбо гарбатная, дык тут цалкам магчыма цырымонія *каўная*. І што калі там нашыя сябры пераўтварылі простыя размовы за кубачкам гарбаты ў тонкую і захапляльную *духоўную* прыгоду, дык тут у нас, *на амаль Захадзе*, філіжанка кавы мусіць заняць адпаведнае месца.

У цэнтры гэтай цырымоніі быў Леа. Вялікі Леа.

Можна было, канечне, звяртацца да яго *Лявон*, а некаторыя старыя наведвальнікі адважваліся нават на Лёню, па-сяброўску, амаль пяшчотна. Але для нас, пачаткоўцаў, ён, быў Леа, легендарны Леа.

Маг і алхімік.

Гэта быў той самы Леа, які пераканаў Скарыну перабрацца з мілай утульнай Прагі ў Вільню, да Мамонічаў. І які пераклаў і патлумачыў яму некаторыя цьмяныя месцы Бібліі – са стараарамейскай.

Той самы, які склаў кампанію Рычы ў ягоным падарожжы ў Кітай і потым дасылаў разгорнутыя справаздачы – па-кітайску – Віленскім езуітам. (Яны й сёння захоўваюцца асобным фондам у езуіцкім архіве ў Ватыкане, гэта так званая “зялёная тэчка мансіньёра Леа” ). Некаторыя даследчыкі лічаць, што пераклад *Дао дэ цзын* на старабеларускую мову – уклеены ў адзін з экзэмпляраў Трышчана – яго работа.

Той самы, які прытуліў Даленга-Хадакоўскага падчас напісання ягонай *Славяншчыны перад хрысціянствам* і потым дапамагаў Міцкевічу ў Парыжы з ідэямі і матэрыяламі.

Зрэшты, гэта быў той самы Леа, які дапамог вандроўнікам у краіну Усходу, што згубіліся (і разгубіліся) у тутэйшых балотах, зарыентавацца і пайсці далей, узяць кірунак на Кафу, дзе яны мусілі выкупіць з турэцкага палону Прынцэсу Пармскую.

Гэта пра яго пісаў Гесэ ў сваёй аповесці, хаця са зразумелых прычынаў ён абмінуў некаторыя падрабязнасці менскага перыяду.

Не ведаю, хто першы здагадаўся, што гэта *той самы Леа*, але потым веда перадавалася без слоў, паўуцямнымі намёкамі.

Мы збіралі ягоную біяграфію літаральна па кавалках, разумеючы, што гэты сціплы чалавек сам ніколі не раскажа пра сябе *ўсяго*. Яна, на жаль, так і не была нідзе запісаная, а ў маёй памяці засталіся толькі выбраныя эпізоды.

Некаторыя, праўда, лічылі, што біяграфія занадта маляўнічая, і што вобраз Леа атрымаўся надта міфічны, амаль казачны.

Але кім яшчэ мог быць чалавек, які гатаваў найлепшую каву ў горадзе?

***

Калі я ўпершыню патрапіў у Хвілінку, я сутынуўся з дзіўным пачуццём *невыпадковасці*. Хаця само ўваходжанне адбылося надзвычай проста, амаль будзённа.

Я зайшоў у піцэрыю пад'есці. Звычайна я абмінаў такія *ўстановы харчавання*, але тут скончыў усе справы адразу пасля абеду, планаў на вечар яшчэ не было і я падумаў: чаму б і не? Народу было надзіва многа, нягледзячы на тое, што абед скончыўся, усе стойкі ў піцэрыі былі занятыя. У пошуках вольных месцаў я ішоў усё далей і далей. Дайшоў да самага канца, стаў у невялічкую чаргу – два ці тры чалавекі – і тут раптам зразумеў, што ўсё змянілася. Я агледзеўся.

Пахла да ачмурэння кавай, а людзі, што стаялі за столікамі, паводзілі сябе па-іншаму. Альбо нават былі іншымі.

Яны відавочна нікуды не спяшаліся. Яны стаялі за стойкамі і пілі каву. Стаялі моўчкі альбо размаўлялі міжсобку. Часам спрачаліся, альбо запісвалі штосьці ў нататніках. Некаторыя нават чыталі кнігі, седзячы на шырокім падвоканні.

Яны рабілі самыя звычайныя рэчы. Але рабілі ўсё гэта так, як быццам у гэтым быў нейкі важны сэнс. Як быццам толькі тут, за кубачкам кавы, можна было бачыць рэчы па-сапраўднаму.

Дзіўная кавярня, падумаў я тады.

Але паверыў у яе не адразу.

Я ўжо другі год блукаў па Менску ў пошуках месца, дзе можна было б затрымацца, дзе было б не так балюча жыць. Я праплываў праз горад, як здань, мяняў інтэрнаты і пакойчыкі, у некаторых я заставаўся даўжэй, з іншых з'язджаў праз пару месяцаў.

Я тады пачынаў пісаць, уласна нават і не пісаць, а толькі прымервацца, прыглядацца да іншых жыццяў, шукаючы ў іх штосьці, дзеля чаго варта было б марнаваць паперу, падвойваць рэальнасць...

І тут гэтая кавярня.

Я пачаў сюды прыходзіць.

І ўжо праз некаторы час пазнаваў большасць сталых наведвальнікаў, замаўляў *падвойную, калі ласка*, а часам і дзве падвойныя.

Мае схільнасці да падглядання чужых жыццяў разгарнуліся тут напоўніцу: я шмат што зразумеў і шмат чаму навучыўся, проста прыслухоўваючыся да размоваў за суседнімі стойкамі.

Некаторыя размоўцы надараліся толькі аднойчы, іншыя прыходзілі сюды рэгулярна, і я меў дыскусіі з працягам. Звычайна я браў з сабой сшытак і ўладкоўваўся дзе-небудзь у куце на падвоканні. Але выцягваў яго не заўсёды.

Кампаніі былі самымі рознымі. У некаторых гаварылі пра Мастацтва. У іншых, больш сцішана – пра Айчыну, якая ў заняпадзе і Мову, якую трэба адрадзіць. Яшчэ побач – пра чалавечае жыццё і пра мудрасць.

Гэтыя размовы здараліся выпадкова, і не заўсёды ў рытме самога жыцця, якое нічога не любіць рабіць па плане. Але ўсё ж такі здараліся.

Часам яны адбываліся за суседняй стойкай, і тады прыходзілася цягнуць шыю, прыслухоўвацца і прыглядацца. Іншым разам я патрапляў у эпіцэнтр, і тады ледзьве стрымліваў сябе, каб самому не стаць іх удзельнікам.

Апрача гэтага, тут усё было як звычайна: заходзілі маўклівыя мужчыны пад сорак і кампаніі нявыхаваных падлеткаў, прыходзілі старыя піякі, каб вызначыцца на трох, і далікатныя, паслухмяныя дзяўчаты, што бралі кубачак гарбаты з пірожным і надалей стаялі, як кветкі ў вазончыку, ціха і засяроджана.

Яны ўсе таксама штосьці прамаўлялі, вышэптвалі. Пра штосьці думалі.

Усяго адно ці два словы. Самыя звычайныя. І далей трэба было разгадваць, расшыфроўваць: што адбылося, чаму.

Пра што думае тая жанчына ў чырвонай вячэрняй сукенцы, і што яна робіць тут, у звычайным бістро ў цудоўны пятнічны вечар?

Што запісвае ў сваім сшытку дзяўчо, што сядзіць злева, каля вакна, пераматанае даўгім прыгожым шалікам, са зборнікам Шэлі на каленях?

І чаму гэтая пара маўчыць ужо паўгадзіны, стоячы за стойкай, хаця кава ў кубачках даўно астыла?

Я не ведаў імёнаў і біяграфіяў. Толькі твары, тэмбр голасу, вопратка. Пра ўсё астатняе я мусіў здагадацца. Альбо прыдумаць, уявіць.

Зрэшты, гэта было не так і складана. Як і ў пячоры Платона, назіраліся пэўныя адпаведнасці. І хаця вакол відавочна была паўцемра, на такую-сякую веду можна было спадзявацца.

Пра мастацтва гаварылася чамусьці шэптам, амаль нячутна. Словы дрыжэлі і трапяталі, як тонкая павута ў восеньскім лесе. Былі ледзьве бачныя на фоне жыцця самога па сабе, без нашых спробаў яго зразумець.

Айчына патрабавала больш цвёрдага тэмбру. Але на яго трэба было адважыцца. А гэта было тады зусім не проста. Чаму – я зразумеў крыху пазней, калі ўсё пачало мяняцца, калі тыя, хто тады гаварыў пра айчыну, выйшлі на вуліцы і плошчы і пачалі гаварыць свае словы там, навонкі.

З мудрасцю было яшчэ больш складана.

Яна любіла чамусьці абыходзіцца без словаў.

Яе трэба было апазнаваць па паўзах, маўчанні, па асцярожным дрыжанні цішыні пасля ўсіх словаў.

Сапраўды, каб загучала слова, мусіць быць цішыня.

Патрэбныя разрывы, паўзы. Маўчанне, зрэшты. Толькі ў маўчанні, пасля

ўсіх словаў, чалавек пачынае разумець, кім ён ёсць насамрэч. Альбо, як любілі казаць мае новыя сябры, кім ён быў да свайго нараджэння.

І таму я ўважліва слухаў жэсты, позіркі, цішыню. Каб урэшце словы адкрыліся і падарылі свае таямніцы.

Маўчанне заўсёды больш загадкавае. Бо словы, калі яны нарэшце з'яўляліся, вельмі часта былі *не тыя*. Яны слізгацелі па паверхні. Ніяк не маглі адарвацца ад таго, што *ўсе гавораць*, выйсці за межы свайго часу.

Хаця, праўду кажучы, менавіта ад часу, ад эпохі больш за ўсё і хацелася адарвацца. Эпоха была тады не проста нецікавая, яна была нейкая пастарэлая, завершаная...

***

Здараліся і карнавалы.

Раз-пораз сюды зазіралі акторы Лепшага тэатра, звычайна пасля рэпетыцыі, а часам нават і перад спектаклем. Іх было бачна адразу. Яны заходзілі ў Хвілінку, як на сцэну, весела і святочна, нават крыху па-цыганску. І радасна – цяпер яны ладзілі свой уласны спектакль і маглі гаварыць сваімі галасамі.

Але ўсё было не так проста. Іх галасы існавалі, як быццам, па-за іх уладальнікамі. Інтанацыі, эмоцыі, словы – усё гэта ўцякала ад іх, аддзялялася, хацела быць асобным і самадастатковым.

Напачатку я разгубіўся.

Усё было не так, як выглядала. Усё блытала, падманвала.

Нават знешняе: самы эфектны, з вусамі, як у Сальвадора Далі, быў сціплым асвятляльнікам, а іншы, просты, амаль незаўважны, – геніяльным акторам.

Яны гуляліся ў адмысловую гульню.

Прымервалі маскі. Мянялі іх. І нават мяняліся імі.

У гэтым было штосьці дзіўнае: сёння ты Праспера ў містычнай п'есе Шэкспіра, а заўтра – сакратар райкама партыі ў вытворчай аднадзёнцы невядомага савецкага аўтара.

Я так і не змог зразумець да канца, што з імі адбывалася.

Не змог прачытаць іх сапраўдныя твары. Тыя, якімі яны былі ў рэальнасці. Ці маглі б быць.

Іх маскі не проста прырасталі да твараў, яны і былі іх тварамі.

Трэба сказаць, што ў жыцці ўсё было наадварот. Усе хацелі стаць кімсьці. Выбраць сабе толькі адзін твар – адразу і назаўсёды.

Там, у тым жыцці гэтая гульня называлася "знайсці сябе". У яе гулялі сур'ёзна і апантана. Часам усё жыццё.

Яны ж ішлі ў адваротным кірунку. Гублялі сябе, растрачвалі сябе на розныя жыцці, прымяралі – і прымяраліся – да розных твараў.

Я ўжо тады адчуваў, як гэта было небяспечна. Бо чым больш масак ты прымяраеш, тым менш здольны ў іх верыць, лічыць іх сваімі.

І тым менш верыш, што п'еса мае хаця б які сэнс.

І яшчэ адно пытанне ўсё ж вярэдзіла і цікавала.

Што адбывалася з імі позна ўвечары, калі яны здымалі маскі? Калі яны заставаліся сам-насам з *пустэляй*? Што яна ім гаварыла ў гэты момант? Што нашэптвала? Чым спакушала?

Прызнаюся шчыра, гледзячы на іх, мне самому захацелася пра гэта даведацца. Выйсці на сцэну са сваёй маскай. Ці можа са сваімі маскамі. Стаць часткай карнавала.

Але аднойчы ранкам я прачнуўся і ўцяміў, што нікуды не трэба выходзіць. Што я і так ўжо на сцэне.

І што спектакль ідзе даўно і напоўніцу.

***

Самая цікавая кампанія збіралася ў далёкім куце.

Чулася штосьці пра Усход, гучалі дзіўныя, незнаёмыя словы – сатары, самадхі, дзэн патрыярхаў... Я не проста слухаў гэтыя дыскусіі з захапленнем, я пражываў разам з імі важныя рэчы.

Разам з імі адкрываў – для сябе – Бенарэскі парк, спатканне, невялікую кампанію, што сабралася там аднойчы для размовы, рэха ад якой дасюль гучыць у свеце.

Альбо са здзіўленнем даведваўся, што пад імем Хаяма хаваецца насамрэч цэлая традыцыя, у якой былі дзясяткі паэтаў. І што віно ў ягоных вершах – не тое самае віно, што прадаецца праз дарогу, ва ўніверсаме Цэнтральны.

Там я ўпершыню пачуў пра суфіяў і пра хасідаў, пра алхімічнае вяселле і містэрыю ўз'яднання.

Пасля адной з такіх дыскусій я раптам усведаміў, што меў на ўвазе Нагарджуна, гаворачы пра адсутнасць альбо пустэчу, з якой усё нараджаецца.

***

Менавіта там, у Хвілінцы маё жыццё раптам адкрылася мне як кветка: у яго празрыстай няўцямнасці, загадкавай і незразумелай прысутнасці *in-der-Welt.*

Як гэта здарылася, я памятаю і цяпер: я стаяў за высокім столікам. Была позняя восеньская раніца 1982 года. Сонца ледзьве прабівалася праз хмары.

Я замовіў падвойную, як звычайна, і стаяў за далёкай стойкай, адзін. Горад распачаў працоўны дзень, і цяпер, пасля ранішняй мітусні, крыху аціх, затрымаўся – ці то ў чаканні абеду, ці то ўжо ў прадчуванні вясёлай вячаровай ілюмінацыі.

І тут за вакном адбылося штосьці надзвычайнае. Я адчуў гэта ўнутры, усёй сваёй істотай.

Усё раптам знікла.

Я прысеў на падвоканне, мне стала млосна. Але гэта было не проста фізічнае пачуццё, а штосьці больш складанае і насычанае. Амаль *неадсюль*. Штосьці накшталт сартраўскай *nausea*. Памятаеце, у ягоным рамане галоўны герой патрапляе ў гэтую пастку.

Усё, што было такім важным, усё што так ганарылася сваёй трываласцю, імкнулася быць назаўсёды – усяго гэтага больш не існавала.

Свет павольна адыходзіў ад мяне, згортваўся ў клубочак, знікаў. Гэта было дзіўнае пачуццё: я адчуваў сябе так, як быццам бы свет завіс у маёй свядомасці, нібы навагодняя цацка на святочнай ялінцы. Яе можна было пагойдаць, можна было пахадзіць вакол, прыгледзецца.

Што здарылася, я так ніколі і не зразумеў.

Можа, раніца была занадта дзіўная, а можа, Леа не пашкадаваў кавы для падвойнай, і кафеін дабра-такі ўдарыў па маёй чыстай, яшчэ не нагружанай навакольнай *ілюзіяй* ранішняй свядомасці.

Усё заставалася такім, як ёсць. Машыны рухаліся ў розных кірунках, кудысьці ішлі людзі, у шапіках прадавалі *Правду* і *Вечерний Минск*, піянеры ўскідвалі рукі ў салюце і давалі клятву *жыць, як завяшчаў вялікі Ленін*, менскае метро рыхтавалася ўпусціць ў свае светлыя залы савецкі народ беларускага разліву...

І ў той жа час было ясна, што гэта толькі ілюзія, сон – усяго гэтага насамрэч няма. І неістотна, сніць гэты сон хтосьці канкрэтны, напрыклад, Бог, ці гэта калектыўная галюцынацыя ніжэйшага анталагічнага гатунку.

Не, я зусім не спужаўся.

Хаця, напэўна, мусіў. Бо калі ўсё так нетрывала, знікома, не мае аніякага сэнсу трымацца і ўтрымоўваць, не мае сэнсу караскацца разам з усімі, рабіць кар'еру, думаць пра кватэры, дачы, пра тое, каб стаць у чаргу па "жыгулі".

Але я, наадварот, адчуў сябе свабодным. Чалавек чамусьці пачынае адчуваць сябе чалавекам, толькі калі ён крыху выпадае са свету. Ці калі свет выпадае з яго.

А потым я стаў абсалютна шчаслівым.

Гэта немагчыма патлумачыць, чаму чалавек, які разумее, што *анічога нельга ўтрымаць*, становіцца шчаслівым.

Я проста перастаў трымаць – і трымацца.

Спачатку паплылі самыя простыя рэчы: кубачак з кавай, які стаяў на стойцы, раптам прыўзняўся і завіс у паветры, дакладна перада мной. Потым павольна адплыў і ўжо там пачаў павялічвацца ў памерах, змяняць форму, пераўтварацца ў розныя рэчы.

Ён, як быццам, здзекваўся з чалавечага спадзявання на ўстойлівасць і зразумеласць свету. Там, на бяспечнай аддаленасці ён пераўтвараўся то ў кнігу, то ў маленькую дзяўчынку, то ў вялікага цацачнага тыгра. Урэшце ён пераўтварыўся ў мяне самога: я глядзеў на сябе здалёк і загадкава ўсміхаўся.

Потым ад мяне аддзяліліся сны.

Потым – і гэта самае дзіўнае – ад мяне аддзялілася маё Я і таксама пачало знікаць удалечыні. Ці, больш дакладна, тое што я лічыў сваім я: фрагменты размоваў, важных і няважных, урыўкі успамінаў, лустачкі эмоцыяў.

На пэўны час я застаўся ў адсутнасці, *там, дзе нічога няма*. Колькі я там прабыў – невядома: там не было часавых адзнакаў, каб свядомасць магла за штосьці зачапіцца.

А потым усё вярнулася.

Я сядзеў на падваконні, першыя наведвальнікі замаўлялі штосьці каля барнай стойкі, Леа паставіў кружэлку і зайграла музыка. Білі Холідэй спявала пра няшчаснае каханне, і чамусьці было страшна соладка слухаць яе гісторыю, і нават не проста соладка, а страшна істотна, я разумеў, што няма анічога больш істотнага ў свеце, чым гэтая музыка.

***

І ўсё ж такі адна думка крыху вярэдзіла, не дазваляла проста так распусціцца сярод бытнага, сярод тонаў музыкі свету.

Трэба было пражыць сваё жыццё.

А гэта значыць штосьці выбраць, тут і цяпер. Вось толькі немагчыма выбіраць штосьці адно, пакуль не зразумееш, што да чаго, чым *гэта ад-*

розніваецца ад *другога*, чаму і як мы штосьці выбіраем у жыцці. Альбо чаму і як штосьці нас выбірае.

І ўрэшце – чым ёсць чалавек і навошта ўсё гэта?

Здавалася: яшчэ ёсць час, каб разабрацца, каб зразумець. І ў той жа момант адкульсьці паўставала прадчуванне, што жыць і разумець – розныя рэчы. Што калі ты ўва ўсё гэта патрапляеш, дык табе ўжо будзе не да разумення.

Калі цябе забірае жыццё, зносіць плынь, галоўнае – не пайсці на дно, даплыць да другога берага.

Мы сыходзім занадта рана, – раптам падумаў я.

Каб сапраўды з усім гэтым разабрацца, трэба было б пражыць *некалькі жыццяў*.

***

Упершыню я задумаўся пра свой непазбежны сыход са сцэны ў пятым класе, выпадкова патрапіўшы на *Салярыс* Таркоўскага. Тады я толькі пачынаў сваю кар'еру чытача, і фантастыка выглядала самай салодкай магчымасцю выпасці з гэтай рэальнасці, парушыць межы часу і прасторы.

Я ўжо крыху чытаў Лема, таму, калі ў старым парку ў кінатэатры я пабачыў афішу, я не вагаўся. Фільм быў на апошнім сеансе, доўгі і зусім не такі, на які я спадзяваўся. Вядома, мне хацелася чагосьці нязвыклага. Далёкіх касмічных падарожжаў. Захапляльных прыгодаў. Альбо хаця б маленькіх і смешных зялёных чалавечкаў.

А тут усё было не так. Лес, возера, дом – убачаныя як быццам перад развітаннем, у апошні раз. Касмічная станцыя. Па калідорах хадзілі людзі і гаварылі пра штосьці простае: пра блізкіх і далёкіх, якія непазбежна знікаюць у часе, і якія маглі б вярнуцца, калі б мы раптам адважыліся на шчасце, захацелі быць шчаслівымі.

Ці сапраўды мы хочам быць шчаслівымі ў нашых жыццях, якія мы пражываем адно за адным? Ці гэтага не замала?

Потым, ужо ў тралейбусе, амаль пустым, які вёз мяне па восеньскім горадзе, я раптам зразумеў: аднойчы я таксама знікну ў часе, і мяне больш ніколі не будзе.

Усё застанецца такім, як ёсць: парк, горад і рака, людзі, што шпацыруюць, самотны тралейбус уначы, але ўжо без мяне, хтосьці іншы будзе сціскаць гэтыя парэнчы.

Я ледзь не расплакаўся.

Гэтая веда была як здрада, як прабоіна ў чоўне.

Чалавек, які толькі пачынае сваё жыццёвае падарожжа, раптам разумее, што жагляр дзіравы, і вада ўжо цурчыць, пачала ўжо заліваць далёкія адсекі.

Гэта быў нават не страх, бо смерць была далёка, яна яшчэ не з'явілася ў сваіх апранахах, у сваёй рэальнасці. Гэта была хутчэй крыўда, крыўда на дарослых: так, яны маглі б штосьці зрабіць, калі б захацелі.

Але дарослыя паводзілі сябе досыць дзіўна: яны толькі глядзелі сумнавільготнымі вачыма і не прызнаваліся ў тым, што яны хаця б разумеюць, пра што гаворка. Яны паводзілі сябе так, быццам пра гэта не ведаюць, хаця не ведаць пра гэта было нельга.

Мусіць быць нейкі *сэнс усяго*, думаў я. Не можа быць, каб усе жылі *проста так*, разумеючы, чым усё скончыцца, і не спрабуючы штосьці зрабіць.

Потым я вырашыў: трэба навучыцца з гэтым жыць, так, як усе. Не задаючы лішніх пытанняў, спрабуючы заглушыць гэтую веду. Боль сапраўды заціхаў, адпускаў на гады і дзесяцігоддзі.

Але праз пэўны час вяртаўся.

У самыя нечаканыя і нязручныя моманты.

У Лондане, у інтэрнаце на Пэдынгтан, у пакойчыку, які я дзяліў з інданезійскім прыяцелем, дзе я тры месяцы рабіў выгляд, што чытаю кнігі, хаця думаў толькі *пра гэта*.

Альбо значна пазней, у Менску, калі пачаў падбірацца да сарака, і раптам зразумеў, што я на плато, што ўзыходжанне адбылося, і наперадзе мяне чакае толькі спуск.

Спускацца заўсёды больш складана, чым узыходзіць. Тыя, хто быў на вышынях, ведаюць пра гэта.

Але тады праз пэўны час, я зразумеў: я ўжо ніколі не змагу супасці са сваёй маскай, гуляць гэты спектакль, быць як усе.

Я адчуваў сябе бяздомным акцёрам, які раптам пасярод п'есы зразумеў, што яму няма куды вяртацца.

Пакуль не здарылася гэтае месца. Невялічкі закутак з трыма барнымі стойкамі.

І адмысловым відам на рэчаіснасць.

***

Напачатку мне здавалася, што сюды прыходзяць тыя, хто нешта ведае.

Мінула шмат часу, перш чым я зразумеў, што яны такія ж бяздомныя, як і я. Што нас проста прыбіла хваляй адзін да аднаго – у гэтым часе, у гэтай прасторы.

З некаторымі я пазнаёміўся тут, у Хвілінцы.

З іншымі мы сустрэліся пазней, *яшчэ раз*. Выпадкова сутыкнуўшыся ў Бібліятэцы альбо ва Універсітэце.

Рэшта проста засталася ў памяці, невядомымі на старых фатаздымках, вобразамі з маіх сноў.

***

Потым у розных гарадах я бачыў розныя кавярні: яны, як і людзі, розніліся, і не толькі выглядам.

Я піў каву ў Варшаве і Вільні, Берліне і Парыжы, Празе і Львове. Нават у Лондане і Будапешце.

Кавярні былі сапраўды апрычоныя. Я патрапляў у іх у розныя эпохі, у розных настроях. Пра некаторыя я пісаў у сваіх кнігах, рассаджваў за іх столікамі сваіх герояў.

Некаторых даўно ўжо няма, іншыя змянілі назвы.

Я прыгадваю іх тут з удзячнасцю, як старых сяброў.

Невялічкую кавярню ў старым парку, у горадзе майго дзяцінства. Я патрапіў туды ўсяго адзін раз, у ранняй маладосці. Кава была кепская, але ўсё астатняе складвалася так, як трэба, і я штосьці зразумеў за тыя паўгадзіны, калі сядзеў за столікам, і потым амаль палову жыцця імкнуўся туды вярнуцца. Не ў кавярню, не, яе ўжо вельмі-вельмі даўно няма ў нашай рэальнасці. Вярнуцца ў мінулае, ва ўспамін, у эмоцыю.

Альбо варшаўскую *тэатральную*, што месцілася ў холе гарадскога

драматычнага, і дзе ўсё было зроблена са старога тэатральнага рэквізіту. Там усё было вытанчана-арыстакратычна і ў той жа час проста, амаль пахатняму, яна давала прытулак пасля бадзянняў па горадзе, альбо падчас апошніх – заўсёды самых цяжкіх – гадзінаў у чаканні *цягніка на радзіму*. Гэты прытулак у Варшаве, якая заўсёды кудысьці спяшаецца, і ў якой ніколі няма для цябе месца, быў сапраўды важны, і я дасюль ёй удзячны.

Шараговае парыжскае *Брасэры кельцік*, што месцілася па дарозе з вуліцы Гравёраў, дзе я жыў у маленькай кватэрцы з двума мастакамі, і адкуль выходзіў блукаць па горадзе амаль з самага ранку. Адзінае, што я абмінаў, – гэта бібліятэкі і музеі, я тады чытаў сам горад, адмерваў кіламетры сэнсаў па левым і правым беразе Сены, па вулках, па якіх блукалі Алівейра і Мага... Я тады нарэшце дабраўся да легендарных кавярняў, дзе калісьці сядзелі іншыя героі, легенды маёй маладосці.

Кавярні былі нерэальна дарагія, я пахадзіў крыху вакол і раптам зразумеў, што яны даўно ўжо не даюць прытулак, а гандлююць успамінамі, і што калі я зайду папіць кавы, я абавязкова ўбачу якую-небудзь шыльдачку: на гэтым месцы сядзеў Жан-Поль Сартр, а на гэтым... Калісьці я марыў пра парыжскія кавярні, прачытаўшы Хемінгуэя, і цяпер падумаў, што тады ён не купляў успаміны, а проста шукаў зручнае і недарагое месца, дзе можна было б працаваць, і я вярнуўся ў *Брасэры кельцік*, і сапраўды адчуў гэтае месца сваім, і напісаў там некаторыя важныя для сябе старонкі.

Быў яшчэ і віленскі закуток *Свежай кавы* на Гедыміна, на трэцім паверсе, за маленькай кнігарняй. Кава там была неверагодна смачная – толькі трэба было замаўляць не эспрэса альбо амерыкана, а проста каву, *jouda kava*, і тады здараўся цуд.

Былі і шмат якія іншыя месцы, якія давалі прытулак і якія засталіся ў памяці.

Але тады, калі ўсё заблытваецца, і я не знаходжу канцоў, нітак, трымаючыся за якія можна выбрацца на паверхню, калі жыццё становіцца нясцерпным і незразумелым, як атрута — тады я прыгадваю толькі адно месца. Адну кавярню.

Часам мне здаецца, што я так і не выйшаў з яе. Назаўсёды застаўся сярод яе наведвальнікаў, персанажам той гісторыі.

І калі жыццё мае сыдзе, скончыцца, і я патраплю на той бок, — калі верыць некаторым містыкам – я патраплю менавіта туды, у Хвілінку, на сваё ўлюбёнае месца, каля вакна.

І Леа будзе рабіць мне *падвойную з цукрам*, а можа, нават з каньяком.

***

І яшчэ адна падрабязнасць, пра якую я вымушаны сказаць, хаця і не з лёгкім сэрцам.

За вокнамі *Хвілінкі* амаль заўсёды была восень.

## 2.

Менавіта там я ўпершыню сустрэў Францішка.

Я памятаю, быў самы пачатак кастрычніка. Свяціла сонца. Я спускаўся ад Бібліятэкі ўніз, да Свіслачы, па кароткай вулачцы, назву якой ніхто не мог надоўга запомніць. Унізе мяне чакаў Парк, таксама яшчэ неназваны

і мой самотны паўгадзінны шпацыр, падчас якога я планаваў задумацца пра *праўдзівыя імёны*.

Я тады моцна перажываў, нават пакутваў ад усіх гэтых вуліцаў Кірава і праспектаў Пушкіна, якіх былі сотні і тысячы і якія былі гвалтам над рэальнасцю. Я думаў пра свой ідэальны горад, з вулкамі, плошчамі, паркамі, назвы якіх ведаў бы толькі я, і яны самі.

І вось я спусціўся ў восеньскі Парк, пакуль безыменны, поўны разнастайных адценняў, колераў, эмоцый. І раптам адчуў штосьці незвычайнае. Там было крыху суцішанасці, восеньскага спакою. Але не толькі.

Было нейкае дзіўнае пачуццё шчасця. Яно было дзіўным, таму што яму не было адкуль узяцца. Анічога не было ў гэтым дні, што магло б даць гэтае пачуццё – прынамсі, навідавоку.

Адзінае, што было побач са мной – восеньскае лісце, якое ляжала – шчаслівае – у алеях абляцелага Парку і марыла пра вецер.

І я адчуў гэты настрой і блукаў доўга і шчасліва, шаргатаў апалай лістотай, без аніякай мэты, а потым пацягнуўся ў Хвілінку, каб сагрэцца і каб адзначыць нашае супольнае свята.

І тут я зразумеў, што я не адзіны, хто пра гэта ведае.

Францішак стаяў за стойкай, глядзеў праз вакно і *таксама быў шчаслівы*.

Чаму я вылучыў яго тады сярод астатніх?

Не толькі таму, што ён відавочна быў *саўдзельнікам*.

Калі я першы раз пабачыў, як ён глядзіць праз шкло ў той, іншы, заваконны свет, я чамусьці падумаў – вось *герой, які так і не выйдзе на сцэну эпохі*.

Я падумаў гэта амаль выпадкова, зусім не маючы на ўвазе канкрэтнага чалавека, які стаяў перада мной. Хутчэй саму ідэю, агульны гештальт, які я прыберагаў для героя свайго рамана.

Так, я тады цвёрда вырашыў напісаць раман і мне тэрмінова патрабаваліся персанажы. І не проста персанажы, а мае персанажы, постаці, якія возьмуць удзел менавіта ў маёй гісторыі.

Больш за тое, мне быў патрэбны *галоўны герой*.

Вядома, яго можна было проста прыдумаць.

Але я ўжо тады зразумеў адну важную рэч: калі ты пачынаеш пісаць, першы крок мусіць быць адсюль, з гэтай рэальнасці.

Потым ты можаш рабіць што заўгодна – змяняць імёны і абставіны, уяўляць іншыя твары, прапаноўваць *ім* іншыя маскі.

Але зачэпка мусіць быць. Інакш усё завісне ў пустоце, персанажы так і не павераць у сваё ўласнае існаванне, так і не пачнуць жыць і дыхаць на старонках.

Будуць разгублена блукаць у паўцемры, як у раманах Селіна альбо Бекета.

Трэба сказаць, напачатку я шукаў людзей, моцна ўфундаваных у жыцці. Мне здавалася, што гэта яны, *моцныя*, рассоўваюць жыццёвыя абставіны, як тэатральную запавесу, і выходзяць на сцэну.

Гавораць важныя рэчы. Паказваюць прыклад. Вядуць за сабой.

Потым я стаў больш недаверлівы. Не тое, каб я стаміўся ад пошукаў, зусім не.

Мне проста падалося, што сапраўдныя героі – хутчэй, хаваюцца ад эпохі. Я быў захоплены Полем Валеры і раз-пораз паўтараў самому сабе: *глупства – не самы моцны мой бок*.

***

Я ўжо тады адчуваў лёгкую агіду да дэкарацыяў тагачаснага спектаклю. Не кажучы пра сюжэты.

Сцэна была запоўненая аж *занадта*, яна ўжо больш не прымала ніякіх *іншых*.

На ёй маршыравалі піянеры ў гальштуках і белых кашульках, камсамольцы вечна штосьці будавалі, а пасведчанне станоўчага персанажа выдавалі толькі ў парткаме. І хаця жыццё ўсё адно брала сваё, там было неяк *цеснавата*.

Не, па-свойму яна, сцэна, была нават утульнай.

Яна ўжо не была *крываважэрнай*, асабліва калі не імкнуцца да краю і не думаць пра гару трупаў у першым акце.

Але калі я заходзіў у кнігарню і пачынаў гартаць *іх кнігі*, мне рабілася млосна. Штосьці відавочна было не так – з часам, з эпохай, з самім тэатрам свету, зрэшты.

У гэтых кнігах усё для ўсіх было зразумела. Свет быў трывалы і пэўны.

Інжынеры ганарыліся сваімі заводамі і змагаліся за тое, каб выканаць і нават перавыканаць *план*.

Лекары лячылі людзей і страшна пакутвалі, што, нягледзячы на дасягненні медыцыны, людзі ўсё ж такі паміралі.

Ветэраны расказвалі пра перамогу савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне.

Партыйныя сакратары сачылі за тым, каб усе былі правільнымі, усе гралі свае ролі згодна з напісаным сцэнаром. І каб усё ўрэшце заставалася на сваіх месцах.

Праўда, недзе далёка быў другі, іншы свет, дзе людзі жылі па-іншаму. Па чутках, там не было ніякіх сцэнароў, ніякіх партыйных сакратароў. Там не было нават піянераў.

Але ён быў амаль нерэальным: сярод маіх знаёмых не было нікога, хто мог бы пра яго расказаць. Пацвердзіць, што ён сапраўды існуе, што гэта не прыдумка прапаганды, не частка таго самага *правільнага* сцэнара.

Зрэшты, усё было не так страшна, нават міла.

І ўсё ж у мяне было нейкае адчуванне, што ўсё гэта – проста дэкарацыі ў правінцыйным тэатры, на тле якіх дрэнныя акторы ходзяць па сцэне, паўтараючы чужыя словы.

Ужо значна пазней я зразумеў, што *ўсе словы чужыя*. Яны проста спадарожнічаюць нам, жывуць з намі. І што нельга патрабаваць ад людзей *так многа*.

Тады ж мне хацелася зрабіць штосьці нечаканае: размаляваць дэкарацыі, пачаць гаварыць *іншыя словы*. Дзёрзкія, недарэчныя, нават крыху незразумелыя.

Альбо знайсці свайго героя. Які не выйдзе на сцэну эпохі.

Так з'явіўся Францішак.

***

Я неяк адразу вырашыў для сябе, што гэта паэт, нават калі ён на той час не напісаў ні радка. І зусім не таму, што кнігі, якія ён разгортваў, былі пераважна паэтычныя.

Ёсць пэўныя прыкметы, па якіх можна апазнаць сапраўднага паэта.

Перш за ўсё вочы.

Я якраз тады прачытаў, у майго ўлюбёнага Джэрома Д. С., што трэба *звярнуць увагу на вочы.*

Бо кожны паэт бачыць насамрэч толькі свае вобразы. Кожны паэт, сапраўдны паэт, падкрэслівае Д. Д. С. – аслеплены сваімі вобразамі.

І таму першае і самае асноўнае, што выдае паэта, гэта ягоная відушчасць. Дакладней, яго вымушаная, выбраная ім самім, гаючая і светлая слепата, у якой паэт адчувае сябе як *дома.*

Францішак быў тады жывой ілюстрацыяй гэтай ідэі.

Ён глядзеў кудысьці далёка, *праз рэальнасць.* Ён відавочна сніў наяве.

Звычайна ён прыходзіў у Хвілінку пад вечар, браў сваю каву і ўладкоўваўся ў левым куце, на ніжнім ўзроўні, калі гэтае месца не было занятае. Далей ён рабіў пару глыткоў і заціхаў на колькі хвілінаў, гледзячы наскрозь, як быццам ён шукаў дзверы, праз якія можна выйсці – на той бок рэчаіснага.

Было, праўда, няясна, ці ён знаходзіў тыя дзверы. Ці ён насамрэч выходзіў туды, на той бок, ці проста торкаўся ў іх носам, як сляпое кацяня, на самым скраі.

Потым, калі мы ўжо пазнаёміліся, Францішак расказаў, чаму ў тую восень ён *сніў наяве.*

Ён тады толькі *прачытаў* Генры Дэвіда Тора, знайшоў сабе лясную *хатку ў Крыжоўцы* і толькі пачынаў уваходзіць у рытм новага, *прыроднага* жыцця. Напачатку гэта было няпроста. Яму прыходзілася прачынацца а палове на шостую, каб паспець на электрычку да Менску. І пад вечар, ясна, ягоная свядомасць была крыху заімглёная.

Ён расказаў мне гэта з іроніяй, так, што было зразумела: ён цэніць і прымае ўсё, што я ўбачыў тады сваім *трэцім, містычным вокам.* Магчыма нават, што гэта чыстая праўда.

Але такая праўда, якая мусіць заставацца ў цяню, якая мусіць, хутчэй, хавацца, чым выходзіць вонкі.

Зрэшты, мая тэорыя падмацоўвалася тады й іншымі назіраннямі.

Я звярнуў увагу на ягоныя гэсты.

На тое, як ён ходзіць, размаўляе, звяртаецца па каву, расплочваецца, чытае кнігі. Я заняўся гэтым цалкам сур'ёзна: я цікаваў, высочваў, запісваў у сшытку самыя важныя падрабязнасці. А аднойчы нават выйшаў з Хвілінкі і прайшоў за ім некалькі кварталаў, проста каб упэўніцца, што ён адсюль, з гэтай рэальнасці.

І вось, праз пэўны час *партрэт паэта* быў гатовы. Прынамсі, у маім уяўленні.

***

Другой рысай, на якую я звярнуў тады ўвагу, было *несупадзенне.*

Са светам, з самім сабой. З тым, што адбывалася перад ягонымі вачамі, і з тым, што адбывалася ўнутры яго, *у душы.*

Ён аддаваўся хвіліне, але не супадаў з ёй да канца, і гэта было дзіўна. Дзіўна, бо звычайна паэт распушчаецца ў сваёй эмоцыі, прападае ў ёй напоўніцу.

Францішак таксама *прападаў*, але складалася ўражанне, што пры гэтым быў яшчэ хтосьці, хто заставаўся навонкі, і хто бачыў і запісваў усё, што з ім адбывалася.

Гэта не значыць, што Францішак ставіўся да эмоцыі рацыянальна. Зусім не. Гэты хтосьці, што заўсёды быў побач, нічога не ацэньваў. І не аналізаваў. Ён проста прысутнічаў, назіраў – як цень, як сведка.

Як метафізічны двайнік, прывідны *doppelganger*, задачай якога было проста быць. Там, на тым баку.

Асобным пунктам у маім *партрэце мастака ў маладым узросце* ішлі дачыненні Францішка з *вусцішным*.

Тут трэба ясна сказаць, што вусціш – гэта не проста індывідуальнае перажыванне чагосьці неверагодна жахлівага: смерці, пакутаў, знікнення.

Гэта не туга, што мякка вярэдзіць, не адпускаючы.

Не традыцыйная беларуская меланхолія, у якую патрапляюць героі Гарэцкага. І зусім не дэкадэнцкі сплін, у якім, калі верыць легендам, пражываў сваё жыццё Байран.

Гэта была менавіта вусціш.

Вусціш – гэта разуменне таго, што сусвет выдатна мог бы абысціся без чалавека. Што нічога – у халодных касмічных прасторах – не патрабуе нашай прысутнасці. І ніхто не заплача – там, далёка, калі ўсе мы раптам знікнем.

Потым я нават недзе напісаў, што гэта сталася важным – і нябачным – элементам ягонай паэтыкі.

Што амаль усе яго вершы здараюцца менавіта там, у прасторы, калі чалавек выходзіць з вусцішнага і бачыць – на хвіліну, хаця б на хвіліну, – які неверагодна прыгожы і дасканалы наш свет, як усё тут страшна істотна і як прадумана.

І не важна, кім і навошта.

Усё, нават у самых простых дробязях: гэты ліст клёна, крануты чырваннню, які апускаецца павольна на зямлю. Гэтая птушка, што самотна сядзіць на абляцелым дрэве.

Жабка, што скача ў ставок у вусцішнай цішыні.

І, ясна, твар чалавека. Блізкага альбо далёкага. Твар, які заўсёды, як напісаў паэт, “пячаткаю трагічнай значан”.

Трэба сказаць, *гэта* адчувалася ў ім ад самага пачатку.

Ён любіў патрапляць на скрай, але абсталёўваўся там з фантастычнай утульнасцю. Складвалася ўражанне, што ён быў як дома ў самай адчайнай безнадзейнасці.

І нават сам шукаў пасткі і прадонні, якія нашэптвалі яму свае праўды і таямніцы.

***

Партрэт завяршала такая дробная асаблівасць, як ягоныя шалікі. Іх было многа і яны былі самых неверагодных колераў і фасонаў: ад звычайных шыйных хусцінак да доўгіх і насычаных колерамі *прасціна*ў, у якія, здаецца, можна было заматаць усяго Францішка, – і нават тады яшчэ б штосьці засталося. Як і дзе ён іх знаходзіў у савецкай цывілізацыі вечнага дэфіцыту – заставалася загадкай.

Я нават тады падумаў, што як мастакі пазнавальныя па сваіх бярэтках, так у паэтычную ўніформу мусіць абавязкова ўваходзіць шалік. І што калі ўяўляць знакі паэтычнага адрознення, дык яны мусяць быць менавіта там, на шаліку.

Напрыклад, паэты класічнага тэмпераменту мусяць насіць шалікі цёмнасінія, альбо класічна шэрыя. З геаметрычнымі ўзорамі ці без іх.

Паэты сентыментальна-настраёвыя патрапляюць у разнастайныя адценні жоўтага і чырвонага. З кветачкамі альбо з экспрэсіўнымі абстракцыямі, у залежнасці ад густу і буйнасці.

Паэтам жа метафізічным у мяне чамусьці адпавядаў цёмна-зялёны альбо цёмна-барвовы.

Францішак у маёй класіфікацыі быў бліжэй да паэтаў метафізічных, хаця й з элементамі *абстрактнага экспрэсіянізму.*

Усё гэта было цудоўна.

Няясна было толькі, у якім дачыненні да яго знаходзіцца ўсё тое, што я *прыдумаў*, гледзячы са свайго кута ў Хвілінцы. І ці не ёсць ён насамрэч кімсьці іншым: інжынерам на радыёзаводзе, студэнтам інстытута народнай гаспадаркі, бармэнам у суседняй кавярні. Інструктарам райкама камсамолу. Зрэшты, кіроўцам тралейбуса, чаму б і не?

Праверыць можна было толькі адным спосабам.

***

Не памятаю, як і чаму я патрапіў у Хвілінку, быў надвячорак, людзей было многа, але настрой быў засяроджаны, амаль святочны.

Францішак стаяў за стойкай і праглядаў кнігу.

Адзінае вольнае месца было поруч, я паставіў сваю каву і міжволі пачаў *касіць* вока.

Ён гэта заўважыў і насцярожыўся.

Мы пазнавалі ўжо адзін аднаго, перакідваліся поглядамі, калі зазіралі ў Хвілінку, так што ў маім падгляданні не было асаблівай нявестлівасці.

Кніга на выгляд была вельмі старая. І зачытаная. Ён гартаў яе, відавочна, не ў першы раз. Блукаючы па ўлюбёных фрагментах. Спыняючыся на выпадковых старонках. Я быў амаль упэўнены, што гэта які-небудзь рэдкі аўтар, кшталту Гёльдэрліна альбо Кавафіса.

Але Францішак праглядаў тады граматыку вэньян – кніжнай старакітайскай мовы. І мае спробы штосьці падгледзець, стоячы поруч, выглядалі, напэўна, досыць камічна.

Францішак нейкі час не звяртаў увагі на мае спробы, але ўрэшце — неяк уважліва і ўрачыста, гледзячы крыху ўбок, а да таго ж з прыязнай усмешкай, запытаўся:

*Любіце чытаць чужыя кнігі*?

Потым я зразумеў, чаму кніга па граматыцы была такой загледжанай. Там былі цытаты! Многа цытатаў.

У тыя часы цытаты былі формай расказаць пра тое, пра што казаць наўпрост было нельга. І падручнік па граматыцы быў поўны не столькі граматычнымі прыкладамі, колькі перадусім цытатамі. З тых самых старакітайскіх кнігаў – далёкіх і недаступных.

Я гэта зразумеў пазней, але тады мой выгляд быў дастаткова разгублены.

І тут я, нечакана для сябе самога, сказаў тое, чым трызніў ужо даўно, але ў чым баяўся прызнацца нават сабе самому.

*І пісаць таксама*, адказаў я. І таксама ўсміхнуўся.

Францішак моцна ўзрадаваўся, як быццам ён чакаў менавіта гэтага.

– Гэта цудоўна. Але *столькі ўжо напісана.*

Гэтае *але* ў ягоных словах зусім не гучала як перасцярога ці скептычны недавер. Наадварот, нібы запрашала, падбадзёрвала. Ён прамовіў

гэтыя словы так урачыста, як быццам прымаў мяне ў нейкую загадкавую секту.

– Францішак, – сказаў ён бадзёра і крыху іранічна, працягваючы руку для знаёмства, – арыенталіст-аматар.

– П'ер Менар, аўтар Дон Кіхота, – прадставіўся я.

***

Мы сышліся вельмі хутка, магчыма таму, што ідэальна дапаўнялі адзін аднаго, а можа наадварот, – ідэальна адзін аднаму пярэчылі.

Я быў захоплены тады дадатковымі сэнсамі, лабірынтамі і нечаканымі паваротамі лёсу. Я лічыў, што жыццё невыпадкова такое складанае, і імкнуўся ўскладніць яго ў літаратуры да скраю, да канца.

Мы размаўлялі гадзінамі, гаворачы пра сюжэты, характары. Пра аўтараў і іх жыцці. Пра ўдалыя і няўдалыя творы.

Усялякая *драбяза* – дзе чалавек нарадзіўся, што яму распавядала бабуля, якія ў яго былі сябры і па якіх вулках ён блукаў у дзяцінстве – для мяне ўсё гэта мела значэнне, займала важнае месца ў каталогах чалавечых лёсаў. Я калекцыянаваў падрабязнасці, сплятаў іх між сабой, знаходзіў паралелі і пераходы, выхады й тупікі.

Францішак сказаў аднойчы, што я быў залішне ўважлівы да персанажаў *другога плану*. Што я вёў сцежкі чалавечых жыццяў – для сваіх герояў – прадзіраючыся праз гушчар рэальнасці, і ўвесь час спыняўся, каб пагледзець, *што там робіць гэтая мілая звярушка*.

Для Францішка ж важна было трымацца самой сэрцавіны, агульнага гештальту, як мы тады казалі.

Ад яе, сэрцавіны, усё пачыналася і ёй урэшце сканчалася.

– Больш давай веры словам, казаў ён, – чакай, пакуль яны самі складуцца ў нешта, і ўсё патлумачаць.

– Усё ж такі *мова – гэта дом быцця, а філосафы і паэты, – вартаўнікі гэтага прытулку*, – цытаваў ён кагосьці відавочна важнага, каго трэба было ведаць.

– Разумееш, пісаць – гэта верыць, што ўсё ў свеце мае свой сэнс і сваё месца, – казаў ён. – І не проста верыць, а нашэптваць гэты сэнс, нахукваць, шаманіць.

Затаіцца ў чаканні, што ўсё складзецца менавіта так, а не інакш, бо інакш проста немагчыма.

– Дакладна ведаць, што ўсё гэта значыць, зусім не абавязкова, – сказаў ён тады. – Звычайна мы хочам нейкай уцямнасці, відавочных знакаў. А разуменне чагосьці вырастае ў нас паволі, як фатаздымак, які праяўляецца ў адмысловай рошчыне.

Паэты насамрэч шукаюць гэтую рошчыну, у якой праявіцца тое, чым яны ёсць. І не проста яны як асобы, а той прыгожы і непаўторны ўзор бытнага, які праз іх – і толькі праз іх – можа выйсці на свет.

***

Ён сапраўды стаў паэтам: гэта адбылося на маіх вачах.

Як амаль усе на тутэйшых прасторах, ён пачынаў пісаць на дзвюх мовах.

Напачатку была мова імперыі: ён скончыў звычайную савецкую школу, дзе расейская мова была асноўнай. Ад беларускай літаратуры са школы

застаўся толькі санет Багдановіча пра *зернейка, што засохлае было*, хаця, як пазней ён прыгадваў, гэты санет патрапіў дастаткова глыбока, як само зернейка.

І прарастаў паволі, але няўхільна.

У школе ён многа чытаў, усё, што можна было знайсці ў навакольных бібліятэках. Зрэшты, знайсці можна было няшмат. Ды й тое, што знаходзілася, не пакідала слядоў, ён праплываў праз гэтыя кнігі, як індзейскія каякі праз ранішні туман на Гудзоне.

Першай кнігай, якая штосьці ў ім зварухнула, было вельмі старое выданне Блэйка. На ангельскай мове. Як яна патрапіла на абанемент абласной бібліятэкі, можна было толькі здагадвацца. Хутчэй за ўсё была спісаная з музейных збораў, адразу пасля вайны. Сама кніга была пашкоджаная, відавочна пасля паводкі, і выглядала як муляж для галівудскага баявіка пра штурм Троі. Яму далі яе неахвотна.

Школьнай ангельшчыны было недастаткова, каб чытаць і штосьці разумець на гэтых перакасабочаных старонках. Францішак пазней прыгадваў, што большасць часу ён проста разглядаў ангельскія словы, у нейкім амаль містычным здранцвенні. Пакуль аднойчы, і гэта было адным з першых момантаў шчасця, гэтыя словы не пачалі складацца ў радкі, а праз радкі не пачаў праступаць сэнс.

Ён трымаў яе на абанеменце пяць год, рэгулярна працягваючы тэрмін. Ён вырастаў і змяняўся разам з ёй. Скончыў сярэднюю школу, з залатым медалём. Паступіў ва ўніверсітэт.

За гэты час ён даведаўся ўсё, што толькі можна было пра Блейка, а разам з гэтым пра Кітса і ангельскіх рамантыкаў, а потым выплылі прэрафаэліты, затым на даляглядзе намаляваўся Томас Стэрнз Эліят. І недзе побач, зусім блізка былі Гёльдэрлін і Рыльке.

Паступова кніга стала для яго магічным аб'ектам: яна была ў цэнтры і вакол яе выбудоўваўся ягоны сусвет.

Ён вазіў яе з сабой ва ўсе падарожжы, нават на будаўніцтва кароўніка ў Пскоўскай вобласці, на якое ён патрапіў улетку пасля другога курса і на якім атрымаў дадатковую кваліфікацыю *бетоншчыка трэцяга разраду*.

На пяты год яму даслалі ўльтыматум: альбо ён прыносіць кнігу назад, альбо бібліятэка скіроўвае позву ў суд.

Развітанне было амаль катастрофай.

Каб неяк запоўніць пустэчу, якая ўтварылася пасля Блэйка, яму давялося пачаць пісаць самому, – сказаў ён мне аднойчы.

Калі я быў занадта настойлівы ў сваіх пытаннях пра канцы і пачаткі.

***

Першы верш Францішка, які ён мне паказаў, быў проста *ўзорны*. Не ў тым сэнсе, што ён прагучаў і быў пачуты тады, у сваім часе, і надалей заняў пачэснае месца ў зборніках і анталогіях.

Не, ён так і застаўся асабістым дакументам.

Сам Францішак ніколі больш пра яго не прыгадваў.

Але там ужо было ўсё тое, з чаго пазней будзе складацца паэзія Францішка.

Верш быў напісаны па-расейску і нідзе не друкаваўся. Ён захаваўся зусім выпадкова, сярод старых папераў таго часу. Перачытаўшы яго пазней, я раптам убачыў гэты верш зусім па-іншаму. Напачатку я хацеў даць яго

беларускі падрадкоўнік, разам з некаторымі маімі каментарамі і заўвагамі, але потым вырашыў адважыцца на арыгінал.

Адважыцца – не толькі таму, што *па-расейску.*

Але і таму, што я так зжыўся з гэтым дакументам, так насыціў яго самымі рознымі – сваімі – сэнсамі, што цяпер проста баюся выпускаць усё гэта на святло.

Ці сапраўды ў ім столькі ўсяго, колькі я бачу?!

Верш складаўся з васьмі радкоў з нерэгулярнай рыфмай і быў прысвечаны – ... Цяжка сказаць, чаму ён быў прысвечаны. Пра што ён.

Сам Францішак назваў яго тады вершам пра кацянятка, хаця ясна, з пэўнай іроніяй.

Тут я мушу зацеміць, што вершы Францішка ад самага пачатку былі... складанымі. Пераказваць іх лінейна было немагчыма. Іх можна было толькі вытлумачваць, падрабязна, слова за словам, расплятаючы нітку сэнсу.

І таму можна было б смела пагадзіцца, што перад намі верш пра кацянятка.

А можа, пра вусціш.

А можа – і гэта таксама там было – пра прадчуванні будучыні.

Яшчэ варта памятаць, што верш напісаны зусім маладым чалавекам, які толькі пачынае пісаць.

Вось першыя радкі, якія ўводзяць настрой альбо асноўны тон верша:

Утренний мир тонок
Как иней в зимнем саду

Усё проста: зімовы сад, змёрзлыя абрысы дрэваў, здранцвелая прыгажосць старой рэчаіснасці, якая існавала да нас і існавала так доўга, што стамілася чакаць абнаўлення, раніцы, сваёй адмены.

У гэтым садзе прачынаецца новая свядомасць і пачынае тварыць свой свет: тонкі і струмкі, нібыта крышталь.

Наступныя радкі дадаюць у гэты *краявід душы* асноўнага персанажа.

В нём страх, пушистый котенок
Живет в хрустальном бреду

Гэтым персанажам нечакана становіцца пухнатае кацянятка, якое мяне тады так уразіла. Я нават не адразу зразумеў чым. Наколькі нечаканым было з'яўленне галоўнага героя.

Тое, што ў халодным ранішнім краявідзе душы жыве *страх*, і гэты *страх* звязаны з тонкімі рэчамі, якія толькі толькі з'явіліся, паўсталі ў рэчаіснасць, гэта было зразумела. Гэта прадчувалася.

Але тое, што гэты страх прыме форму пухнатага кацянятка...

Милый небесный звереныш
Откуда в тебе тепло?

У гэтых двух радках аб'яўляюцца надзвычай цікавыя рэчы.

Страх грэе і цешыць, а не проста лякае. І паэт пытаецца пра крыніцы цеплыні, пытаецца з радасцю і пяшчотай, называючы свайго героя *мілым* і *нябёсным* звераняткам.

Сапраўды, адкуль цеплыня? У вершы гэта не прамаўляецца, не выходзіць навонкі, але можна зразумець, што цеплыня ідзе з будучыні.

Непражытай і вабнай будучыні.

Менавіта будучыня раскрываецца і прымае форму страху, форму кацянятка. З будучыні вырастае жыццё, як незразумелы дарунак. Зрэшты, з будучыні струменіцца сам час.

І як катарсіс, як вырашэнне ўсяго:

Словно пушистым снегом
Меня тобой замело.

Паэт прадчувае свой кон і ўдзячна прымае яго. *Зарываецца* ў яго з галавой, як у гурбу снега.

І ўсё гэтае падарожжа адбываецца на васьмі радках тэкста.

Я быў надзвычай уражаны, нават агаломшаны.

Хаця, шчыра кажучы, замяніў бы слова *пушистым* у сёмым радку на штосьці іншае. Усё ж такі *пушистый* снег – гэта занадта простая метафара.

Я памятаю, сказаў яму гэта, і Францішак пагадзіўся. Але пагадзіўся неяк так, што было бачна: у гэтым вершы для яго было важна штосьці іншае, а не проста тэхнічная дасканаласць.

Для яго важная была сама эмоцыя.

Так, сапраўды, у гэтым вершы Францішак упершыню патрапіў у тонкую і важную, але перадусім у *сваю эмоцыю.*

***

І ўсё ж ягоныя расейскія вершы так і засталіся ў асабістым архіве.

Чаму? Было, напэўна, многа прычынаў.

Ён ведаў, што эмоцыя ў яго расейскіх вершах была *рэдкая* і *істотная*. Але пры гэтым яна была *адчужана халодная*, гэта таксама адчувалася вельмі моцна.

Напачатку ён думаў, што крыніцы гэтай адчужанасці – у тым *новаязе*, які панаваў вонкі. І што варта толькі замкнуцца, праламіць паверхню, і ўсё зменіцца. І ён замкнуўся і цярпліва чакаў гэтага моманту.

Прайшло досыць часу, пакуль для яго не стала ўсё канчаткова ясна. Расейская мова не пускае мяне ў свае глыбіні, аднойчы сказаў ён – відавочна, у роспачным здзіўленні.

Што гэта значыла, ён тады не патлумачыў.

Але я адразу зразумеў, што перада мной толькі вяршыня айсберга. Што ён думаў пра гэта не адзін месяц, а можа і больш. І што будуць наступствы.

Пасля мы не бачыліся колькі тыдняў.

І вось, сазваніўшыся, дамовіліся сустрэцца ў Хвілінцы. Францішак быў нейкі незвычайны, ён павітаўся моўчкі і пэўны час стаяў нібы ў нерашучасці.

Потым сказаў: я напісаў некалькі новых вершаў. І дадаў: па-беларуску.

***

Гэта *шчаслівы кон для паэта*, выбраць для сябе такую мову. Якая адразу выключае ўсялякі спадзеў на поспех, на розгалас, на ўсясветную славу – сказаў ён мне тады, *у парыве энтузіязму*.

Выбраць мову, якую разумее большасць, але на якой гавораць рэдка і рытуальна, у пэўных абставінах.

Мову, якая стаіць здалёку ад той балбатні, што засмечвае мовы *распаўсюджаныя*. Балбатні, праз якую трэба заўсёды прадзірацца, калі ты хочаш сапраўды знайсці паэтычны тон. Інтанацыю.

Мову, якой *тут* адгукаюцца дрэвы і птушкі, травы і дзікія звяры.

Ясна, потым усё стала больш празаічна.

Давялося шукаць слоўнікі і вучыць словы. На пэўны час стаць дзіцём, якое радасна адкрывае для сябе свет, поўны неназванага. Шукае незвычайныя імёны і дорыць іх, сабе і іншым.

У пэўны момант была нават паніка, бо пошукі зацягнуліся.

Але ўрэшце ўсё скончылася – і скончылася паспяхова.

Скончылася снамі, у якіх Францішак гаварыў па-беларуску, і гэта завяршыла гештальт, як мы тады казалі.

Але самае цікавае толькі пачыналася. Калі ён крыху ўпэўніўся ў сваёй мове, ён пачаў гаварыць па-беларуску ўвесь час і з усімі. І адразу ператварыўся ў адмысловую лакмусавую паперку, праз якую праяўлялася ўсё ўтоенае, схаванае, выцесненае ў тутэйшым грамадстве.

Тое, што было забыта, і тое, што яшчэ не нарадзілася. Што толькі чакала свайго часу.

Ты мог гадамі блукаць па Менску з расейскай мовай і быць нябачным і незаўважным, сказаў мне тады Францішак. Але варта было проста запытацца ці сказаць штосьці па беларуску, і ўсё мянялася. Некаторыя плакалі і выбачаліся, што *забылі родную мову*. Іншыя адразу прыгадвалі пра міліцыю і патрабавалі справаздачы, *чаму і з якой мэтай*. Трэція беглі па слоўнікі і даводзілі, што гэта не па-беларуску і што трэба так, так і так.

Звычайнае, простае пытанне альбо фраза цалкам магла стаць пачаткам мініканферэнцыі па сацыялінгвістыцы, сказаў Францішак. Ты сціпла просіш *прыпаліць цыгарэтку* і праз хвіліну вакол цябе натоўп, які абмяркоўвае праблему паланізмаў у беларускай мове.

Але для шмат каго з ягоных сяброў, асабліва з расейскамоўнага асяродку, гэты выбар Францішка быў тады актам культурнага самагубства. Чаму, пыталіся яны, які ў гэтым сэнс і якія мэты? Навошта гэта, калі і так усе ўсё разумеюць па-руску? Гэта так штучна і так бесперспектыўна!

Пазней, калі ўсё змянілася, калі выбар Францішка пачаў прыносіць пэўны плён і пэўныя дывідэнты, яны нават пачалі падазраваць у гэтым нейкую хітрасць.

Але тады, як, зрэшты, і шмат хто іншы, Францішак перайшоў на беларускую мову не па прымусе і не дзеля *выгодаў у будучыні*. Чаму гэта адбылося – і не толькі з ім, а з цэлым пакаленнем творцаў, якія амаль усе пачыналі пісаць на мове імперыі – яшчэ доўга будзе заставацца загадкай.

У гэтым не было аніякага дэтэрмінізму, сказаў ён мне значна пазней, калі ўжо ўсё адбылося. Ані этнічнага, ані культурнага. Не было прымусу, вымушанасці. Гэта быў акт абсалютна свабодны – і, можа быць, нават метафізічны.

Чаму ўвогуле пераходзяць на такія мовы? Што цягне, што спакушае ў гэтым незразумелым коне, прывідным паўіснаванні на самай мяжы быцця?

Патрыятызм? Любоў да радзімы? Ой, сумняюся.

Яшчэ ніводзін *добры аўтар* не нарадзіўся з любові да радзімы, пра гэта ўсе ведаюць.

Праўда і без яе, любові, таксама штосьці не да канца складаецца.

Потым я бачыў многа *пішучага* народа, разумных і не вельмі, якія горда ўсведамлялі сябе самадастатковымі. І лічылі, што тое, што з імі адбываецца, варта таго, каб на гэта звярнулі ўвагу сучаснікі і памяталі нашчадкі. Варта таго, каб *застацца навечна*. І расказвалі, як гэта архаічна, як гэта састарэла, як гэта глупа, зрэшты, *пісаць на амаль памёрлай мове*.

Як гэта недарэчна – уціскаць сябе ў *этнічную секту* ў часы, калі адкрытыя ўсе магчымасці, калі можна адчуваць сябе чалавекам космасу. І што, выбіраючы гэта, вы закрываеце сабе дзверы ў вялікую літаратуру.

Потым, праз гады, яны прыходзілі са сваімі *творамі*. І гаварылі: я вярнуўся *дадому*.

***

Першая кніга Францішка выйшла на пераломе эпохаў, перад самым канцом імперыі. Яна выйшла невялікім накладам і была прададзеная за два дні. Хто яе раскупіў, так і засталося для яго загадкай.

Кніга называлася *Над горадам*.

Да яе быў дададзены эпіграф з Гёльдэрліна, які падбіраўся ледзьве не гэтак жа доўга, як паўставала кніга: *знікомыя, але не дарэмныя*.

Эпіграф тычыўся аблокаў, і не толькі аблокаў.

Хаця аблокаў было шмат у гэтай кнізе.

Адна з рэцэнзіяў так і называлася: *пясняр аблокаў*, і ў ёй крыху іранічна апісвалася ўзнёслая складанасць ранніх Францішкавых вершаў. Рэцэнзія была напісаная ягоным прыяцелем М., таксама паэтам, і таксама дастаткова складаным.

Некаторыя заўвагі і прэтэнзіі, якія М. тады адрасаваў Францішку, насамрэч тычыліся іх абодвух. Францішак так гэта і зразумеў, і яны міла прапілі два ганарары, за кнігу і за рэцэнзію, якіх якраз і хапіла на сяброўскую сустрэчу ў адной з кавярань.

Усе былі ў стане радаснай эйфарыі, здавалася, што ўсё магчыма, у тым ліку і ў літаратуры. Што яшчэ крыху, і ўсё зменіцца.

Ён тады толькі адкрыў для сябе Жылку і ўжо прадчуваў Міцкевіча. Але самае галоўнае, ён ужо тады натрапіў на свой тон у паэзіі. І я б нават сказаў – на сваю паэтычную метафізіку.

Ужо тады адчувалася, што фармальныя сродкі могуць быць розныя. І яны будуць мяняцца. Але ў той жа час застаецца штосьці нязменнае, нерухомае.

Асноўная паэтычная эмоцыя.

Значна пазней, у адным са сваіх тэкстаў Францішак назваў гэту эмоцыю *анталагічным непакоем*.

Пачыналася ўсё са здзіўлення і радасці. Шчырай і поўнай. Але далей штосьці здаралася. Як быццам ягоны лірычны герой (так тады казалі) спыніўся сярод усеагульнай захопленасці, гэтага незразумелага карнавалу жыцця – штосьці ўбачыў, альбо проста падышоў да скраю... і ўжо не можа больш трываць гэтай няшчырасці. Ён штосьці гаворыць, але не пра агульнае, і не разам з усімі...

***

А потым увогуле ўсё змянілася. Няясна, ці толькі ўнутры яго, ці таксама і вонкі. Нейкі новы настрой, новыя прадчуванні. Можа быць, яго напалохала гэтая новая нармальнасць, якая тады толькі ўбіралася ў сваю моц.

Але больш ён не надрукаваў ніводнай кнігі.

Вельмі рэдка, можа быць, раз на год, ягоныя вершы з'яўляліся ў нейкім з часопісаў альбо альманахаў.

Можна было б сказаць, што ён змоўк, але гэта было б няпраўдай.

Потым, значна пазней, мне прыйшла ў галаў ідэя, што ён проста выбраў *іншую форму прысутнасці.*

Эпоха запрасіла яго на сцэну: ён падзякаваў і застаўся за шырмай.

Проста таму, што большасць маіх чытачоў яшчэ не нарадзіліся, сказаў ён мне аднойчы. Альбо паспелі памерці.

І таму адзінае, што можна рабіць у гэтай эпосе, тое, што варта рабіць, – гэта закладаць "тайнікі", схроны.

І ён рабіў гэта спакойна і паслядоўна, без крыкаў, без надрыўнага адчаю.

Яго вершы былі раскіданыя па часопісах і альманахах, але тыя, з кім *хацелася гаварыць*, ведалі іх на памяць.

Ягоныя эмоцыі былі рэдкімі і складанымі.

Часам здавалася, што ён наўмысна дражніць і правакуе сваю эпоху, а таксама культуру, якую ён выбраў свядома і назаўсёды.

І якая не зусім разумела, што рабіць з усім тым, што паўставала ў ягонай галаве.

Культуру, у якой большасць паэтычных тэкстаў ідэальна патрапляе ў *хрэстаматыю для дзетак-беларусаў* – мілыя, цудоўныя, *простыя словы*, што гавораць пра *простыя рэчы.*

Праўда, тады, на пераломе, гэтых простых словаў было недастаткова.

Усе чакалі чагосьці нязвыклага, нейкіх важных праўдаў, якія раптам прамовяцца і зменяць усё дарэшты.

Менавіта тады вершы Францішка патрапілі ў поле ўвагі.

І ён стаў нават *крыху вядомым* – калі так можна сказаць пра паэта.

Але чаканне зацягнулася, і пра важныя праўды ўсе неяк забылі. Не тое, каб расчараваліся, не. Проста зразумелі, што жыць можна і без важных праўдаў. І што так нават і лепей.

***

А потым прыйшла іншая эпоха. Для якой быць паэтам значыла штосьці зусім іншае.

Нейкі мілы і сентыментальны *дадатак да жыцця*, штосьці накшталт *капучына пасля абеду.*

Альбо нядзельнага паходу ў цырк, дзе акрабаты пад купалам выраблююць са словаў складаныя піруэты. І дзе трэба пляскаць у ладкі пасля асабліва складаных *па*, гледзячы на ўсё з бяспечнай аддаленасці глядзельнай залы.

Трэба сказаць, што ён не быў надта крытычны да гэтага новага часу. Паэзія – адзін з самых небяспечных заняткаў, – сказаў ён. Асабліва для тых, хто патрапіў усярэдзіну.

І таму тыя, хто прадчувае глыбіні, ведаюць, як няпроста быць лёгкімі. І цэняць гэта.

***

Адна з частак ягонай душы імкнулася, як сказаў бы Платон, да *прыпамінання эйдасаў*. Некаторыя лічылі, што, як для паэта, ён занадта сябраваў з ідэямі. Гэта, зрэшты, сталася яго прафесіяй: ён зарабляў на жыццё тым, што расказваў *пра ідэі* ў розных універсітэтах, і нават на розных мовах.

І ўсё ж ягонае імкненне зазірнуць за завесу нашага спектакля ніколі не сканчалася ведай альбо мудрасцю: звычайна ён заставаўся адзін, сярод парэпаных дэкарацый, у прадчуванні музыкі.

Дысертацыю ён так і не абараніў, хаця некалькі разоў быў блізкі да поспеху. Гэта каштавала яму ладнай часткі заробку, але штосьці ўтрымлівала яго ад гэтага кроку.

Паэты шмат што ведаюць, – сказаў ён мне аднойчы, – і пра шмат што маўчаць.

Іх веда іншая, чым докса, меркаванне большасці, гэта ясна.

Але таксама іншая, чым мудрасць тых, хто трымаецца за эпістэму. Тых, хто шукае, альбо стварае веду.

Паэты веду чакаюць.

І тое, што на паверхні выглядае як лайдацтва, як цыганшчына, безадказнасць, – насамрэч від медытацыі, шаманства.

***

Асобна трэба сказаць пра Усход.

Паводле непацверджаных чутак, Францішак скончыў два ці тры курсы *ўсходазнаўства* ў Пецярбурзе. Перш чым канчаткова асеў у Менску і завяршыў сваю вышэйшую адукацыю ў нашым слаўным універсітэце.

Мяне заўсёды цікавіла, чаму менавіта Усход стаўся для Францішка такім важным. Нашае знаёмства пачалося з кітайскай граматыкі і раз-пораз Францішак вяртаўся да кітайшчыны, хаця так ніколі і не стаў прафесійным сінолагам.

Чаму яго туды занесла, ён ніколі не мог растлумачыць. Аднойчы, праўда, ён сказаў, што ад самага дзяцінства хацеў выскачыць са свайго часу. Што яго проста ванітавала ад ягоных прыкметаў.

І што менавіта таму яму захацелася займацца самай рэдкай і непатрэбнай рэччу, якую толькі можна было прыдумаць. Чымсьці максімальна далёкім ад эпохі, з яе інжынерамі і касманаўтамі, партыйнымі сакратарамі і рабочым класам, ад імя якога гэтыя сакратары пісалі свае прамовы.

І што ён вывучаў *Даведнік для тых, хто паступае ў ВНУ* цэлы год, пакуль не знайшоў сабе *рэдкую прафесію*.

Ён сышоў пасля трэцяга курса, захлынуўшыся бессэнсоўнасцю, сырасцю, ленінградскімі камарамі, зразумеўшы, зрэшты, пасля спецкурса па вайсковым перакладзе, куды іх рыхтуюць.

Потым – ваганні, выпадковыя бадзянні ў сталіцах. І нарэшце – Менск, куды ён прыехаў, *каб пусціць карані.*

Па-сапраўднаму ён пачаў адкрываць для сябе Усход ужо тут, у Менску.

Сюды, да нас Францішак прынёс цэлы шлейф розных рэчаў, якія ў Менску былі невядомыя, альбо недаступныя.

Перадусім, розная нелегальшчына. Перадрукоўкі і пераклады, якія не мелі аніякіх шанцаў з’явіцца афіцыйна. Ксераксы старых кнігаў. Пераважна дарэвалюцыйных, але часам і сучасных, эміграцкіх альбо проста заходніх.

А таксама розныя госці, якія прыязджалі да яго: збольшага з Пецярбургу, але часам з Алтаю, Башкірыі ці нават з Далёкага Усходу.

Дзякуючы Францішку я прачытаў тады Судзукі і Уотса, Гурджыева і Блавацкую. У самвыдаце. Яшчэ да таго, як ад іх твораў пачалі ламіцца паліцы з эзатэрычнай літаратурай.

Некаторыя рэчы былі відавочна небяспечныя: за ўспаміны Надзеі Мандэльштам, якія ён аднойчы прынёс у Хвілінку, можна было атрымаць тэрмін. За прапаганду і распаўсюджванне.

Іншыя былі мілыя і бяскрыўдныя: на адзін з маіх дзён нараджэння ён прынёс саматробную кнігу перакладаў Эмілі Дыкінсан. Пераклады былі дбайна сабраныя з часопісаў і анталогіяў, перадрукаваныя і пераплеценыя ў адзін невялічкі томік.

Я, у сваю чаргу, дзяліўся з ім тутэйшай мудрасцю.

***

А потым усё пачало ламацца.

Апошнія хвіліны перад канцом Імперыі: усё складаецца з намёкаў, што гэта ўсё ж такі здарыцца: цунамі, ураган, лавіна. Крыху недаверу, а потым: страх, радаснае здзіўленне, экстаз.

Я памятаю яго на барыкадах. Не скажу, каб ён быў занадта натхнёны альбо кінуўся туды з энтузіязмам. Але ён выбраў гэта так сур'ёзна, што было ясна – ён будзе стаяць да канца. Неістотна да якога.

Зрэшты, не толькі ён.

Я і сам, шчыра кажучы, забыў тады пра ўсё і гатовы быў ахвяраваць многім, можа быць, нават жыццём.

Для яго гэта быў, перадусім, бунт, выклік той фальшывай і прагнілай нармальнасці, якая панавала паўсюль. І якая рэальна замінала бачыць важныя рэчы, як казаў ён тады.

Ён паставіўся да гэтага паэтычна – як да пэўнай эмоцыі, праз якую трэба прайсці.

Зрэшты, не толькі ён. Што цікава, менавіта паэты тады першыя кінуліся на барыкады.

Я добра памятаю першы мітынг у Менску. У скверыку Янкі Купалы. На дзесяць-пятнаццаць *нашых* было ўтрая больш удзельнікаў у цывільным. Мітынг быў вельмі просты – паэты чыталі свае вершы. На нейкім невялічкім узвышэнні. Не памятаю ўжо, на якім і адкуль яно паўстала. Хіба гэта быў проста зэдлік, які прынёс адзін з арганізатараў.

Але нават гэтага невялічкага ўзвышэння было дастаткова, каб цябе заўважылі *адусюль*. Можа быць, гэта і ёсць адказ на загадку той эпохі: *часы ўзвышэнняў*.

Барыкады былі тады проста адной з формаў узвышанага, але зусім не адзінай.

Калі ж морак разышоўся, першая эйфарыя *змагання* прамінула, раптам стала ясна, што пакуль некаторыя былі на барыкадах, іншыя цягнулі ў свае норкі ўсё, што было можна. І цяпер яны выпаўзлі на паверхню і вырашылі, што надышоў іх час.

Гэта было самае складанае. Трэба было нанова вучыцца жыць. Усё было нібыта ў тумане. У гэтым тумане паволі пачыналі праяўляцца абрысы: новыя словы, новыя людзі.

Пачыналі з'яўляцца таксама і новыя месцы з таго, іншага свету: офісы,

амбасады, фундацыі і прадстаўніцтвы. У гэтых месцах самымі дзіўнымі былі прыбіральні: чыстыя і духмяныя, яны нібыта прыйшлі з той далёкай, вабнай будучыні, якую раней называлі камунізмам і якая амаль ужо надышла.

Праўда, не для ўсіх.

Большасць заставалася на руінах, якія ў гэты час жылі сваім жыццём: хуткім і фантастычна цікавым, нават хваравітым.

Штодня тут нараджалася штосьці новае, і штодня памірала.

Нараджаліся крамы і кавярні, якія знікалі ўжо праз тыдзень.

Нараджаліся часопісы і газеты, часам не патрэбныя нікому, акрамя сваіх заснавальнікаў.

Банкі, з якіх з падазронай рэгулярнасцю ўцякалі касіры, звычайна ў невядомым кірунку.

Адзін час мы з Францішкам нават штосьці выкладалі ў мясцовай філіі ці то Оксфарду, ці то Кембрыджу, я так і не змог тады зразумець. Яе стварыў адзін з нашых прыяцеляў з Хвілінкі. Выкладалі, пакуль не прыйшлі бандзюгі (па іншай версіі – падаткавая інспекцыя), і наш прыяцель вымушаны быў паехаць на кансультацыі. На новым, набытым зусім нядаўна “мерседэсе”. І чамусьці ва ўсходнім кірунку.

А з Хвілінкай адбываліся сумныя рэчы.

Раптам знік Леа. Казалі, што ён не спадабаўся *новым гаспадарам*.

Сапраўды, ён зусім не быў падобны да бармэна. І троечка ў яго была нейкая *нетакая*. І самае галоўнае, ён не меў таго характэрнага выразу твару, які, напэўна, выхоўваецца стагоддзямі, як і ангельскія газоны. Выразу адсутнай гатоўнасці, найбольш запатрабаванаму ў афіцыянтаў, швейцараў, ва ўсёй той *чэлядзі*, якую ў нас толькі пачыналі асцярожна вырошчваць.

А потым закрылася і сама піцэрыя.

А на яе месцы пачалі паўставаць розныя рэстарацыі, імёны якіх ніхто не мог потым прыгадаць.

Стала неяк асабліва сумна і самотна жыць.

Але Францішак па-ранейшаму прызначаў *там* нашыя сустрэчы. Заставалася толькі здагадвацца, што ён мае на ўвазе.

Дзе, у якім месцы знаходзіцца сёння Хвілінка, пытаўся я ў яго, але ён толькі сумна ўсміхаўся і нічога не адказваў.

Я думаю, менавіта пасля гэтай гісторыі ў Францішка пачалі паўставаць пэўныя пытанні, што да новай эпохі.

***

Францішак тады амаль перастаў пісаць.

Ён сказаў мне пра гэта з пачуццём лёгкай няёмкасці, быццам выбачаўся.

Ягоныя вершы добра пісаліся ў паўзмроку, напрыканцы эпохі, сказаў ён, калі сама прастора была структураваная – святлом і цемрай, болем і асалодай – і кожнае слова ў ёй знаходзіла свой сэнс, сваё месца і сваю місію.

Цяпер жа ўсё распалася. Шыва зноў разнёс свет на кавалкі, з якіх яшчэ толькі збіраецца штосьці паўставаць.

Тое, што раней знаходзілася ў жывым адзінстве, цяпер вымушана быць паасобку. Ясная, вызначаная паэтычная эмоцыя больш немагчымая.

У гэтым хаосе, дзе няма пакуль анічога сэнсоўнага, лепш увогуле не варушыцца. Не рабіць нічога. Бо гэта час галодных духаў, якія выходзяць на паляванне.

Мы мусім прайсці праз гэта, як праз спакусу, сказаў ён тады. І выйсці на той бок эпохі.

А што нас чакае на *тым баку*, пытаўся я, але ён не адказваў, альбо адказваў зусім не пра гэта.

Складвалася ўражанне, што ён чытаў па аблоках, але не разумеў тады таго, што пабач, свайго ўласнага жыцця. Зрэшты, ён і не імкнуўся да гэтага.

Яму здавалася недаравальнай наіўнасцю, нават злачынствам, спыняцца і супадаць з *занадта часовымі* формамі, казаў ён, у той час як трэба *ісці наперад і сведчыць*.

Але куды наперад? І пра што сведчыць?

***

Я быў упэўнены тады, што ўжо бачу яго гісторыю – гісторыю паэта, які *перажыў сваю эпоху*.

І што я ўжо дастаткова ведаю Францішка, каб уявіць усё, што будзе адбывацца далей.

Як ён праходзіць праз *новы час*, што прыходзіць на змену *ягонаму*. Нябачны і непатрэбны. Цень ценю.

Як усё больш і больш патрапляе ўнутр, туды, дзе ціхая музыка.

Як ён запісвае ў сваім дзённіку верш пра эпохі, крохкія і трапяткія, нібы матылькі. Якія праміналюць, пакідаючы пасля сябе адчуванне чагосьці важнага і адначасова эфемернага.

Пра рэха, якое заціхае. І пра тое, што трэба вучыцца гаварыць у цішыні. Без водгукаў, без спадзявання. Нават без слухачоў.

А час ідзе.

Ён дажывае жыццё ў сваёй хатцы ў Крыжоўцы. Штосьці піша. Доўгімі вечарамі гуляецца з коткай, да якой мае вялікую прывязанасць.

Ведае на памяць усе сцежкі, усе крокі да станцыі, усе дрэвы ў бліжэйшых пералесках.

Перачытвае кнігі. З асаблівай цеплынёй гартае старыя самвыдатаўскія перадрукоўкі. Парадкуе архіў, крыху перакладае, але неяк лянотна, без мэты і без жадання.

Глядзіць, як у жыццё прыходзяць усё новыя і новыя хвалі, якія шукаюць сабе месца. Напачатку яшчэ верыць, што жыццё вернецца, што плынь падхопіць яго і вынясе, і ён зноў будзе разам з усімі.

І сапраўды, да яго звяртаюцца, раз-пораз прыгадваюць, запрашаюць на сустрэчы. А потым усё заціхае.

І магчыма (я пра гэта таксама думаў, але неяк прытоена, хаваючы думку ад самога сябе), у адзін з найбольш сумных (альбо наадварот, найбольш прыгожых) восеньскіх вечароў Францішак сканчае жыццё самагубствам.

Як сэлінджараўскі Сімур у адным з апавяданняў.

Тут я адразу мушу патлумачыць, гэта не было б самагубства ад адчаю. Альбо ад расчараванасці. Наадварот!

Гэта было б *шчаслівае самагубства*. Свабодны і нязмушаны сыход на той бок. Туды, дзе духі продкаў. Дзе багі і героі.

Добра было б, каб перад гэтым ён таксама сустрэў кагосьці, каму можна было б *перадаць тон*.

Памятаеце гэтую дзяўчынку з “Цудоўнага дня для бананавай рыбкі” – якую Сімур выпадкова сустракае ў гатэлі і якой, уласна, і расказвае саму гісторыю пра рыбак?

Што адбываецца тады? Містычнае судакрананне? Перадача тону? Дар?

***

Але ўсё пайшло зусім не так, як я меркаваў.

Гэта стала ясна не адразу.

Напачатку ўсё супадала, і я, шчыра кажучы, з жахам пачынаў чакаць канца гэтай гісторыі.

Ён сапраўды пачаў выпадаць з агульнага рытму, не патрапляць у такт эпохі. Зрэшты, не толькі ён. Тады шмат было такіх, як ён, *заблытаных*. Шмат хто пачаў выпадаць з агульнай плыні.

Ён быў звыкла самотны, сваёй асаблівай, паэтычнай самотай.

Але ў пэўны момант для большасці ён стаў яшчэ і *няўтульным*.

Пачыналася ўсё з дробязяў, з эмоцыяў і думак, якія не супадалі з агульнапрынятым меркаваннем.

Былі бамбардаванні, бамбілі амерыканцы, але каго, я ўжо не памятаю. Ды гэта і неістотна. Потым *яны ўвесь час кагосьці бамбілі*.

Усе замоўклі ў няёмкасці.

Тады ні ў кога, акрамя пары-тройкі журналістаў, не паднялася рука хваліць *забойствы*. Ды й журналісты хвалілі неяк ускосна, а потым апраўдваліся на калідорах. Але і крытыкаваць ніхто не адважыўся.

Дакладней, крытыкаваць было можна і нават трэба, але дачакаўшыся, калі *адтуль* будзе дадзены знак.

І тут Францішак, які ўвесь гэты час трымаўся ў ценю, нарэшце дазволіў сябе выйсці навонкі. На авансцэну.

Ён друкуе артыкул пад назвай *Канец прыўкраснай эпохі*.

Артыкул стаўся скандальным: пра яго гаварылі, яго цытавалі, друкавалі адказы і каментары. І, як заўсёды бывае ў такіх выпадках, пад канец дыскусіі мала хто памятаў, з чаго ўсё пачалося.

А гаварылася там, што амерыканцы, як заўсёды, памыліліся і разбамбілі штосьці зусім іншае.

Разбамбілі ілюзію, якая паўстала на момант на руінах камунізму. Утопію адзінага свету, адкрытага і прыязнага да ўсіх. У якім больш няма падзелу на першы, другі і трэці. На вызваленых і тых, хто вызваляе. На тых, хто памірае ў пяць год, ад голаду, у забытай афрыканскай вёсцы, і тых, хто дажывае сваё жыццё сытым і дагледжаным.

Гэтай ілюзіі больш не існуе, як няма больш і нязмушанай радасці. Карнавал скончыўся, маскі адкладзеныя ўбок. І цяпер зноў трэба рыхтавацца да вайны. Ціхай, неабвешчанай, татальнай. Вайны ўсіх супроць усіх, дзе кожны сам па сабе, і дзе кожны ўжо загадзя прайграў – ад самага пачатку.

Мы тады амаль пасварыліся.

Задача не ў тым, каб казаць ім *няўтульныя праўды*, гаварыў я яму. А ў тым, каб патлумачыць тое, што яны ўжо зразумелі, але ў чым баяцца сабе прызнацца.

І калі ўжо ты хочаш выходзіць навонкі, пакідаць сваё паэтычнае логава, будзь ласкавы зважаць на тое, якое стагоддзе на двары, і не патрабуй ад людзей немагчымага.

Але Францішак не спыняўся.

Наступны тэкст называўся *Пра дзве душы.* Артыкул быў іранічны і гратэскавы, і быў ён зусім не пра аповесць Гарэцкага.

Мы ніколі не станем сапраўднымі людзьмі Захаду, пісаў у ім Францішак, пакуль мы не выгадуем у сабе дзве душы. І не зразумеем некаторыя важныя рэчы.

Пакуль мы не навучымся так, як яны, сядзець у дарагіх рэстарацыях і абмяркоўваць лёсы *бедных і заняпалых правінцый.*

Альбо выдаткоўваць купу грошай на дапамогу *жыхарам гэтых правінцый,* і большасць пакідаць сабе, на ганарары і кансультацыі. І лічыць гэта справядлівым і нават натуральным.

Альбо важна выступаць на канферэнцыі пра талерантнасць і дыялог між культурамі, але пры гэтым забыцца выслухаць тых, з кім і ў абарону каго плануецца талеранцыя. А ў кулуарах яшчэ скардзіцца, якія яны *грубыя* і якія *няўдзячныя.*

Напрыканцы Францішак гаварыў пра месца, якое адведзенае нам у цудоўным новым свеце.

Месца *глухой правінцыі каля мора.*

Канечне, пасля рэвалюцыйнай узвышанасці перайсці да глухой правінцыі будзе няпроста, пісаў ён. Трэба навучыцца быць сціплымі. Супадаць са сваёй карцінкай у коміксе. Вывучыць правільныя адказы на незададзеныя пытанні.

І хаця па тоне Францішка было зразумела, што той не збіраецца ўсяму гэтаму вучыцца, і тым больш вучыць, некаторыя падумалі, што ён *усё гэта сур'ёзна.*

Але артыкул, які канчаткова знішчыў ягоную рэпутацыю, называўся “Як я разышоўся з трэцім беларускім адраджэннем”.

Ён быў вельмі кароткі, просты і нейкі безабаронны. Там была ўсяго адна думка.

Апошняе беларускае адраджэнне, напісаў ён, пачыналася як рыцарскі гэст, як абарона пакрыўджаных. Памерлых, закатаваных, забытых. А скончылася правым праектам, ідэалагічнай абслугай перыферыйнага капіталізму. Чаму так адбылося, няясна. Але тое, што ясна і пэўна – у кожнага цяпер свая сцежка і свая праўда.

Францішка тады моцна пахіліла налева.

Яго бачылі з анархістамі. Ягоная хатка ў Крыжоўцы стала нават на пэўны час іх штабам.

Яны пачалі выдаваць газету, скрайне левую, нават звар'яцела-левую, якая, да таго ж, нідзе *не прадавалася.*

І самае нечаканае – ён зноў пачаў пісаць і друкаваць вершы.

Але гэта была ўжо іншая эмоцыя, іншыя словы.

Рэзкія і непрытульныя, калючыя, яны кантраставалі не толькі з з ранейшай паэтыкай Францішка, але і з чымсьці больш глыбокім у ім.

***

Зрэшты, заўсёды штосьці пачынае ісці не так.

Густаў перамяняецца ў Конрада.

Сымон-музыка вымае самурайскі меч і пачынае *звінець шаблямі па шаломах літоўскіх*.

І нашая гісторыя радыкальна мяняецца.

У ёй з'яўляецца Багдан і Эва Даменіка.

## 3.

Калі я думаю пра Багдана і Эву Даменіку, я заўсёды вяртаюся ў адзін шэры і непрыкметны восеньскі дзень напрыканцы васьмідзясятых.

Мы стаялі з Францішкам у Хвілінцы, на нашым улюбёным месцы, у далёкім куце каля вакна, і абмяркоўвалі апошнія навіны. Каб вы зразумелі ўсю незвычайнасць сітуацыі, я скажу, што мы ніколі *не апускаліся* ў нашых размовах да навінаў. І не толькі таму што, як пісаў Борхес, *гісторый усяго чатыры*, і іх сюжэты мы ведалі на памяць.

Нашыя сустрэчы ў Хвілінцы заўсёды былі ўцёкамі, выпадзеннем з рэальнасці. Мы спрабавалі гаварыць – і маўчаць – пра *іншыя рэчы*. І рэчы гэтыя адбываліся пераважна ўнутры нас. Не было аніякай патрэбы глядзець вонкі, пытацца ў мінакоў, якое там здарылася стагоддзе, і чаго яно ад нас патрабуе.

Але тады штосьці адчувалася ў паветры, штосьці сапраўды *новае*. І знакі гэтага новага пачыналі матэрыялізоўвацца, выходзіць навонкі, шукаць сабе месца.

Францішак расказваў не толькі пра прадчуванні. Гэта была ўжо амаль рэальнасць.

Расказваў, як яго аднойчы вылавілі на калідоры акадэмічнага інтэрната і завялі ў пакойчык, дзе прымусілі чытаць свае вершы. Пасля чаго ён стаўся, нечакана для сябе, паэтам з усталяванай літаратурнай рэпутацыяй эстэта і метафізіка і, у дадатак, сябрам самага вядомага і скандальнага літаратурнага таварыства.

Альбо як ён выпадкова патрапіў на заснаванне другога, не менш *рэвалюцыйнага* таварыства – перакладчыкаў. Чаму таварыства перакладчыкаў было тады рэвалюцыйным, і што за рэвалюцыі яно планавала – пра гэта асобная гаворка.

Тут трэба адзначыць, што ў познія савецкія часы на беларускую мову перакладалася вельмі мала замежных твораў, і перакладалася пераважна праз расейскую. У выдавецтвах, тэатрах, часопісах да гэтага ставіліся як да дадатковай падпрацоўкі, а не як да важнага і далікатнага працэса культурных перамаўленняў.

Пра тое, што атрымоўвалася ў выніку такіх перакладаў, можна было расказваць бясконца. У Францішка была свая ўлюбёная гісторыя, пра адзін з вершаў старой і славутай кітайскай паэткі, які ён ведаў у арыгінале.

У вершы аўтарка, самотная і крыху п'яная, выплывае на чоўне ў пустынную затоку. Хутчэй за ўсё перад гэтым, хаця пра яе наўпрост не гаворыцца, была сустрэча з сябрамі, мілая, вясёлая, цёплая. Далікатнасць і цеплыня чалавечага. А тут ранішняя прахалода і адпрэчанасць. Прырода, якая нічога не ведае пра чалавечыя пачуцці. Халодныя, пустыя нябёсы. І раптам у гэтай амаль сакральнай адсутнасці трывожна крычаць кірлі. Крык кірляў працінае верш наскрозь, злучае ў адно чалавечы кон і пустату нябёсаў. Прыносіць абуджэнне і прасвятленне.

У расейскай версіі, зробленай хутчэй за ўсё з падрадкоўніка, рэгуляр-

ны рыфмаваны верш зводзіць далёка ад арыгінала. Па-першае, паэтка выплывае ў затоку “з сябрам”. Што ўжо цалкам руйнуе асноўную эмоцыю верша. Па-другое, кірлі напрыканцы не крычаць, а проста ўзлятаюць. Але ў беларускім вершы (зробленым ужо нават не з падрадкоўніка, а з расейскага перакладу) яна не проста выплывае ў затоку з сябрам, але яшчэ і *зусім цвярозая*.

У выдавецтве потым апраўдваліся, што выхад зборніка патрапіў пад *антыалкагольную кампанію*. А п’яная паэтка на чоўне – гэта відавочна цягнула на прапаганду алкагалізму. П’яная з сябрам – крыху больш зразумела, ды ўсё роўна не выратавала б сітуацыю.

Але калі Францішак расказаў мне гэтую гісторыю ўпершыню, я страшна ўзрадаваўся і развесяліўся. І сказаў, што гэта *чысты Борхес*. І што калі эпоха пройдзе, мы яшчэ адчуем усю яе вычварную прыгажосць. І неверагоднасць. Бо верш быў насамрэч перакладзены зусім не асобай, не чалавекам. А самой эпохай!

І вось гэтая эпоха відавочна рыхтавалася з намі развітацца. Калі ён прыйшоў на сустрэчу з перакладчыкамі, аказалася, што большасць – зусім маладыя людзі. Некаторыя нават студэнты. Усе яны не проста ведалі беларускую мову, яны гаварылі на ёй штодня. Падкрэслена і дэманстратыўна. Але не гэта было галоўнае. Калі пачалі лічыць мовы, з якіх яны збіраліся перакладаць, збіліся на трэцім дзясятку.

Няясна, адкуль яны ўсе павылазілі, з іранічным энтузіязмам казаў Францішак. Яшчэ пару год таму пра такое немагчыма было падумаць. Мы хадзілі па менскіх вулках, і ўсе твары зліваліся для нас у шэрую невыразную масу. А тут зусім іншая інтанацыя, цалкам новыя твары. Яны і належылі тутэйшай прасторы і ў той жа час вылучаліся, выпадалі з яе.

Мы былі сляпымі эгацэнтрыстамі, сказаў тады Францішак, мы нікога не бачылі, акрамя сябе.

Я разумею, казаў ён, што гэта было адной з умоваў выжывання. Што выжыць можна было, толькі калі ты заплюшчыш вочы і пойдзеш унутр сябе.

Але цяпер усё змяняецца.

Ён быў захоплены і ўсцешаны. І я яго разумею.

Большасць свайго жыцця мы мусілі *пераадольваць* знешнія абставіны. Блукаць на самоце. Альбо нават ісці насуперак часу. А тут час пачынаў прыглядацца да нас з сімпатыяй, спрыяць, нават дапамагаць.

Шчыра кажучы, і я тады быў блізкі да *энтузіязму*. Адчуванне ласкавага ветрыка, які дзьме ў спіну. Крыху прыўздымае ў паветра.

Гэта было неверагоднае, фантастычнае адчуванне.

Мы стаялі тады ў Хвілінцы і разумелі, што патрапляем ў зусім іншы тон.

Што ж я табе ўсё гэта расказваю, раптам сказаў Францішак, калі ты можаш пабачыць усё на свае вочы. Я запрасіў сюды двух сваіх новых знаёмых.

***

Багдан: профіль маладога Ніцшэ, тонкі і ў той жа час суворы, сармацкі.

Я адразу зразумеў, што *гэта ён*, як толькі ён увайшоў у залу.

Цьмяная, някідкая арыстакратычнасць. Як быццам бы ён крыху са-

ромеўся гэтай сваёй здольнасці – вылучацца, быць не як усе. І таму паводзіў сябе падкрэслена проста і шчыра, без спецэфектаў і рытарычных перабольшанняў. Без паказухі, як мы тады казалі.

Пасля я бачыў яго ў розныя часы і розных месцах. На мітынгах і на канферэнцыях, на прыёмах у замежных амбасадах і сяброўскіх спатканнях.

Але я ніколі не бачыў яго ў Хвілінцы – ні да, ні пасля гэтай сустрэчы.

Ён быў на самым пачатку сваёй вядомасці.

Гэта потым яго клуб аматараў беларускай гісторыі будзе збіраць сотні дыскутантаў і гледачоў. Зрэшты, не толькі шчырых адданых прыхільнікаў, але і назіральнікаў у цывільным, аматараў модных відовішчаў дый проста блазнаў і гарадскіх вар'ятаў, якія нутром адчувалі незвычайнае.

І ён практычна не будзе сыходзіць са старонак газет.

Усе чакалі тады, што ягоны клуб закрыюць, але розгалас апынуўся такі вялікі, што прасцей было размяшчаць у газетах лісты абураных грамадзянаў, чым *прымаць меры*. Да таго ж, з кожным новым пражытым тыднем зрабіць гэта было ўсё больш складана.

Спрачаліся там пра самае рознае.

Пра сталінскія рэпрэсіі, пра забітых і тых, хто забіваў.

Пра старыя замкі і пра адказнасць перад мінулым.

Пра беларускую мову, якая была несправядліва выкінутая на сметнік гісторыі. І пра шмат якія іншыя рэчы.

Трэба сказаць, што забойцы ў тыя часы былі яшчэ жывыя. Замкі стаялі ў руінах, а ў тутэйшым грамадстве раптам пачала абуджацца памяць. І сорам, і няёмкасць.

Віравалі эмоцыі, людзі не проста спрачаліся, яны былі гатовыя разарваць адно аднаго.

Але калі ён выходзіў на сцэну, усё заціхала.

Ён стаяў на сцэне перад амаль прамінулай эпохай, як Давід перад Галіяфам.

Ён не проста не баяўся. Ён стаяў як чалавек, пэўны свайго выбару, гатовы павесці за сабой. Адчувалася, што ён не адзіны. Што дзясяткі, сотні, тысячы гатовыя пайсці разам з ім у невядомую будучыню.

Зрэшты, за ім былі не толькі жывыя, але і мёртвыя. Усе тыя, хто жылі і прамінулі, тыя, хто лічыў гэтую зямлю сваёй.

Там, на сцэне, ён быў неперαможны.

***

Але я чамусьці ведаў і працяг гэтай гісторыі.

Хаця, канечне, тады яшчэ не ведаў. А хутчэй прадчуваў.

Як увесь гэты рух вымкне на шырокі прастор. На свабоду.

І як потым пачне марнець, скукожвацца, падзяляцца на часткі.

Як гэтыя часткі распачнуць вайну паміжсобку.

Як *паралельна* пачне паўставаць новая сістэма месцаў. Новая іерархія.

Як у пэўны момант прыходзяць *менеджары*, а потым *блазны*.

Я добра памятаю тыя *далейшыя* часы. Было такое ўражанне, што эпоха гулялася з намі ў шахматы, па сваіх правілах. Што людзі пэўных тыпаў, пэўных формаў душы патрэбныя ёй для вырашэння канкрэтнай задачы.

Калі ж задача выкананая, фігуркі проста прыбіраліся з дошкі – да наступнага разу. І на паверхню замест іх выстаўляліся розныя *іншыя*.

Далей гульня працягвалася, хаця ўжо без нашых герояў.

Трэба сказаць, што тады не здарылася анічога рэзкага, нечакана трагічнага. Проста Багдан не мяняўся разам з часам, ён заставаўся такім, як быў, такім як мы яго памяталі. Ён быў як цудоўны падарунак на свята, для якога раптам не знаходзіцца месца, – пасля таго, як усё мінае.

А потым адбылося штосьці ўвогуле нечаканае.

Усё выглядала так, як быццам раптоўна, у пэўны момант Багдан *перастаў верыць*.

Такое бывае ў святароў і футбольных трэнераў, але рэдка ў палітыкаў, якія звычайна з радасцю прымаюць на веру тое, што ў іх эпосе лічыцца вартым веры. І якія лёгка і нязмушана пачынаюць прымаць штосьці іншае, як толькі эпоха праходзіць.

Багдан спрабуе ўтрымацца на паверхні, знайсці сябе ў новых абставінах, ды неяк няўпэўнена.

Ён ніколі не пераставаў быць асобным. Але ягоная самадастаковасць цяпер яму не дапамагала, а наадварот, выводзіла яго па-за межы *надта чалавечага*. Ён не мог стварыць уражанне, што ён свой, такі ж, як усе.

Пэўны час ён проста блукае па паверхні: без веры, без надзеі, без свайго месца ў жыцці.

Паступова губляецца ў смузе прамінулага.

Пакінуўшы пасля сябе светлы ўспамін – пра часы маладосці.

Потым адзін журналіст, у сваіх мемуарах назаве ягонае знікненне з авансцэны самай загадкавай палітычнай падзеяй эпохі.

І я яго разумею.

***

Для мяне заўсёды было цікава, як у пэўнай культуры, альбо ў пэўнай традыцыі паўстае *ўзвышанае*.

Бо некаторыя рэчы могуць быць толькі *дадзены*, іх немагчыма набыць альбо асягнуць. Немагчыма *проста прыдумаць*, для сябе і астатніх.

Яны мусяць нараджацца ў крыві, і ўзрастаць павольна і няўхільна. Як форма – альбо як формула – чалавечага жыцця, якое ідзе на ўзвышэнне. Не ад таго, што так нехта вырашыў. А таму, што інакш – немагчыма.

З эпохай можа быць сугучча, і тады яна выспускае *ўзвышаных* на авансцэну – як гэта здарылася з рамантыкамі.

Альбо радыкальнае непаразуменне, разыходжанне. І тады паўстае адчуванне топкага дна, нізкага шэрага неба і мітуслівай пустаты ўсярэдзіне.

Але гэта таксама рэдкасць. У большасці выпадкаў паміж часам і *ўзвышанымі* трымаецца ўзброены нейтралітэт, эпохі прытрымліваюць гэткі тып чалавека для пэўных падзеяў, асаблівых сітуацый.

Якія могуць, зрэшты, ніколі не наступіць, так і застацца сярод *ціхай улады магчымасцяў*.

***

Багдан тады прыйшоў не адзін – з ім была Эва Дамініка.

Я не тое, каб яе пазнаў – хутчэй, здагадаўся.

Пра яе таксама ўжо хадзілі легенды.

Пра маладую выпускніцу кансерваторыі, якая адмовілася ад кар’еры

опернай дзівы, каб весці нейкі фальклорны гурток у Доме культуры. Спяваць бабульчыны песенькі і вучыць гэтаму дзяцей і дарослых.

Яе аднакурснікі круцілі пальцамі каля скроняў, але з пэўнай павагай.

Распавядалі, што яна нашчадак старога шляхецкага роду, што яе прапрабабка грала Шапэна, а дзед сядзеў разам з паэтамі ў Клозэры дэ Ліла.

Таксама распавядалі, што яна вельмі прыгожая, але асаблівай, арыстакратычнай і крыху халоднай прыгажосцю, якую звычайна пабойваюцца і якую абыходзяць – на ўсялякі выпадак.

Трэба сказаць, у нашым правінцыйна-каланіяльным ландшафце тады назіраўся пік пагарды да *бабулек з камароўкі*. І спалучэнне такога радаводу, такой сямейнай легенды і такога выбару сапраўды ўражвала.

Яна затрымалася там, у піцэрыі, літаральна на колькі імгненняў. Напэўна, вывучала меню ці пабачыла кагосьці знаёмага.

Але атрымалася эфектна, нібыта ў спектаклі.

Мізансцэна тры. Апошняя рэпетыцыя. Рэжысёр пакуль не з’явіўся, але ўсе асноўныя персанажы ўжо на месцы. Выхад Багдана і Эвы Дамінікі. Яна дазваляе Багдану увайсці першым, заняць сваё месца. І цяпер сама далучаецца да мізансцэны. *Завяршае* яе.

Хаця *далучаецца* было, відавочна, не пра яе.

Далучацца, відавочна, трэба было тым, хто вакол.

***

Эва Дамініка тады ўжо пачала спяваць *вершы паэтаў*, і яе імя гучала як пароль для тых, хто цаніў тонкія рэчы.

Яна спявала пераважна пад фартэпіяна, часам пад гітару, але тое, што яна рабіла, не патрапляла пад звыклыя катэгорыі. Гэта не быў раманс, засушаны, правільны, і ўжо мала каму цікавы, акрамя аматараў жанру. Не была бардаўская песня, якая прыаздобіла апошнія дзесяцігоддзі савецкага народа ў імперыі. І зусім не рок, які так прыгожа афарбаваў часы яе распаду.

Я б назваў гэта *шляхецкім фальклорам*.

Была нейкая асаблівая пяшчота, і асаблівая інтымнасць у тым, як яна прамаўляла радкі верша, перад тым як распачаць спевы. Альбо раптоўна спынялася на сярэдзіне і пачынала расказваць пра аўтара, пра сябе, пра пачуцці, якія паўставалі ў яе падчас перакладання верша на музыку.

Гэта было штосьці, што ўкарэнена ў традыцыі прыватных музыкаванняў, што адбываліся ў шляхецкіх маёнтках у далёкія, даўнія часы.

Можна было ўявіць сабе вечар, стары, крыху заняпалы дом, з партрэтамі і старымі кнігамі. Сяброў і добрых знаёмых, якія сабраліся з навакольных сядзібаў. А некаторыя нават прыехалі здалёк, з горада.

Усё проста і натуральна. Хтосьці перамаўляецца, хтосьці сумуе, некаторыя глядзяць у вакно. Музыка не ёсць чымсьці штучна завезеным, яна свая, тутэйшая, распушчаная ў ландшафце, сярод пагоркаў і пералескаў.

Як і стагоддзі гісторыі за спінай.

З гэтымі стагоддзямі было самае дзіўнае.

Пазней, калі я пазнаёміўся з Эвай Дамінікай і пачаў хадзіць на яе канцэрты, я прыглядзеўся (і прыслухаўся) больш уважліва да таго, што і як яна рабіла.

Яна *сапраўды* паходзіла са старога шляхецкага роду, які цудам ацалеў, дзякуючы выгнанню. І стагоддзі *сапраўды* прысутнічалі, калі яна грала і спявала.

Але не гэта было галоўным. Галоўнае ўсё ж было не ў традыцыі, а ў ёй самой.

Яна не проста выконвала музыку. Яна прыносіла яе з сабой. *Яна і была музыкай.*

***

Яны павіталіся з Францішкам проста і душэўна, як са старым знаёмым.

Ён стаў поруч з імі ў чарзе.

Я застаўся за стойкай. І не толькі дзеля таго, каб трымаць месца, але і каб больш уважліва агледзецца ў гэтай новай сітуацыі.

Яны стаялі ў чарзе і размаўлялі, ціха і невыпадкова, так, як быццам бы яны доўга чакалі гэтай сустрэчы і вось, нарэшце, спаткаліся. Гэта было крыху дзіўна, бо Францішак мне нічога не расказваў пра сваіх новых сяброў, а мы звычайна дзяліліся такімі гісторыямі. Тым больш, што і Багдан, і Эва Даменіка былі на той час ужо людзьмі вядомымі. У пэўных колах, зразумела.

Я зусім не здзівіўся, што яны ўвогуле знаёмыя: у гэтыя часы ўсе, хто хаця б крыху выламваўся з паверхні, ведалі адзін аднаго.

Мы хадзілі па Менску і віталіся – усе з усімі.

Але ўжо тады і Багдана, і Эву Даменіку пачыналі пазнаваць на вуліцах.

Францішак жа паспеў надрукаваць толькі невялікую падборку перакладаў са старых кітайскіх паэтаў. Падборка, зрэшты, была таксама рэвалюцыйнай, яна рвала з доўгай традыцыяй перакладаць старых кітайцаў *рыфмаванымі трындзюшкамі*, і ішла *назад*, у бок Паўндавага *Катая*, але пра гэта здагадваліся толькі пара-тройка ягоных сяброў.

Ягоныя ж уласныя вершы былі, што называецца, для *вузкага кола*. У якое, шчыра кажучы, я пакуль залічваў толькі самога сябе і некаторых нашых прасунутых знаёмых з Хвілінкі.

Мне цяжка было ўявіць, што яго новыя прыяцелі маглі штосьці разумець, і больш за тое, цаніць у ягоных вершах.

Можа быць, тут было і крыху рэўнасці: я прызвычаіўся быць ягоным першым чытачом, а цяпер вымушаны быў *здалёк* назіраць, як Францішак апякуецца сваімі новымі знаёмымі.

Яны стаялі і проста размаўлялі. Была сувязь, была і нейкая тайна, недагаворанасць.

Яны, відавочна, былі звязаныя чымсьці большым, чым проста выпадковым знаёмствам на адной з сустрэчаў. Было штосьці яшчэ. Штосьці мусіла адбыцца раней, нейкая падзея, якая іх *наблізіла*.

Так, менавіта наблізіла.

Бо першае, што кідалася на вочы, гэта тое, што яны стаялі *занадта блізка*. З аднаго боку, было ясна чаму: яны стаялі ў чарзе, яны толькі сустрэліся і вымушаныя былі гаварыць ціха, каб не звяртаць на сябе шмат увагі. Каб не замінаць астатнім.

Гэта тлумачыла пэўныя рэчы. Але не да канца.

Бо звычайна і проста знаёмыя, і нават сябры інтуітыўна адчуваюць міжсобку дыстанцыю блізкасці і далёкасці. І рэдка парушаюць яе.

А калі парушаюць, дык звычайна маюць на гэта правы.

А тут усё было па-іншаму. Трэба было толькі пераключыць увагу на гэсты, на мову цела, і ўгледзецца. І ўбачыць.

Убачыць пяшчоту, з якой Францішак схіляўся да Эвы Дамінікі, калі штосьці тлумачыў, недачутае ці незразуметае.

Як Багдан клаў рукі на плечы ім абаім, гэстам, які паказваў яго радасць, і давер, і нават *шчасце ўтрох*.

Альбо як Эва Дамініка ўсміхалася, цьмяна і крыху загадкава, калі яны пачыналі нешта нашэптваць ёй на вуха, з двух бакоў аднапачасова.

Гэсты гаварылі за іх больш, чым яны маглі сабе ўявіць.

Тут я зразумеў, што Францішак не толькі не расказаў мне пра сваіх новых сяброў. Ён не расказаў мне *пра галоўнае*.

***

Я адразу адчуў, што патрапіў у сапраўдны пачатак *маёй гісторыі*.

Праўда не гісторыі кахання – гэта было б *занадта проста*.

Гісторыі пра трох асобаў. Людзей, якія *ёсць часткай аднаго цэлага*. Якія сустракаюцца выпадкова, на самым пачатку свайго жыццёвага падарожжа. І разумеюць, што звязаныя ў гэтым жыцці. Што ім прызначана ісці побач. Што яны важныя, істотныя адзін для аднаго.

Каханне, сімпатыя тут маглі прысутнічаць, але толькі як складовая частка рошчыны, фрагмент больш шырокага гештальту. Які праяўляецца пасля ўсяго, постфактум. Калі ўжо ўсё адбылося.

Далей іх разносіць у розныя бакі, і ўсё пачынае працаваць супраць іх: месца, час, абставіны.

Але застаецца *сувязь*. Больш за тое, яна *ўзмацняецца*.

***

Гісторыя мусіла пачацца вельмі проста.

Ім крыху за дваццаць. Яны сустракаюцца на калідоры ўніверсітэцкага інтэрната *на Свярдлова*, 34 у адзін з даўгіх жніўеньскіх дзён, перад самым канцом імперыі.

Яны трапляюць туды кожны паасобку, па сваіх уласных маршрутах.

Эва Дамініка прыходзіць на дзень нараджэння брата аднакурсніцы. Той вучыўся на гістфаку і жыў у інтэрнаце. Там жа вырашылі рабіць сустрэчу. Яна амаль не вагалася: яе звыклае кола крыху надакучыла, а тое, што навонкі, наадварот, пачынала вабіць і інтрыгаваць. Да таго ж, хаця яна спрабавала сабе ў гэтым не прызнавацца, на гістфаку было многа хлопцаў, і зусім не такіх, як у кансерваторыі.

Багдан прыходзіць у інтэрнат *інкогніта*, з перадрукаванай на старой машынцы *Пагоняй* Багдановіча. У дваццаці экземплярах. Гэта для яго першая нелегальная акцыя: пасля закрыцця іх спеўна-фальклорнага гуртка яны прынялі рашэнне перайсці да сапраўднай дзейнасці. Заняцца агітацыяй і прапагандай. Пашыраць уплывы. Яны тады падумалі, што студэнты гісторыкі – самая ўдзячная аўдыторыя. Асабліва тыя, што паходзяць з вёсак і мястэчак. І што трэба прамацаць сітуацыю. Падрыхтаваць глебу.

І вось яны сутыкаюцца.

Багдан і Эва Дамініка. Выпадковае знаёмства на калідоры. Першыя словы. Адчуванне, што яны ўжо бачыліся недзе. Магчыма, на адной з сустрэчаў, а можа, у іншым жыцці. На гэтае адчуванне накладаецца ўзаемная сімпатыя, ад першага пагляду. Ці, больш дакладна, ад першага датыкнення: прыпальваючы цыгарэту, Багдан дакранаецца да яе рукі...

Францішак. Стомлены ад сваёй паэтычнай самоты. Даўно гатовы выйсці вонкі. Шчаслівы і крыху звар'яцелы. Блукае па калідорах, як п'яны Сакрат, у пошуках прыгодаў і вучняў.

Што ў гэты час ён рабіў у інтэрнаце, не мог зразумець ніхто. Складалася такое ўражанне, што ён проста матэрыялізаваўся ў пэўны момант на адным з інтэрнацкіх калідораў.

Ён бачыць дзве постаці ў куце, якія ўжо гатовыя развітацца.

І не могуць. Нягледзячы на тое, што цыгарэты дапаленыя, выпадковыя словы ўжо прамоўленыя, а на невыпадковыя яшчэ не хапае рашучасці.

Ён падыходзіць і ратуе сітуацыю: размова, якая была гатовая затухнуць, цяпер распальваецца з новай сілай. Яны ўжо *ўтрох*. І Францішак прапаноўвае працягнуць *сымпазіён*: ён мае два літры мадэры і ключы ад ленінскага пакоя.

Эва Дамініка пагадзілася адразу, не раздумваючы. Ёй хацелася збегчы з дня нараджэння ад першых хвілінаў, нягледзячы на сяброўку, і на тое, што з дзесяці гасцей шэсць былі хлопцы. Сёння яна, відавочна, была не гатовая *быць як усе*. Звычайна яе пачынала ванітаваць ад простых, чалавечых размоў са звычайнымі людзьмі недзе праз паўгадзіны, але тут яна не змагла іх нават распачаць. Прасядзела моўчкі ў куце, не сказаўшы ані слова. І цяпер ёй не трэба было нават развітвацца – яна выйшла папаліць з торбачкай і магла проста не вяртацца.

Багдан крыху супрацiўляўся. У кішэнях заставалася пятнаццаць *Пагоняў*, якім трэба было знайсці месца. Да таго ж, ён сюды прыйшоў не дзеля таго, каб піць мадэру *пад Леніным*. Але Эва Дамініка пагадзілася, і Багдан зразумеў, што ў яго сёння няма выбару.

Яны заходзяць ў Ленінскі пакой *паасобку*, па ўсіх правілах канспірацыі, і застаюцца. І ўжо не заўважаюць часу.

Доўгая начная размова. Такое бывае *сярод амаль незнаёмых*: калі правільна выбраны тон, можна гаварыць пра незвычайныя рэчы. Якраз таму, што выпадковая размова – гэта амаль сон: вы неўзабаве развітаецеся і болей адзін аднаго не пабачыце.

Яны менавіта так і пачалі, з самага важнага, але крок за крокам усё пачало змяняцца. І ўжо праз гадзіну стала ясна, што яны не развітаюцца. Прынамсі, не ў гэтым жыцці.

***

Далей усё распадаецца на тры лініі. На тры ніткі. Але гэтыя ніткі ўжо не ідуць паасобку. Яны пераплятаюцца, твораць прыгожы і неверагодна складаны ўзор чалавечага жыцця. З эмоцый, думак, асабістых гісторый. У гэтым узоры ёсць праяўленае і схаванае, тое, што адбываецца, і тое, што магло б адбыцца.

Было б правільным сказаць, што гэтыя ніткі плятуць Мойры, грэцкія боствы, пра якіх, насамрэч, мы мала што ведаем. Нават іх паходжанне ў розных крыніцах падаецца па-рознаму. Калісьці даўно гаварылі, што яны дочкі багіні ночы Нікты, сёстры смерці і сна, помсты і трывогі. Але ўжо Гамер расказвае пра старэнькіх кабетаў, што сядзяць за кудзеляй з чалавечых лёсаў. А Платон – пра прыгожых дзяўчат у белых сукнях, дачок багіні Ананке – сусветнай неабходнасці.

Што мы ведаем дакладна – іх тры, і яны адказныя за нашыя жыцці. Ведаем таксама іх імёны.

Старэйшая з іх, Лахезіс, углядаецца ў мінулае, у карму. Яе задача – убачыць наканаванне. Яшчэ да таго, як чалавек нарадзіўся. І выткаць аснову жыцця, моцную, грубую. Асноўную лінію лёсу.

Другая Мойра – Клота, творыць сучаснае. Яна ажыўляе гэтую аснову, расквечвае яе шматлікімі падрабязнасцямі, адхіленнямі і затрымкамі.

І нарэшце апошняя – Атрапос. Самая дзёрзкая і самая прыгожая. Яе галоўная задача – абарваць нітку. Толькі яна ведае час нашага прыходу і час сыходу. І таму яна пільна ўглядаецца ў асобныя жыцці, каб не прапусціць гэты момант.

Але часам яна нудзіцца сваімі абавязкамі, гарэзіць, абрывае ніткі не ў час, альбо сплятае іх міжсобку.

І тады паўстаюць дзіўныя ўзоры лёсаў, у якіх асобныя чалавечыя жыцці не проста пераплятаюцца альбо набываюць новыя, нечаканыя адценні. А становяцца часткай іншага, нябачнага цэлага.

Убачыць гэтае цэлае няпроста. Але мажліва.

***

Першае перапляценне. Багдан – Эва Дамініка. Я б назваў гэты ўзор паводле асноўнай тэмы, альбо асноўнай эмоцыі, якая іх злучала: *немагчымасць увасаблення.*

Чаму ўвасаблення – ясна. Усе мы марым пра тое, каб *стаць сабой.* Пачынаючы ад дзіцячага садочка, у якім нас бясконца пытаюцца, кім ты хочаш быць, лекарам ці настаўніцай. Мы прымяраем на сябе розныя маскі. І хаця гэтае *стаць сабой* гучыць загадкава да канца жыцця, мы ўрэшце штосьці выбіраем, на штосьці пагаджаемся..

Але чаму немагчымасць?

Бо, каб стаць сабой, трэба сысці з вышыняў сваёй маладосці. Адмовіцца ад ідэалаў, ад тых мрояў і прадчуванняў, што перапаўняюць нас недзе ад шаснаццаці да дваццаці пяці...

Маладосць, увогуле, – часы ўзлёту, узвышэнняў. Калі ты не патрапіў на свае вышыні да дваццаці пяці, далей можна забыць пра гэта і ціха корпацца рэшту жыцця *там, унізе.*

Але нават калі ты патрапіў увышыню, праз пэўны час трэба сыходзіць. Прыняць рэальнасць так, як яна ёсць. Пагадзіцца на салодкае і балючае развітанне. З марамі і ідэаламі. Большасць так і робіць, недзе ад дваццаці пяці да трыццаці і далей угрызаецца ў жыццё, трымаецца за рэальнасць абедзвюма рукамі.

Большасць, але не ўсе. Некаторыя спрабуюць там застацца.

Дык вось, у дачыненнях *са сваімі вышынямі* Багдан і Эва Дамініка былі падобнымі. Яны патрапляюць туды вельмі рана. Можа быць, занадта рана. І занадта высока.

І ясна, праз пэўны час разумеюць, што там, на вышынях немагчыма ўтрымацца. І не толькі таму, што жыццё зносіць, здзьмувае цябе з занадта рэдкага і нязвыклага.

На вышынях увогуле *не жывуць.* Жыццё выбірае іншыя месцы, другія формы. Немагчымасць забыцца і прыняць гэтыя формы злучае іх лёсы.

***

Другое перапляценне: Эва Дамініка – Францішак. Яго тэма магла б гучаць так: *animus і anima, разам і паасобку.*

Разам, бо першае, што кідалася ў вочы – блізкасць, цеплыня, адсутнасць дыстанцыі. Яны відавочна былі парай. З адпаведнымі эмоцыямі і рытуаламі. Але крыніца гэтай блізкасці была зразумела не да канца.

З аднаго боку, маскі былі пазнавальныя.

Францішак: апякун і абаронца. Які ведае і вырашае. Які заўсёды тут, поруч. Які ў патрэбны момант разумее. Прыходзіць на дапамогу.

І ў той жа час складалася ўражанне, што ён апякуецца *чымсьці большым*, чым проста сяброўкай. Гэтае адчуванне было няўлоўным, але пэўным. Бо тыя, хто яго ведалі, разумелі, наколькі незвычайнай і выключнай была для яго гэтая роля.

Эва Дамініка: заўсёды на баку Францішка. Ці, больш дакладна, з ягонага боку. І зусім не таму, што Францішак ёй падабаўся. Альбо таму, што яна прыняла такое рашэнне рацыянальна.

Эва Дамініка была на ягоным баку, таму што гэта быў *яе бок.*

І тыя, хто бачыў іх разам, не маглі паверыць, што яны *ўсяго толькі сябры.*

Калісьці я запытаўся яго пра гэта. У пэўны момант. І ён адказаў мне загадкавай фразай. Пра тое, што *канечне не толькі.* Што ўсё значна больш складана. І што Эва Дамініка насамрэч была *формай ягонай душы.*

Я, па шчырасці, забыў кантэкст, у якім гэта было тады прамоўлена, хаця не думаю, што ён надта б праясніў сітуацыю.

Вядома, я пытаўся пра іншае. Мне тады здавалася, што яны закаханыя. А можа быць, нават каханкі. І што самы час вывесці ўсё на паверхню, зрабіць ясным. Перш за ўсё для іх саміх, але таксама для нас, сяброў і знаёмых.

Францішак тады звыкла ўхіліўся ад адказу, і ўсё скончылася дыскусіяй пра *ідэю душы ў Арыстоцеля.*

Зрэшты, ён заўсёды быў такі. Няясны. Думаеш, што проста п’еш з ім каву, а насамрэч аказваецца, што бярэш удзел у шаманскім рытуале, невядомага культу. З фатальнымі наступствамі.

***

І вось, нарэшце, апошняе перапляценне. Багдан – Францішак. Самае цікавае і самае складанае. Не да канца зразумелае. Якое застаецца без *назвы.*

З аднаго боку яно простае і сівое, як свет, яго абрысы можна знайсці ў якім-заўгодна падручніку па міфалогіі.

Вада і агонь. Брахман і кшатрый. Пярун і Вялес.

Яны былі з розных рэальнасцяў. Гэта адчувалася ў іх адразу, яшчэ да таго, як яны пачыналі спрачацца.

Таму было б лагічна падумаць, што тэмай іхняга перапляцення было *змаганне*. Сакральнае і не толькі. Што яны спаборнічалі міжсобку. За ўладу. За рэальнасць. За Эву Дамініку.

Але гэта было не так. Не зусім так.

Я зразумеў гэта не адразу, як напэўна і яны самі.

Напачатку я бачыў толькі знешнія формы.

Ім варта было проста патрапіць у адно месца, разам – і пачыналіся падзеі. Штосьці закіпала ў паветры, згушчалася.

Рэальнасць раптоўна падзялялася на часткі, сітуацыя ўзрывалася, знаходзіліся палюсы, скрайнія пазіцыі.

І ўсё ж усё было не так проста.

Можа быць, тады, *на палёх Куру*, яны і змагаліся. Але не цяпер. У нашым часе яны былі патрэбныя адзін аднаму.

Яны ўжо прайгралі свае войны, кожны паасобку і вельмі даўно, у іншых жыццях.

У гэтым жа яны былі *на выгнанні.*

І адзіны чалавек, які мог іх звязаць, адзіны масток, што між імі застаўся, – была Эва Дамініка.

Так, менавіта. Эва Дамініка іх падзяляла і ў той жа час звязвала, злучала.

І таму гэта не быў звыклы трохкутнік, у якім камусьці трэба было выбіраць адно з двух. Наадварот, задачай было трымацца разам, утрох. Нягледзячы на спрэчкі, на несумеснасць, на спакусу асобнасці.

Тады, у інтэрнаце, яны гэта *амаль зразумелі.*

***

Далей гісторыя працягваецца.

Яны адчуваюць, што ўсё гэта невыпадкова і ясна, дамаўляюцца сустрэцца – утрох – у самы бліжэйшы час.

Францішак запрашае іх у Хвілінку, каб працягнуць размову.

І тут наступае самае важнае, што трэба было перадаць у гэтай гісторыі. І што, трэба шчыра прызнацца, у мяне не атрымалася.

Далей гісторыя станавілася містычнай, а гэта ўжо амаль катастрофа для апавядальніка.

Далей мы маем эпіфанію – з'яўленне, прарыў боскага ў нашую рэальнасць. Гэта была трэцяя, малодшая Мойра – Антрапос.

Менавіта Атрапос перапляла іхнія лёсы.

І менавіта яна адказная за іх сустрэчу 24 жніўня 1984 года ў інтэрнаце на Свярдлова, 34.

Тады ж, у Хвілінцы, яна з'явілася перад імі ўжывую і на момант паказала ім *цэлае іх жыццяў.*

Усё адбылося ціха і амаль незаўважна, між іншым. Яны проста размаўляюць, стоячы ў чарзе па каву. І раптоўна, нечакана патрапляюць у самае сэрца *кармы.* Іх жыцці, на момант, становяцца для іх яснымі і празрыстымі, зразумелымі з нейкай зусім іншай, нечалавечай перспектывы. Як пэўны гештальт. Як перапляценне боскага і чалавечага.

Яны ўбачылі і зразумелі ўсё, але толькі тады, у пэўным месцы, у пэўны момант сваіх жыццяў. З'яднаных невыпадковай сустрэчай.

І далей усё жыццё яны спрабуюць туды вярнуцца.

***

Але гэта там, у рэальнасці. У маім жа рамане яны стаяць у Хвілінцы, і пакуль Леа гатуе каву, *праходзіць дваццаць год іхняга жыцця.*

Вось так. Я разумею, што такія рэчы патрабуюць тлумачэнняў.

Але я і сам сабе быў не ў стане тады штосьці растлумачыць. І, праўду кажучы, нават і не збіраўся. Я проста ведаў гэта – і ўсё.

Гэта зусім не значыць, што Леа гатаваў каву *так павольна.*

Альбо што яны ўсе гэтыя дваццаць год прастаялі ў кавярні, гледзячы праз вакно.

Яны жывуць, пражываюць свае жыцці. Праходзяць праз час, разам з іншымі.

Але праз дваццаць год, напрыканцы майго рамана, яны знаходзяць сябе ў Хвілінцы, у чаканні кавы і разумеюць, што насамрэч *яны так і не выходзілі адсюль.*

***

Усё неяк вельмі цьмяна. Я і сам да канца не разумею, што адбылося. Куды падзеліся гэтыя дваццаць год.

Ясна, што тады Хвілінка – гэта не толькі Хвілінка. І Леа – не зусім Леа.

Проста мусіць быць месца, ціха шаптаў я самому сабе, стоячы ў далёкім куце за стойкай, месца, у якое мы заўсёды можам вярнуцца.

Месца, дзе можна застацца, нягледзячы на час, на яго незваротнасць.

І мае героі патрапляюць менавіта туды. У такое месца.

Эпоха паспрабавала разыграць на іх свае пасьянсы, але штосьці не склалася, карта не лягла.

Яны так і не супалі з формамі жыцця, якія былі ім прапанаваныя. Выйшлі на прамежкавай станцыі, засталіся пры сабе, адмовіліся прымаць гэтыя формы як свае.

Яны зайшлі ўжо занадта далёка – у сваіх несупадзеннях.

І ў той момант, калі ўсё прамінула, і ўжо няма асаблівых спадзеваў, раптам аказваецца, што *ўсё яшчэ можна вярнуцца.*

У гэты лапік прасторы. Невялікі закуток, з трыма барнымі стойкамі.

Прытулак.

***

Праз пэўны час я не вытрымаў і расказаў пра сваю ідэю Францішку.

Той толькі ўсміхнуўся – радасна, нават крыху па-дзіцячы.

Усё гэта цудоўна, – сказаў ён тады. – Вось толькі сюжэт *занадта складаны* для нашага часу.

Да таго ж, яго спачатку трэба *пражыць.*

***

Ужо тады я разумеў, што абавязкова напішу *пра гэта.*

Які б ні быў складаны сюжэт, і якія б не паўставалі перашкоды.

І я пачынаў пісаць – часам шалёна, нястрымана, адразу пра ўсё, іншым разам павольна і засяроджана. Напісанае заціхала ў нататніках, стыла ў фрагментах. Разляталася ў розныя бакі, станавілася пачаткам іншых гісторыяў. Але ў цэлае доўгі час не складалася: сэнс і значэнне цэлага было захінутае ад мяне.

Няясна было, *пра што* ўсё ж такі будзе мая гісторыя.

Пра кавярню і яе наведвальнікаў? Пра выпадковую сустрэчу, што адбылася ў менскім інтэрнаце ў адзін са жнівеньскіх дзён 1984 года?

Пра пошукі формы? Пра штосьці важнае, што адбываецца ў душы герояў, не дазваляючы спыніцца на *неістотным*, супасці з часам?

А можа, урэшце, пра само чалавечае жыццё, якое застаецца незразумелым, нават калі яно амаль пражыта?

Праўду кажучы, я і не спяшаўся яе дапісваць. Я знаходзіў розныя аргументы, каб адцягнуць, адкласці.

Распавесці яе да канца, казаў я сабе, – значыць, надаць сэнс іх жыццям, зрабіць выгляд на старонках, што ты калі не ведаеш, дык хаця б спадзяешся

на такі сэнс. А хто з нас, часовых і недасканалых – можа прэтэндаваць на такое?

Зрэшты, казаў я сабе, мне дастаткова быць разам з імі, прысутнічаць побач. Месяцамі. Гадамі. І нават дзесяцігоддзямі.

Сапраўды – мая гісторыя існавала са мной, часам паралельна, часам перпендыкулярна маёй рэальнасці. Перапляталася з іншымі гісторыямі.

Персанажы жылі сваімі жыццямі амаль самастойна, але раз-пораз нагадвалі пра сябе, і я, раптоўна, пасярод іншых заняткаў, кідаўся занатоўваць штосьці важнае – пра Эву Дамініку ці пра Багдана.

Альбо – пішучы пэўныя рэчы, я раптам разумеў: гэтыя словы належаць не мне – іх насамрэч *падумаў Францішак*.

Я зжыўся з гэтымі мілымі ценямі. Мне было шкада іх адпускаць, ставіць кропку.

Зрэшты, у мяне яшчэ шмат часу, казаў я сабе, часу, каб агледзецца, адчуць, як мае героі пасталелі, апляліся рознымі падзеямі, *прайшлі праз эпоху*.

***

Час сканчаецца заўсёды раптам.

Яшчэ перад гэтым яго так многа, але вось яшчэ хвіліна і ты разумееш: часу больш няма.

Разумееш, што сапраўды позна.

Калі позна, калі ўжо няма часу, калі застаецца толькі *хвілінка*, тады ўсё і адбываецца.

## 4.

Гэта гісторыя можа быць расказаная па-іншаму: як разгорнуты каментар да аднаго з вершаў Лесмяна. Балады, што была напісаная напачатку мінулага стагоддзя. І якая называецца *Дзяўчына*.

Францішак сказаў мне аднойчы, што ў гэтым вершы ёсць усё, што здарылася з яго пакаленнем.

Я не адразу зразумеў, якія здарэнні ён меў на ўвазе.

У баладзе расказваецца загадкавая гісторыя. Пра дванаццаць братоў і дзяўчыну. Ці, больш дакладна, пра дзявочы голас, які ім пачуўся аднойчы за невыпадкова сустрэтым мурам.

Баладу гэтую геніяльна пераклаў М., ягоны сябра. Праўда, некаторыя знаўцы Лесмяна лічаць, што ён крыху спрасціў другі план. І, наадварот, яшчэ больш узмацніў асноўную эмоцыю. Адаптаваў тэкст, зрабіў яго больш выразным. І ў гэтым сэнсе крыху менш *трывожным*.

Але для нас гэта не так важна.

Вось ягоны пераклад.

<u>Баляслаў Лесмян</u>
**Дзяўчына**

Дванаццаць мраяроў-братоў мур напаткалі за туманам
Няўцешны голас плакаў там, дзяўчыны голас занядбаны
І пакахалі голас той яны і мару пра Дзяўчыну,
І вуснаў уяўлялі кшталт па тым, як спеў ад жалю гінуў...

Сказалі: "Плача – значыць ёсць!" І больш ужо не гаварылі.
Перажагналі цэлы свет – і свет задумаўся ў той хвілі...
У мур ударыў молат – і ўраз задрыжэў цагляны волат!
Не ведала сляпая ноч, хто чалавек з іх, а хто молат?
"Хутчэй мы скрышым цэглу, чым Дзяўчыну змые смерці хваля!" –
Так адзінаццаці братам казаў дванаццаты ў запале.

Пакуль перад намі звычайная гісторыя. Простая, амаль сентыментальная. Братам чуецца дзіўны голас за мурам, спеў дзяўчыны, што *гіне ад жалю*.

Браты вырашаюць зруйнаваць мур і вызваліць дзяўчыну.

Ясная эмоцыя. Зразумелая мэта.

Праўда, у арыгінале, у самога Лесмяна пачатак крыху насцярожвае: *Дванаццаць братоў, што верылі ў сны, агледзелі мур з мройнага боку.*

Чаму ён падкрэслівае, што браты менавіта *верылі* ў сны? І дзе, у якім месцы знаходзіцца ягоны *мройны бок*?

А яшчэ гэтае "ад жалю гінуў".

Ад жалю да каго? Да сябе і свайго лёсу? Ад жалю да тых, хто застаецца за мурам? Ці да тых, хто пачуў гэты голас і паверыў яму?

Але пойдзем далей.

Ды марнай праца іх была і гарт цягліцаў быў дарэмны.
Спавіў іх целы сон, які за мурам панаваў нядрэмна!
Трухлеюць косці, тлее ўсё, бляднее твар, пусцеюць вочы...
І ўсе памёрлі ў адзін дзень, узятыя адною Ноччу!

Вось перад намі першая нечаканасць. Браты паміраюць, так і не зруйнаваўшы мура. Паміраюць неяк вельмі хутка і не да канца зразумела. Ад сну, які "нядрэмна" панаваў за мурам.

Гісторыя *нібыта скончаная*, і скончаная паразай.

Але.

Як можа сон прывесці да смерці? Можа быць гэта не зусім сон? І не зусім смерць?

Ды, стаўшы ценямі, яны трымалі молаты ў далонях!
І толькі іншы час плыве – і іншым звонам молат звоніць.
І звоніць ён і ўзвыш і ўздоўж! І разганяе вечны холад,
Не ведала сляпая ноч, дзе цень няясны, а дзе молат.
"Хутчэй мы скрышым цэглу, чым Дзяўчыну змые смерці хваля!" –
Так цень дванаццаты казаў астатнім ценям у запале.

Тут мы пачынаем разумець, што не ўсё так проста з гэтай гісторыяй. Браты паміраюць менавіта таму, што ім трэба стаць ценямі. І смерць гэтая – не да *канца* смерць.

І дзявочы голас таксама не такі ўжо й дзявочы.

А далей пачынаецца магія. І метафізіка.

Ды не хапіла ценям сіл, а цемрам цень не замінае!
І паўміралі яшчэ раз, бо ўсякі шмат разоў канае...
Хто прагне назусім сканаць, той скон такі сабе не знойдзе!
І знік іх след! І згінуў сэнс! Аповесць скончана – і годзе!

Смерць ценю? Што гэта магло б значыць?

Ды молаты – о, Божа мой! – не паддаліся таму жалю!
І ў мур грымелі самахоць, і меддзю звонкаю гучалі!
Ад поту мокрыя, свой звон, свой стук раскідвалі наўкола.
Не ведала сляпая ноч, дзе молат, а дзе ўжо не молат?
“Хутчэй мы скрышым цэглу, чым Дзяўчыну змые смерці хваля!” –
Так усім молатам-братам казаў дванаццаты ў запале.

Дзэнскія паэты ацанілі б такі паварот сюжэта. Каб напісаць праўдзівы верш пра дрэва альбо воблака, казалі яны, трэба самому стаць дрэвам і воблакам. Хаця б на момант. Выйсці за межы саміх сябе. За межы таго, што мы называем сваёй асобай, сваім тварам, сваім жыццём.

Калі мы абавязкова мусім патрапіць, мы павінны перастаць цэліць. Перастаць быць няшчасным лучнікам, якому вельмі хочацца быць першым. А самім *стаць стралою.*

Так, сапраўды, каб зруйнаваць мур, менавіта той, містычны мур, – трэба самім *стаць молатамі.* І голас, там, за мурам, ад самага пачатку гэта ведаў. І жаль у голасе быў менавіта па тых, двойчы памёрлых, якія павераць і адважацца.

І рынуў мур – і скалануў грымотным водгуллем даліны!
А па-за мурам не было ніякай сплаканай Дзяўчыны!
Нічога – толькі жаль, і плач, і страта, і цямрэча цішы!
О бедны свет! Нядобры свет! Чаму не можаш быць ты іншы?

Тут мы падышлі да кульмінацыі.

Да пустаты, да расчаравання, пасля таго, як *усё здарылася.*

Голас аўтара ў перакладзе папракае свет за тое, што ён такі жорсткі і бязлітасны, нечалавечы. Гэта ўсім вядома, пражытыя, спраўджаныя ўтопіі меншыя за саміх сябе. У арыгінале Лесмян яшчэ больш радыкальны, яго пытанне гучыць *“Чаму ж няма іншага свету?”*

Здаецца, пытанне чыста рытарычнае. І яно зусім не патрабуе адказу.

Ці патрабуе? А можа, сапраўднай мэтай братоў была зусім і не дзяўчына? А якраз той самы *іншы свет*, які раптоўна паўстае напрыканцы верша?

З прычыны здрады зманных сноў і цудаў, што не сталі явай,
Палеглі молаты на дол у знак завершанае справы.
І быў жах цішы. І пустэль у небе! А ты ў той пустэлі
Чаму дрыжыш, калі яна яшчэ не цміцца ў тваім целе?

Вось так. Ціша. Вусціш. Здрада сноў і цудаў.

Я доўга думаў пра гэтае месца напрыканцы іх прыгоды.

Месца, у якім яны моўчкі ляжаць у пустэлі: вычарпаныя, спраўджаныя, двойчы памерлыя.

Няясна, чаму іх справа ўсё ж такі *завершаная.*

Можа, штосьці яшчэ мусіць адбыцца далей – з братамі, з ценямі, з молатамі, нарэшце? Як прайсці праз гэтую вусціш? І куды мы патрапляем, там, на выхадзе?

Дзе мы можам застацца, тады, калі ўсё ўжо адбылося, спраўдзілася?

Было нейкае цьмянае прадчуванне, што там, дзе сканчае сваю баладу Лесмян, наша сапраўдная гісторыя толькі пачынаецца.

***

Гэта была б гісторыя пра пакаленне, што патрапіла ў расколіну між эпохамі.

Менск узору 1984 года: чысты і халодны, амаль дасканалы ў сваёй нерухомай зімовай прыгажосці.

Формы жыцця здаюцца такімі трывалымі і такімі стомленымі. Усё застыла, усё змерзла навокал. Вусны ледзьве варушацца, словы не слухаюцца. Каб распавесці пра самае простае, трэба амаль подзвіг.

Яшчэ штосьці застаецца: на гарышчах ляжаць старыя кнігі, напісаныя на дзіўных мовах. Бабулі ў вёсках усё яшчэ спяваюць, але ўсё цішэй і цішэй. Беларуская вёска, раскіданая па камароўках, расцярушаная па калгасных палетках, – ужо не ведае сябе саму.

Зрэшты, і сама Беларусь ляжыць, ціхая, маўклівая, прыгожая той асаблівай, перадсмяротнай прыгажосцю... Як мёртвая прынцэса.

І тады раптам адбываецца штосці неверагоднае і страшна кранальнае – *паварот кола кармы.*

Хлопцы і дзяўчаты, якія пачулі гэтыя дзіўныя галасы – з таго боку. З будучыні. З іншай эпохі.

Што гэта былі за галасы – няясна. І ці былі яны ўвогуле?

Чаму людзі пакідаюць звыклае і ідуць наперад у пошуках невядомага?

Як гэта адбываецца?

Проста камусьці трэба адважыцца, зрабіць першы крок.

І яны сталі першымі. Пачалі ламаць сцяну, як у вершы Лесмяна.

Ніхто не верыў тады, што гэта ўвогуле магчыма.

Але самае дзіўнае – сцяна паддалася, пачала дрыжаць, асыпацца.

А потым рухнула.

Ужо значна пазней яны зразумелі, што ўсё было больш складана.

Сцяну зламалі не толькі яны, а можа і зусім не яны. Проста ўсё склалася менавіта так, а не інакш, зрэшты і сцяна, як высветлілася, сама была гатовая зламацца, рассыпацца ў друз.

Яе пілавалі дзень і ноч, але ціхенька, спадзяючыся на *праклятыя скарбы* там, за мурам.

І сапраўды, за сцяной былі фантастычныя рэчы: рассыпаныя дыяменты і забароненыя недаступныя кнігі, але, перадусім, вялікі свет, які вабіў і спакушаў, клікаў у падарожжы.

Не адразу і не ўсе зразумелі, што не было аніякай дзяўчыны, што гэта быў толькі голас. Рэха іх уласных жаданняў.

Але шукалі яны не скарбы і не дыяменты, а штосьці іншае, тое, што ім аднойчы цьмяна пачулася ў прыцемках.

Пяшчотны і прыгожы голас. З будучыні.

***

Але тут распачаўся звыклы чалавечы спектакль, у якім ролі былі распісаныя і раздадзеныя згодна з п'есай, а п'еса была банальная і нецікавая, хоць ты плач.

Адным хацелася грошай і ўлады – і яны гэта атрымалі.

Іншым – славы, вядомасці, і яны гэта атрымалі таксама.

Большасць жа насамрэч нічога не хацела. Яны проста былі побач: цікавалі, высочвалі, назіралі. І чакалі, пакуль усё аціхне, і ў цане зноў стануць сціплыя будаўнікі простага чалавечага шчасця.

І сапраўды, – раптам усё зноў стала нармальна. Усё ўсталявалася.

Толькі нармальнасць гэта была новая, іншая.

Потым, калі іх пачыналі мераць новай нармальнасцю, яны нават не злаваліся. Яны проста не разумелі, пра што ідзе гаворка.

Ім зноў прапанавалі заснуць, – а яны не былі гатовыя.

Яны былі як костка ў горле – цудоўнага новага свету, які радасна абсталёўваўся на руінах старога.

Яны заплацілі за свой выбар.

Яны адарваліся ад мінулай эпохі, выйшлі з старых формаў.

І самае істотнае: яны ўжо паспелі двойчы памерці і *стаць молатамі.*

Пэўны час яны проста стаялі ў вусцішнай цішы.

У трывожнай пустаце свету.

А потым падняліся і пайшлі. Ішлі ўсё далей і далей.

Няясна куды.  Яны не хацелі спыняцца. Альбо ўжо проста не маглі. Бо спыніцца – гэта забыцца на тое, што адкрылася, амаль выпадкова, тым, хто блукаў у бясчассі, паміж эпохамі.

Яны пачалі званіць у іншую сцяну, нябачную для большасці.

***

Калі б я быў паэтам, я б напісаў працяг балады Лесмяна.

З таго месца, дзе яны ляжаць у вусцішнай цішыні. Больш няма аніякіх мэтаў. Аніякага мура. Толькі халодныя молаты – у халодным бясчассі.

*Здрада сноў і цудаў.*

І ўсё ж некаторыя з іх адрываюцца ад пастаментаў. Яны – яшчэ молаты – падымаюцца і ідуць назад.

Усё яшчэ спадзяюцца пачуць галасы адтуль. З іншага свету.

Цёмнае бездарожжа. Аніякага маршруту, аніякіх сцежак. Яны проста вяртаюцца да сябе.

Каб вярнуцца, трэба адарвацца ад формы, якую надала нам эпоха. Перастаць быць молатам. А гэта заўсёды больш складана, чым пачуць далёкі голас і памкнуцца ў невядомае.

Першыя крокі. Вось яны ўжо не молаты, а цені.

Нябачныя, нікому не цікавыя, беспрытульныя.

Іх ужо не дванаццаць – лічба дасканалай поўніцы – а значна менш.

І ідуць яны зусім не разам, а кожны ў свой бок.

***

Далейшае ў маёй гісторыі было б *высока-трагічным.*

Хтосьці не вытрымлівае, паварочвае назад, да пастаменту. Імкнецца заснуць, забыцца. *Сярод кветак і сноў.*

Некаторыя патрапляюць у Хвілінку, альбо у іншыя месцы, дзе можна *застацца.*

Астатніх зжырае *Калі*: жахлівая і вечна галодная багіня Нашага Часу.



Ірына Хадарэнка



...закрухмалены мозг,
паўсядзённы адчай,
замест мантры пытанне адно:
"Дзе мой край?.."...

# Зачараванае кола

* * *

Сядзім у прыцемку, чакаем да відна
І пазіраем, як варона ў комін...
Ці ж праўда тое, што мы нацыя адна,
Або ўсё гэта толькі марны гоман?

Куды схаваўся той магутны дух,
Які перамагаў у жорсткіх сечах?
Навокал – толькі рэха аплявух,
Хлусня і зайздрасць, смутак і галеча...

* * *

Адна траціна беларусаў
Аб дабрабыце моцна дбае,
За модай сочыць, голіць вусы,
За светам млява назірае.

Адна траціна беларусаў
Ніколі ўладароў не лае
І абсалютна без прымусу
Ідзе служыць у паліцаі.

Не бог, не чорт і не героі,
А раўнадушная траціна –
Маўкліва, без якойсьці зброі –
Тут вызначае лёс краіны...

## ПАШТОЎКІ З БЕЛАРУСІ

***I.***
Сябры, прывітанне з балотнага краю
на ўскрайку Еўропы,
Дзе столькі дзівосаў,
што часам міжволі збіваюся з тропу.
Тут прага да волі трымціць,
быццам кропля вады ў павуцінні,
А памяць застыла таемнай казюркай
у цёмным бурштыне.
Замест сувеніраў я вам дасылаю пялёсткі надзеі –
Адзінага скарба,
якія ў нас не могуць адняць ліхадзеі.

***II.***
Далёка адсюль да экватара,
Але вельмі блізка – да сэрца;
Знаходжуся быццам у кратары
Вулкана, які не прачнецца.

Смаловы настрой расплываецца
Над промнямі млявага сонца.
Тут край дэжавю, што здараецца
З табою і мною бясконца...

**** * ****

з ценю крывавай нядзелі
выпаўз яе жаніх –
чорны панядзелак
з прыгожым і элегантным букетам

мілыя мірныя людзі
жуючы гамбургеры і жуйкі
кожны дзень шпацыруюць
уздоўж скатабойні

маўчаць
і прадбачліва маюць у шафах
гатычныя строі

### ДРОБНЫЯ АШУКАНЦЫ

Жанчыны старанна хаваюць узрост,
Мужчыны – да іншых кабет заляцанні,
Калгаснік – у сіласнай яме кампост,
Палітык – падман у сваіх абяцаннях.
Суседка хавае няветлівы твар,
Дзіцёнак – цукерку глыбока ў кішэні,
Гандляр – сапсаваны заўчора тавар,
Святоша – дагматаў царквы парушэнні.

Гляджу і дзіўлюся я з гэтых людзей:
Ніхто не жадае прызнаць, што ён – лузер,
Бо з дробных цаглінак тлумных надзей
Тут кожны будуе мадэль “all inclusive”.
Кухонны змагар ці прайдоха-цыган,
Усе вы прайгралі са старту, паверце, –
Ніколі не можа паддацца на зман
Драпежная птушка няўмольнае смерці.

### СПЕЎ РАЗ’ЯТРАНАГА СЭРЦА

Мацнейшая за лёс,
За смерць і за каханне,
Над акіянам слёз
Аднойчы ты паўстанеш.

Рассеецца імгла,
Калі твой гімн зайграе.
І трэсне панцыр зла
Над занядбаным краем.

І стане раптам свет
Надзвычай каляровым,
А ўладара партрэт
Сатлее там, дзе й дровы.

Ты – невідочны мост
Між статкам і народам,
Ты – стрэл, што б’е наўпрост, –
С В А Б О Д А.

### *БАГНІСТЫ БЛЮЗ*

Ці дзень, ці ноч – усё адно.
Гарбата, з цукрам журавіны...
Халодным подыхам радзімы
Павеяў студзень праз вакно.
Сусвет гуляе ў даміно,
І вечнасць мірсціцца магчымай,
Бо феі часу штохвілінна
Чаруюць над верацяном.

У тонкай пространі адхлання
Мільгаюць промні развітання.

Зырчэе вабны калідор
Тэлепартацыі пачуццяў.
Ён кліча ў неварацц, да зор,
Сысці і болей не вярнуцца.

### *ЗАЧАРАВАНАЕ КОЛА*

Краіна маці-адзіночак
І нехлямяжых мужыкоў.
Адсюль хацела б збегчы ў прочкі
Да маляўнічых астравоў.
Ды як пазбегнуць думак-катаў?
Як уцячы ад стромкіх сноў?
Няспынны вір – прыезд дахаты
І ...з'ехаць хочацца наноў.

### *НОВАЯ ІДЭАЛОГІЯ*

На чорта нам тыя парыжы?
Навошта капуста з Бруселю?
Усе мусім стаць мы на лыжы
І бырла хлябаць на вяселлях.
Нам пофіг, што людзі ў нядолі,
І гінуць зубры ў Белавежы.
Хто смее тут трызніць аб волі?
Хіба што агенты замежжа.
Не хочам ні з кім ваяваці,
Хоць ворагаў маем задужа.
Патрэбны парадак у хаце!
Таму – не высоўвайся, дружа...

### *БІЯГРАММА*

Маё грамадзянства – Вялікае Княства,
Мой родны абшар – ад Варшавы да Мінска.
Між Вільняй і Кіевам – продкаў калыска;
Мой род паяднаў і сялянства, і панства.

У спадчыну маю – з крыніцы славянства –
Зямлю, лес і хмары, што сцелюцца нізка,
Свавольнасць і ўпарты характар літвінскі:
У думках – свабода, у сэрцы – паганства.

### *ПЛОШЧА. P.S.*

На цьмянай дарозе стаіць павадыр,
З юрлівай усмешкай, у лыжы абуты, –
Не хоча са сцэны сыходзіць сатыр;
Брахня, гвалт і здрада – яго атрыбуты.

А побач масоўка кап*ы*тамі б’е,
Харчуецца з ражкі, ківае, як нэцке.
Краіну за трыццаць рублёў прадае
І рукі крывёй не баіцца запэцкаць.

Параліч мыслення, слабы супраціў
І звон ледзяны над разгубленай Плошчай...
Без крылаў імкліва ў прадонне ляцім,
А рэшткі эліты знікаюць у прошчы.

Маўчанне. І ўсё паўтараецца зноў:
Хакей, пасяджэнні, канцэрты, парады...
На саване снежным мне мроіцца кроў –
Нязмыўны аўтограф злачыннай улады.

* * *

Час, застылы, як воск,
боль, заціснуты ўнутр,
і бяздарнай арды зіхаціць перламутр.

Закрухмалены мозг,
паўсядзённы адчай,
замест мантры пытанне адно: “Дзе мой край?..”



Леанід Дранько-Майсюк



...Ды трэба верыць, як вучыў Купала,
Ў народ і край, і ў самаго сябе!..

# У Вільні і больш нідзе

### *БРАНІСЛАЎ ТАРАШКЕВІЧ У ТЧЭВЕ 5 ЛЮТАГА 1931 г.*

*Працяг. Пачатак у №4 (41) за 2009 год, №4 (47) за 2010 год і №3 (52) за 2011 год.*

Душу выкручваюць, нібыта рукі.
Пыл дэфензіўны наплывае зноў.
Агонь філалагічнае навукі
Заместа радасці сагрэе кроў.

Столь патыхае глыбінёй астрожнай.
Дрыгва жалезная ляжыць вакол,
І следчы просіць падпісаць пад кожнай
Старонкай прачытаны пратакол, –

На твары цень усмешкі вінаватай;
Пылінку з канцылярскага нажа
Садзьмуўшы, паліцэйскаю гарбатай
Частуе шчыра – добрая душа!

Гарбата – воцат. Як такой напіцца?!
І цукар... Не, не паляпшае смак.

Ад смаку горкага ўжо адхрысціцца
Не атрымаецца, відаць, ніяк!

Далей дарога будзе на Варшаву...
І самы час пашкадаваць аб тым,
Што зноў займеў турэмны стол і лаву,
Паверыўшы дарадчыкам чужым.

У чалавечым неабсяжным полі
Заўжды цана ідзе за паўцаны:
Чужым не трэба верыць, але болей
Не вер сваім, бо людзі ж і яны!

А вера ёсць! І хоць яе нямала
У братняй разляцелася кляцьбе, –
Ды трэба верыць, як вучыў Купала,
Ў народ і край, і ў самаго сябе!

Звяжы пачуцці ў неразвязны вузел
І дурню словы лішнія аддай,
І цыркулем прастору Беларусі
Акрэслі – печнікоў свабодных край!

Калі чытаць не хочацца кантычку,
Жартоўнаю таемнасцю жыві,
Былым братам вярнуўшы, як пазычку,
Адамаў чэрап з кропелькай крыві.

Ад іхняй ложы і ад іхняй сцэны
І пры жыцці магчыма адвярнуць –
Хай шпагамі пагрукваюць у сцены
І малаткамі ж у падлогу б'юць!

Адно свае расказвалі тэатры,
Маной кармілі, дзеці удавы,
Па-камінтэрнаўску з іх кожны здатны
Варшаўскі дым данесці да Масквы!..

Ні тых, ні гэтых... Ты адзін застаўся!
Цябе такое шчасце не міне –
Сачыць за часам і сачыць за танцам
Сняжынак у закрачаным акне.

Адна вага на захадзе і ўсходзе,
І толькі ў творчасці надзеі шмат, –
І слова роднае няхай зыходзіць
У сад Гамераў і ў Адамаў сад.

*4 красавіка 2011. Панядзелак. Менск.*

*3 кастрычніка 2010. Нядзеля.* Падаў дождж, а дождж мяне заўсёды супакойвае, і ў думках я ўсклікнуў: а каб жа людзі былі такімі, як дождж!

Аднак вакол ні душы; ноч амаль мінула, ранак яшчэ не надышоў – дарога на вакзал бязлюдна цямнела...

Я йшоў і думаў пра матчыныя лісты, бо ўчора збольшага перачытаў іх.

За розныя гады іх сабралася даволі.

У адным яна пісала пра нашых суседзяў, якія, дзелячы спадчыну "...ніяк ні могуць добіцца скутку..."; у другім жалілася: у гародзе пагнілі памідоры; у трэцім цешылася: на Пакровы стаяла добрае надвор'е і можна было два дні палоць трускалкі, якія надта ж зараслі травой, а па гэтым палонні можна ўжо й грады капаць на зіму...

На праспекце Незалежнасці, ля галоўнай пошты, шум дажджу аціх, і набегла на памяць страфа Тодара Кляшторнага:

Сумна ў гэтай кватэры...
Колісь за гэтай сцяной
Два маладых афіцэры
Трацілі час і спакой...

А тады яшчэ адна страфа прыйшла:

Цяпер снягі...
Вячэрняю зарою
З пунсовай шклянкі белая зіма
Частуе Менск наліўкай ледзяною...
...Цябе ж няма...

Не, ледзяной наліўкі, якую прыдумаў паэт Кляшторны, не хацелася – хацелася гарбаты з характэрным чыгуначным прысмакам.

І ў плацкартным вагоне я займеў яе і, п'ючы, слухаў арабскую мову – час ад часу яна прабівалася праз вагонную адгародку, там ехалі чужыя студэнты, і з іхняй гаворкі мне зразумелы былі толькі паўзы...

Сённяшні мой прыезд у Вільню меў акрэсленую мэту: два дні пагартаць у архіве дакументы з фонду 127, убачыць Сігітаса, зноў сустрэцца з Аленай Глагоўскай (гэтымі днямі яна таксама збіралася ў Вільню), а яшчэ марыў пабыць у кавярні Францішка Аляхновіча (меў ружовае спадзяванне: а раптам добрыя душы адваявалі яе ў банка!)...

Над местам "Нашай Нівы" плыў вялізны блакітны шар, зрэдку чуліся кароткія выхлапы газу, пасажыры і непасажыры па-дзіцячы прагна сачылі за гэтым святочным палётам.

Сігітас адразу ж на пероне прапанаваў начлег у сваёй кватэры.

Падзякаваўшы, я сказаў, што варта зазірнуць у нашу гасцінічку на Латочку; ухіліўся ад сябравай ласкі, бо ведаў: яго Апалінарыя Лаўраўна хварэе, яна перанесла цяжкую аперацыю – словам, гаспадыні патрэбна ў спакоі быць, а не пасцель рассцілаць перад нечаканым госцем...

Па дарозе на Латочак завярнулі на Конскую, каб убачыць мемарыяльную дошку, адкрытую ў гонар Францішка Багушэвіча – яе ўсталявалі ў прасторы майго любімага трохкутніка, непадалёку помніка Лаздзіне Пяледзе.

Гарэльефны воблік паэта адразу пазнаецца, і гэта галоўнае, як і тое, што скульптар Гумілеўскі выканаў свой твор у выглядзе іконы, аздобленай беларускім ручніком.

На дошцы надпіс па-беларуску і па-літоўску:

"На гэтым месцы стаяў дом, у якім жыў у 2-ой пал. XIX ст. выдатны беларускі паэт, асветнік і дзеяч культуры Францішак Багушэвіч".

Кінуліся ў вочы скарачэнні – “пал.” і “ст.”

Калі “ст.” (стагоддзе) – скарачэнне звыклае, то “пал.” (палова ці палавіна) – не, таму й глядзіцца яно крыху дзіўнавата.

Чамусьці няма й даты нараджэння песняра і даты ягонай смерці...

Зрэшты, дошка неблагая; яна прымацавана да белай глухой сцяны, за якой знаходзіцца ўніверсітэт кіравання і эканомікі...

На Латочку таннага ложка не знайшлося, усё было занята пад нейкі семінар, і Сігітас узрадаваўся, што я застануся ў яго.

Аднак жа ў мяне ўзнік свой план – так, на Закрэтавую завітаю, перадам спадарыні Апалінарыі беларускія цукеркі, пажадаю хутчэйшай папраўкі, а далей пайду ў “Цэнтрум” (гэта блізка ад Закрэтавай) – у гатэль на вуліцы Віценя (да 1940 г. вуліца Арханёльская); у “Цэнтруме” жыў у траўні і адтуль будзе зручна на 10-ым тралейбусе даехаць у архіў.

Размаўляючы, ішлі па Дамініканскай; калі яна скончылася, справа ўбачыўся касцёл Святой Кацярыны, і Сігітас паведаміў: М. Суслаў (а ён з 1944 г. быў старшынёй Бюро ЦК партыі па Літоўскай ССР) планаваў зруйнаваць гэты касцёл, а саму Вільню пераназваць у Чарняхоўск...

Ступілі на Троцкую, дасягнулі Завальнай, і я кіўнуў на палац Тышкевічаў – месца адвакацтва Францішка Багушэвіча.

– А цяпер тут архітэктурны факультэт, – бліснуў вачыма Сігітас, – і тут вучыцца мая ўнучка Індрэ!

– А чаму яна пайшла ў архітэктары?

– Аднаго разу я паказаў ёй разгортку прастакутнага паралелепіпеда і разгортку трохвугольнай і шасцівугольнай прызмы... Мая лекцыя, відаць, спадабалася, калі яна захацела паступіць сюды! – на вузкім ходніку Сігітас прапусціў мяне наперад. – Калі ўсё будзе добра, то праз чатыры гады Індрэ стане бакалаўрам...

Думаючы пра ўнучку, успомніў і сябе малога, загаварыў пра вайну, пра той дзень, калі ў Шаўляі ўбачыў першых немцаў і прывітаў іх літоўскім флагам.

Быў навучаны: раз ідуць салдаты, значыць, іх трэба сустрэць са сцягам у руках!

Маленькаму хлопчыку не паспелі падказаць, што гэта не літоўскія салдаты.

Нямецкаму афіцэру не па нутру прыйшлося такое прывітанне, ён, пэўна, чакаў палотнішча са свастыкай, таму насварыўся на бацьку Сігітаса, і, дзякуй Богу, што ўсё абышлося толькі сваркай.

А што было б, каб малы памахаў немцам чырвоным камуністычным штандарам?!

Вядома што было б...

А яшчэ са свайго дзяцінства Сігітас прыгадаў, як бацька вучыў яго польскай мове і не хацеў, каб сын размаўляў па-літоўску...

Шчырасць клапатлівага мужа чулася ў голасе майго сябра, калі ён расказваў, што адбылося ў яго доме з месяц таму: прыступ страшэннага болю пачаўся ў жонкі позна ўвечары ў суботу; у Вільні аперацыю рабіць не сталі; ведаючы, што ў Коўне Сігітасаў сын Жыльвінас працуе хірургам, віленскія лекары параілі ехаць туды.

Параіць параілі, але карэту хуткай дапамогі не далі!

Добра, што ў тую злашчасную суботу сваяк быў блізка, ён і завёз іх на сваёй машыне ў ковенскую бальніцу...

Гады тры таму ў такой жа сітуацыі ў Давыд-Гарадку апынулася й мая настаўніца Надзея Васільева.

Яе на дзяржаўным транспарце тут жа адправілі ў Брэст, а калі ў Брэсце пабаяліся рабіць аперацыю – даставілі ў Менск; з Менска ж, па аперацыі, адвезлі ў Аксакаўшчыну – адтуль праз месяц зноў жа на бальнічнай машыне дадому, у Давыд-Гарадок.

І ўсё за так, без грошай...

Аднак мы прыйшлі, і спадарыня Апалінарыя падзякавала за цукеркі, стрымана паведала пра свае нядаўнія страхі, і пахваліла мяне, што часта званіў Сігітасу.

У выкананні Кшыстафа Краўчыка мы слухалі рамансы на вершы Ясеніна – “Никогда я не был на Босфоре...” і “До свиданья, друг мой, до свиданья...”; Сігітас апавядаў пра паэта Паўлюса Шырвіса (літоўскага Ясеніна!) і падараваў мне сваю кніжку “Ад старых канонаў да крыніц стандартызацыі ў Літве”.

Я даведаўся: у Літоўскай Рэспубліцы да 1940 г. існавала 37 стандартаў, сярод якіх – і кніжныя фарматы, і норма крухмалу ў бульбе, а таксама ж стандарты апрацоўкі шкур, мыла, лёну, цэглы, дрэнажных труб і г. д.

Упарадкоўваць дзяржаўныя стандарты дапамагаў сваім літоўскім сябрам наш Дуж-Душэўскі; ён жа дапамог распрацаваць на літоўскай мове інжынерную тэрміналогію, і гэта адзначана ў працы Сігітаса.

Як той казаў, і тут маем кім ганарыцца!

Сігітас мімаходзь заўважыў: літоўцы вучыліся на інжынераў у Пецярбурзе, Кіеве, Юр’еве і ўсе пасля 1917 г. вярнуліся на радзіму, – і горка дадаў:

– А сённяшнія інжынеры Літву пакідаюць...

Аднак жа, здаецца, не ўсе знаўцы і майстры пакідаюць краіну; той жа Сігітасаў Жыльвінас...

Ён выдатнейшы доктар, прафесар; ён ратуе людзей тут, а за мяжой толькі адпачывае – ловіць у Нарвегіі рыбу...

Цікавая для мяне была й такая даведка: даваенная Літва рабіла цэглу не на вываз, а для сябе, а за кардон вязла мяса, малако, смятану, льнасемя, лес, жывёлу; з прамысловых жа тавараў вывозіла толькі паперу...

Як не пакідаў мяне Сігітас нанач, але я ўтрымаўся, не згадзіўся, і ў “Цэнтруме” гатэльная дзяўчынка Юста за 219 літаў пусціла мяне ў 216 нумар.

Пакуль усталёўваўся, прыкінуў, што мала маю літоўскай валюты: раптам не хопіць заўтра, калі буду плаціць у архіве за ксеракопіі?!

Юста сказала, а на вуліцы тое ж пацвердзілі й паліцэйскія, што ў нядзелю грошы мяняюць толькі на чыгуначным вакзале – у Парэкс банку.

А раз так, то, скурыўшы ў нумары тонкую ментолавую цыгарэтку і згадаўшы віленскія гатэльныя радкі Алеся Гаруна: “...праз дым цыгарэткі за шыбамі вочы ўвесь дзень на папасе: ў тумане там ловяць касьцёлаў сыльвэткі...” – , пайшоў у Парэкс банк, чуючы, як над местам пачасціліся газавыя выхлапы, балёнаў паболела – да блакітнага далучыліся ружовы і белы; усе яны добра глядзеліся на яркім небе ранняга кастрычніка.

Пад іхняй лёгкай і высокай аховай спыніўся каля беларускага пасольства; тут 27 чэрвеня 2000 г. пасол Гаркун гасцінна сустракаў пасажыраў літаратурнага экспрэса “Еўропа – 2000” Вольгу Іпатаву, Людмілу Гарбачову, Андрэя Федарэнку і мяне.

Тады ў газетах пісалі: літэкспрэс – вялікасная культуралагічная акцыя; пачалася яна 2 чэрвеня 2000-га ў Партугаліі; праз чатыры дні, 6 чэрвеня,

з лісабонскага вакзала Сант-Апалонія рушыў поезд па маршруце паўночна-паўднёвага экспрэса.

Быў такі, у 1914 годзе ён адзін раз даставіў сваіх пасажыраў з Лісабона ў Санкт-Пецярбург – толькі адзін раз, бо неўзабаве пачалася вялікая вайна.

Здаецца, у годзе 1996-ым у Берліне стварыўся арганізацыйны камітэт "Літаратурнага экспрэса" пад кідкім дэвізам: "Пісьменнікі Еўропы сустракаюць новае тысячагоддзе!"

Разважлівыя нямецкія галовы задумалі сабраць з усіх еўрапейскіх краін 120 літаратараў і правезці іх па маршруце: Лісабон – Мадрыд – Бардо – Парыж – Ліль – Брусель – Дортмунд – Гановер – Мальборк – Калінінград – Вільня – Рыга – Талін – Санкт-Пецярбург – Масква – Менск – Брэст – Варшава – Берлін...

У кожным горадзе цягнік спыняўся на тры-чатыры дні, і пачыналіся прыёмы, выступленні, чытанні, знаёмствы, прэс-канферэнцыі і, вядома ж, фуршэты.

А што да філасофскай задумы гэтай неверагоднай дзеі, то ўсё тыя ж газеты пісалі, што яна ўкладваецца ў чатыры пытанні: што мы будуем – агульны дом еўрапейскіх культур ці новую вавілонскую вежу?.. ці давядзецца нам у XXI стагоддзі чытаць друкаваныя кнігі?.. як літаратура разумее выклік медыяльнай глабалізацыі?.. няўжо ў самай блізкай будучыні пісьменнік страціць сваю кампетэнцыю асветніка?..

Дзякуй Богу, пасол Гаркун не стаў абмяркоўваць з намі гэтыя пытанні, напаіў нас удосталь чырвоным вінам, і, п'янеючы, я тады падумаў, што Вільня пасля толькі што ўбачаных сталіц (Лісабона, Мадрыда, Парыжа, Бруселя...) – сталіца роднай крыві.

Успамін гэты разлагодзіў мяне, таму на вакзале, калі наткнуўся на юнака-жабрака, даволі балбатлівага і настырнага (пачуўшы маю гаворку, ён тут жа назваўся беларускім палякам з Ашмян), я, каб ён хутчэй адчапіўся, даў яму ажно 7 літаў.

Узяўшы ў Парэксе за 300 даляраў 744 літы і 40 сантымаў, выйшаў на Вастрабрамскую і заняў столік пад цыратовым дашкам кавярні "Іда басар".

Побач, насупраць філармоніі, расклаўся-раскінуўся цывілізацыйны сметнік – стаянка машын, а некалі ж на гэтым месцы была кнігарня Станіслава Станкевіча; беларускія гімназісты бегалі сюды купляць календары, алоўкі і сшыткі, а Максім Танк прыносіў на продаж свае кніжкі.

Так, некалі й тут была беларуская мясцінка, а зараз нейкая мерседэсная паскудзіна ўтыкаецца проста ў маю талерку.

За 25 літаў і 50 сантымаў афіцыянтка Віда прынесла смажанага марскога акуня, гарбату і 100 грамаў, і (пакуль я разлічваўся) зноў наваліўся жабрак, гэтым разам стары, папрасіў есці, і я завярнуў яму ў паперу гарачага акуня, капнуўшы алеем на бліскучы бампер мерседэса.

Наплывала змярканне, і па дарозе на Росы ўбачыў, як на Піўной маладая манашка рвала з куста нейкія прадаўгаватыя чырвоныя ягады.

– Гэта што? – спытаў.

– Дзіка ружа! – манашка адказала па-польску.

– Шыпшына?

– Не вем...

Каб захапіць на пагосце рэшту дня, прыспешыў хаду і, думаючы, што

ўбачу Артура, сапраўды, сустрэў яго – махаючы венікам, ён змятаў жоўтае лісце з магілы маці Пілсудскага.

Артур зноў мяне пазнаў і, разгавораны мной, прызнаўся, што яго сям'я маленькая – ён і маці краўчыха, што жыць ім цяжка, што яму дваццаць гадоў, вучыцца на лагіста, а зарабляе з таго, што падаюць турысты.

– Але я не прашу іх! – на адвітанне ўсклікнуў з гонарам. – Самі даюць!

І напраўду ж, не просіць – ведаю пэўна.

Маё знаёмства з ім складвалася паэтапна – спачатку, безыменны, ён паказаў мне магілу Казіміра Сваяка; пасля, назваўшыся Артурам, прачытаў на памяць радкі Ядвігіна Ш.; сёння ж я даведаўся, што прозвішча яго – Лішэўскі...

Не, гэты могілкавы дазорац не такі ўжо й просты, як можна спачатку было падумаць.

Ягоная праўда хаваецца ў ягонай юначай хітрасці, а відавочнае жаданне спадабацца надзейна атулена акцёрствам, аднак жа гэта не адштурхоўвае ад яго – наадварот, робіць Артура яшчэ больш прывабным...

На магіле Ядвігіна Ш., Сыракомлі і Казіміра Сваяка гарэлі знічы, – нехта з нашых заходзіў сёння на Росы!

А да крыжа Луцкевічаў падымаліся кусцікі хрызантэм – іх дбайна высадзілі з абодвух бакоў пліты, пад якой спачыў Лявон Луцкевіч.

І тут я спачатку пачуў, а потым і ўбачыў такую сцэну: паблізу нешта коратка ляснула, нібыта нехта хвоснуў у паветры пастуховай пугай і, трэба думаць, спалохаў сароку, бо яна высока ўзляцела над Літарацкай горкай, а ўслед ёй заяўкаў кот, і тут жа аднекуль зверху па схіле скаціўся да крыжа зніч – гранёны фіялкавы слоік з патушанай свечкай у сярэдзіне.

Я запаліў зніч і пакінуў яго там, куды ён і скаціўся, ля сімвалічнага помніка Луцкевічам, а тады ўжо падняўся ўгару і не мог не здрыгануцца – аднавокі белы кот выставіў на мяне сваё вялізнае позняе журавіннае вока.

Так і хацелася сказаць: дыхнула містыкай, нечым незразумелым і нават страшным, але нічога я не сказаў...

Белы кот знік, і адразу ж пачало цямнець, і я вярнуўся да Віды на Вастрабрамскую, машынальна згадваючы, што паблізу кнігарні Станіслава Станкевіча знаходзілася яшчэ й следчае ўпраўленне Віленскай ваяводскай паліцыі...

За 12 літаў зноў узяў 100 грамаў залатой літоўскай гарэлкі, а калі зусім змеркла, на Замкавай выпіў кавы за 3.80 і падаў дзяўчыне-жабрачцы 2 літы.

У свой дарагі "Цэнтрум" падымаўся па Вялікай Пагулянцы і на падыходзе да Раманаўскай царквы атрымаў ад Алены Глагоўскай ведамку: "Я ў Вільні..."

О, гэта было не проста кароткае электроннае паведамленне, а сапраўдны інфармацыйны блок, бо Алена пералічыла яшчэ нумары тых фондаў, вопісаў і спраў, якія я абавязкова павінен быў заўтра пагартаць у архіве.

*4 кастрычніка 2010. Панядзелак.* Раніцай, здаўшы ключ, развітаўся з Юстай; ад хвалявання ці што, не так увайшоў у тралейбус – трэ было ў пярэднія дзверы (як тут заведзена), а я (бугай!), мнучы людзей, якія выходзілі з транспарта, усунуўся ў заднія, таму доўга не мог знайсці кампосцер, каб прабіць двухлітны білецік.

А кампосцер (усё трэба ведаць!) пластмасава чырванеў пры ўваходзе ў пярэднія дзверы...

Ганяючы ў душы несамавітую думку: у каго турма – у таго і ўлада, і яшчэ пра нешта думаючы падобнае, прыехаў у архіў, дзе хавальніца фондаў Інга Бумажнікава (а я загадзя званіў ёй з Менска) падрыхтавала патрэбныя мне справы.

Іх набралася дай божа (вядома, з тымі, што пералічыла Алена!); нават спалохана падумаў: ці паспею... не, не прачытаць, а хоць бы больш-менш уважліва прагледзець іх да канца рабочага дня – то-бок, да 16.45-ці?!

Супакоіўся тым, што рашуча пастанавіў: калі зашыюся, то застануся яшчэ на дзень і, магчыма, сёння ўвечары буду кіраваць на той жа танны Латочак, чытаючы па памяці гэтыя радкі Максіма Танка:

...Ну дзе ж сягоння, родны горад,
Мяне прытуліш без начлегу?

Забягаючы наперад, скажу: сёння ўвечары – дужа стомлены! – на Латочак не паехаў, сеў у 10-ты тралейбус і зноў апынуўся ў “Цэнтруме”.

Усё за тыя ж 219 літаў (люблю нязменны кошт!) увайшоў у 317-ты пакой з шырокім відам на беларускае консульства.

Спускаючыся ў старое места вячэраць, выявіў: гатэль “Цэнтрум” выходзіць яшчэ й на вуліцу Вівульскага.

А ўчора на Росах, на адным з магільных знакаў, прачытаў: тут пахаваны архітэктар Вівульскі, аўтар помніка “Тры крыжы” – на гэта светлае збудаванне таксама ж учора глядзеў з балкона Сігітаса.

У былой кавярні Рудніцкага, на рагу Віленскай і Троцкай (цяпер тут італьянскі рэстаран), павячэраў за 22 літы...

Дык вось, гэта я забег наперад; сённяшняе маё архіўнае апавяданне, як ужо сказаў, пачалося з мноства папак, і пакуль разбіраўся, з якое пачаць, – з’явілася Алена.

Я шапнуў, што ўчора на Росах бачыў запаленыя знічы.

– Гэта мы запалілі з Людмілай Вітушкай! – такі быў мілы адказ.

Трэба сказаць, гэтым разам Алена пабыла ў архіве зусім мала, зверыла з нейкімі паперамі свае блакнотныя запісы і паляцела на Зыгмантоўскую, у акадэмічную бібліятэку.

А я дык праседзеў увесь дзень; я тануў у акіяне мовы Пілсудскага – усе дакументы, якія гартаў, былі (ці ад рукі, ці на машынцы) напісаны па-польску.

І раптам, як і ў траўні, беларускае пісьмо!

Дзве распіскі Максіма Бурсевіча.

Першая:

“Квіт на 1070 злотых

Атрымаў з паваротам тысячу семдзесят (1070) злотых, знойдзеных у агульнай касе ў памешканьні Пасла Паўла Валошына падчас рэвізіі ў дню 15.1.1927 г. М. Бурсевіч”.

І другая:

“Квіт на 150 зл.

Атрымаў з паваротам сто пяцьдзесят (150.00) злотых, адабраных у мяне асабіста з кішані падчас рэвізіі, выкананай 15.1.1927 г. у чым і квітую. М. Бурсевіч”.

Нават і не думаў, што мне так пашанцуе, што знайду і такое нечаканае (“бухгалтарскае”!) сведчанне таго, што ў студзені 1927 г. пілсудчыкі прыступілі да знішчэння Грамады.

Максім Бурсевіч, сын Тараса і Марыі, у свае трыццаць сем быў засуджаны на 8 гадоў турмы і сядзеў у Каранове; апеляцыйны суд зменшыў пакаранне да 6 гадоў, якія адбыць не давялося, бо ў 1930 г. быў выпушчаны на свабоду, а ў 1931 г. апынуўся ў Менску і як вынік гэтага праз два гады – у бальшавіцкай катоўні.

Чысты, як і ўсе астатнія...

Плата за палітычны наіў – смерць!..

Праўда, не ўсе былі ў нас наіўныя – той жа Радаслаў Астроўскі...

О, гэты ўмеў круціцца!

Невыпадкова ж у пачатку 1930-ых Тарашкевіч сцісла занатаваў у сваім блакноце: “Выкрыццё Астроўскага...”

Здаецца, гэта быў напамін сабе аб тым, што трэ было конча зрабіць!

Не паспеў Тарашкевіч, не паспеў...

Астроўскі ўваходзіў у склад кіраўніцтва Грамады, меў пасведчанне за нумарам 50000...

Дэман карыслівай дзейнасці, ён, здавалася, ніколі не стамляўся, браўся за любую кіраўнічую (!) пасаду, таму зусім нядзіва, калі мы чытаем, што ён і Старшыня Таварыства Беларускай Школы (ТБШ), і дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, і Старшыня Беларускага Дабрачыннага Таварыства, і дырэктар Беларускага Банка...

На апошняй пасадзе ягоны талент у 1920-ыя гады найбольш расквітнеў, таму пра Беларускі Банк варта сказаць падрабязней.

Фармальна Банк узнік 14 лютага 1925 г., дзякуючы паслу Ярэмічу, аднак 9 лістапада таго ж года Ярэміча адсунулі ад кіравання, і прынята лічыць, што рэальнае жыццё гэтай кааператыўнай установы пачалося пасля вядомай Гданьскай канферэнцыі, якая прайшла ў канцы жніўня, а па іншых звестках – увосень 1925 г.

Астроўскі быў у Гданьску, – дапускаю, ён асабліва ўважліва слухаў выступленні камуністаў Ігнатоўскага, Славінскага, Ульянава, і, пэўна ж, не без яго, Астроўскага, удзелу была ўсебакова абгаворана магчымасць “канкрэтнай” дзейнасці Беларускага Банка.

І тут першую ролю адыграў Аляксандр Ульянаў – былы эсэр, магільшчык нашай інтэлігенцыі і палітычнай эміграцыі, “дыпламат”, а перш за ўсё – супрацоўнік тайных бальшавіцкіх службаў.

Камінтэрн, дзякуючы Ульянаву, пачаткова перадаў на ажыўленне Банка, дзве сумы – 15000 даляраў і 11750 даляраў.

Адказным за фонды, вядома ж, прызначылі Астроўскага...

Беларускі Банк фінансаваў дзейнасць Грамады.

Як ужо было сказана, 15 студзеня 1927 г. улада прыступіла да ліквідацыі Грамады; у траўні 1928 г. у Віленскім акруговым судзе завяршыўся знакаміты працэс 56-ці, па выніках якога Астроўскі выйшаў на волю – наперадзе чакаў разгляд у апеляцыйным судзе.

І от жа з апеляцыйнай скаргі падпракурора Роберта Раўзэ, напісанай у Вільні 11 кастрычніка 1928 г., пра Беларускі Банк можна даведацца, што з самага свайго пачатку ён “...завязвае адносіны з замежнай фінансавай экспазітурай “Камінтэрна” – Рыжскім транзітным Банкам, прымаючы на сябе выкананне даручэнняў гэтага банка. Суд (акруговы. *Л. Д.-М.*) выявіў,

што пайшчыкамі Рыжскага транзітнага Банка былі: (Дзяржаўны. *Л. Д.-М.*) Банк СССР, Усерасійскі Кааператыўны Банк, Маскоўскі Народ.(ны) Банк, Сел. Саюз (?), а таксама арганізацыі ўкраінскай сав.(ецкай) рэспублікі.

Аналіз бягучых рахункаў і тэрміновых укладаў паказвае: у Беларускі Банк сапраўды паступілі 15000 даляраў, якія былі абяцаны ў Гданьску, а таксама 11750 даляраў на выплаты 700 асобам па даручэнні вышэйназванага Рыжскага банка.

Акруговы Суд у матывах прысуду (старонка 39) сцвярджае: "...цяжка вытлумачыць раптоўнае ўзбагачэнне абвінавачаных у 1925-1926 годзе – асабліва кідаецца ў вочы факт адначасовых, іншы раз аднолькавых укладаў у Банк вялікіх сум некалькімі падсуднымі. Напрыклад, 16 лістапада Валошын і Тарашкевіч унеслі ў Банк 100 дал.(яраў) і 211 дал.(яраў), 17 красавіка 1926 г. Мятла і Рак-Міхайлоўскі (унеслі. *Л. Д.-М.*) па 300 даляраў, пры гэтым даты ўкладаў супадаюць з перыядам, у які БСРГ штораз больш становіцца залежнаю ад Камінтэрна, які падтрымлівае і субсідзіруе яе".

Аналіз рахункаў Астроўскага дае падставу лічыць: сумы ўнесеныя ім у Банк (1301 даляр і 31024 п.(ольскіх) зл.(отых) не з'яўляюцца яго ўласнасцю (тое, што ён узяў сабе пазычку ў суме 48 дал.(яраў) пры наяўнасці ўласнага бягучага рахунку – не паддаецца тлумачэнню; паясненне адваката, што гэта была аперацыя праведзеная з прычыны недакладнай дзейнасці Біндзюка (?), адпадае ў сувязі з высновамі экспертаў: нявыплата працэнтаў і г. д.)..."

...На хвіліну спыню цытаванне і для будучых біёграфаў Астроўскага зазначу: гэтыя незразумелыя 48 даляраў будучы прэзідэнт БЦР узяў 29 лістапада 1926 г., а наогул жа вельмі і вельмі здзіўлюся: свае грашовыя аперацыі грамадоўцы праводзілі, асабліва не блытаючы сляды – можна сказаць, з бесклапотнасцю рамантычных гімназістаў!

А далей Р. Раўзэ даводзіў апеляцыйнаму суду:

"...у час заснавання філіялаў Банка ў Пінску і Глыбокім, Цэнтральная каса не мела адпаведных фондаў: напрыклад, 18 сакавіка паўстае філія ў Глыбокім, і ў той жа дзень Радаслаў Астроўскі ўносіць у Цэнтральную касу – 800 даляраў, Браніслаў Тарашкевіч – 100 даляраў; філія ў Пінску адчынена 5.IV.1926 г., калі Цэнтральная каса высылае 500 даляраў. Адкуль грошы? 30 сакавіка ад Астроўскага паступае 1580 зл.(отых), Тарашкевіча – 500 дал.(яраў), ад банкаўскага бухгалтара – 500 даляраў і 1580 зл.(отых)

/От і відавочны факт "адначасовых... аднолькавых укладаў" *Л. Д.-М.*/

Банкаўскія кнігі вяліся нядбайна, зрэшты, падсудны Р. Астроўскі і сам не адмаўляў, што меў "Чорную тетрадку".

Тое, што Беларускі Банк удзельнічаў у падрыўной рабоце Грамады, кажуць у сваіх паказаннях сведкі:

Аляксандр Бабіч атрымаў з Банка пры дапамозе Астроўскага 300 зл.(отых) і спыніў сваю сувязь з камуністычнай партыяй.

Козіч даказвае: пасол Валошын паведамляў яму, што Беларускі Банк субсідзіруецца савецкім урадам; той жа Козіч плаціў камандзіровачныя грамадоўцам грашыма з Банка (паказанне Каланчынскага).

Удзельнік курсаў Грамады ў Радашковічах Тарасюк прызнаўся: Банк даў на стварэнне гэтых курсаў 600 зл.(отых) /пацвярджэнне ў паказаннях Кнапэ/.

Муж Даверу Грамады ў Лідскім павеце змоўшчык Шымкевіч, які потым уцёк у Расію, займеў з Банка 2000 зл.(отых).

Вядомы дзеяч Грамады Ігнатовіч, пра якога сведкі паведамляюць,

што ён быў выбраны як будучы Беларускі Стараста, забраў з Банка 180 даляраў.

Сведка Скальскі даводзіць: Банк аплачваў штрафы, накладзеныя ўладай на грамадоўцаў...”

...Зноў спыню цытаванне, каб заўважыць: сведка Скальскі – той самы падкамісар Тадэвуш Скальскі (кіраўнік памежнага камісарыята дзяржаўнай паліцыі ў Тчэве!), які 5 лютага 1931 г. у цягніку Гданьск – Мальборк затрымаў Б. Тарашкевіча...

Ужо ў Менску я сказаў пра гэта Анатолю Сідарэвічу; мы сустрэліся ў архіўным касцёле Святога Язэпа, у кабінеце прыязнай спадарыні Запартыкі; Анатоль дапамог мне расчытаць у юрыдычным творы Р. Раўзэ складаныя мясціны і са сваёй характэрнай смяшлівасцю прамовіў:

– Во, які трапіўся пракурор уніклівы!

Сапраўды, дапытлівасць пана Раўзэ на ўзроўні!

У рамане “Сустрэнемся на барыкадах” (гэту кнігу я згадваў 7 сакавіка 2009 г.) П. Пестрак іранічна назваў Р. Раўзэ – эрудзіраваным.

Мяркую, пан Раўзэ без ніякай сацрэалістычнай іроніі быў дасведчаны ў сваёй справе.

І зноў жа ён паведамляў, што “...Суд (акруговы. *Л. Д.-М.*) устанавіў: Семашкевіч на гэту мэту (аплачваць штрафы, наложаныя на грамадоўцаў. *Л. Д.-М.*) атрымаў з Банка 90 п.(ольскіх) зл.(отых).

Сведка Будзінскі паказвае: пазыкі /усяго выдадзена 12863 дал.(яры) і 3385 зл.(отых)/ выдаваліся толькі чальцам Грамады; гэты сведка шмат ведаў, бо меў інфармацыю ад грамадоўца Іголкі, які пазней быў забіты па палітычных матывах.

Сведка Бялінскі сцвярджае: чалец Грамады Пятровіч звярнуўся да яго канфідэнта з прапановай займацца шпіянажам, пры гэтым зазначыў, што грошы яму будзе плаціць Беларускі Банк.

Ігнат Андзілеўка (устройшчык гурткоў Грамады), які неаднаразова браў сумы з Банка, са слоў сведкаў Сасноўскага і Дразда, упэўнівае: яму за палітычную работу плаціць Банк, і Банк гэты мае грошы з Расіі.

Сенсацыйнае прызнанне зрабіў запасны сведка, Муж Даверу Грамады ў Браслаўскім і Дзісенскім паветах Іван Ласёнак; ён паведаміў, што па просьбе Астроўскага і Мятлы падробляў на вэксалях жыро на імя Ліпскі і такім чынам атрымаў з Банка грошы на падрыўную дзейнасць, а менавіта:

350 зл.(отых) для развозу падрыўной літаратуры;

10 дал.(яраў) на выезд са шпіёнам Зарэкам у Расію;

33 дал.(яры) і 22 дал.(яры) за арганізацыйную работу Грамады...”

Не магу тут не сказаць: апошнія тры сумы нейкія несур’ёзныя, але тым не менш – у судзе любая драбніца мае вагу!

Далей пан Раўзэ звяртаў увагу на іншыя сферы дзейнасці Астроўскага.

Спасылаючыся на ўласнае прызнанне падсуднага, а таксама ж на паказанні сведкі Івана Савіцкага, падпракурор даводзіў, што падсудны Астроўскі, калі быў Старшынём Беларускага Дабрачыннага Таварыства, атрымаў з СССР вялікія сумы, першы раз – 4000 злотых, а другі раз – 15000 злотых.

Акрамя таго займаўся ён і мопраўскай дзейнасцю – зноў жа небескарысліва...

Існавала такое таварыства МОПР – міжнародная арганізацыя дапамогі барацьбітам рэвалюцыі.

І былі такія беларускія людзі, якія шчыра верылі ў неабходнасць МОПРа.

У кнізе "Памяць" (Слонімскі раён) на старонцы 183 чытаю:

"...тры гады падрад (1930-1932) тайком ад паліцыі мы атрымлівалі ад рыбнай гаспадаркі 1000 злотых штогод і здавалі іх у МОПР. Гэта сума на той час была немалая. За 1000 злотых можна было купіць 500 пудоў хлеба..."

І што тут скажаш?

Хіба што адно: шкада і людское веры, і людское працы!

Пра людскія грошы – маўчу...

Праўда, нейкая дапамога вязням і іх родным усё ж такі даходзіла, таму дзякуй тым, хто дзяліў; дзякуй за тое, што ўсё сабе не забраў...

Аднак вярнуся да асноўнай (банкаўскай!) тэмы.

Падпракурор Віленскага акруговага суда Роберт Раўзэ пакінуў нам выразны, але дастаткова сухі тэкст.

Аднак жа ёсць і белетрыстыка, створаная чулым сэрцам.

Былы пасол і сенатар польскага парламента Васіль Рагуля называў Беларускі Банк Зямельным Банкам і ў сваёй цікавай кніжцы "Успаміны" пісаў:

"...сродкі былі. Адкуль? – думаю, што ад Вульянава, першага дарадчыка Палпрэдства ў Варшаве, беларуса, родам з Магілёўшчыны. Вульянаў, між іншым, выстараўся дапамогу Саветаў на адкрыццё Грамадою ў Вільні Зямельнага Банку, у вышыні 15000 дал.(яраў), у тры раты па 5000 дал.(яраў) кожная. Першую рату атрымаў я, антыкамуніст, старшыня Сялянскага Саюзу і старшыня Беларускага Пасольскага Клюбу, але без ведама сяброў Клюбу. Чаму і як гэта сталася? Вось гэтак. Аднаго дня, у Сойме, Тарашкевіч папрасіў мяне зайсьці да яго ў габінэт. Там быў Р. Астроўскі. Яны абудва зьвярнуліся да мяне з просьбаю пайсьці ў Савецкае Пасольства і атрымаць для Беларускага Банку 5000 дал.(яраў). "За пасламі Грамады бесьперапынна сочыць дэфензыва; іх могуць накрыць, як кажуць, на гарачым учынку, а тады бывайце даляры. Табе, які не належыш да Грамады, зрабіць гэта лягчэй" – казалі яны..."

Сенатар дапамог.

Аднак жа ён вельмі рызыкаваў, бо за свой учынак мог дастаць 12 гадоў цяжкое турмы.

Дык вось, першую рату атрымаў В. Рагуля, другую (праз Транзітны Банк у Рызе) – сам Б. Тарашкевіч, трэцюю – невядома хто.

Можна дапусціць, што Р. Астроўскі.

В. Рагуля яшчэ ўспамінаў:

"...пасьля атрыманьня першай раты, у Грамадзе паўстала пытаньне, як замаскаваць паходжаньне грошай у банкавых кнігах. Я парадзіў Рак-Міхайлоўскаму і Валошыну расьпісаць гэтую суму, як уклады паасобных, але давераных асобаў... Гэткімі асобамі ня могуць быць паслы, бо іх могуць арыштаваць, блякуючы адначасова і іх уклады. Гэтак яны і зрабілі... на імя брата Мятлы запісана 600 дал.(яраў), а на імя Р. Астроўскага (ён пaслом не быў. *Л. Д.-М.*) і ягонай жонкі – каля 1160 дал.(яраў)...

Пасьля ліквідацыі Грамады, грамадоўцы, што засталіся на волі, даручылі кіраўніцтва Банкам сэнатару Багдановічу. Ён і стаўся Дырэктарам Банку. Аднойчы ў Варшаве ён сказаў мне, што брат Мятлы і Астроўскі з жонкаю дамагаюцца выдаць ім іх "уклады"... Сам факт патрабаваньня выдачы "ўкладаў" без зазначэньня, на што яны будуць бескантрольна расходаваны,

кінуў на "ўкладчыкаў" непрыемны цень і выклікаў прыгнятаючае ўражаньне сярод сяброў Пасольскага Клюбу..."

Хаця В. Рагуля раіў і, вядома ж, слушна раіў, каб на паслоў не распісвалі грошы, аднак жа распісалі й на паслоў – то-бок, на саміх сябе.

Першыя запісы ў банкавых кнігах з'явіліся 9 лістапада 1925 г., а на 1 студзеня 1927 г. склалася такая карціна: П. Мятла меў на тэрміновым укладзе 265 даляраў і 510 даляраў на бягучым рахунку; П. Валошын на тэрміновым – 305 даляраў, на бягучым – 145 даляраў; Б. Тарашкевіч на тэрміновым – 611 даляраў, на бягучым – 101 даляр; С. Рак-Міхайлоўскі на тэрміновым – 50 даляраў, менш за ўсіх, але затое на бягучым – 2275 злотых і яшчэ 889 даляраў...

Дарэчы, калі 15 студзеня 1927 г. на вакзале ў Вільні С. Рак-Міхайлоўскага арыштавалі, то пры ім было 195 злотых...

Як і прадбачваў сенатар Васіль Рагуля, па арышце паслоў налажылі забарону і на іхнія рахункі; рахункі былі далучаны да крымінальных справў у якасці рэчавых доказаў.

27 траўня 1927 г. суддзя Віленскага акруговага суда Стэфан Паўлюць, спасылаючыся на паказанні "камунікатчыка" Міхала Гурына, пастанавіў: згаданыя грошы не з'яўляюцца прыватнай уласнасцю абвінавачаных грамадоўцаў, грошы прызначаны для камуністычных акцый і падлягаюць канфіскацыі на карысць скарбу.

Мусіць жа, хуткай канфіскацыі не адбылося, таму 18 сакавіка 1929 г. адвакат Казімір Петрусевіч звярнуўся ў Віленскі апеляцыйны суд з просьбай вярнуць яму, як упаўнаважанаму П. Мятлы і С. Рак-Міхайлоўскага, іхнія ўклады (з мэтай, каб імі карысталіся сем'і асуджаных).

І ў той жа дзень і на той жа адрас К. Петрусевіч падаў яшчэ адну заяву:

"Паводле выраку Апеляцыйнага Суда 16 сакавіка 1929 г. быў апраўданы Радаслаў Астроўскі. З гэтай прычыны прашу Апеляцыйны Суд вярнуць мне, як упаўнаважанаму Астроўскага, секвестраваны і далучаны да справы ўклад Астроўскага ў Беларускім Банку ў Вільні..."

На заяве няма ніякай рэзалюцыі, таму не ведаю, ці вярнулі выдатнаму адвакату ўклад апраўданага Астроўскага (уклады ж засуджаных П.Мятлы і С. Рак-Міхайлоўскага, як і засуджаных сяброў іх, пэўна што, не вярнулі!); ведаю іншае – нягледзячы на старанную працу падпракурора Р. Раўзэ, нягледзячы на пераканаўчую логіку ягоных слоў: "...падзяляючы думку Акруговага Суда (старонка 39 выраку) "...Р. Астроўскі з'яўляецца ў беларускім грамадстве прыкметнай асобай...", здаецца сумніўным, каб ён, належачы да Грамады і маючы прыязныя адносіны або знаёмствы з яе правадырамі, не быў імі паінфармаваны пра істотныя мэты і намеры БСРГ – лічу апраўдальны вырак Суда (акруговага. *Л. Д.-М.*) у адносінах да Астроўскага няслушным..." – дык вось, нягледзячы на гэта, апеляцыйны суд пакінуў у сіле пастанову акруговага суда.

Суддзі ведалі, што ў Астроўскага не проста прыязныя адносіны з правадырамі Грамады, а ён меў вялікі ўплыў на Тарашкевіча.

Красамоўны й той факт, што 15 студзеня 1927 г. Тарашкевіч быў арыштаваны не ў сваёй кватэры, а ў віленскім асабняку Астроўскага!

Паводле запаснога сведкі Стэмпля, калі арыштоўвалі Тарашкевіча, Астроўскі ў гэты час паліў грамадоўскія паперы...

Суддзі зналі, што ў доме Астроўскага (з яго ведама!) адбываліся сходы цэнтральнага камітэта камуністычнай партыі Заходняй Беларусі!

Пра гэта сведчыў усё той жа раскольнік і камунікатчык, былы член ЦК КПЗБ М. Гурын.

Аднак жа апеляцыйны суд, а засядаў ён з 28 лютага па 16 сакавіка 1929 г., адкінуў гэта сведчанне: маўляў, нельга верыць, бо сведка М. Гурын ужо не належаў да КПЗБ і мог атрымліваць ад якой-небудзь няпэўнай асобы недакладную інфармацыю!

Калі суддзі не паверылі знанаму сведку М. Гурыну, то, вядома ж, не прыслухаліся яны й да паказанняў нейкага там Васілеўскага, які даводзіў пра тое ж: Радаслаў сын Казіміра Астроўскі ў сваім доме па адрасе: Вільня, Чыгуначная Калонія, 62 – спрыяе камуністам!

І, вядома ж, не з'яўлялася для польскага суда аргументам і тое, што Астроўскага, як старшыню ТБШ, хваліў у Менску ў сваёй кніжцы "За Савецкую Беларусь" адзін з галоўных камуністаў Беларусі А. Чарвякоў.

Словам, не суд у бальшавіцкім разуменні, а святая прастата!

А бальшавікі бачылі ў Астроўскім родную душу!

Гэта бясспрэчна.

Чалавек не стомлены прынцыпамі, – Астроўскі заўсёды быў там, дзе былі грошы.

І пасля таго, як Беларускага Банка не стала, усё адно фінансы шырокай ракой плылі ў яго рукі, і ён распісваў іх на сваю жонку, на сваю дачку, на сябе...

От жа чытаю ў судовай паперы за 27 траўня 1927 г., што Астроўскі мае на тэрміновым укладзе 100 даляраў, а на бягучым рахунку 498 даляраў і 6699 злотых...

*5 кастрычніка 2010. Аўторак.* Час большы за грошы, а спакой большы за час!

Спакой – мая любая філасофія, і, едучы ў тралейбусе, я складаў у думках вобраз архіўнага спакою.

Аднак жа нічога пэўнага ў маім уяўленні не склалася – магчыма, само паняцце "пэўнасць" (як гэта ні дзіўна!) не стасуецца з паняццем "спакой".

Пэўнаю ж, як і заўсёды, была Вільня – злева на захадзе бляшана мільгнуў купал Знаменскай царквы, а праз якую хвіліну справа, амаль побач, суха бліснулі абдзертыя вежы касцёла Якуба і Піліпа.

Па Зялёным мосце тралейбус вырулiў на Кальварыйскую, – і, коратка, як на гадзіннік, глянуўшы на палац Радушкевіча, я прыняў па далькажыку ад свайго прыяцеля І. І. чаканую навіну: яго, настаўніка беларускай мовы і літаратуры, нарэшце звольнілі са школы...

Каб не выпіваў і характар меў спакайнейшы, каб не гаварыў дрэнна пра лядовыя палацы і што роднай беларускай мовы ў школе зусім-зусім мала, а не сваёй, расійскай, і чужой, англійскай, ажно выпірае – то, вядома, рабіў бы.

Па праўдзе кажучы, рабіў бы й з выпіваннем, і з норавам сваім крутым, і з гаворкай пра лядовыя палацы, і нават з тым рабіў бы, што роднай мовы ў школе амаль няма, а чужых багата.

Аднак жа неяк ляпнуў прылюдна (пры "калектыве"!) пра дырэктара, што ён, дырэктар, дзве зарплаты кладзе ў сваю кішэню!

З гэтага й пачаўся ягер.

"Калектыў" пра пачутае, вядома ж, далажыў дырэктару, а тады ўжо накінуўся на І.І.:

– Хлусня! Паклёп!

“Калектыў” ведаў пра два заробкі свайго начальніка і бяды вялікай у тым не бачыў!

Якая ж тут бяда, калі скрозь так: і кіраўнік аднаго з тэатраў адначасова гроб і за дырэктарства, і за акцёрства, і дырэктар аднаго музея тое ж рабіў, і дырэктар аднаго дзяржаўнага выдавецтва туды ж...

Ды яны грошы вярнулі, бо ім зверху загадалі.

Зверху!

А тут самадзейнасць нейкая – халоп знізу вучыць пана!

Непарадак!

Карацей, учора ў настаўніка І. І. “скончыўся” кантракт, і пра гэта, смеючыся, ужо былы настаўнік і паведаміў мне.

Дзякуй Богу, мой сябар не з тых, што адразу падаюць у роспач; ён мае бадзёры план: 1. знайсці месца ў іншай школе; 2. пайсці паглядзець, што робіцца на біржы працы; 3. заняцца дробным бізнесам...

А можа кінецца ў літаратары, стала возьмецца за асадку?!

Неаднойчы ж прымерваўся да пісьменніцтва, нават сшыткі два спісаў апавяданнямі!

Тыя сшыткі нікому (мне таксама) не паказваў, сароме́ўся паказваць, адно расказваў пра іх.

Аднак сорам былога настаўніка павінен мінуцца з той простай прычыны, што за апошні час у школьную праграму як сабак налезла творцаў, якія зусім не творцы...

Я сядзеў ужо за архіўным сталом і еў салодкі вінаград, якім пачаставала мяне Алена Глагоўская.

І гэта ж таксама шчасце, думаў, калі цябе ў замежным (!) архіве частуюць вінаградам!

І шчасце тое, калі ў гэтым архіве чытаеш дакументы і смяеешся (моўчкі, вядома), нібыта чытаеш вясёлую кніжку...

Вось, напрыклад, 9 красавіка 1925 г. начальнік лукішскай турмы К. Барташэвіч перасылае каменданту дзяржаўнай паліцыі места Вільні рапарт старшага наглядчыка Юльяна Губскага, – данясенне аб тым, што ў аднаго з вязняў забрана гарэлка і газета “Кур’ер Віленьскі” № 78 (230):

“Пану Начальніку Турмы, што на Лукішках у Вільні.

Старшага наглядчыка Ю. Губскага.

Рапарт.

Дакладваю Пану Начальніку, што па вяртанні з акруговага суда пяці арыштаваных пад канвоем паліцыянтаў, з якіх за старшага лічыўся пастарунковы № 4510 Вышынскі, быў праведзены вобыск і ў арыштаванага Багуслава Кеджынскага знойдзены адэкалонны флакон з гарэлкай (напоўнена 1/3 частка флакона). Таксама ж знойдзена газета “Кур’ер Віленьскі” № 78 ад 4.IV. Да гэтага дадаю вышэйназваныя прадметы. Губскі. 4.IV. (19) 25 г. м.(еста) Вільня.

З арыгіналам згодна: (подпіс) Сакратар турмы”.

Тое, што гарэлку нельга з вуліцы несці ў турму, – справа ясная.

Газету, мяркую, можна было, толькі з дазволу начальства.

Арыштаваны Кеджынскі, пэўна ж, на такі дазвол махнуў рукой.

І ўсё ж такі цікава – што гэта за газета такая, што яе трэ было канфіскоўваць?

У кнізе А. Ліса “Gloria victis!” чытаю:

"...пускаліся ў ход плёткі, інсінуацыі аб падрыхтоўцы беларускага паўстання. "...Нават орган віленскіх "дэмакратаў", субсідыяваны ўрадам з народных падаткаў, "Kurier Wilenski", – гаварыў Тарашкевіч, выступаючы 26 лістапада 1926 года ў сойме, – закрычаў расійскі "караул" разам са старашляхецкім "не позволям".

Выходзіць, выданне праўрадавае, лаяльнае!

Аднак ніжэй А. Ліс піша:

"...той самы "Kurier Wilenski", голас якога перад акцыяй супраць БСРГ не вылучаўся з агульнага хору прыхільнікаў яе неадкладнай забароны, ужо праз год змяніў тон выказванняў у пытанні яе дэлегалізацыі. А яшчэ праз год рэдактарам перыёдыка, паслом К. Акулевічам, і сенатарам В. Абрамовічам робяцца захады па вызваленні грамадоўцаў, яе кіраўніцтва. Аб тым, што хадайніцтва аб вызваленні лідараў БСРГ "на добрай дарозе", яны паведамляюць А. Луцкевічу..."

Па ўсім відаць, лаяльнасць газеты ў пэўныя перыяды (і да 1925 г., і пазней) была крыху прасякнута й фрондай, таму зразумела, чаму яе канфіскоўвалі...

А вось новы смешны дакумент:

"Вільня, 24 жніўня 1925 г.

Пану Начальніку турмы, што на Лукішках у Вільні.

Паліцэйскі інспектар Браніслаў Поляк падае наступны рапарт:

Сёння па тэлефоне лекар віленскага шпіталя "Савіч" пан Дамброўскі паведаміў мне, што паліцыянты, якія вялі вязняў з лукішскай турмы ў шпіталь "Савіч", выконвалі свае абавязкі нядбайна, дазвалялі вязням размаўляць з пабочнымі асобамі; дайшло й да таго, што, загаварыўшыся, у шпіталь уваліўся цэлы натоўп людзей.

Вязні – а гэта палітычна падследныя Хаім Хазанскі, Абрам Кранік і Мордух Эйхер – па атрыманні лекарскай дапамогі сёння ж вернуты ў турму.

За канваіраў былі паліцыянты №№ 3903, 5413 і 4353.

Таксама ж і П.(ан) Рэгіні, стажор-інспектар, ідучы з суда, заўважыў, што з вязнямі, якія ўжо вярталіся са шпіталя, размаўлялі пабочныя людзі, на што канваіры не звярталі ніякай увагі.

Гэта здарэнне адбылося паміж 9 і 10 гадзінамі.

Поляк.

Экспедыцыйны інспектар.

Рэзалюцыя: рапарт паслаць П.(ану) Каменданту Дз.(яржаўнай) П.(аліцыі) м.(еста) Вільні да ведама і адпаведнага распараджэння. 24.VIII.(19)25 г.

К. Барташэвіч.

Начальнік турмы.

З арыгіналам згодна: (подпіс) заместа Сакратара".

Каб гэта не ў архіве, то наогул можна было б і рогат справіць!

Для рогату – самае яно.

Усім кагалам улезці ў шпіталь – маляўнічая карціна!

Лёгка ўяўляю пачуцці габрэяў, якія ўбачылі пад канвоем сваіх супляменнікаў.

Вядома ж, яны, гэтыя пачуцці, тут жа перайшлі ў гаманлівую радасць, калі паліцыянты (а гэта не пільныя чэкісты!) і вухам не варухнулі: маўляў, гаманіце, абдымайцеся, цешце адно аднаго, дзеці Майсея!..

У сталоўцы расказаў Алене пра "вясёлыя" рапарты; ад яе ж пачуў пра

Хведара Ільяшэвіча – паэт жыў у Вільні на вуліцы Паплаўскай і тут, у Вільні, захапіўся ідэяй беларускай дзяржаўнасці і пакляўся, што да смерці застанецца беларусам.

Мне ўспомнілася ў гэты момант сваё, школьнае: неяк (здаецца, у класе шостым) я і мой сябар Васіль Дзісь паабяцалі настаўніцы Надзеі Васільевай, што заўсёды будзем размаўляць па-беларуску...

Ніякага пафасу ў тым дзіцячым абяцанні не было – наадварот, гаварылі, апусціўшы вочы долу, нібыта саромеліся такога абяцання.

І цяпер згадваю гэта таксама ж без тэатральнага ўздыму...

Па абедзе зноў гартаў старонкі, чытаючы якія, немагчыма было рабіць сур'ёзную міну.

Старонка першая:

"Пану Начальніку турмы, што на Лукішках у Вільні.

Рапарт.

Пасылаю Пану Начальніку пратакол, складзены ў справе дастаўкі вязня Шмаі Кагана ў турму ў цалкам нецвярозым стане пастарунковым камісарыята (komendy) Дз.(яржанай) П.(аліцыі) Люцыянам Мадлкоўскім – нумар 4987.

3.IV.(19)25 г. Вільня.

Паліцэйскі інспектар Шкілондз".

Старонка другая:

"9 красавіка 1925 г.

Пану Каменданту Дзяржаўнай Паліцыі м.(еста) Вільні.

Накіраваны 3 красавіка на разбор у Віленскі Міравы Суд (Секцыя 1-я) пад канвоем пастарунковага № 4987 Люцыяна Мадлкоўскага вязень Шмая Каган быў вернуты ў турму ў стане поўнага ап'янення.

Пасылаючы на разгляд Пана Каменданта пратакол папярэдняга следства ў гэтай справе, прашу Вашай ласкі паведаміць мне аб прынятым рашэнні.

Дадаткаў: 1.

К. Барташэвіч.

Начальнік турмы.

З арыгіналам згодна: (подпіс) Сакратар".

Як бачна, у гэты дзень – 9 красавіка – начальніку "Лукішак" давялося рассылаць паперы, змест якіх звязаны з пакланеннем вязняў Бахусу.

Пасля каталіка Багуслава Кеджынскага быў узяты на заметку (канцылярна адзначаны!) іудзей Шмая Каган!

Скажу й пра тое, што стыль канцылярскі не гіне і ў перакладзе, таму такая ж па пісьму, як і першыя дзве, і трэцяя вельмі цікавая старонка – яна знаходзіцца ў адзначаных панам Барташэвічам дадатках:

"Пратакол.

Вільня, 3.IV. г.(этага) г.(ода). Я, Інспектар турмы на Лукішках у Вільні, Уладзіслаў Шкілондз, выконваючы вуснае даручэнне Пана Начальніка турмы, склаў гэты пратакол у справе дастаўкі вязня Шмаі Кагана ў стане поўнага ап'янення з Віленскага Міравога Суда пастарунковым Дз.(яржаўнай) П.(аліцыі) № 4987 Люцыянам Мадлкоўскім XVI Акругі м.(еста) Вільні.

Дапытаны 3.IV. г.(этага) г.(ода) падследны вязень Шмая Каган, 36 гадоў, веры Майсеевай, абвінавачаны ў крадзяжы, паказаў наступнае: я папрасіў паліцыянта № 4987 Мадлкоўскага завесці мяне ў прыбіральню, аднак

прыбіральня была замкнутай, а калідорных (у якіх, пэўна ж, быў ключ? *Л. Д.-М.*) не дагукаліся. Тады я папрасіўся напіцца вады, і мая жонка /яна са сваімі знаёмымі якраз прыйшла ў суд/ падала мне кубак з вадой. Калі я выпіў ваду, то ў другі раз мая жонка Бася Каган падала мне кубак з гарэлкай. Паліцыянт адпіў з яго і аддаў мне. Я выпіў чатыры кубкі гарэлкі і два кубкі вады. Паліцыянт Мадлкоўскі выпіў кубак гарэлкі за маё здароўе, так ён сам сказаў. Мне зрабілася млосна, і я званітаваў проста на калідоры ў судзе. А піў я гарэлку тады, калі ўжо разбор скончыўся. Больш нічога аб гэтай справе сказаць не магу. Пратакол мне прачыталі.

Шмая Каган.

Дапытаў: Шкілондз, Паліцэйскі Інспектар".

Калі прыбіральня на замку, то, вядома ж, адразу хочацца піць!

Гэта ж так па-мужчынску!

І наогул – даволі сімпатычныя яны, алкагольныя прыгоды Шмаі Кагана, нягледзячы на ваніты пасярод калідора!

Варта заўважыць яшчэ й такую асаблівасць: у сваё апраўданне падследны заявіў, што напіўся ён пасля суда!

Інакш кажучы, намякнуў інспектару і большаму начальству: перад суддзямі я стаяў цвярозы!

Слаўнае апраўданне, канечне!

А што да Басі Каган, то тут немагчыма не здзівіцца – гарэлку прынесла, а пра закуску забылася!

А магла б, скажам, рыбкі фаршыраванай згатаваць ці якой-небудзь іншай смакаты кашэрнай, тады б гарэлка ў Шмаіну галаву лягчэй стукнула!

Чатыры кубкі ўсё-ткі не чатыры маленькія чарачкі, як іх вадой не запівай – ногі ўсё адно заплятуцца!

І не толькі ногі...

Шкадую, што не ўмею здымаць кіно, аднак і без ніякай кінарэжысуры з усімі анёрамі бачу такую сцэну: малады паліцыянт Мадлкоўскі эскартуе вязня Шмаю Кагана ў "Лукішкі", але не прыкладам у плечы таўчэ, а вядзе, як старэйшага брата, пад ручкі!

Хоць і пры службе, а выпіў па-славянску за здароўе арыштаванага Майсеевага сына!

Так і хочацца агаласіць: няхай жыве польска-габрэйская прыязнасць!

Аднак жа дачытаю пратакол:

"...Дапытаны ў вышэйзгаданай справе пастарункковы Люцыян Мадлкоўскі № пасв.(едчання) 4987, з XVI Акругі Запасу Камісарыята Паліцыі м.(еста) Вільні, 25 гадоў, нежанаты, пад судом не быў, жыве на вуліцы Жалігоўскага ў доме 4, паказаў наступнае: арыштаваны Каган папрасіў мяне, каб я правёў яго ў прыбіральню, якая аказалася на замку; калідорных жа ў судовым будынку на той час не было. Тады арыштаваны Каган захацеў напіцца, і тут нейкая кабета, жыдоўка (магчыма, жонка Кагана) паднесла кубак. Я пакаштаваў і панюхаў – у кубку была вада. Праз гадзіну арыштаванаму зноў захацелася піць, і яго жонка зноў падала кубак. Гэтым разам я не каштаваў пітво, бо быў упэўнены, што ў кубку вада. Я бачыў: толькі два разы кабета паіла арыштаванага Кагана..."

Тут здзіўлюся: толькі два разы?

Шмая ж казаў, што выпіў чатыры кубкі гарэлкі і два кубкі вады – значыць, Бася паіла Шмаю сама меней разоў пяць-шэсць!

Выходзіць, вока ў № 4987 было не надта пільнае!

Ці проста перад начальствам паліцыянт захацеў знізіць у Шмаінай крыві ўзровень алкаголю?!

Спадзяваўся: за меншую п'янку вязня яму, ахоўніку, менш у плечы дадуць!

Аднак чытаю далей:

"... Я ж разам з Каганам гарэлкі з таго кубка не піў. Па дастаўцы арыштаванага з суда ў турму я далажыў у Канцылярыі, што Каган піў гарэлку, якую яму ў судзе на калідоры падавала кабета. Але ж кабета зазначыла, што не яна, а нехта наліў у кубак гарэлку. Больш нічога аб гэтай справе сказаць не магу. Пратакол мне прачыталі.

Люцыян Мадлкоўскі, пастар.(унковы) 4987.

Дапытаў: Шкілондз, Паліцэйскі Інспектар.

З арыгіналам згодна: (подпіс) Сакратар турмы".

Напалохаўся паліцыянцік, таму й заявіў, што гарэлку разам са Шмаяй не піў!

І наогул тлумачэнне даў блытанае, узяць хоць бы гэты выраз: "...я пакаштаваў і панюхаў – у кубку была вада..."

А звычайна, спачатку нюхаюць, а пасля каштуюць...

Вядома, 25-гадовы нежанаты пан Люцыян не хацеў, каб яго са службы пратурылі.

І было за што!

Даў напаіць гарэлкай падследнага, і сам з той жа кварты добра лыкнуў.

І дзе?

У судзе!..

Але, здаецца, начальства Малдкоўскага не пакарала – прынамсі, ніякіх дакументаў адносна гэтага я не знайшоў...

З архіва ехалі па Антокальскай (здаецца, на другім тралейбусе), на хаду паглядзелі на мураваны дамок, у якім жыў наш мастак Пётра Сергіевіч; выйшлі на Зыгмунтоўскай і, развітваючыся, яшчэ крыху пагаварылі пра Францішка Аляхновіча.

Алена знайшла польскамоўны твор Аляхновіча з характэрнай назвай "За кратамі", надрукаваны ў 1913 г. у віленскай газеце "Кур'ер Краёвы".

– Усё жыццё думаў пра краты. Пра іншае нібыта й пісаць не мог! – заключыла даследчыца.

– А гэта! – паказала на той бок Вяллі. – Будынак электроўні. Тут да 1939 года Аляхновіч працаваў кантралёрам...

Раптам падалькажыў Някляеў:

– Дзе ты? У Белаазёрску, можа?!

"У Белаазёрску?! Чаму ў Белаазёрску?"

Крыху збіты з толку, неўпапад адказаў:

– Я зараз у віленскім архіве!

– Твой віленскі архіў падобны на кавярню!

Ага, да яго дайшоў вулічны гоман.

– А ў Вільні й архівы, як тыя кавярні! – я пажартаваў, як умеў.

На тым і развіталіся.

І тут жа адчуў, што пажартаваў няўдала; каб аднавіць разуменне, перазваніў, сказаў, што ў Вільні я не адзін, залучыў у гаворку Алену, і слаўная спадарыня Алена ад усёй душы пажадала спадару Уладзіміру на яго новай палітычнай ніве "поводзэння"...

Па Скапоўцы выйшаў на Замкавую, прысеў ля нейкай страўні на

першым крэсле; думаў крыху памарыць, хацеў уявіць маладога Максіма Танка тут, на Замкавай, ля газетнага стэнда – вось ён чытае апошні нумар “Слова”, аднак жа нічога з уяўлення не выйшла, бо з’явіўся пазаўчарашні мой знаёмец – беларускі паляк з Ашмянаў...

– Як цябе клікаць? – сыкнуў я.

– Роберт!

“Роберт!!! Нічога сабе для ашмянца імя!..”

– Роберт, пазаўчора я табе даў 7 літаў!

– Знаю, але мне яшчэ трэба...

Раздражнёны, я перайшоў на другую тэрасу, і зноў мяне атакавалі жабракі і ўсё, дарэчы, маладыя...

Памятаю старцаў, якія хадзілі па Давыд-Гарадку, і я глядзеў на іх шырокімі вачыма пяцігадовага хлопчыка – гэта былі сівыя гарбатыя дзяды з крывымі кіямі і вялікімі шэрымі торбамі на баку.

Як з нейкай казкі!

А тут, у Вільні, старцуе моладзь.

– Не давайце ім грошы, гэта ж наркаманы! – параіла мне ў кавярні “Іда басар” барменка Лена – напарніца Віды.

– А што, паліцыя? – спытаў проста так, дзеля блізіру.

– Паліцыя на іх рукой махнула...

Да ад’езду часу яшчэ меў і, каб не сядзець, а таксама ж, каб не стаяць, пайшоў (проста, каб ісці) і зусім не здзівіўся, калі апынуўся на Росах.

Ля крыжа Луцкевічаў гарэў зніч.

Няўжо той, якога запаліў пазаўчора?!

Неверагодна, але ён узнік з ляску ўяўнай пастуховай пугі, лопату сарочых крылаў і яўкання аднавокага белага ката!

Ці нехта зноў прыходзіў з нашых?

Пэўна ж, нехта прыходзіў і запаліў такі ж самы гранёны фіялкавы зніч...

На Піўной, у палітычным доме Ігната Дварчаніна, у акне на першым паверсе, адразу ля дзвярэй, пацешна круціліся ў клетцы ўсё тыя ж два папугаі – зялёныя крылцы, смарагдавыя чэраўцы, чырвоныя дзюбкі, рудыя галоўкі, чорныя ў белых колцах вочкі і рабыя ўчэпістыя лапкі.

Аконнае паветра над клеткаю, здаецца, рунела!

Першы раз убачыў гэтых птушак 19 сакавіка 2009 г., і от яны, выходзіць, ствараюць яшчэ адзін малюнак маёй віленскай устойлівасці...

У беларускім аўтобусе Коўня – Менск, які адыходзіў у 18.05, я, абмінуўшы літоўскую білецёрку, ціха спытаўся ў шафёра:

– Колькі да Менска?

– 35 літаў, – гэтак жа ціха адказаў шафёр.

– А нашымі можна?

– Тады 35 тысяч зайчыкаў...

*28 лістапада 2010. Нядзеля.* Трэба гаварыць з людзьмі, калі хочаш даведацца пра нешта істотнае; твая літаратурная фантазія – нібыта савецкія пяць капеек, а вось пачутае ад цікавага чалавека – царскія залатыя пяць рублёў!..

У вагоне пазнаёміўся з маладым капітанам патрульна-паставой службы; яму 28 гадоў, родам з-пад Астраўца і ўжо два месяцы як жанаты; жонку знайшоў там жа, на Астравеччыне – дзяўчына неяк прыехала з Вільні пагасцяваць у свайго літоўскага дзеда і літоўскай бабці.

Уласна кажучы, удала прыехала...

Капітан працуе ў Менску, жыве з двума такімі ж, як і сам, афіцэрамі ў наёмнай кватэры, агульная плата за якую – 400 даляраў.

Ягоная ж рата – 130 даляраў плюс (як зазвычай!) камунальныя паслугі...

– Вы такі малады і ўжо капітан! – па-бабску я пахваліў яго, аддаючы правадніцы за шклянку гарбаты 530 рублёў.

– Я ўжо павінен быць маёрам!!!

Во як!

Капітан казырыўся, але не надта, а галоўнае – не маўчаў, і я лёгка даведаўся, што да нядаўняга часу ён зарабляў 1400000, аднак жа перад выбарамі (зразумелая справа!) грошай падкінулі, і на гэты дзень капітан ужо мае 1800000.

Яго жонка працуе ў віленскай краме за 1400 літаў, што роўна нашаму 1500000...

Такую мы трымалі дарожную гаворку, а ў гэты момант паўз нас, пахістваючыся, туды і сюды прашнуравалі нейкія два аднавагоннікі-філосафы, балакаючы пра сваё:

– ...хто ўкраў, той зарабіў...

– А хто зарабіў, той збяднеў...

А тут і адплыла станцыя Гудагай.

– Дзе думаеце жыць са сваёй віленскай палавінай?

– У Мінску.

– У Мінску?

– А дзе ж яшчэ?! Мяне ж не возьмуць у літоўскую паліцыю!

І то праўда.

Капітан думае пра сваё жытло, ужо ўзяў пазыку пад 5% на 20 гадоў.

Ад яго пачуў, дарэчы, новае слоўца "флікерызацыя", якое прагучала ў такім кантэксце: "Дзякуючы флікерызацыі, значна палепшылася бяспека руху!"

І вельмі спадабалася мне яго стаўленне да байкераў; з пагардлівай усмешкай гаварыў ён пра іхнюю пыхлівую агрэсіўнасць і ўжо без ніякай усмешкі пра тую небяспеку, якую сеюць матацыклетныя безгалоўцы на дарогах.

У Вільню ён выбраўся першы раз і, дазнаўшыся, што я крыху ведаю места, спытаў пра вуліцу, на якой знаходзілася жончына крама.

На карце я паказаў гэту вуліцу і патлумачыў, як туды даехаць.

А вось і хвіліна адвітання.

Я папрасіў, каб ён спрыяў аўтааматарам, якія размаўляюць па-беларуску.

Малады капітан паабяцаў...

Як толькі я ступіў на перон, Сігітас пераняў мяне і адчаканіў без ніякага смеху:

– Сёння я буду не дэмакратам, а дыктатарам!

– Што гэта значыць?

– Гэта значыць, пакіну вас начаваць у сваім доме!

– Не пусціце ў гасцініцу?

– Не пушчу...

– А мне падабаецца вуліца, на якой стаіць ваш дом!

– Чым падабаецца?

– У 1930-я гады каштанавым лісцем вуліцы Закрэтавай любаваліся маладыя беларускія паэты!

Сігітасу (было бачна!) спадабаўся мой узорысты адказ...

Хутка прыйшлі, падняліся на сёмы паверх, і Сігітас раптам прызнаўся, што будзе мяняць сваю вялікую кватэру на меншую, бо зімой за яе трэба плаціць ажно 800 літаў у месяц, – і гэта пры пенсіі 1100!

Паліна Лаўраўна была дома і, дзякаваць Богу, адчувала сябе значна лепей; мы разгаварыліся і сярод цікавага цікавейшым было тое, што я пачуў пра Жыльвінаса, пра паходжанне яго імя – гэта імя героя паэмы-казкі Саламеі Нерыс "Эгле, каралева вужоў".

Паводле сюжэта паэмы рыбацкая дачка Эгле (Ялінка) пайшла купацца, і ў яе кашулю, пакінутую на беразе, запоўз вуж.

Чалавечым голасам вуж сказаў, што толькі тады аддасць кашулю, калі Эгле выйдзе за яго замуж.

Напалоханая дзяўчына згадзілася.

Як выявілася пазней: вуж той – не проста вуж, а прыгожы юнак Жыльвінас і не проста юнак, а каралевіч, гаспадар бурштыннага палаца, душа Балтыкі...

Я сядзеў і слухаў; калі ж Паліна Лаўраўна выйшла з пакоя, ступіў да шырокага акна і гэтак стаяў з доўгую хвіліну, асалоджваўся, кажучы мовай Цішкі Гартнага, віленскім краявідам; глядзеў на аддаленую рудую вежу Гедыміна, на лілейнае Трохкрыжжа, на зусім блізкія заснежаныя купалы Раманаўскай, на выразныя сілуэты касцёлаў Місіянераў, Казіміра і Візітак...

Сігітас на кухні драў бульбу на калдуны, з таркі ў місу цякла белаватая маса.

Я спытаў, як па-літоўску будзе тарка.

– Па-народнаму так і будзе: тарка, а па кніжнаму: трінтувэ...

– А цукеркі?

– Зноў жа па-народнаму: цукеркос...

– А цыбуля?

– Цібуліс...

З марознай дарогі калдуны вельмі прыйшліся да смаку ды яшчэ пад мексіканскі каньяк.

Я хутка наеўся, падзякаваў, аднак жа Сігітас не стаў слухаць і падклаў у маю талерку новую порцыю.

Я замахаў рукамі, але гаспадар супакоіў мяне такім павучаннем:

– Жэмайты кажуць: на першым калдуне трэба сядзець, калі апошні будзе ў роце!

Пасмяяліся і зноў загаварылі пра лексіку.

– Замест "цібуліс" нашы філолагі прыдумалі слова "свагунас". Дарэчы, як па-беларуску "зонт"?

– Парасон.

– А па-літоўску "летсергіс". Аднак жа ўсё тыя ж філолагі лічаць, што слова "скецiс" лепшае!

– А што яно значыць?

– Раскрываць, растапырваць...

– Вашы філолагі ўплывовыя людзі!

– А як жа! – падтакнуў Сігітас. – І яны такімі заўсёды былі! У 1920-ыя гады замест "галёшаў" увялі слоўца "пурвабріджяй", што значыць: хадзіць па гразі...

– Прыжылося слоўца?

– Не...

Самы час было ўзяцца за шапку.

Пераадолеўшы “дыктатарскую” моц Сігітаса, я пайшоў у свой любы “Цэнтрум” і праз паўгадзіны за 49 еўра атрымаў 116 пакой.

Па тэлевізары якраз ішла літаратурная перадача, прысвечаная творчасці Франца Кафкі.

Барыс Пятровіч любіць прозу Кафкі, а я, выпускнік маскоўскага Літаратурнага інстытута, з кожнага кута якога толькі й чулася: “Кафка, Пруст, Джойс... Кафка, Пруст, Джойс...” – так і не захапіўся лабірынтнай творчасцю знакамітага і няшчаснага пражаніна, бо не здолеў учытацца ў яго няскончаныя раманы.

Праўда, не ўзяў у душу і Джойса з Прустам.

– Каб быць інтэлігентным, трэба ведаць хоць адзін раман Пруста! Любы, на выбар! – пракафедрыў аднойчы выкладчык Гусеў.

Мне спадабалася такая парада любага выкладчыка.

Мне захацелася стаць інтэлігентным, і з Літаратурнага інстытута, з Цвярскога бульвара, я паляцеў на Арбат, у Стараканюшанны завулак, да пісьменніцы Лідзіі Абухавай; яна была маёй апякункай, і ў яе кнігазборы мелася ўсё – ад дазволенага Пруста і да забароненага Салжаніцына.

За два дні адужаў вялізны том (здаецца, гэта была другая кніга, вядома, што з цыкла “У пошуках страчанага часу”) і нават не заўважыў: воблака інтэлігентнасці праплыло міма!

А пазней, ужо калі жыў у Менску, нецікавага мне Джойсавага “Уліса” (болей за тысячу старонак!) прачытаў ажно двойчы!

Цяпер здзіўляюся: і навошта мучыў сябе?

Хіба што дзеля гэтай эстэцкай высновы: “Уліса”, разгарнуўшы наўздагад, можна пачынаць чытаць з паўслова, нават з паловы літары; калі паўслова – знакамітая лексема, то палова літары – сімвал мастацтва, якое вынікае з нічога – то-бок, з усяго; палова літары – гэта палова ўстойлівасці; гэта частка Ірландыі, якая ці аб’яднаецца з другой сваёй часткай; гэта ірландская мова, на якой не размаўляе (зраблю дапушчэнне!) палова ірландцаў; гэта іншая палова ірландцаў (яшчэ адно дапушчэнне!), якія не жывуць у Ірландыі і не тое, што не размаўляюць, нават не разумеюць ірландскую мову; урэшце, палова літары – гэта палова зроку, хвароба вачэй Джойса...

Я выключыў тэлевізар.

Было цёмна, але не позна, было холадна, але ўтульна, і я рушыў у старое места паслухаць Віленку – яе каменьчыкавы бег заўсёды ап’яняе мяне.

Уладзімір Жылка пісаў пра “плюск” Віленкі, Ігнат Абдзіраловіч пра яе “гоман”, Якуб Колас пра яе “шум”, і, згадваючы іхнюю паэзію, успомніў пад гэтакі добры настрой сказ Караткевіча з рамана “Каласы пад сярпом тваім”:

“Сядала пурпуровае сонца, і цені на снезе зрабіліся ізумрудна-зялёныя, чысцейшыя за маркі зялёны прамень, убачыўшы які, кажуць, нельга памыліцца ні ў каханні, ні ў любові, ні ў нянавісці...”

Паслухаўшы і паглядзеўшы на плыткую і шпаркую ваду, завярнуў на Святаігнатаўскую і прачытаў на памятнай дошцы: “У гэтым будынку перад сьмяротным пакараньнем быў зьняволены кіраўнік паўстаньня 1863 – 1864 гадоў у Літве і (“і” ў змроку паходзіла на “е”) на Беларусі Кастусь Каліноўскі”.

Тым часам тэмпература на нейкі градус упала, таму па Вялікай Пагулянцы падымаўся ў гатэль ужо пры большым холадзе.

Вярнуўшыся, напіўся гарачай гарбаты, залез у ложак, заплюшчыў вочы і прачытаў самому сабе верш Максіма Танка:

З амфары гэтай даўно
Вінаградны сок выпілі госці.
П'яныя, потым разбілі яе.
Пенелопа
Вымела ўсе чарапкі
За парог свайго дому.
Цудам адзін ацалеў,
А на ім – цень музыкі з жалейкай.
І, хоць вякі прамінулі,
Мы чуем ізноў "Адысею".

*29 лістапада 2010. Панядзелак.* Міхась Машара ў сваёй паэме "Падарожжы" вельмі трапна ж назваў турму на Лукішках "вастрожным Парнасам" (колькі там вершаў з'явілася!), а вязняў (зноў жа ўдала, бо паводле законаў беларускай мовы) ахрысціў – везнярамі.

Заходнебеларускія паэты і палітыкі прайшлі праз "Лукішкі" амаль пайменна, амаль кожны...

Я ўжо крыху пісаў аб тым, якія парадкі панавалі ў славутым астрозе, і сёння гаворка будзе пра тое ж...

Чытаю другі параграф загаду № 76 ад 17 сакавіка 1926 г., падпісаны ўсё тым жа К. Барташэвічам:

"Не адзін раз персаналу наглядчыкаў даверанай мне турмы даваліся падрабязныя ўказанні, як трэба дзейнічаць у выпадках непаслушэнства зняволеных, што было нават зазначана і ў загадзе № 47 за 16 лютага 1925 г.

Нягледзячы на тое, 20 лютага г.(этага) г.(ода) падчас вяртання палітычных засуджаных са шпацыру, наглядчык Язэп Руткоўскі з прычыны непаслушэнства засуджаных ужыў у дачыненні да іх нетактоўныя словы.

Падкрэсліваючы недапушчальнасць падобнага, яшчэ раз тлумачу: згодна п.(унктам) 1 і 3 "Часовых правілаў для вязняў" ад 25.IX.1922 г., кожны вязень павінен падначальвацца турэмнай уладзе, і паводзіны вязняў у дачыненні да прадстаўнікоў турэмнай улады павінны быць пачцівымі – тым часам, згодна арт.(ыкула) 5 "Агульнага турэмнага рэгламенту", турэмны працаўнік, які патрабуе ад вязня строгага выканання правілаў турэмнага рэгламенту (стыль адпаведны! *Л. Д.-М.*) і вызначанага ўнутранага парадку, павінен у абыходжанні з вязнем быць рашучым, але захоўваць спакой і раўнавагу, а ў выпадку непаслухмянасці вязня павінен скласці вышэйшай уладзе рапарт, а не рэагаваць словам або дзеяннем.

Сказанае прыняць да ведама і строгага выканання ўсяму персаналу наглядчыкаў даверанай мне турмы; той, хто не падначаліцца гэтым патрабаванням, будзе прыцягнуты да адказнасці.

Інфармацыя: рапарт ст.(аршага) нагл.(ядчыка) Барэйшы ад 28.II. г.(этага) г.(ода); наглядчыка Януліна ад 22.II. г.(этага) г.(ода) і пратакол ад 2.III. г.(этага) г.(ода)..."

Багата клопату меў пан Барташэвіч – пільнаваць астрожнікаў, выхоўваць сваіх наглядчыкаў-дазорцаў (дзіва дзіўнае: яны не павінны былі ўжываць брудную лаянку!), прадухіляць бунты, слаць рапарты пракурорам і каменданту віленскай дзяржаўнай паліцыі; нават даводзілася пісаць і ў віленскую дырэкцыю пошт і тэлеграфаў.

Вось ягоны трывожны ліст з паметай “В.(ельмі) Тэрмінова” ад 30 снежня 1925 г.:

“Паведамляю, што 24.XII. г.(этага) г.(ода) снежная бура перарвала тэлефонную сувязь у даверанай мне турме і да гэтага часу лінія яшчэ не адноўлена.

З прычыны таго, што турма на “Лукішках” знаходзіцца ў аддаленым раёне места і з мэтай прадухілення магчымых выпадкаў бунту вязняў, уцёкаў і т.(аму) п.(адобнага), а таксама ж і з неабходнасці пастаянных зносін з уладамі, турма не можа заставацца без тэлефоннай сувязі.

Прашу вашай ласкі як найхутчэй направіць тэлефонную лінію “турма – места”...”

Трывога пана Барташэвіча цалкам зразумелая – тыдзень у “Лукішках” маўчалі тэлефоны!

А гэта не жарты!

На той момант за кратамі знаходзілася 1200 зняволеных, у ліку якіх было 300 асоб, атэставаных, як дыверсанты, шпіёны ды іншыя вельмі сур’ёзныя злачынцы.

З паўгода назад астрожнікі ўжо бунтаваліся, і ахова ледзьве іх супакоіла.

Таму зусім невыпадкова, што ў той жа дзень, 30 снежня 1925 г., начальнік вязніцы, нібыта не верачы дырэкцыі пошт і тэлеграфаў, пісьмова звярнуўся яшчэ й да пракурора Віленскага акруговага суда з просьбай умяшацца дзеля тэрміновага рамонту тэлефоннай лініі...

Ад цяжкой работы пан Барташэвіч адпачываў на Замкавай гары – проста падымаўся да вежы Гедыміна і аглядаў любую Вільню.

Псіхалагічны фокус быў у тым, што адсюль можна было ўбачыць амаль кожны свецкі будынак, і толькі не бачна была яго турма!

І можна было ўбачыць амаль кожны храм, і толькі не бачна была царква Святога Мікалая Цудатворцы, што стаяла ў турэмным двары!

Дзіўна, але гэта супакойвала начальніка...

Замкавая гара вабіла не толькі пана Барташэвіча; замкавая гара з вежай Гедыміна абуджала душы, можна сказаць, усіх – турэмшчыкаў, паэтаў і непаэтаў...

...Зірні, зірні: гара якая!
На ёй і будка цагляная...

Так усклікаў дзядзька Антось у паэме Якуба Коласа “Новая зямля”.

Для стаўбцоўскага дзядзькі адзін з нашых нацыянальных сімвалаў – усяго толькі цагляная будка!

Тая ж непрывабная карціна і ў вершы Янкі Купалы “Замкавая гара”:

Над Віллёй-ракой,
Па гары крутой
Туман сцелецца;
Не то лом-ламок,
Не то дом-дамок
Там віднеецца
(...)
Як катух ля кур,
Дрэмле пусткай мур,

Цэгла валіцца;
Нават гнёзды віць
Птушка не ляціць, –
Знаць, пужаецца...

Сітуацыю ратуе Уладзімір Жылка; для яго вежа Гедыміна – не будка, не лом-ламок і не катух, а – прошча, нават – беларуская Кааба:

Руіна замчышча – Кааба –
Ім (беларусам. *Л. Д.-М.*) прошча ўздыханняў і дум.
Салодкіх лятункаў – прываба,
Ў сваім запусценні – іх сум...
*("Вершы аб Вільні")*

Аднак жа до мудраваць, трэба й падсілкавацца.

5 кастрычніка паблізу архіва, у суседнім будынку, мы з Аленай знайшлі вельмі танную сталоўку.

Танную і смачную!

Ці не радасць!

А гаспадыняй у той страўні – віленская беларуска, хаця й называе сябе палячкай, Тэрэза; адкрытая, даверлівая і гаваркая жанчына.

Тэрэза ўзрадавалася, калі ўбачыла мяне:

– Вы зноў прыехалі?

– Зноў...

– Чым вас накарміць?

– А чым і кармілі...

Людзей не было, і пакуль мой полудзень грэўся і пёкся, мы, вядома ж, пагаварылі...

За сваю работу Тэрэза мае 2000 літаў; да слова сказаць, жанчыны, якія працуюць у архіве, атрымліваюць толькі тысячу, ці крыху больш...

Тэрэза расказала гэтым разам пра сваю сям'ю – найбольш пра зяця, яму ўсяго дваццаць пяць, але ён ужо майстар – вельмі добры дахаўшчык; праўда, ніяк не мог дарабіць пад Вільняй уласны дом – увесь час бракавала грошай.

Кідаўся па ўсёй Літве, крыў адрыны і хаты, гаражы і палацы, ды ўсё адно з заработкам туга было.

Тады пераплыў у Швецыю, і адразу ж удача казачная напаткала – за два месяцы зарабіў ажно 15000 літаў (шведскія кроны Тэрэза імгненна пераводзіла ў мясцовую валюту)!

Услед за ім паехала й жонка з дзіцям (Тэрэзіна дачка і ўнучка), стала там за няньку, і за дзень работы мае 170 літаў (70 даляраў)!

Зяць і дачка прыкінулі ўжо, хвалілася задаволеная жанчына: каб дабудаваць дом пад Вільняй, трэба 300000 літаў; думаюць, гады за тры запрацаваць гэту суму...

– А вернуцца? – з недаверам спытаў я.

– От і я баюся, што застануцца, бо надта ж ім там падабаецца!

Тэрэзіна ўнучка яшчэ не ходзіць у школу, і Шведскае Каралеўства дае на яе ўтрыманне 1000 літаў; Літоўская ж Рэспубліка выдавала на дзіця толькі 50...

А яшчэ Тэрэза даверылася, што ў яе пяць гектараў зямлі, якія, праўда, пустуюць; летась хацела прадаць адзін гектар, але ніхто не купіў...

Так я, не забываючы слухаць, падсілкаваўся і вярнуўся ў архіў, падахвочаны жаданнем знайсці звесткі пра бунт на “Лукішках”.

Доўга не шукаў.

Вось рапарт Барташэвіча за № 11933.

2 ліпеня 1925 г. начальнік турмы накіраваў данясенне пад грыфам “Вельмі тэрмінова. Сакрэтна” пракурору Віленскага акруговага суда:

“29 чэрвеня г.(этага) г.(ода) а палове 9-й гадз.(іны) вечара ў даверанай мне турме адбылося забурэнне вязняў, якое выявілася ў крыках некалькі сотняў чалавек, груканні ў дзверы і вокны і масавым закліку вырывацца з камер; дзве банды невядомых тыпаў білі ў вароты, адна з боку вуліцы Турэмнай, а другая з боку вуліцы Флісавай.

Наплыў натоўпу на згаданых вуліцах пашыраўся без ніякіх перашкодаў, таму што паблізу турмы няма стацыянарных паліцэйскіх пастарункаў.

З той прычыны, што падобныя выступленні вязняў могуць у бліжэйшай будучыні паўтарыцца (аб чым сведчыць далучаны да гэтага данясення рапарт службовага інспектара п.(ана) Уладзісл ава Рэгіні пра падслуханую размову паміж дыверсантамі і шпіёнамі, якія знаходзяцца ў даверанай мне турме і якія разлічваюць здзейсніць свае намеры пры дапамозе звонку) – прашу Пана Пракурора быць ласкавым распарадзіцца адносна выстаўлення стацыянарнага паліцэйскага пастарунка ля даверанай мне турмы ад вуліцы Турэмнай, а таксама ж пусціць штодзённы паліцэйскі патруль вакол турмы ад 7-й гадз.(іны) вечара да 7-й раніцы...”

Здзіўляюць, вядома, не паводзіны вязняў, а тое, што ў 1925 г. каля “Лукішак” не было ніводнага паліцэйскага паста.

А дзве вулічныя банды (дарэчы, што за смельчакі такія?) з двух бакоў лёгка маглі б выламаць вароты, і карціна выйшла б неверагодная – больш за тысячу зняволеных умомант запаланілі б Вільню!

Таго не сталася з простай прычыны: ахова некалькі разоў стрэліла ў паветра, і стрэлы астудзілі рызыкантаў.

Наша ж паэзія пра такія выпадкі стварала перабольшаныя малюнкі: “...Вунь “Лукішкі”, Дзе ў песні надзей белапанскія карнікі Кулямі білі з турэмнае вышкі...” (П. Панчанка)

Не, не толькі ў “песні надзей” – як бачна, “белапанскія карнікі” стралялі яшчэ і ў паветра.

Дзеля парадку...

Дык вось, Барташэвіч далучыў да свайго данясення рапарт інспектара У. Рэгіні, які датаваны 1 ліпеня 1925 г. і адрасаваны яму, Барташэвічу:

“Паведамляю Пану Начальніку – у час абходу і кантролю наглядчык Станіслаў Зыга далажыў мне, што на 3-м паверсе левага крыла ў камеры № 60 (нумар называю прыблізна) вязень, высунуўшы ў акно галаву, размаўляў з вязнямі суседніх камер №№ 61, 62 наступным чынам: “... Шкада, што не ўдалося, амаль увесь корпус турмы ўжо быў акружаны! Але няма чаго засмучацца, не сёння дык заўтра, але тое здарыцца!” Прычым дадаў па-расійску: “За неделю все равно нас освободят!” (Не через неделю, а за неделю! Гэта, заўважу, не зусім па-расійску. *Л. Д.-М.*) Прыняўшы вусны даклад у прысутнасці нагл.(ядчыка) Краюшкіна, я асабіста праверыў апісанне знешнасці вышэйзгаданага вязня, што цалкам супала з маёй здагадкай. Улічваючы інцыдэнт, які адбыўся 29.VI. г.(этага) г.(ода), свой рапарт падаю Пану Начальніку на вырашэнне і службовы

ўжытак. У камеры №60 сядзіць падсл.(едны) Дзяніс Глінскі, абвінавачаны ў прыналежнасці да дыверсійных бандаў і ў шпіянажы...”

Так пісаў службовец Рэгіні, пра існаванне якога я даведаўся 5 кастрычніка з данясення інспектара Поляка.

(Дарэчы, вярнуўшыся ў Менск, я прачытаў рапарт Рэгіні Анатолю Сідарэвічу, і той, як зазвычай, заліўся сваім характэрным трубным смехам:

– Выходзіць, на трэцім паверсе “Лукішак” не было кратаў, калі дыверсант і шпіён Дзяніс Глінскі мог свабодна высунуць галаву з акна! Пенітэнцыярная сістэма міжваеннай Польшчы была недасканалая!

Адсмяяўшыся, Анатоль з бачным гумарам дадаў:

– І тут вінаваты царызм! Бо такую спадчыну палякі атрымалі ад царскай пенітэнцыярнай сістэмы!)

Начальнік “Лукішак” Барташэвіч заклікаў сваіх падначаленых захоўваць спакой і раўнавагу, аднак жа сам (і гэта вельмі адчуваецца!) страціў і першае, і другое.

Ужо 3 ліпеня ён зноў піша пракурору:

“Спасылаючыся на мой рапарт ад 2.VII. г.(этага) г.(ода) № 11933, прашу Вашай ласкі паведаміць, якім чынам і да каго мне звяртацца па дапамогу ў выпадку авантурных беспарадкаў у турме...”

Разгубленасць поўная!

І нядзіўна!

Панядзелак, 29 чэрвеня, добра такі даўся ў знакі Барташэвічу, бо яшчэ адно здарэнне адбылося і было пісьмова засведчана...

Паліцэйскі інспектар Браніслаў Поляк 30.VI.1925 г. паведамляў Барташэвічу:

“29 чэрвеня г.(этага) г.(ода) а 20-й гадз.(іне) падследчая зняволеная Ганна Пабежа, з агульнай камеры № 38 (гэта другі корпус “Лукішак”. *Л.Д.-М.*) у прыступе істэрыі ўчыніла скандал, крычала, лаяла наглядчыкаў і суседак па камеры, біла ў дзверы.

За інспектара дзяжурыў старшы наглядчык Антоні Віргановіч; ён стараўся супакоіць Пабежу, аднак ніякія ўгаворы не памагалі. Упаўшы долу, Пабежа білася галавой аб паркет і не пакідала крычаць. Занепакоеныя вязні ўзнялі гвалт, пачалі скуголіць і раўці, біць табурэткамі і кулакамі ў дзверы камер.

Адразу ж паднятая па трывозе турэмная служба з’явілася ў поўным складзе і разам з паднятай па трывозе Дзяржаўнай Паліцыяй акружыла ўсе двары, а таксама турэмныя будынкі.

Падчас гвалту турэмны персанал колькі разоў стрэліў у паветра, і гэта значна супакоіла зняволеных.

На Пабежу, якая ўчыніла авантуру, надзелі вар’яцкую кашулю, аднеслі ў турэмны шпіталь, і ў вязніцы наступіў спакой.

Як ужо адзначалася, за інспектара дзяжурыў старшы наглядчык Антоні Віргановіч, а за старшага наглядчыка быў малодшы дазорца Ян Борух...”

На гэтым рапарце Барташэвіч налажыў рэзалюцыю, згодна якое інспектар Поляк павінен быў дапытаць турэмны персанал і тых вязняў, камеры якіх знаходзіліся побач з камерай Пабежы, а таксама ж і яе сукамерніц.

Паказанні далі старшы наглядчык Антоні Віргановіч і малодшыя наглядчыкі Ян Борух, Юльян Янулін, Антоні Акулевіч і Францішак Бжазінскі.

Былі дапытаны таксама ж і зняволеныя Марыя Адамовіч, Уладзіслава Цяслінская, Юля Бянкоўская, Алена Халімончыкава і Зінаіда Яняк.

І службоўцы мужчыны, і асуджаныя жанчыны паказалі: у маладой і дужай Ганны Пабежы круты нораў; свой бунт яна спланавала; 29 чэрвеня сказала таварышкам: "Спіце, бо вечарам не будзеце мець часу спаць! Пабачыце, што будзе!"

Вечарам жа, бунтуючыся, крычала ахове:

– Пасадзіце мяне ў карцар, бо калі не пасадзіце, выб'ю вокны і дзверы, барбосы!

Пабежа абзывала ахоўнікаў па-расійску і па-польску і клікала на дапамогу вязня Васілеўскага – вядомага бандыта, які рабіў адміністрацыі "Лукішак" заўсёды багата клопату.

Васілеўскі ж, пачуўшы лямант Пабежы, са сваёй камеры крычаў:

– Хлопцы, наглядчыкі б'юць Пабежу!

А наглядчыкі якраз пратакольна бажыліся, што скандальную зняволеную не білі, а толькі закрывалі ёй рот, каб не крычала і не заахвочвала астрожнікаў да бунту.

Наглядчыкі не ўтойвалі, што спачатку завялі крыкуху ў карцар, палажылі на сяннік, а тады ўжо аднеслі ў шпіталь пад апеку дзвюх моцных вязніц і таксама ж дзвюх наглядчыц.

І асуджаныя жанчыны пацвердзілі: Пабежу ніхто не біў!

45-гадовая Марыя Адамовіч (з Раманавага сяла, павет Збараж), паставіўшы пад сваім прызнаннем тры крыжыкі, адзначыла: Пабежа прасілася ў карцар ці ў адзіночку; наглядчыца ж казала Пабежы, што яе туды няма за што садзіць, а старшы дазорца Віргановіч супакойваў зняволеную: сёння свята (апосталаў Пятра і Паўла. *Л. Д.-М.*), таму ў карцар яе не павядзе, а зробіць гэта заўтра раніцай, у аўторак... Калі ж усё-ткі Пабежа апынулася ў цеснай адзіночцы і пачала крычма крычаць, то ўслед за ёй закрычалі й малалетнія дзяўчаты, якія сядзелі ў суседняй камеры, што Пабежу ў карцары б'юць...

А ўсё пачыналася па-дзіцячы проста: Пабежа падсунула да дзвярэй вядро, паставіла на яго табурэтку і, ускочыўшы на табурэтку, выціснула шыбу ў акне па-над дзвярыма сваёй камеры.

24-гадовая Уладзіслава Цяслінская (дзяўчына з Вільні) паказала, што дазорца папярэдзіў Пабежу: калі яна вылезе праз акно на калідор, то ён будзе страляць.

Пабежа адрэзала:

– Страляй сабе ў лоб!

Калі ж пазней Пабежу вялі па калідоры, яна выгукнула:

– Іду ў карцар!

І гэта, на думку Цяслінскай, было сігналам да бунту...

Юля Бянкоўская (27 гадоў; з Янава, Кобрынскага павета), Алена Халімончыкава (23 гады; з Менска-Літоўскага, але перад арыштам жыла ў Дуброве Стаўбцоўскага павета) і Зінаіда Яняк (20 гадоў; з Вільні, з вуліцы Пагоднай № 222) – у сваіх паказаннях былі скупыя, таму зноў вярнуся да слоў Марыі Адамовіч.

Жонка Альфонса і дачка Сцяпана Тамчыка, непісьменная Марыя Адамовіч ажывіла пратакол такім сакавітымназіраннем: Пабежа не толькі абзывала наглядчыкаў "барбосамі", але й паказвала ім свой зад...

(Анатолю Сідарэвічу, дарэчы, спадабалася такая лінія абароны, ён назваў яе вяскова-жаночай, а яшчэ высока ацаніў дзеянні сына Яна і Караліны, 54-гадовага старшага наглядчыка Віргановіча: не разгубіўся, у

час паклікаў дапамогу, правільна паводзіў сябе з ненармальнай Пабежай, нагадаў пра свята апосталаў Пятра і Паўла і, пэўна ж, гэта ён загадаў даць стрэлы ў паветра...

А пра Барташэвіча Анатоль сказаў:

– Мусіць, ён з былых легіянераў. Не пайшоў у асаднікі, пайшоў у турэмшчыкі, але не нахапаўся яшчэ вопыту... Нічога, праз паўтара года, калі на "Лукішкі" трапіць кіраўніцтва "Грамады", вопыт у яго з'явіцца!..)

Ужо на адыходзе ў апошняй папцы я прачытаў і пра Максіма Танка: 25 жніўня 1937 г. кіраўнік архіва Віленскага акруговага суда за нумарам 10378 паведаміў у сакратарыят 3-га крымінальнага аддзела таго ж суда, што архіў вяртае дасланыя 24 жніўня г.(этага) г.(ода) акты № К. 172/33 у справе Яўгена Скурко (wyk. 220 – k. poz. 169), том 6, з мэтай далучэння да іншых тамоў справы...

Не зусім яснае паведамленне, але можна паразважаць і гэтак – ці не рыхтавалі ў 1937 г. новы працэс для паэта, яшчэ адзін ход на "Лукішкі"...

І самае на гэты дзень апошняе...

У цягніку пазнаёміўся з Томасам – маладым літоўскім архітэктарам; ён ехаў у Менск – у нейкім нашым праектным бюро яго чакала цікавая праца.

Як учора з Сігітасам, так і сёння з Томасам гаварыў і пра "цібуліс", і пра "свагунас".

Аказалася, мой новы знаёмы ў размове з бацькамі карыстаецца словам "цібуліс", бо лексему "свагунас" ужываюць тыя людзі, якія размаўляюць на літаратурнай мове.

Прыемна, што паспаліты літоўскі люд маю любімую расліну называе амаль па-беларуску: "цібуліс"...

– А вось і зусім новае слова! – заключыў Томас. – Замест "манітор" нашы філолагі прапануюць казаць "вайздуокліс"!

Заўважыўшы мой запытальны позірк, патлумачыў:

– Вайздас – гэта від...

*3 ліпеня 2011. Нядзеля. Менск.*

Ігар Кананові



...Жыві, пакуль жывыя мы –
Гучы, зняважаная мова...

# Крочу далей

## *НАКЦЮРН*

Ноч патушыла
радыёстанцыі
чалавечых свядомасцей,
і мне лягчэй лунаць
у чорным,
халодным небе –
нішто не збівае з панталыку
прыборы навігацыі...

Ноч дабраславіла
мае камуфляжныя
хмурныя крылы
на ўвесь тэрмін
свайго панавання.

Зоркі ўверсе
міргаюць зоркам унізе.

Змаўляюцца патаемна
або дражняцца па-сяброўску?

А я паміж імі.
І мне нічога не трэба –
толькі б своечасова
надышоў ранак,
і не скончылася ў гэтае
імгненне
ноч.

## *НА АРБІЦЕ ТВАЁЙ*

*серэнада глыбокага космасу*

*Б. К.*

Я ізноў на арбіце тваёй.
Хоць на дальняй, няпэўнай, і ўсё-ткі...
Год блуканняў пралёг за кармой.
І на смак – ну нічым не салодкі!

Я шукаў па галактыцы рай.
Сустракаў мудрацоў і вар'ятаў.
А цяпер ты мяне сустракай.
Там адно – пекла сто варыянтаў.

Сустракай. Я вярнуўся з жыцця,
Што ламае і душы, і косці.
Ды нясмела, нібыта дзіця,
Стаў наводдаль, чакаю чагосьці...

Але вось што цікава найбольш:
Не збіраўся сюды паварочваць.
Схамянуліся радасць і боль,
Асвяцілася памяць табой,
І адчуў, без малога прарочы,
Пакліч. Кінуўшы д'яблам свой план,
('Шчэ паспею прабіцца ў героі)
Залучыў. Зноў – не раб і не пан.
Для радараў тваіх – астэроід...

Я ізноў на арбіце – былой.
Нерашучы, натхнёны і смешны.
Выйду з ценю – хачу быць з табой.
Не саб'еш, не прагоніш, канечне...

### *ДАЎНІ НАДПІС НА СЦЯНЕ КАМЕРЫ*

Хоць лепшых да сумы й турмы
Ты прывяла і зноў гатова –
Жыві, пакуль жывыя мы –
Гучы, зняважаная мова...

### *ВЯРТАННЕ З 90-х*

Жыццём знявечана сумленне.
Паганы лёс? Паганы час?
Не стаў падонкам, тым не меней.
І вось вяртаюся да вас –
Не паламаных ураганам.
І ў гэтым – лепшых за мяне.
Пакуль душа гаіла раны,
У спрэчках з болем разумнеў...

Збіраў здароўе, як калоссе
Пасля шалёнага жніва.
На цернях сэрца засталося,
Насіла "кулю" галава...

А мне заўжды лягчэй быць шчырым
(Наівам кпіны выклікаў).
Народжаны Святлом і Мірам,
Вяртаюся. Я так сказаў.

### *ГРАНАТА*

*Б. К.*

Прыходзіць не пяшчота, а самота.
Ізноў усплыў тапелец-успамін...
Няхай цябе кахае адзінота,
Калі да сёння курчуся адзін!

Гранату-смс напоўніў болем,
І пстрыкае, выходзячы, чака...
"Няхай цябе чакае твая доля,
Як я цябе, каханая, чакаў!"

### *"СТОПУДОВАЯ" МІСІЯ*

Цяжка быць
"стопудовым паэтам".

Звонку –
ганаровая місія.
А насамрэч –
адчуваецца кожны пуд,
і кожны пуд
налягае па-свойму...

## *ДЫВЕРСІЯ*

*Б. К.*

Сакавік затрымаў зіму.
Звонкі холад заліў прастору.
І гадаюць усе – чаму?
Хоць і сонейка – у гуморы.

Людзям клопат. А мне на смех.
Бо квітнела душа зімою.
Вось і люба – зноў бачыць снег.
Шчасце ціхае зноў са мною...

На спатканні намысліў так:
“Плыткі сэнс у дзявочым слове!..”
І сказаў табе, што вядзьмак,
А зіму адпушчу пры ўмове...

– Пры якой? – перабіла ты.
Я адразу:
– Табе цікава?
І пачаў “аднаўляць масты”:
– Ну, то слухай, якая справа.

Горкі смак у кахання ёсць.
Разумееш мяне, канечне...
Так, у лёсе тваім я – госць,
Але слодычы хочу грэшнай.

Лыжку мёду... Адзіны раз
Пацалуй – за чаканне тое...
І вясною зальецца час,
Ну, а я адплыву з зімою...

Тры дэкады марнуем свет –
Не даём палыхнуць зялёным.
Гіне радасны першацвет
Пад маўчаннем і пад заклёнам...

## *ДАНТЭ*

*Б. К.*

Не хачу вяртацца. Не цягні!
Хоць у нетрах полымем каханне...
Нуль, як вынік гэтай мітусні,
Сцяў пятлёй душы маёй дыханне...

Як разведчык, прыйдзе смс.
Адкажу, і зноў ланцуг замкнуты.
Ток пайшоў. Адроджаны працэс,
Можа быць, заслужанай пакуты.

Дзякуй Богу, ведаю ў чым соль
Гэтай дзеі. Хай натхненне кліча.
Я легендай заплачу за боль,
За тваю нязгоду, Беатрычэ...

Прысвячэнне сціплае: “Б. К.”
Восьмы верш адчайнае эскадры.
І нясе штодзённасці рака
Крыгамі былога шчасця кадры...

## *НАБАЖЭНСТВЫ*

Папрасіў прабачэння
ў мамы
і пакінуў царкву –
стоена збег
ад гнятліва-груvасткага
рэчытатыву бацюшкі...

А сёння
з-пад купала
воблака святла дабраслаўляе
зямную павагу
і ўрачыстую малітоўнасць цішыні
Божай музыкай
на струнах промняў,

хоць святар яшчэ не пачаў...

## *НА КРЫЖЫ ПАЭЗІІ*

Як гусінае пяро ў атрамант,
акунаю аловак
у хворую на каханне,

а праз гэта
мулкую і пякучую,
душу –

каб на зыходзе сіл
выснаваць:
“Дзякую, Божа!”

### ***ХАРАКІРЫ***

*Б. К.*

...Ты выцякала
з майго сэрца
праз вялікую колькасць
безнадзейных ран.
І на секунду
працяла вусціш:
а што, калі
апошнія кроплі
выведуць за сабой
і сляпое, неразумнае жыццё...

Не.
У вочы
кінуліся фарбы,
вясна кемлівым д’яблам
адразу ж захапіла
вызваленыя пакоі...

А ў выніку харакіры
спакойна ўстаў на ногі
і цвёрда крочу далей.

Алесь Гізун



…уласнай таямніцай урэшце
будзеш душыцца ты адзін…

# Трэцяя рука мастака Руневіча

***Навелы***

## Напаўголасу

Я пайшоў ад іх, калі пачуў у хмызах на іншым беразе гучны крык невядомае птушкі. Пасунуўся ажно да мастка – невялічкай кладкі за мілю адгэтуль. Там, у засені, стаяў чужы конь, дайманы жамярой. Сціжма дробных крывасмокаў найболей абсядала вочы, грудзіну й пахвінне. Яны не пакідалі вачэй нават тады, калі я паволі абіраў іх жменямі, расціраючы проста між пальцаў. Конь у крывавых акулярах нерухома стаяў, выказваючы адно пакору і скрайні спакой, уласцівыя хіба нейкай камернай, непрамоўленай напоўны голас любові, любові цянётаў – тае, што кагадзе пакінула мае рукі спрэс у ягонай крыві.

Рака ў гэтым лясным зацішку – глыбкае, сцюдзёнае рукаво. Плынь з геніяльнай зацятасцю зацягвае жвір глеевым смеццем і зноў расхінае ягонае жоўта-халоднае бяздонне – цыклічны нонканфармізм маладое, неўтаймоўнае вады.

Я назіраю: кроў лёгка змываецца з рук. І нястомнаму ў вечнасці сонцу застаецца адно – іх зыркая бель. Плынь нясе кроў далей, да вусця. Там – рыбары. Сёння яны пагналі мяне, злаяўшы, маўляў, я – недарэка і зусім не ўмею лавіць рыбы. Позірк аднаго з іх выказваў злую пагарду да мяне.

Так, я сапраўды не ўмею лавіць рыбы. Ці варта тое аспрэчваць! Я толькі моўчкі пакінуў рыбароў, абуджаны тым сцішным крыкам птаха.

Каб не гэтая замінка з канём, я даўно шмаргануў бы праз масток. Адылі цяпер я заўважаю: лес на тым беразе неяк адступіў, воку нават не спаткаць хмызоў, сціх і птушыны крык. Адно дзікая, маркотная далячынь напаўголасу шэпча пра тое новае, народжанае кагадзе ў гэтай нерушы, тое, што мелася спазнацца ані на крок далей ад гэтага месца.

Я паварочваю назад.

## Гадзіннікі

***I***

Знаёмцы і калегі па працы абураліся на маю чарговую выдумку. Маўляў, гэта непамыснасць дый сам я – ледзь не суцэльная для іх непамыснасць. Як далей – дык горай. Рэч у тым, што з нядаўняга часу я пачаў насіць адразу два гадзіннікі – па адным на кожнай руцэ. Гэткі просты, як дым, адказ на бясконцыя закіды на маю маруднасць ды непаспяванне ўсяго і ўсюды. Адылі ж... Дырэктарка, як пабачыла тое, адразу й беспаваротна вырашыла паставіць крыж на маім вынаходніцтве: гэта відавочны маветон.

Напачатку я спрабаваў патлумачыць, што задумка мая аб'явілася перадусім нават не дзеля мяне самога, а дзеля нашае агульнае справы, зладжанасці й паспяховасці. Даводзіў, што вось – гадзіннікі пайшлі як мае быць, стрэлкі ўпэўнена памкнулі наперад, усе механізмы працуюць спраўна... І хто цяпер здалеў бы адрозніць іх рытм ад рытмаў гэтага жыцця?..

***II***

Шчасце: я дабег. Ён глядзіць на гадзіннік, вітаецца, замаўляе каву. Гэтым разам, кажа мой сябар, я выглядаю лепш, чымся тады, улетку, калі мы бачыліся апошнім разам. Святло ягонага твару бруіцца няспынна, я ўсміхаюся, і нашая гутарка завязваецца ў звычайнай утульнай атмасферы. Распавядаю: учора апоўначы не ў стане заснуць, я колькі разоў перачытваў Караткевічавага “Зайца...”*. Невялічкая онталагічная сцэнка наконадні зімы пад акампанемент Marche Funebre Шапэна, у пустой кватэры без даху ці ў памежных абсадах, наранкі ці проці ночы, з ячмянёвым напоем і прыўкрасным настроем – неістотна. Што яны тамака спяваюць, гэтыя трыгубыя, касавокія істоты? Вы чуеце? Га?! Ці чуеце?!! Распавядзіце ж, ліха на вас!!

Сябар адводзіць позірк да вакна на праспект, і ягоныя вочы глядзяць на мяне ўжо адтуль. Я заўважаю, што гэты халодны горад робіцца ўсё больш чужым мне.

***III***

Заўтра будзе халодны дзень. Я пазнаю гэта па тым, як аблокі спешна

* Маецца на ўвазе верш Уладзіміра Караткевіча “Заяц варыць піва”.

збіраюцца ў вырай. Сіноптыкі (у іх – свае разлікі) запэўніваюць, што халады не надоўга.

На прыпынку некалькі мажных кабет з пакункамі кідаюцца ад лаваў да аўтобуса. Яны думаюць, што паспеюць.

У неастылыя яшчэ каляіны аўтобуса ў такт секундавым гадзінніка-вым стрэлкам набягае лядовая вада: не-змя-ня-е-цца-ні-чо-га... Ад майго першага гадзінніка ў памяці засталіся адныя рваныя кругі на бузаватай вадзе затопленай каляіны.

***IV***

Да К. я спазніўся: аўтобус доўга кружляў кепска пазнавальнымі рэчаіснасцямі...

Сяджу на кухні, каля вакна: ступак на ступаку – грэецца. У кватэры халодна. За вакном яшчэ адзін дзень намагаецца апраўдаць сваё існаванне. Адно б не давялося выбудоўваць пакутлівых дыялогаў – як-небудзь пераўжывем.

Нутро тузае й холад страшэнны. К. мітусіцца каля пліты і распавядае, як правільна пячэцца Мікольскае пірозіва. Я ўсёй даланёй сціскаю гарачы кубак з гарбатай. Пячэ – няўсцерп. Маўклівы такі боль. Рука пячэ пекатам, скура, здаецца, пакідае пальцы, з вачэй зараз пырснуць слёзы.

– Але ж і смешны ў цябе твар. Чаго ты гэтак скрывіўся? – К. на імгненне кінула на мяне позірк, здымаючы печыва з бляхі.

Дасканалыя, нерухомыя формы печыва на плеценым лазовым сподзе пачалі нагадваць мне надмагільныя пліты з піктаграмамі і надпісамі на няўцямнай мове. Мы пілі гарбату, пераадольваючы маўчанне. Кожны пячэнік К. спачатку ламала ў руках напалову, пасля кожную – яшчэ напалову і пасля клала ў рот.

За вакном ніяк не мог захлынуцца ўсё той жа дзень. Надпісы на плітах пачалі шчытнець і ўжо амаль страцілі прабелы. Які ўжо раз К. прапанавала мне частавацца. Не забіраючы позірку ад вакна, я неяк апынуўся ў вітальні і хутка вылузаўся на вуліцу. У той момант я няздольны быў прыгадаць ані слова надзеі ці развітання. Ані слова, ані сябе. К. пакрыўдзілася.

***V***

Калі апошні гадзіннік паляціць у вакно праз ноч, толькі яна адгэтуль вырашае пытанні часу, усталёўвае межы і нарматывы жыццёвых кругабегаў. І па-за тым гэты снежаньскі морак кранае маю цішыню, гэты вецер выкручвае згалелым дрэвам рукі і раскідае іх на маёй вогкай сцяжыне, дзе змагаюцца міжсобку святлацені месяца і ліхтароў. Гэтая халодная вада точыць бераг, з якога я пазіраю ў яе сляпую плынь. Меланхалічны плёскат хваляў пераўтварае думкі і сны ў маўклівых белых рыбінаў, што палеглі на дне пракаветнага возера і чакаюць свайго канца, каб урэшце бясконца нараджацца без мэты наноў. Тады кругавід чарговым навaратам акрэсліць межы змроку і святла, і, пракінуўшыся, я ўбачу сябе басаnож каля вакна з разгорнутымі нататнікамі запаленых вачэй.

## Боўць, альбо Трэцяя рука мастака Руневіча

Ёсць рэчы, пра якія мастак Руневіч доўгі час нікому не распавядаў. Але ўсё памянялася пасля смерці ягонае бабкі. Неяк наранку яна выбегла на

ганак свае хаты і стала, загледзеўшыся на птушыныя сляды на адліжным снезе. Дзед так і заспеў яе там. Пасля ён казаў, што дужа жахнуўся таго разу бабчыных вачэй на раскіданым твары. Дзед завёў яе з вуліцы ў хату і паклаў у неастылы яшчэ з ночы ложак, да якога бабка клыпала, як дзіця. Праз тры дні, нараніцу, хворая вымавіла першае ад таго дзіўнага выпадку і апошняе ў сваім жыцці слова:

– Боўць... – і таксама першая за гэты час бабчына ўсмешка вечным сполахам застыгла на ейным раптам памаладзелым твары.

Пра тую аказію ведала хіба вузкае кола сваякоў Руневіча. Тэма вар'яцтва наогул уважалася за заганную ў іхнім асяродку, яе не прынята было абмяркоўваць. Таму бабчына “спакойная смерць” заняла месца ціхуткай легенды ў цёмным кутку сямейнага радаводу. Тэма-табу. Тэма-боўць.

І акурат гэтая аказія развязала Руневічу рот. Ён пачаў распавядаць. Усім і ўсё, што іх цікавіла. І нават болей.

– Скажыце, як у Вас атрымліваецца паспяваць столькі рабіць у немаладым ужо веку? – найлепшы журналіст цэнтральнай газеты краіны, на інтэрв'ю з якім упершыню пагадзіўся Руневіч, нават не здагадваўся, наколькі гэтае банальнае пытанне наблізіла яго да сапраўднае сенсацыі.

– Насамрэч, сакрэт – у маёй невялічкай загане. Гэта выродства ад самага нараджэння – мая трэцяя рука, – Руневіч вырашыў адказаць наўпрост, без красамоўных прэлюдыяў і ўжо наважыўся быў задраць кашулю, але падумаў, што гэта будзе залішне. Мастак быў пэўны: нават такая дзёрзкая дэманстрацыя не пахісне маладога й порсткага тытана айчыннай журналістыкі, які ўжо загадзя ведаў адказы на ўсе пытанні.

Пасля Руневічу даволі было прачытаць адно загаловак: “Майстар пэндзля і метафары нарэшце адкрыўся”. Мастак усміхнуўся і адклаў газету ўбок. Ён не памыліўся. Цудоўная нагода адзначыць гэта кубачкам астыглай кавы.

“Яны зжаруць усё, нават “боўць”. Уласнай таямніцай урэшце будзеш душыцца ты адзін”, – запіша ён пазней у дзённіку сваёй кволай і неразвітай трэцяй рукою.

Віктар Жыбуль



...Хочацца саскочыць з месца
і спасцігнуць Новае.
З трэшчыны ў маёй душы цячэ смала сасновая...

# Мая каляровая рэвалюцыя

*   *   *

Ёсць жыццё не толькі на Марсе,
але і ў кардоннай скрынцы пад плотам.
Міма ідзеш? Пачакай, затрымайся
і зазірні ў шчыліну: што там?

Вось ты жывеш, як жывуць мільёны,
а тут, у скрынцы, свая рэальнасць.
Тут ад жыцця не чакаюць плёну,
тут – хлеб, вада і трансцэндэнтальнасць!

*   *   *

Пад прыціхлыя крокі
мінакоў пад балконам,
пад пустыя папрокі,
пад нямыя праклёны,
пад ахрыплыя тосты,
пад званы новай эры

вечар ціхі, як помста,
уваліўся ў кватэру.

* * *

У Сонца промняў багата.
За які зачапіцца – не ведаю.
Промні рэжу ў салату –
і абедаю імі, абедаю!

Промні ў штопары скручваю,
адкаркоўваю імі пляшкі.
Промнямі люльку атручваю
і выкурваю з першай зацяжкі.

Сотні іншапланетных моў
спасцігну, чытаючы промні.
А як вярнуся дамоў –
дзе быў, што рабіў – не ўспомню.

У Сонейка промняў шмат,
і не ведаю, за які зачапіцца!
І хочацца, спазнаўшы ўвесь гэты сонечны дэнатурат,
з халоднай Поўні напіцца...

* * *

Праз мяне без нагоды й згоды
правялі электрычны ток.
Падары мне глыток свабоды.
Гэта ж мала – толькі глыток!

Не найлепшая гэта ідэя –
засушыць мяне на зіму.
Падары мне шматок надзеі.
Гэта ж мала! Хоць... як каму.

Праз падземныя пераходы,
праз канаву і вадасцёк,
абмінаючы перашкоды,
ад нягодаў пусціўся б наўцёк.

Падары мне глыток свабоды,
каб хапіла яго назаўсёды!

* * *

гукаю цішыню
на травеньскай траве
траянскую свінню
падклаў я сам сабе

трапечацца трава
па ёй бягуць траянцы
мне з імі ваяваць
ці запрасіць на танцы

* * *

Белыя коні за чорнымі кратамі.
Душны пакой, на душы – неспакой.
Неба засыпана медпрэпаратамі,
хлоркай і ўсім, што было пад рукой.

Пляскае ў ладкі дзіравая раніца,
дыхае позехам цеплавузлоў.
Праз металёвы гушчар прадзіраецца
ў ножку з-пад крэсла Сусветнае Зло.

Штосьці брутальнае, штосьці фатальнае
ў напластаваннях нулёў і крыжоў.
Гарызанталь ты мая вертыкальная!
Можа, не варта... а можа... Няўжо?!

## НЕТРЫ ЦЯНІСТЫЯ, НЕТРЫ ЦЫЯНІСТЫЯ

Нетры цяністыя,
нетры цыяністыя...
Нехта сустрэнецца,
нехта расстанецца.
Кожную хвілю
ўва мне адбываюцца
сотні хімічных рэакцый.

Рух незаўважны
ў межах малекулы
лёс чалавечы
зварочвае некуды –
сцежкам душы
наканоўвае вектары,
свеціць нябачным пражэктарам.

Нехта ўнутры націскае на клавішу,
з кармы змываючы брудную плямішчу.

Перапляценне нечага тонкага
дзынкне струною – праявіцца вонкава.

Прывідны стан. Думка з думкай цалуецца.
Змрок расфарбуецца і трансфармуецца.

Іскра народзіцца – выбухнеш зарывам,
зробіцца шлях твой палётам Ікаравым.

Нетры цяністыя,
нетры цыяністыя...
Нератам з Леты
нешта выцягваецца,
нешта выцягваецца
і застаецца.
Нетры цяністыя,
нетры цыяністыя...
Што адбываецца?
Усё адбываецца!
Нават і тое,
што толькі здаецца.

### *ГОЛУБ ДРОНТ*

Я Голуб Дронт.
Я ўчора вымер.
А пазаўчора слухаў спеў кікімар.
Сядзеў, глядзеў, як зорны лось
праходзіў скрозь
зямную вось
і апынаўся недзе ў Крыме.

Ідзе ў паход нябачны фронт,
а неба засцілаюць хмары.
Вясна. Хто разбіваецца на пары,
а хто распачынае капрамонт.
Што я скажу на гэты конт?
Я Голуб Дронт.
І ўсё тут!

Цягаюць пчолы мёд у соты,
ужо абуўся кот у боты,
і Тата Карла бервяно сячэ,
і штосьць адбудзецца яшчэ,

а мне пляваць
на вашыя турботы –
пайшоў я крылы здабываць,
а ўсё астатняе я адкладу на потым.

Акеанічным потам
пакрыўся шар зямны,
з разяўленым бяздонным ротам
адзеўся ў Піфагоравы штаны.
Я ўчора ўладкаваўся на работу
чытаць чужыя сны.
Я, Голуб Дронт!

У бой ідзе нябачны фронт...

## *КХЫ КХА КХЭ*

Здараецца так
ты ўдыхаеш свежае паветра
і разам з глытком кіслароду
табе ў глотку трапляе кхэ
маленькая шорсткая жвірынка
кху кхы кха кхэ выпадкова
занесеная ветрам кхо
і яе бывае дастаткова кхы кха кхэ
каб закашляцца кху кхы кха кху кхо кхэ
і забыцца на свежасць кха
паветра якое кху кхэ кха кхо кхе
ты глынуў

## *ГОРШЫ ЗА ШПІЁНА*

Далёкасць блізкага,
адбіваючыся ў прызматычным люстэрку
вопытнага спазнання,
ператвараецца ў блізкасць далёкага.

Перспектыва насоўваецца,
захінаючы пярэдні план,
і здаецца, што ты ляжыш
раўнютка на лініі далягляду
і абмацваеш рукой глебу,
на якую баіцца ступіць нага.

Ты не ведаеш, каму верыць:
руцэ ці назе, розуму ці сэрцу,

трэцяму воку альбо
левай задняй пятцы.

І ты проста вагаешся,
бо пераход праз лінію далягляду
тут лічыцца куды большым злачынствам,
чым пераход праз дзяржаўную мяжу.

### – & +

Ува ўсім ёсць свае мінусы й плюсы.

Мінусы ўваходзяць у душу
раптоўна, пранізліва й балюча,
як стрэмка альбо джала асы
ўтыркаецца глыбока пад скуру.

Як складана бывае выцягваць іх вонкі,
каб кінуць у сметніцу і забыць,
і нават часам яны застаюцца ўнутры нас
назаўсёды.

А вось плюсы выцягваць лёгка.
Але ж і не хочацца!

### *КУЧА*

Я адшукаў маленькую крупінку золата
ў вялізнай кучы смецця
і падумаў:
“Няўжо гэта і ёсць тое,
на што я паклаў
сілы жыцця свайго?
Няўжо ж плён дзейнасці чалавечай
абарочваецца несувымернасцю
з затрачанымі намаганнямі?”
І, заціснуўшы ў кулаку крупінку золата,
я ў маркоце пайшоў куды вочы глядзяць.

Так ішоў я, ішоў, пакуль не пабачыў
вялізную кучу...
золата,
вакол якой нейкія людзі
вадзілі карагоды.
Мяне ахапіла здзіўленне.
“Адкуль тут цэлая куча золата?” – спытаў я.
І людзі мне адказалі:
“Яна атрымалася, калі ўсе мы склалі разам
па крупінцы золата,

якую кожны з нас адкапаў
у сваёй кучы смецця”.
Я пасміхнуўся,
дадаў да кучы сваю залацінку
і далучыўся да карагоду.

І з гэтага часу
ўладарства смецця
мяне болей не палохае.

## ІДЭАЛІЗМ

Шпацыруючы па былых старых могілках,
дзе самыя апошнія надмагіллі
зрылі бульдозерамі колькі гадоў таму,
я заўважыў старую кабету
ў доўгім чорным плашчы,
якая настойліва нешта шукала,
зазіраючы за кусты.

Напэўна, тут калісьці
быў пахаваны нехта з яе сваякоў
і яна прыйшла сюды
з кволым спадзяваннем:
а раптам магілка,
незаўважаная бульдазерыстамі,
выпадкова захавалася?

Але можа быць і так,
што шукае яна не магілку,
а ўсяго толькі пустыя бутэлькі,
пакінутыя ў кустах
рабочымі пасля змены?

Мне, аднак, сімпатычней
першая версія ўбачанага:
хоць нехта яшчэ памятае,
што гэта могілкі,
а не нейкі там звычайны сквер.

Магчыма, я ідэаліст,
але быць ідэалістам у гэтай краіне –
адна радасць і ўцеха –
калі за кожным кустом
мроіцца месца спаткання з вечнасцю,
а кожны бомж,
які калупаецца ў сметніку,

натхняе на думкі
пра адраджэнне гістарычнай свядомасці.

### *МАЯ КАЛЯРОВАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ*

я глядзеў праз ружовыя акуляры
то на белую зайздрасць то на чорную
белую зайздрасць бачыў ружовай
чорная чорнай і заставалася

я глядзеў праз блакітныя акуляры
то на белую зайздрасць то на чорную
белую зайздрасць бачыў блакітнай
чорная чорнай і заставалася

я глядзеў праз чорныя акуляры
але не бачыў ужо нічога
бо прызвычаіўся глядзець праз ружовыя
і трошачкі праз блакітныя

ай мне фіялетава

без акуляраў

пайду я

маё зялёнае святло

запалілася

### *УЙ, БЛІН!*
### *(Экзістэнцыйная кулінарыя)*

Наш першы камяк атрымаўся блінам.
Нам дзякуй сказалі, далі медалі нам.
Ды толькі не ўцяміць нікому ніяк,
што быў нашай мэтай не блін, а камяк.

У снах і фантазіях марылі мы
жыццёвае цеста скатаць у камы,
ды толькі рэальнасць вяртае ізноў
з краіны камоў у краіну бліноў.

Ты мысліў аб'ёмна? Дык мыслі пляската!
Сусвет спасцігай, не выходзячы з хаты!
Не будзе трактатаў, кантатаў, хітоў!
З арбіты Зямля ляжа зноў на кітоў!

Нас строяць у шэрагі, кормяць блінамі,
ды ведаем цвёрда, што праўда за намі!
Паставім, што ёсць у нас, хутка на кон –
каціся, жыццё, пад адхон камяком!

* * *

Далёка на поўдні расце незвычайны плод.
Ён сокам сваім наталяе край пнёў і балот.
З гэтага плоду вараць чароўны напой.
Вып'еш яго – і станеш самім сабой.

Я спрабаваў разводзіць той плод пад акном.
За гэта мяне ледзь-ледзь не адвезлі ў дурдом.
Са мной правёў гутарку той, хто забараняе плады,
сказаў: "Не для нашай глебы твае сады!"

Але, нягледзячы на забароны, спёку й мароз,
плод экзатычны рос, рос і нарэшце ўзрос.
Я згатаваў напой і наліў тым, каго я любіў.
Яны яго выпілі ўвесь, а я толькі крыху прыгубіў.

* * *

Мяне зняволіў Цар Кашчэй,
калі я йшоў у партызаны.
Сямнаццаць дзён і пяць начэй
я гніў, да дрэва прывязаны.

Ды поўня выплыла з-за хмар
і зазіхцела над балотам.
І знік кудысьці грозны цар,
нібы яго і не было там.

Цяпер ля вогнішча сяджу,
п'ю квас і мірна смажу сала,
і больш не плачу, не тужу.

...Мне поўня рукі развязала.

* * *

Я вушамі п'ю цішыню,
толькі ў шафе шкрабецца мышка.
Але мышку я не ганю:
я ў яе закахаўся крышку!

## ГУЛЬНЯ

Давай гуляцца ў файную гульню:
прысні мяне, а я цябе прысню.
І нам у сне сустрэнуцца яны –
усе, хто ў гэты момант бачыць сны.

Не адступай ад правілаў гульні:
прысні мяне, хутчэй мяне прысні!
Ды толькі мушу я табе сказаць:
ёсць сны, з якіх не вернешся назад.

Мяне прысніла сёння шмат народу –
відаць, я нейкі завадатар моды.
Салдат учора, сёння – генерал,
вазьму – і войска выведу ў астрал!!!

## ДРЭВЫ

Дрэвы між сабою размаўляюць водарамі,
хоць здаецца, што маўчаць
і выглядаюць лодарамі.

Пахам радасць разнясецца,
пахам боль заглушыцца...
Дрэвы цягнуцца да неба, а ў бакі – не рушацца.

Нарадзіліся калісьці парасткамі кволымі –
абраслі галлём і лісцем, гадавымі коламі.

Каранямі ў глебу ўкручаныя
моцнымі, трывалымі,
між сабой сустрэцца змогуць піламатэр'яламі.

Хочацца саскочыць з месца і спасцігнуць Новае.
З трэшчыны ў маёй душы цячэ смала сасновая...

Людміла Рублеўская



...стрыжка “пад бобрык” да бабра дачынення не мае, але пра гэта ніхто не ведае...

# Бестыярый майго савецкага дзяцінства

АКУЛА – імперыялізму. Плавае ў акіяне ў чорным буржуйскім капелюшы-цыліндры. Востразубай пашчай зжырае дробных прадпрымальнікаў і беднае негрыцяня Тубі. На акуле ездзіць зладзюга Бармалей, напяваючы: “Ты лети, моя акула, все четыре плавника”. Істота выключна шкодная для міру ва ўсім свеце. Паколькі ніхто са знаёмых яе не бачыў, у прыродзе не існуе.

АЛЕНЬ – паўночны. Пры сустрэчы абавязкова належыць прамовіць з піетэтам: “Так вот ты какой, северный олень!”. Жыве ў суровых умовах, працуе на ненцаў, непераборлівы, горды, як савецкі палярнік. Рогі аленя добра служаць замест вешалкі. У Аленя на нейкі час ператвараецца Кароль, падмануты сваім дарадчыкам, у тэлевізійным спектаклі па казцы Карла Гоцы, але спектакль запамінаецца найперш выслоўем аднаго з персанажаў: “А я ем яблык і гляджу ў вакно!”.

АСЁЛ – ягонай мачой можна разбаўляць бензін (гл. фільм “Джэнтльмены ўдачы). Асёл Іа з мультфільма пра Віні-Пыха губляе хвост, які прыбіты да азадку цвічком. Асёл – адзін з “Брэменскіх музыкаў”, падобна, прыхільнік панк-року, бо аднойчы на сцэне спусціў штаны, паказаўшы свецкай публіцы, каралю і прынцэсе азадак. Прынцэса, схільная да андэграўнду і рок-музыкі, відовішчу ўзрадвалася. У байцы Крылова Асёл таксама музыка, чыя творчасць у гурце “Асёл, Казёл і Касалапы Мішка” ўспрымаецца масамі як сумбур замест музыкі. У некаторых мульціках асёл – гэта Вослік, маленькі, з апушчанымі вушамі і сумнымі вачыма, яго вельмі шкада. Ён пяе галасамі адразу двух бардаў Нікіціных пра тое, што сябры не растуць пры дарозе. Асёл існуе, бо яго паказваюць у цырку.

БАБЁР – цалкам станоўчы персанаж, жывёльны пралетарый (паралельны персанаж – жывёльная Сялянка – гл. Пчала). Бабёр будуе плаціны. Будаваў, будуе і будзе будаваць, як запаведваў яму вялікі... карацей, нехта вялікі. Для чаго бабрыная грандыёзная будоўля – уяўляецца цьмяна, але сама з’ява “плаціна” (ГЭС, ГРЭС і г.д.) мае высокі грамадзянскі статус. Нельга браць на веру, што бабёр завіхаецца, толькі каб узвесці ўласнае жытло, бо ён – не мяшчук. Ён – перадавік вытворчасці, немалады запаволены майстар, у “спяцоўцы”, з выступаючымі наперад пярэднімі зубамі і з самавітымі вусамі. Стрыжка “пад бобрык” да бабра дачынення не мае, але пра гэта ніхто не ведае.

БЕГЕМОТ – баіцца ўколаў. Таму захварэў жаўтухай. Не трэба быць такім баязліўцам, як жоўты бегемот. Бегемот, як і беларус, звязаны з архетыпам балота – звычайна ён туды правальваецца, і яго трэба выцягваць усім светам. Парсючок Фунцік знаходзіць Бегемота ў балоце, якое той адмаўляецца пакідаць, дэманструючы рысы праўдзівага беларуса: ён разумее, што балота гідкае і гіблае, але нізавошта ў гэтым сам сабе не прызнаецца.

БЕЛЫ МЯДЗВЕДЗЬ – круціць зямлю з дапамогай трэння ўласнай спіны аб зямную пратарчаку (вось) (гл. фільм “Каўказская палонніца”). Сустракаецца ў выглядзе цукеркі “Мішка на Поўначы”. Слугуе Дзеду Марозу і Снягурцы. У апошнюю безнадзейна закаханы. Выдатна таньчыць, харчуецца рыбай і прыпасамі савецкіх палярнікаў. У дзяцінстве яго завуць Умка, матуля спявае яму калыханку пра суседзяў – зорных мядзведзяў.

БУРЖУІН – у нас вынішчаны, водзіцца ў цяжкадаступных месцах планеты. Вельмі тоўсты. Носіць капялюш-цыліндр (гл. АКУЛА) і недаробленыя акуляры на адно вока. Закатаваў Мальчыша-Кібальчыша. Падлягае непазбежнаму выміранню.

БУСЕЛ – персанаж на цэтліку малдаўскага віна. Бусел на даху – сімвал міру, слоган спявачкі Сафіі Ратару. Ходзіць у чырвоных ботах і дапамагае жабцы-падарожніцы адправіцца ў далёкія краі. У бусла ператвараецца прыгажун-каліф, падмануты хітрым чараўніком (падобны вобраз – Кароль-Алень, гл. АЛЕНЬ). Каліф-бусел ходзіць з папяровай дзюбай і размахвае шырокімі рукавамі, іншыя героі фільма-спектаклю старанна прымаюць

яго за птушку. Карнавальны касцюм бусла рабіць проста, але нікому не хочацца: доўгая чырвоная дзюба падаецца смешнай.

ВАВЁРКА – харчуецца золатам і смарагдамі, прычым нават не харчуецца, а, песні пеючы, расколвае арэшкі залатыя, смарагдавыя сэрцавіны выплёўвае ў скарбонку царэвіча Гвідона. І чым яна ў такім выпадку жывіцца – незразумела, можа, батарэйкамі ці спружынкамі. Бо вавёрка завадная – дужа распаўсюджаны від. Асабліва папулярны па фільме “Ляцяць жураўлі”, дзе герой, якому наканавана загінуць на фронце, дорыць завадную вавёрку каханай дзяўчыне. Вавёрка з мульцікаў гаспадарлівая і запаслівая, нанізвае на галінкі грыбы, жыве ў дупле, сябруе з Вожыкам (гл. ВОЖЫК). Сустракаецца ў выглядзе хваробы дзядзек-суседзяў (“белачка”). У вавёрку ператвараецца Варвара-Краса – Доўгая Каса, дачка вадзянога цара, каб дапамагчы свайму каханаму. Марожанае “Вавёрка” – у вафельных стаканчыках, з арэхамі. Занадта салодкае.

ВОЖЫК – жыве ў тумане. Стрыжка “пад вожык” мае непасрэднае дачыненне да Вожыка. Працалюбны, паранармальна запаслівы. Як заведзены, носіць у хату на ўласных голках грыбы і яблыкі. Часам ходзіць з кульбачкай. Размаўляе прымаўкамі і прыказкамі. Стары халасцяк, і не зразумела, нашто яму столькі прыпасаў. Сябруе з Вавёркай (гл. Вавёрка). Часам сустракаецца ў выглядзе часопіса і піражнага. Вожыка робяць з яблыка – гэта складана, і з шышкі, гэта лёгка, з дапамогай пластыліну. Сустракаецца ў жывым кутку.

ВОЎК – савецкая мутацыя ката Тома. Стыляга з грыўкай у расклешаных нагавіцах, з цыгарэтай, што прыліпла да ніжняй губы. Сексуальна заклапочаны, магчыма, педафіл, бо бясконца ціскае непаўналетняга напарніка і прызнаецца ў палкай жарсці да яго (гл. ЗАЯЦ). У навагоднім выпуску “Ну, пачакай!” уяўляе з сябе першага адкрытага савецкага трансвестыта, выступае на сцэне ў касцюме Снягуркі з вульгарным макіяжам у стылі “бурлеск”. У народных казках брутальны і дурнаваты, жарэ ўсё, што рухаецца, ловіць хвастом у палонцы рыбу, вые на поўню. Вечна галодны. Улюбёная фраза – “Шчас спяю!”.

ВЯРБЛЮД – плюецца. Ходзіць караванам. Карабель пустыні. Кіруецца звычайна ў Учкудук.

ГАСТРАНОМ – з’явіўся ў нас у 1970-х. Паглынуў крамы “Прадукты”, “Малако”, “Мяса”, “Булачная”. Адметны самаабслугоўваннем і плеценымі з featured рознакаляровых правадоў кошыкамі, якія выдаюцца наведнікам, на жаль, не назусім. Уяўляе з сябе ажыўленую частку вантробаў, бо імя перакладаецца як “страўнік чалавека”. Прадукты са страўніка не адметныя нічым.

ГОЛУБ – міра. Галубы дзеляцца на белых сімвалічных і звычайных шэрых, якія загаджваюць асфальт і балкон і патрабуюць, каб ім крышылі батон. Сімвалічны голуб не жарэ і не гадзіць, ён лунае ў блакітным небе, яднаючы народы, таму ў яго нельга страляць.

ГУСЬ – адзін шэры, другі белы, абодва вясёлыя тунеядцы, жывуць на

ўтрыманні самотнай бабулі. Гусі могуць выкарыстоўвацца для падарожжаў (гл. мультфільм пра прыгоды хлопчыка Нільса). Самая вядомая гусь мае неверагодна цяжкае імя – “Аккакнебекайтэ”.

ДЭЛЬФІН – ратуе людзей. Ваюе з акуламі. З дэльфінам можна размаўляць з дапамогай міелафону (гл. фільм “Дзяўчынка з будучыні”). Водзіцца ў Артэку.

ЖАБКА – падарожніца (гл. БУСЕЛ). Фантан у дзіцячым парку, выпускае з роту струмень вады. Царэўна, якая адначасова сялянка, бо, скінуўшы жабіну скуру, увішна выконвае па начах сельскагаспадарчыя работы для сям’і свайго патэнцыйнага мужа Івана-дурня (варыянт з мужам-царэвічам не экранізавалі як ідэалагічна няправільны). Жабка карысная, бо есць машкату, але ад яе бываюць бародаўкі. Надзімаць жабку праз саломінку піянеру сорамна. Жабка мужчынскага полу кепская: жаб-самец хоча жаніцца на Дзюймовачцы, не разумеючы, што яна не зможа адкласці ікру.

ЖЫРАФ – “большой, ему видней”. На плакатах у дзіцячай паліклініцы ў яго заўсёды хворае горла, заматанае шалікам, таму што ён не загартоўваўся і не слухаўся маму. Сустракаецца ў выглядзе лазанкі на дзіцячай пляцоўцы. Чым харчуецца, невядома, ніхто аніколі яго не бачыў.

ЗАМЕЖНІКІ – падобныя да людзей. Падзяляюцца на соцлагерных і капіталістычных, сярод апошніх ёсць шпіёны і дыверсанты. Дыверсанты зашываюць у швы джынсаў, што прадаюцца ў ГУМе па спецзаказах, стужачкі з бацыламі сібірскай язвы. Замежнікі прывозяць значкі, якімі можна абменьвацца, і жуйкі. Сярод замежнікаў здараюцца негры, пры сустрэчы з імі трэба ўсяляк падкрэсліваць, што быць неграм – гэта нармальна. З усімі замежнікамі трэба ўсталёўваць кантакт, і тады яны зробяць у сваіх краінах сацыялістычную рэвалюцыю (там, дзе яшчэ не зрабілі). Усталёўваць кантакт лепей за ўсё з дапамогай Матрошак (гл. МАТРОШКА). Ад сузірання Матрошкі, асабліва працэсу яе размнажэння, Замежнік упадае ў калапсічнае захапленне і гатовы да ўсяго, нават рабіць рэвалюцыю.

ЗАЯЦ – вядзе “Спакойнай ночы, малышы” пад імем Сцяпашкі, размаўляе голасам актрысы Румянцавай, пасля здымак перадачы ідзе ў лес касіць траву і спяваць “А нам всё равно...”. У зайца чатыры сыночкі і лапачка-дочка. Яшчэ ў яго бывае дубальтоўка, з дапамогай якой ён захоплівае ўладу ў лесе. У дзетсадаўскі перыяд Зайцам пабываў практычна кожны хлочык, гэтак жа, як практычна кожная дзяўчынка – Сняжынкай. Дзяўчынка-зайчык – нонсэнс, бо Плэйбоя не існуе. Зайчык, які муціраваў дзеля савецкіх дзяцей з дыснееўскага мышаняці Джэры, пяе Санта-Лючыю і гэтак упарта ўцякае ад Ваўка (гл. ВОЎК), што хочацца яго прыстрэліць. Персанаж папулярнай загадкі пра ўлетку беленькі, узімку шэранькі. На Новы год здараецца шакаладны, фабрыкі нейкага Бабаева. Бабаеў-Бабайка дзяцей дурыць: вялікі шакаладны заяц, упакаваны ў каляровую фольгу, унутры пусты. Калі ў Зайцы ёсць ключык, яго варта пакруціць, і Заяц пачынае біць у барабан.

ІКУКУ – таямнічы персанаж песні з кінафільма “Тры мушкецёры”,

якую перапісвалі ў свае альбомы школьніцы (“Пора-пора-порадуемся на своем веку красавице Икуку”). Пра тое, што словы гучалі “красавице и кубку”, былыя школьніцы даведаліся ў сталым веку.

КАЛАБОК – мутант без канечнасцяў, з вачыма і балбатлівым ротам. Раздражняе песенькай з паўторамі. Звязаны з незразумелымі “сусекамі” (бабуля, каб яго спячы, па тых сусеках шкрэбла. Не блытаць з адсекамі касмічнага карабля!). Не зразумела, чаму гэтая дарэшты выкачаная ў гразі булка выклікае ва ўсіх сустрэчных персанажаў апетыт. Пакуль калабок дакаціўся да лісы, неадменна падчапіў зграю палачак (гл. ПАЛАЧКА (кішэчная)). Але пра тое, што калабок – не мяса, а хлеб, не ўспамінае ніхто.

КАРАКУЛЬ – звер, з футра якога пашытыя шапкі і каўнеры начальнікаў і генералаў. Ён чорны альбо шэры, спалучаецца з лампасамі і трыбунай Маўзалея. Выводзіцца ў спецзаказніках (гл. ЛІСА (чарнабурая).

КАРАНДАШ – мутант, карузлік з жоўтымі валасамі і тоўстым алоўкам замест носа. Жыве ў часопісе “Вясёлыя карцінкі” і ў мульціках, малюе чамусьці не носам, а пэндзлем, малюнкі часам ажываюць. Якім чынам дыхае, навукай не ўстаноўлена. Таварыскі, дужа рухавы, з альтруістычнымі рысамі характару, трохі надакучлівы. Клоун Карандаш не мае носа-алоўка, затое мае сабаку Кляксу.

КАРОВА – Буронка, дакладней, Буронушка. З яе вырастае яблынька, якая дапамагае Крошачцы-Хаўрошачцы, няшчаснай працалюбнай сіраце, удала выйсці замуж насуперак злой мачысе. З дапамогай кароў савецкія даяркі перавыконваюць план. Савецкія пастухі пяшчотна любяць сваіх кароў. Калі Буронушка заблукае ў лесе, пастух ходзіць між бяроз, пяе пра яе лірычныя песні і плача. Пастух Леанід Уцёсаў з камедыі “Вясёлыя рабяты” прыводзіць сваіх кароў нават у свецкі салон. Цукеркі “Кароўка” смачныя тады, калі ўнутры яшчэ не застыла-сыпкія, а мяккія, цягучыя. Паняцці “карова” і “гавядзіна” звязваюцца кепска.

КАЧКА – Шэрая Шыйка. Няшчасная птушка з параненым Лісой крылом, якая не можа зляцець у цёплыя краі. У асяродку савецкай інтэлігенцыі атаясамлялася з невыязнымі дысідэнтамі. Качаняткі служаць прыкладам здаровага ладу жыцця – штораніцу добраахвотна ўмываюцца і абліваюцца халоднай вадой. Умеюць хадзіць шарэнгай, у нагу. Качка сустракаецца ў выглядзе пластмасавай лейкі. Як хатняя дарослая жывёла, можа быць увасабленнем абываталя – не разумее адметнасці Дзікага Качаняці, з якога вырастае Лебедзь (гл. ЛЕБЕДЗЬ).

КОТ – калі з вышэйшай гуманітарнай адукацыяй, то Леапольд, любімае выслоўе – “Давайце жыць дружна!”. Калі без адукацыі – то Матроскін, вынаходзіць правільныя канапкі, якія трэба класці кілбасой на язык, улюбёнае выслоўе – “Мая карова!”. Калі з сярэднявечча – Кот у Ботах, дапамагае гаспадару правярнуць фінансавую афёру, падманам адабраўшы маёмасць у даверлівага Людаеда. Кот Базіліа прыкідваецца сляпым, каб прасіць міласціну, сужыцельствуе з Лісой. Самка Ката, Котка – буржуйка,

мае ўласны шыкоўны дом, бедных родзічаў сіротак-кацянятак праганяе. Коткін дом згарае, былая буржуйка перавыхоўваецца і ўсынаўляе кацянятаў. Кот дзейнічае як снатворнае, таму дадаецца ў калыханкі. У рэальных бадзяжных катоў водзяцца рабакі і адзёр, таму гладзіць іх забараняецца. Бабуля расказвае, што пры Хрушчове на адным з будынкаў была павешаная дохлая котка і плакат з вершам: "Я при Ленине жила, при Сталине сохла, при Маленкове отжила, при Хрущеве – сдохла». Футра "из котика» не мае дачынення да катоў. Песня "Мурка" таксама. Чорны кот – ахвяра забабонаў, з якімі трэба змагацца. Спыняцца, калі чорны кот перайшоў дарогу, сорамна. Таму можна непрыкметна трымацца за гузік альбо тройчы сплюнуць праз левае плячо.

КІЛЬКА – сустракаецца ў бляшанцы, звычайна ў тамаце. Бедная сястра шпротаў (гл. Шпроты). Жывой ніхто не бачыў.

КІТ – цуда-юда-рыба, а яшчэ месца для жыхарства, праўда, пабудаваны на ягонай спіне горад можа лёгка знішчыцца. Замест зубоў мае рашотку. У надзіманым выглядзе дапамагае вучыцца плаваць. Звычайна сіні.

КОНЬ – носіць будзёнаўцаў, няўлоўных мсціўцаў і мушкецёраў. У Чырвонай Арміі валодае звышздольнасцямі, прынамсі, можа ўцямна перадаць таварышам гаспадара паведамленне, што той "честно погиб за свободу". На каруселях коні – рознакаляровыя. У цырку – маленькія, называюцца поні. Кожная поні марыць насіць на сабе чырвонаармейца, але павінен усвядоміць, што катаць дзетак – таксама пачэснае прызначэнне. Ад песні "Лошади умеют тоже плавать" плачуць усе: бедныя коні з патанаючага карабля паплылі праз акіян і ўсе патанулі. Сустракаюцца ў небе ("Облака, белокрылые лошадки"). Багатырскі конь манументальны і калматы, пад ягоным капытом прасядае "мацісыразямля". У моры конь – ссохлы і бязногі. На ім ездзіць купец Садко, які ўмее дыхаць пад вадой.

КРАКАДЗІЛ – часопіс. Праглынуў сонца, за што быў пабіты малым хлопчыкам. Выцягнуў зубамі нос даверлівага Сланяняці. У савецкай мадыфікацыі – слабахарактарны інтэлігент у капелюшы і пінжаку, па імені Гена, стары халасцяк, апякуецца беспрытульнымі мутантамі (гл.Чабурашка), грае на мініяцюрным гармоніку. Падазрэнні ў педафіліі адпрэчваюцца раманам з жорсткай ролевай гульнёй з пенсіянеркай мадам Шапакляк. Праўда, ёсць намёк на нетрадыцыйную арыентацыю – падарожнічае з сябрам у блакітным вагоне.

КРОТ – самы вядомы – чэшскі. Серыял пра крата карыстаецца папулярнасцю не меншай, чым польскі пра Болека і Лёлека. Крот знаходзіць транзістар і вырашае, што той жывы. Любіць кветкі... Мае шмат сяброў... І ўвогуле выдатна бачыць. Вось той крот, што хоча ажаніцца з Дзюймовачкай, сапраўды падслепаваты, у акулярах, затое ў дарагім футры і з кватэрай.

ЛЕБЕДЗІ – заварныя пірожныя. У выглядзе птушак водзяцца ў парку Горкага. Іх трэба карміць. Бо лебедзі – зачараваныя прынцы. Вялікае шанцаванне – калі ўдаецца падабраць лебядзінае пёрка, гэта прадмет гонару

і выгоднага абмену. У адрозненне ад многіх жывёл савецкага дзіцячага бестыарыя, якія маюць прывабныя і яркія рысы толькі напачатку жыцця, лебедзь набывае адметнасць толькі ў дарослым стане, у маленстве ён – брыдкае качаня, якога дужа шкада. Лебедзі носяць па небе экіпаж для перасоўвання прыгажунь. Пры гэтым прыгажуня (Насценька з “Пунсовай кветачкі”, Вясна са “Снягуркі”) стаіць у неглыбокім чоўне падчас палёту, як прыклееная, без усялякіх прыкмет боязі зверзіцца з немалой вышыні. Лебедзі ёсць на атракцыёнах у парку. Над песняй пра лебядзіную вернасць, пра тое, як лябёдку падстрэліў браканьер, а лебедзь ад гора забіўся, плачуць усе: “Где же ты, моя люби-имая?”. Вартая пара да песні пра “Лошади умеют тоже плавать“ (гл. КОНЬ).

ЛЕЎ – Баніфацый, стары цыркач, які паехаў на канікулы да бабулі, каб адпачыць ад прадстаўленняў, але давялося забаўляць малых негрыцянятаў. Баніфацый носіць паласатае трыко, умее жангліраваць і хадзіць па канаце. Ёсць яшчэ “Лев-Лев-Лёвушка, желтая головушка”, якога вылечвае ад галаўнога болю дзяўчынка з дапамогай пяцікапейкавай манеты. Леў так сябруе з малым сабачкам, што здыхае без яго ад суму. Улюбёны занятак ільва – трымаць у пашчы галаву жывога дрэсіроўшчыка. Львы ахоўваюць скарбы Ленінграда ў фільме пра італьянцаў у Расіі.

ЛІСА – Аліса, Патрыкееўна. Мяшчанка-драпежніца ў шыкоўным футры. Выходзіць замуж па разліку (звычайна за Мядзведзя), закаханых у яе непрэстыжных кавалераў (Воўк, Кот) проста выкарыстоўвае. Неахайная (з’ядае бруднага Калабка, гл. КАЛАБОК). Падманвае Бураціна. Улюбёнае выслоўе – “Какое небо голубое!”. Бывае чарнабурай, але чарнабурая ліса – тая ж фантастычная парода, што і Каракуль (гл. КАРАКУЛЬ).

ЛЭСІ – цуда-сабака з аўстралійскага серыяла. Можа ўсё.

МАЛПА – таксама размаўляе голасам актрысы Румянцавай (гл. ЗАЯЦ). Наіўная і тэмпераментная. Сябруе з Удавам, Папугаем і Сланянём. Ёй ні ў якім разе не трэба перадаваць прывітанне, бо засудзіць. Дапамагае доктару Айбаліту ў якасці медсястры. Плавае з капітанамі на караблях, носіць цяльняшку. Малпы могуць быць Бандэрлогамі, якія крадуць Маўглі і паддаюцца гіпнозу Удава: “Слухайце мяне, Бандэрлогі! Падыдзіце бліжэй... Яшчэ бліжэй...”. Фетыш малпы – акуляры. Яна іх нюхае, ліжа, прыкладае да розных частак цела. У серыяле малпа можа быць звышістотай, як Лэсі (гл. ЛЭСІ). Лётае ў космас.

МАРСІЯНІН – зялёны, з двумя антэнамі на галаве. Прылятае на талерцы, вельмі даверлівы, не разумее элементарных рэчаў, сексуальна заклапочаны, таму на раз можа закахацца ў першую-сустрэчную зямлянку. З марсіянінам трэба ўстанаўліваць кантакт. Тады ён зробіць на Марсе сацыялізм.

МАТРОШКА – кабета-трансформер грушавіднай формы. Галоўная прыкмета – хустка. Размнажаецца, расколваючыся напалам па лініі таліі і зноў складаючыся. У пераважнай большасці выпадкаў нараджаецца ў адзежы і таксама здольная да размнажэння. Хто апладняе Матрошку,

застаецца невядомым, падобна, мае месца самаапладненне. Найлепшы пасярэднік для ўсталявання кантактаў з Замежнікамі (гл. ЗАМЕЖНІКІ).

МАТЫЛЬ – у матыля ператвараецца двоечнік Баранкін, што дапамагае ягонаму перавыхаванню. Матылі найчасцей бываюць капусніцы і крапіўніцы. Іх ловяць сачкамі, наколваюць на голкі і складаюць калекцыю для кабінета заалогіі.

МОЙВА – прадаецца наразвес. Звычайна смажаная. Самае смачнае, калі трапляецца з ікрой. Ікра мойвы не зусім чырвоная і не чорная, але гэта несумненная ікра. У анекдоце рабацяга выкалуплівае з мойвы вочы, каб намазаць на канапку і ўдаць перад замежнай дэлегацыяй, што есць сапраўдную ікру, бо замежнікаў трэба ўражваць (гл. ЗАМЕЖНІКІ).

МУМБА-ЮМБА – невядома што, але страшнае. Драпежнік, звязаны з Афрыкай. Інтэлектуальная дражнілка.

МУРАШ – гібрыд рабочага і селяніна. Займаецца і будаўніцвам, і сельскай гаспадаркай. У адрозненне ад матрыярхатнага пчалінага калгасу, у мурашоў патрыярхат. Жанчын няма зусім. Мурашы працуюць. Проста працуюць. Лётаючыя мурашкі, якія ўлетку з'яўляюцца на асфальце – з'ява невытлумачальная, таму што яны павінны не лётаць, а працаваць і ўвесь час нешта несці. Піянеры не павінны соваць палкі ў мурашнікі, а наадварот – ахоўваць іх. Мурашнік сустракаецца ў выглядзе торта.

МУРЗІЛКА – часопіс і пачвара. Ярка-жоўты, спрэс калматы, ходзіць, як чалавек, замест рук і ног – лапы. Носіць доўгі вязаны шалік і берэт. Сябруе з Карандашом (гл. КАРАНДАШ). Што выклікала мутацыю, незразумела.

МУХА – разносчык заразы. Будучы Цакатухай, спарваецца з Камаром, што ўяўляе з сябе цікавы навуковы прэцэдэнт, асабліва ў плане патомства. Кожнае дзіцё марыць знайсці, як Муха такую "дзенежку", за якую можна купіць нават самавар.

МЫЙДАДЗІР – пачвара, магчыма, паходжаннем з язычніцкай эпохі. Белая квадратная морда. Замест рук – доўгі рушнік. Звязаны з полтэргейстам, таму што выклікае некантралюемы рух прадметаў. Улагодзіць можна рытуальным амавеннем, пры гэтым чым болей церці нос, шчокі і лоб, тым пачвара больш задаволіцца. Самая вялікая загадка савецкай дзіцячай літаратуры – чаму крываногі і кульгавы ўмывальнік выбягае з мамінай спальні.

МЫШ – разбівае хвастом залатое яйка, якое знесла Курка-Рабка. Па паходжанні сялянка. Збірае ў полі зернейкі, пячэ з іх хлеб. Мышы псуюць выбітны гарбуз, які сябры-жывёлкі вырошчваюць дзеля выставы ( слоган мультфільма "Они всё испортили!"). Але кемныя сябры дзірку маскіруюць пад дзверы, гарбуз перарабляюць на дом для мышэй, нясуць на выставу "Незвычайнае ўжыванне звычайных рэчаў" і перамагаюць. Мышы шчасліва паказваюцца з вокнаў новага дамка. Старая Мыш сватае Дзюймовачку за

starога Крата. У мыш ператвараецца Людажэр па хітрай падначцы Ката ў Ботах, і кот яго з'ядае.

МЯДЗВЕДЗЬ (буры) – другі па папулярнасці персанаж пасля Зайчыка. Ніякі навагодні ранішнік не абыходзіцца без Мядзведзя. Розніца толькі ў тым, што Зайчыкаў можа быць шмат, а Мядзведзь заўсёды адзін. Мядзведзь – начальнік. Ён паважны, гаворыць павольна, рухі велічныя. Ганяе хуліганаў і тунеядцаў Лісу і Ваўка. Ліса выходзіць за яго замуж па разліку. У выглядзе мядзведзіка мае пас з пяці алімпійскіх колцаў. Пры гэтым у яго робіцца дзіўная пастава – ходзіць, выгнуўшыся дугою, пуза наперад, быццам ў яго нешта са спінаю. Любіць лётаць на паветраных шарыках. Савецкі алімпійскі Мішка адлятае на паветраных шарыках у казачны лес з маскоўскага стадыёну, у той час, як ангельскі Віні-Пых з дапамогай тых жа шарыкаў спрабуе абрабаваць калгасніц-пчолак (гл. ПЧАЛА). Мядзведзі сустракаюцца ў цырку і ў драўляным выглядзе. Драўляныя Мядзведзь і Мужык нешта пілуюць, альбо сякуць сякерамі, калі тузаць за трэсачкі адмысловай цацкі. Галава казачнага прыгажуна робіцца мядзвежай пасля таго, як сіротка Насценька ўздзявае яму на галаву вядро, ратуючыся ад заляцанняў. Мядзведзь руйнуе камуналку-церамок і не можа з'есці Калабка (гл. КАЛАБОК). Мішку "ўранілі" на падлогу і адарвалі яму лапу, але ён усё роўна добры: пра гэта жаласны верш Агніі Барто, якая выключыла з Саюза пісьменнікаў дачку свайго настаўніка Чукоўскага за антысаветчыну. Мядзведзі ездзяць на веласіпедах, "а за імі кот – задам напярод"... Пры гэтым усе жуюць пернікі і смяюцца... У слоіках у выглядзе мядзведзяў прадаецца мёд. Здаецца, нібыта празрысты мядзведзь той мёд ужо з'еў, і трэба даставаць з ягоных вантробаў пераварaны.

ПАЛАЧКА – "кішэчная". Страшная нябачная істота, якую настойліва шукае ў дзіцячым садку не менеей страшная Санстанцыя (гл. САНСТАНЦЫЯ). Палачка можа сяліцца ў прыбіральнях і на кухні, а яшчэ на яблыках, трускаўках і ягадах чаромхі. Не церпіць вады з крана, яшчэ можна на яблык папляваць і абцерці яго аб рукаў. Асабліва шмат Палачкі ў Камсамольскім возеры ў Мінску, яе зграі можна заўважыць у мутных хвалях. Але злавіць асобіну немагчыма. Што канкрэтна робіць з чалавекам Палачка, так жахліва, што не падлягае агучванню.

ПАРСЮЧОК – Хруша. Ён вядзе "Дабранач, малышы". Часам ён – Пятачок, сябар Віні-Пыха. Мядзведзь морыць дробнага сябра голадам, завязваючы яму рот падчас абеду, за гэта Парсючок страляе ў яго са стрэльбы. Парсючкі Ніф-Ніф, Нуф-Нуф і Наф-Наф будуюць дамы з розных матэрыялаў, выпрабоўваючы іх на супрацьздзьмувальную ўстойлівасць. Парсючок Фунцік – выдатны артыст, які валодае гіпнатычным уздзеяннем на масы... У дзяцінстве Парсючок – наш, савецкі, актыўны, працалюбны, нават калі брудны і лянівы – паддаецца перавыхаванню. Вырастаючы ў свінню ці свіна, траціць усе станоўчыя здольнасці і індывідуальныя адметнасці і можа ўвасабляць толькі тупое мяшчанства, таму асобны раздзел дарослай асобіне Парсючка прысвячаць не варта.

ПАЦУК – "Крыска-Ларыска", агрэсіўная хатняя жывёлка старухі Шапакляк, улюбёная каманда – "фас". Ніводная дзяўчынка з імем Лары-

са, якое пераводзіцца як “чайка”, не пазбегла параўнання з пацучыхай. “Крыса” – гэта баязлівец, які падводзіць свой калектыў, першым бяжыць з карабля, даносчык.

ПЕВЕНЬ – чырвоны, празрысты, салодкі, на палачцы. Па дзесяць капеек. Бабулькі ля крамаў трымаюць у руках букеты з такіх пеўнікаў, пеўнікі не зусім савецкія, таму што міліцыянты бабулек ганяюць. Мульцяшны певень фанабэрысты, але па-сутнасці добры, а часам нават залаты і гераічны, бо забівае трапным ударам дзюбай у галаву старога дэспатычнага цара, які не хацеў расплочвацца з ведзьмаком-зоркаведам. Як архетып галавы сям'і Певень не разглядаецца, бо парушае правілы маралі сваім шматжонствам. На ўроках спеваў мільёны дзяцей развучваюць прыбалтыйскага паходжання песеньку “Рано утром на рассвете петушок поёт”. Нікому яшчэ не прыходзіць у галаву, што бадзёры тэмп песенькі не супадае з уяўленнем пра запаволены балтыйскі тэмперамент. Нейкі час у крамах з'яўляюцца дзівосныя бліскучыя пакецікі з намаляваным каляровым пеўнікам. У пакеціках – канцэнтрат курынага булёну, выраблены ў Венгрыі. Макароны ў канцэнтраце па нетутэйшаму тоненькія, дробныя, востры пах таксама нагадвае нетутутэйшае жыццё... Грамадзяне набіраюць пакецікі з пеўнікамі грудамі, пачкамі, па колькі прадаюць. З іх варыцца суп “пеўнік”.

ПІНГВІН – марожанае за 28 капеек, пінгвіны на абгортцы сінія. Добрая некапрызлівая істота, выдатна таньчыць замежныя танцы, сябруе з палярнікамі. Архетып ідэальнага бацькі. Бо пінгвіны, паводле савецкіх мульцікаў, размнажаюцца без самак, яйка выседжвае пінгвін-мужчына. Адзін, які разбіў уласнае яйка, забраў у суседа, а таму падклаў камень. Небарака выседжваў камянюку, пакуль не здох, і ніхто гэтага не заўважыў. Таму без жанчыны паўнавартаснай ячэйкі грамадства не атрымаецца.

ПУДЗЕЛЬ – калі белы, увасабляе трагічны лёс жабракоў у бяздушным буржуазным свеце: разбэшчаны багаты хлопчык захацеў адабраць белага пудзеля ў вандроўных артыстаў. Чорны Пудзель – артыстычны аматар баявых мастацтваў Артэмон. Ён закаханы ў парцалянавую ляльку з блакітнымі валасамі Мальвіну і выступае ў якасці ейнага целаахоўніка, кухара, прыслугі, цяглавай сілы і г. д. Артэмон па загадзе Мальвіны садзіць беднага Бураціна ў камору.

ПЧАЛА – архетып працаўніцы сельскай гаспадаркі (аналагічны персанаж пралетарскага тыпу – гл. БАБЁР). Лётае над палямі ў хустачцы і з вядзеркам. У пчолаў узорная калектыўная гаспадарка, сацспаборніцтва і пакаранні для гультаёў (гл. ТРУЦЕНЬ). Замежную пчалу завуць Майя. Пчолка Майя, хаця й замежніца, але з сацыялістычнага лагеру, таму вучыцца ўлівацца ў калектыўную стваральную працу. Пабочны прадукт пчалінай дзейнасці – воск – згадваць не варта, бо з яго выпрабляюць царкоўныя свечкі для адурманьвання грамадзянаў. Маскарадны касцюм пчалы непрыгожы, бо робіць дзяўчынку таўстухай. Касцюм асы, уладальніцы асінай таліі, лепшы. Але восы – істоты шкодныя і чужыя, і пераапранацца ў іх няправільна. Пчолы праганяюць нахабнага мядзведзя, чым дэманструюць перавагу калектыву над індывідуумам.

САБАКА – Мухтар альбо Джульбарс. Ахоўвае мяжу, ловіць дыверсантаў. На ашыйніку – медалі. З поля бойкі сабака дастаўляе данясенні і выносіць параненых. Сабакі Белка і Стрэлка скараюць космас. Скалечаныя сабакі Паўлава дапамагаюць дактарам у доследах. Белы Бім – Чорнае Вуха захоўвае вернасць гаспадару. Сабака – герой! Ён – самая савецкая жывёла! Пра гэта сведчаць кніжкі-размалёўкі. У зніжаным аблічча – сабака Шарык, які жыве ў Прастаквашына і займаецца фотапаляваннем. Пад імем Клякса выступае разам з клоунам Карандашом. Ёсць яшчэ замежны мульцік пра сабачку Рэкса – ён ляціць на планету сабак, дзе сустракае трохгаловую сабачую прынцэсу, якая дужа агідна брэша. Сабака Філя вядзе "Спакойнай ночы, малышы!" у кампаніі з Парсючком і Зайцам. Філя больш самавіты і дарослы за сваіх калегаў.

САВА – страшна круціць шыяй і астматычна дыхае ў перадачы "Што, дзе, калі". У мульціку пра Віні-Пыха вучыць усю краіну вымаўляць "Праздра-вря-ю". У фільмах, дзе фігуруе казачны лес, свеціць электрычнымі жоўтымі круглымі вачыма і аднастайна гугукае.

САНСТАНЦЫЯ – пачвара, якую баяцца выхавацелі і медсёстры. З'яўляецца нечакана, шукае Палачку (гл. ПАЛАЧКА). Ад Санстанцыі можна абараніцца хлоркай – смярдзючым белым парашком. Таму медсястра з крыкам "Санстанцыя!" час ад часу бегае па прыбіральнях і пакойчыках, дзе нянькі мыюць посуд, і пасыпае там усё хлоркай. Як выглядае Санстанцыя, ніхто не ведае.

САРОКА – варыць кашу. Пры гэтым адрозніваецца скрайняй скупасцю і паталагічнай жорсткасцю: малодшае дзіцё ніколі не корміць, спасылаючыся на тое, што ён занадта малы, каб дапамагаць па гаспадарцы. Чамусьці жахлівую гісторыю пра скупечу-сароку дарослыя дэманструюць з дапамогай пальцаў уласнага дзіцяці, такім чынам роля галоднага дзіцяці дастаецца мезенцу, што выклікае непрыемнае пачуццё, быццам гэты палец нейкі няправільны і непатрэбны.

СЛОН – жалезная горка, па хобаце яе добра катацца. Слон мае доўгі хобат дзякуючы Кракадзілу (гл. КРАКАДЗІЛ). У выглядзе сланяняці носіць акуляры, гаворыць у нос і ўвасабляе тармазнутага школьнага батаніка. Сланяня з поўсцю называецца маманцянём і шукае маму.

ТРУЦЕНЬ – самы ганебны персанаж. Жывёльны тунеядзец. Падлягае высылцы і прымусовым выпраўленчым работам. Выгляд невядомы.

ТЫГР – Шархан, вораг Маўглі. Можа быць усурыйскім, тады ваюе з Дэрсу Узала, савецкім туземцам. У выглядзе тыграняці можа губляць палоскі, мілы і даверлівы. Тыграў абавязкова дрэсіруе прыгожая савецкая дзяўчына – яна лёгка ўтаймоўвае іх у той час, як дужыя мужыкі разбягаюцца. Таму там, дзе тыгры, абавязкова ёсць спартсменка і камсамолка.

ХАМЯК – сродкамі масавай інфармацыі не папулярызуецца. Жыве ў кватэрах, грызе мэблю, запіхвае за шчокі крупы і цукеркі. Можна трэніраваць на касманаўта – садзіць у шкарпэтку і раскручваць, быццам у цэн-

трыфузе. Існуе страшная легенда, што калі хамяка паднесці да раскрытага рота, ён можа забрацца ўнутр, як у норку, і парваць усе вантробы.

ХРУШЧ – пра яго не пішуць і не паказваюць, калі не лічыць нейкага цьмянага эпізоду з Дзюймовачкай, але ён ёсць. Хрушчоў можна лавіць, асабліва іх многа ўночы на сетцы-рабіцы ля заводу ацяпляльнага абсталявання. Ад водару заводу дурэюць не толькі людзі, але й казюркі. Хрушча садзяць у слоік, кідаючы туды лісты каштану. Лепей садзіць самца і самку, каб не сумавалі, пол адрозніваюць на вусах: у хрушча-самца яны больш пышныя, рудыя. Хрушча трэба навязваць на нітку і пускаць лётаць па крузе. Можна ўчыняць хрушчыныя гонкі. Куды дзяваецца хрушч са слоіка, ніхто не памятае.

ЧАБУРАШКА – плюшавы мутант-сірата з вялізнымі вушамі. Жыве ў тэлефоннай будцы. Сябруе з Кракадзілам (гл. КРАКАДЗІЛ). Дарослых асобін не сустракаецца. Харчуецца апельсінамі. Непісьменны. Упрыгожвае разам з напарнікам упакоўку “салодкай пліткі” – нечуванага дзіва, замяняльніка шакаладу. “Салодкая плітка”, якая з’яўляецца ў крамах, аднаго гатунку, каштуе танней за шакалад, мае прысмак гумы.

ЧОРНАЯ РУКА – высоўваецца са сцяны. Душыць альбо зацягвае людзей у сцяну, дзе яны бясследу знікаюць. Часам месца з’яўлення Чорнай Рукі папярэдне пазначаецца чорнай альбо чырвонай плямай. Дарослыя звычайна не вераць у Чорную Руку, таму гінуць першымі.

ШПРОТЫ – арыстакратычныя, урачыстыя рыбіны, якія ўмеюць улегчыся ў бляшанку ненатуральна роўнымі шэрагамі, як дохлая ганаровая варта. Шпроты пераліваюцца золатам, іх пяшчотная скурка трохі зморшчаная, паходжаннем яны з Прыбалтыкі. Шпроты з’яўляюцца толькі на святы, бываюць з галавой, без галавы і ў выглядзе паштэту.

Ірына Бельская



...Той, хто хоча быць першым, – будзе.
Той, хто хоча быць снегам, – не...

# Анёл з параненым німбам

* * *

Бяры што захочаш, мой першы сустрэчны –
Аблезлы мой крыжык, пярсцёнак мой срэбны,
Мой выгляд скамечаны і недарэчны –
Бяры – калі гэта табе ўсё патрэбна.

Скажы, калі гэта табе ўсё патрэбна –
Гарачая кава ў размытым пакоі...
Мой стомлены позірк і шалік мой зрэбны,
І рэшткі сумненняў пад цёплай рукою.

Бяры што захочаш, хто трапіўся першы:
Мае абыякавасць і адзіноту,
Мой голас ахрыплы і сумныя вершы,
Бяссонне маё, і мой смех, і ляноту

Бяры – забірай! Той, хто трапіўся першы –
Збірай мае думкі з бяздум'ем нястомна.

А потым пакінь мяне раніцай – пешшу –
Ідзі.
А любоў маю – выкінь бяздомным.

* * *

Дожджыкі-шнарыкі
Кропелькі-зорачкі
Як тыя шарыкі
Коцяцца з горачкі
Што мне з табою рабіць
Маё горачка
Бо не кахаць а любіць
Проста – горача

Кропелькі падаюць
Стомлена-зморана
Тым хто не рады мне
Хай будзе сорамна
Вострымі слёзкамі
Хай будуць скораны
Сэрцы палоскамі
Зробяцца скора нам.

Шнарыкі-дожджыкі
Шкельцы заплакалі
Ў вочы глядзець вашы
Мне ўжо няма калі
Святамі й буднымі
Кропелькі капалі
Пальцамі бруднымі
Сэрца мне краталі

* * *

Анёл
з параненым німбам
з разбітым каленам
разбіся!
Разбіся яшчэ раз!
Няхай натоўп ашалелы
уверыць
у нятленнасць тваю
ці проста задаволіць
прагу відовішчаў
скажы ім
што ты не Ісус

таму хлеб
няхай знойдуць самі

разбіся Анёле
апошні раз для іх
яны будуць смяяцца
і можа ўтыркаць
у цябе іголкі
а калі стомленыя
разбрыдуцца
па дамох сваіх
ты адзін застанешся на пляцы –
ты паяцам не будзеш больш
і ні лялькай вуду праклятай

ты не звычайны Анёл:
у цябе няма крылаў
ты пойдзеш дадому –
таксама –
Пешшу
ў каляровых сваіх чаравіках
проста па адсутнасці воблакаў

Усе смяротныя ўнізе
будуць рабіць выгляд –
а самі –
моўчкі шкадаваць
што іх смерці
цікавымі не будуць нікому
Зрэшты
як і іх жыцці

Анёле,
а заўтра ты
пойдзеш збіраць кветкі
і ператвараць
людзей у анёлаў

* * *

...Табе гэта быццам звычайны пароль:
Прыходзіш, сядаеш, паказваеш раны...
Ты не падыходзіш, бо гэты твой боль –
Ён зноўку слабы, каб ты змог стаць абраным...

І ты сарамліва ўзіраешся ў столь,
Нібыта жабрак ў рабацінні падраным,

І просіш: падайце мне спірту. І соль:
Мне імі хацелася б вылечыць раны.

Ты не пачуваешся, быццам кароль –
Ты нейкі вар'ят, нейкі псіх апантаны!
Калі б ты быў Богам – забраў бы ўвесь боль...
Цябе не абралі, бо ты ўжо абраны.

* * *

Калі ты ў небе – будзь здароў:
Кармі крывёю камароў.
Хадзі па воблаках, штоноч
Глядзі на слёзы з маіх воч.
Мае міфічныя істоты
Не запытаюць нават, хто ты:
Яны штоночы (ім лягчэй)
Мне слёзы злізваюць з вачэй.
І штовясну у мой пакой
Яны прыносяць неспакой.

* * *

Так млосна робіцца ўначы,
Але няма куды ўцячы.
Ламаецца аловак. Час
Сячэцца на кавалкі.
Я трызніла надзеяй змалку –
малілася, як на абраз.
З далоняў кроў цякла на снег.
Мне выдавалася у сне,
Што нараджаецца жыццё
З крыві маёй салёнай.
Надзея не прыносіць плёну,
Ды рвецца вечнасць на шмаццё...

* * *

Той, хто хоча быць першым, – будзе,
Быццам першы цнатлівы снег,
Па якім пойдуць з працы людзі,
Той, што дзеці бачаць у сне.

Толькі першы – запомняць людзі,
А апошні – памрэ ў вясне.
Той, хто хоча быць першым, – будзе.
Той, хто хоча быць снегам, – не.

* * *

Бяры і дыхай – штоты-штоты,
Не патрапляючы у ноты.
Дзіця мне нарадзі жывое,
Ускалыханае травою.
Яму б спявалі песні совы,
Ператварыўшы ноч у словы –
Ды у мяне ад гэтай ночы
Пракіслі сны, раскіслі вочы,
І я нарэшце – штовы-штовы –
Пазбавілася дару мовы,
І пад нагамі хістка-хістка,
Бо я дурная мазахістка,
І мазахіст мой любы Божа,
Які трываць мяне ледзь можа.
І калі я заплюшчу вочы,
Адразу апынуся ў ночы,
З якой зрабілі словы совы
ды паўкладалі у галовы.
І чыім вокам ні зірні я –
Я нечая шызафрэнія.

* * *

Сэрца справа, сэрца злева –
Што з іх родна...
А на вуліцы залева
І халодна.
А на вуліцы дажджыцца
І трывожна.
Ці ў адным з іх мне прыжыцца
Будзе можна..
Сумным парасткам прабіцца
Цераз рэбры,
адцвісці або згубіцца
ў кроплях срэбра..
Ці паслухаць тых, што звалі, –
выйсці з хаты,
Не знаходзілі – шукалі
Вінаватых.
Ці мне выйсці і аддацца
ў дождж пракляты:
У мяне слабы дарадца –
Сэрца ў пятах...
Ці спытацца: што за справы,
што хацелі?..

Сэрца злева, сэрца справа –
Ды не ў целе.

Кірыла Стаселька



...стаць дзіцём –

вось лекі ад страхаў, суму...

# Вечныя дзеці

***Аповед***

Дзеля надання пэўнага настрою пачну, як часта пачынаюць школьныя сачыненні.

Зіма. Быў дзень. Павольна ішоў снег. Я з сябрам шпацыраваў па парку. Калі мы дайшлі да горкі, дзе з радаснымі крыкамі каталіся дзеці, я прапанаваў:

– Пайшлі пракатаемся колькі разоў. Люблю катацца з горкі.

– Ты што, з глузду з'ехаў?! Што ты як дзіцё...

"Не будзь дзіцём." – Пастаянна паўтараюць даросламу чалавеку, які паводзіць сябе альбо ўспрымае штосьці вельмі наіўна, шчыра, ці таму, у каго пачынае грацць дураслівасць. А чаму б і не пабыць дзіцём, што ў гэтым дрэннага? Што значыць быць дзіцём? Чым дзіцё адрозніваецца ад дарослага?

Чаму б не пабыць дзіцём, чаму не пазбавіцца гэтай, часта пустой, сур'ёзнасці. Для дзяцей не існуе забабонаў. Ім не патрэбна «Ламбарджыні», яны не імкнуцца

выглядаць модна. Дзеці не абыходзяць, і нават не абпаўзаюць чорных котак, не сочаць за гараскопам. Для іх не існуе мужчынскіх ці жаночых, годных ці нізкіх справаў.

У дзяцей няма ідэалагічных, культурных, гендэрных, расавых ці яшчэ якіх-небудзь стэрэатыпаў. Для іх не важна, які сацыяльны статус вы займаеце, і хто вашыя бацькі. Дзеці ніколі не будуць настойваць, што гэта прэстыжна, а то не перспектыўна (у іх нават няма такіх дэфініцый, таму яны аб гэтым і не думаюць, тут бы Оруэл, напэўна, толькі б парадаваўся).

Яны не перагружаныя, у адрозненне ад дарослых, неабмежаванай колькасцю комплексаў, што як непатрэбныя псіхалагічныя блокі абмяжоўваюць штодзённую дзейнасць дарослага чалавека. Дарослыя робяцца рабамі ўласных комплексаў.

Дзеці не баяцца выглядаць смешна, не імкнуцца ўсім спадабацца, яны не паводзяць сябе подла. Іх паводзіны праўдзівыя. Іх стаўленне да свету заўсёды шчырае. Яны бачаць свет такім, які ён ёсць. Так бы мовіць, у першым яго варыянце, яшчэ не загружаным сацыяльнымі ды культурнымі нормамі. Нездарма кажуць: вуснамі немаўляці мовіць ісціна.

Дзеці не робяць маральныя альбо амаральныя ўчынкі. Для іх не існуе такіх катэгорый, як “дабро” і “зло”. Можна сказаць, што яны знаходзяцца “па той бок дабра і зла” – проста мара для Ніцшэ.

Для іх не існуе мітусні, не існуе штодзеннасці. Яны бесклапотныя. Дзяцей не турбуе пытанне, дзе ўзяць грошы ці як спланаваць заўтрашні дзень.

У дзяцей няма такой жахлівай рэчы, як пачуццё суму. Ім усё цікава. На кожным кроку яны робяць новае адкрыццё і адразу ж гэтаму радуюцца. Іх актыўнасць не дазваляе  ім спыняцца. Дзеці пастаянна актыўныя, пастаянна рухаюцца, спасцігаюць. Дзіцё, у пэўнай меры, ідэал філосафа ці навукоўца.

Займацца некаторымі відамі спорту, кажуць, лепш пачынаючы з ранняга дзяцінства. Напрыклад, гімнастыкай. Не толькі таму, што цела яшчэ гнуткае і добра расцягваецца, але і таму, што можна навучыць (закласці падмурак) такім элементам, выконваць якія даросламу чалавеку будзе замінаць боязь. Дзеці смялейшыя за дарослых. У іх няма страху, які б перашкаджаў ім рабіць тое, што баіцца зрабіць дарослы чалавек. І гэта тычыцца не толькі спорту.

Дзеці і тыя, хто знаходзіцца перад смерцю, спрошчана кажучы смертнікі, адчуваюць жыццё вастрэй. Першыя таму, што толькі з’явіліся і не паспелі засмеціць адчуванне жыцця “чалавечым занадта чалавечым”. Другія таму, што ўжо не зважаюць на другасныя рэчы.

Што як не блізкая смерць прымушае дарослага чалавека вастрэй адчуць жыццё. Гэта падсвядома разумеюць экстрэмалы, якія пастаянна рызыкуюць уласным жыццём. Ад іх часта можна пачуць: “Я нібы нанава нарадзіўся”. Яны спрабуюць увайсці ў ролю другіх, каб наблізіцца да ролі першых. Экстрэмалы імкнуцца стаць дзецьмі і смертнікамі адначасова. Абхапіць жыццё з двух бакоў, ад нараджэння да смерці, адчуць жыццё ва ўсёй паўнаце.

А што дарослыя, хіба яны маюць тыя перавагі, што маюць дзеці? Іх галовы ўвесь час забітыя неістотнымі рэчамі, лухтой: “Цікава Дзяніс яшчэ сустракаецца з Нінай, і як ён ставіцца да Іры?”, “Пад гэтую кашулю ідзе такі гальштук, а што апрануць заўтра?”, “Гэты файны столік каштуе

дзвесце тысяч, калі штомесяц адкладваць па дваццаць тысяч, то ў канцы года змагу яго набыць?", "Зноў гэтыя дэмакраты ашукваюць народ, хто ім толькі даў эфірны час?", "Трэба раней устаць, каб паспець набыць квіток на "Аватар" у 3D, а то потым раскупяць...".

З усіх думак, што круцяцца ў галаве дарослага чалавека, напэўна, толькі адна дзясятая частка з'яўляецца сапраўды важнай. Акрамя гэтага, безліч шаблонаў у мысленні і паводзінах, абмежаванняў і страхаў перашкаджаюць даросламу ў жыцці. Перашкаджаюць яму ўспрымаць жыццё не як сродак, а як мэту.

Дзіцё ж – гэта чыстая форма, гэтакі ніцшэанскі звышчалавек. Ён поўніцца воляй да ўлады, воляй да жыцця, ён агрэсіўны, актыўны, ён жыве не мірам, а вайной, ён імараліст. Дзіцяці не ўласціва individuacya, яму ў большай меры ўласцівы дыянісічны пачатак. Дзіцё блізкае да прыроды, да іншых людзей, яно лучнае з усім універсумам. У ім можна назіраць дыянісічны лішак сілы, энергіі.

Стаць дзіцём – вось лекі ад страхаў, суму, штодзённай заклапочанасці, што тэрарызуюць дарослага чалавека. Безумоўна, я не заклікаю ўсіх адразу кінуцца на падлогу і смактаць палец на назе, альбо пісацца ў штонікі і крычаць "мама!". Зусім не.

Проста трэба захаваць у сабе, а не задушыць тое, што ў нас засталося ад дзіцяці. Не забіваць сабе галаву рознай лухтой, стэрэатыпамі і комплексамі. Трэба паводзіць сябе вальней. Не валяцца перад тэлевізарам на канапе нібы бервяно, а ўвесь час рухацца, цікавіцца, шукаць, спасцігаць. Не адпачываць, а дзейнічаць, жыць не мірам, а вайной. Шчыра ставіцца да свету, быць прагным да жыцця.

Я хуценька дапісваю гэтыя радкі і ўцякаю на вуліцу зноў катацца з горкі.



дэбют

Ганна Грыдзюшка



...мой сапсаваны розум
так і застанецца шалёным...

# Не паеду да мора

### *ПАЛЁТ*

Узвышаюся сваёй верай
над стратасферай.
Паўтараю табе пра нябёсы,
заплятаючы аблокі ў косы:
"Родны мой, мілы мой, паглядзі,
як высока ляцім!
Людзі – кропкі, дамы быццам коскі,
рэкі – што пасля тэксту зноскі.
Мы і неба блакітна-белае –
адзінае цэлае,
прахалода дыхае ў вочы,
быццам казку казаць хоча.
Цёплы вецер спяе калыханку,
прачнемся зранку
і патрапім назад, у звычайны стрэс,
так што радуйся гэтай прагулцы, балбес!"
Я наперад лячу апантана,

як куля з нагана,
твая ж постаць павольна пляцецца,
маўляў: “Ды куды гэта неба дзенецца...”
Назіраю за тваёй верай
са стратасферы.
Шкада, што ў цябе яна нават зверху
не дасягае й другога паверху..

### РАТУНАК

Зноў час ляціць з хуткасцю неверагоднай,
Я ў ім як герой без герба і без сцяга.
Як цяжка казаць, што ў мяне усё добра,
Калі на душы ўсё так брыдка і блага.

Абшар мой стаў цесны, ў ім шмат іншых думак,
Што ноччу ўшчэнт гоняць мой сон зноў да ранку.
Я б’юся аб межы, шукаю ратунак,
А ён, нібы птушка, злятае прэч з ганку.

І што застаецца? Сумленне на твары,
Што зноў не спаймала, што зноў не паспела.
Спыняецца сэрца, разбураюцца мары,
Знікае той шлях, якім птушка ляцела.

Вяртацца да свету ўжо так небяспечна,
Таму лячу ў цемру, гайдаю паветра.
І там я, канечне, застануся вечна
І буду спяваць для бязглуздага ветра.

### ПОМСТА

Стан помсты, смак помсты – усё хлусня,
Бо помсту наогул нельга трываць.
Спачатку прыемна. Ну а пасля
Незадаволенасць, тваю маць.

Паветра празрыстым не хоча быць,
Бо вочы у плямах яго істот.
І хочацца цалкам усё забыць,
І хочацца сэрцу сказаць “стоп”.

І колецца ў душу балюча так
Атрутным аскепкам разбіты свет.
Яго намалюе сляпы мастак,
Забыўшы сказаць помсце слова “не”.

Калі надакучыць нямая злосць,
Я куляй яе са спіны заб'ю.
Як помсту пазбавіць мне стану "ёсць"?
Як знішчыць ушчэнт яе, маць тваю?

***НЕ ПАЕДУ ДА МОРА***

Можа я няправільная ці вар'ятка,
бо не хачу да мора.
Там чужыя людзі, там чужыя справы,
там чужая мова.
І як вы не спакушайце гультайнічаць
на беразе салёным,
Але мой сапсаваны розум
так і застанецца шалёным.
Бо мне ўсё ж такі нашмат бліжэй
будуць родныя месцы,
Тут мяне чакае мая зямля,
што навечна ў сэрцы,
Тут мяне паклічуць мае сяброўкі на "пасядзелкі":
Ўсё пачнецца квасам,
а скончыцца, як вядома, гарэлкай.

Хай у мора на світанак
плывуць кацеры да гарызонту,
А мне добра й на родным возеры,
седзячы без парасону,
Хай сцяной льецца дождж,
і ў лесе хаваюцца вожыкі з трусамі,
А мы будзем з каханым пад ім
абдымацца спякотнымі вуснамі.

Там няхай мясцовыя негры
хваляцца прыгожымі целамі,
А мы тут, як ні былі,
так і не будзем ужо загарэлымі.
Ды затое глядзіце,
як яскрава увесь дзень да ночы
Блішчаць побач з русымі валасамі
зялёныя вочы.

Не паеду да мора, бо засумую там па Радзіме,
Будзе так адзінока,
нібыта ў Антарктыцы на ільдзіне.

Там мяне не сагрэе спякотна-падагрэтае сонца,
Бо люблю свае маразы
нават болей, чым бясконца.



Граф дэ Лотрэамон



...зло, зробленае чалавекам,
ужо нішто не можа выправіць...

# Песні Мальдарора

*Пераклад з французскай Дзмітрыя СЕРАБРАКОВА.*

**Ад перакладчыка**

***Кім быў Ісідор Дзюкас, больш вядомы пад псеўданімам граф дэ Лотрэамон? Пра аўтара “Песняў Мальдарора” невядома амаль што нічога.***

***Ісідор Дзюкас нарадзіўся 4-га красавіка 1846 года ў сталіцы Ўругваю Мантэвідэа. У раннім дзяцінстве ён застаўся без маці. Выхоўваўся ў езуіцкім калегіюме ў Мантэвідэа, дзе паказаў выдатныя поспехі ў матэматыцы і ў натуральных навуках. Бацька паслаў яго ў Парыж, каб далей вучыцца ў Палітэхнічным ліцэі Анры IV. Там, у квартале Біржы, у сваім пакоі ён і пісаў па начах свае “Песні”.***

***У 1868 годзе ён ананімна выдае першую частку “Песняў Мальдарора”. У наступны год ён публікуе разам шэсць частак “Песняў”, пасля перарабляе першую: ён прачытаў яе аднаму са сваіх блізкіх сяброў. Менавіта тады ён абраў сабе гэты свой***

***псеўданім натхнёны, безумоўна, адным з персанажаў Эжэна Сю, папулярным фельетаністам Лотрэамонам, чалавекам з сэрцам пачварыны.***

***Але яго выдавец адмовіўся выпусціць кнігу ў свет, палічыўшы яе яшчэ надта сырой. Лотрэамон тады адпраўляецца ў Бельгію, каб паспрабаваць там надрукаваць “Мальдарора”. Тым часам ён працуе над іншым творам, прысвечаным надзеі, і які быў бы працягам “Мальдарора”. Піша прадмову ў траўні 1870.***

***Дзюкас-Лотрэамон жыве на пенсіён, які яму вызначыў бацька, часта мяняе свой адрас, і яго жыццё падобнае на мітуслівую эпоху апошніх год валадарства Напалеона ІІІ. Вайна пакончыла з усімі літаратурнымі праектамі. Яго след губляецца 24-га лістапада 1870: акт смерці пацвердзілі гаспадар і кансьерж мэбляваных пакояў прыгарада Манмартра.***

***“Песні Мальдарора” зноўку адкрылі Леон Блой і Рэмі Гурмон і перавыдалі прыватным чынам у 1874 і ў 1890. Блэз Сендра зноў перавыдаў “Песні Мальдарора” на пачатку ХХ-га стагоддзя. Шмат зрабілі сюррэалісты, каб адкрыць загадкавага Лотрэамона шырокай публіцы.***

## Песня Першая

[1] Дай бог, адважнаму чытачу, які вокамгненна зрабіўся адпаведна жорсткім, як і тое, пра што ён прачытаў, без перашкодаў пракласці сваю крывую і дзікую сцежку праз спустошаную багну гэтых цьмяных і наіўных старонак, поўных атруты, бо чытанне гэтых радкоў патрабуе строгай логікі і разважнага меркавання, раўнаважнага, прынамсі, уласнаму недаверу, бо інакш, смяротныя эманацыі гэтай кнігі насыцяць ягоную душу, як вада насычаецца цукрам. Нядобра, што ўвесь свет прачытае наступныя старонкі, бо толькі выбраныя[1] без шкоды пакаштуюць гэты горкі плод. У выніку рахманая душа замест таго, каб ісці далей па гэтых недаследваных абшарах, накіроўвае свае абцасы назад, а не наперад так, як вочы непаслухмянага дзіцяці адварочваюцца ад матчынага твару, альбо вялізны, наколькі хапае зроку, клін жураўлёў[2], разважных птушак, што ў зімовы час ляцяць праз развешаныя заслоны, аж да скрайняй кропкі гарызонту, адкуль раптоўна налятае, шалёны і магутны вецер, прадвеснік буры. Старэйшы жoраў, які знаходзіцца на чале кліну, глядзіць на яе, хістаючы галавой, нібы разумная істота, і праз гэта ягоная дзюба таксама пачынае пляскаць, а старая аздобленая рэдкімі пер’ямі шыя, якая перажыла ўжо тры пакаленні жураўлёў, гойдаецца ў нервовых сутаргах, у прадчуванні подыху навальніцы. Шматкротна кінуўшы халоднакроўны погляд па ўсіх баках вачыма, заплюшчанымі на любы досвед, асцярожна, першым, бо менавіта гэта ён мае прывілей паказваць апярэнне свайго хваста іншым жоравам, слабейшым за яго розумам, са сваім дрыготкім крыкам меланхалічнага вартаўніка, каб адбіць атаку агульнага ворага, пачынае круціцца

---

[1] *Толькі нямногім давядзецца...* – Пачатак Першай песні нагадвае першыя радкі “Споведзі сына веку” Альфрэда дэ Мюсэ. (1810-1857).

[2] *Клін жураўлёў* – магчыма, перыфраз з дантаўскага “Пекла” (Песня V, 46-49):

Як жураўліны клін ляціць на поўдзень
З нуднай песняй у вышыні надгорнай...

з гнуткасцю кропкі геаметрычнай фігуры (магчыма, гэта трохкутнік, але не відаць трэцяга боку ў прасторы лёту гэтых надзвычай цікавых птушак) то ў правы, то ў левы бок, як дасвечаны капітан, манеўруючы крыламі, якія выдаюцца не большымі, чым крылы вераб'я, і, паколькі ён не дурны, па-філасофску выбірае іншы шлях, больш бяспечны.

[2] Хачу распавесці ў некалькіх радках якім добрым быў Мальдарор у першыя шчаслівыя гады[1] жыцця, вось гэта і зроблена. Але пазней ён заўважыў, што нарадзіўся злым: о, лёс ліхі! Напрацягу доўгага шэрагу гадоў ён хаваў свой характар, наколькі мог, але, урэшце, у выніку гэткага напружання, якое цалкам не было для яго натуральным, штодня кроў прылівала яму ў галаву так, што няздольны больш трываць гэткага падвойнага жыцця, ён імкліва кінуўся ў точышча зла... салодкі подых! Хто б казаў! Калі ён прытуляў малое дзіця з ружовым тварыкам, то жадаў адцяць яму шчочкі брытвай, і не адзін раз бы гэта зрабіў, калі б юстыцыя з яе доўгім ланцугом пакаранняў кожнага разу не ставіла яму перашкоды. Ён не быў хлусам, прызнаваў сапраўдны стан рэчаў, сам сцвярджаў сваю жорсткасць, людзі, вы чуеце? Такім чынам, ёсць улада больш магутная, чым воля. Праклён! Ці можа камень ухіліцца ад закону прыцягнення? Немагчыма. Немагчыма, калі зло жадае спадарожнічаць дабру. Вось, пра што я хацеў распавесці.

[6] Пазногці адрошчваюцца на працягу пятнаццаці дзён[2]. О! якая гэта асалода гвалтоўна вырваць з цёплага ложка хлопчыка, у якога нічога яшчэ няма над верхняй губой, і з шырока адкрытымі вачыма зрабіць выгляд, што пяшчотна лашчыш ягоны лоб, адгарнуўшы назад цудоўныя валасы! Раптам у найменш чаканы момант унурыць кіпцюры ў яго падатныя грудзі, але так, каб ён не памёр, бо гэта ў наступстве знікчэмніла б ягоныя пакуты. Пасля п'ецца кроў і вылізваюцца раны, і напрацягу ўсяго гэтага часу, які павінен трываць доўга, як вечнасць, хлопчык плача. Няма нічога лепшага за атрыманую гэткім чынам цёплую яшчэ кроў, можа, акрамя слёз, горкіх, як соль. Чалавеча, ці ж ты ніколі не каштаваў уласнае крыві, выпадкова параніўшы сабе палец? Што, смачна? Бо яна не мае смаку. А ці ты не памятаеш той дзень, калі ты, занурыўшыся ў пахмурныя думкі, паднёс да свайго хваравітага твару, вільготнага ад кропляў, якія падаюць з вачэй, далонь, складзеную чоўнікам, і рука несвядома скіравалася да вуснаў, якія з гэтага кубка, дрыготкага, як зубы вучня, калі той ускрайкам вока пазірае на аднакласніка, свайго жорсткага прыгнятальніка, пілі твае слёзы? Што, смачныя? Цудоўна, не? Бо яны маюць смак воцату. Слёзы той, кажаш ты, якая кахала – гэта падман, але слёзы маленькага хлопчыка лепш дагаджаюць нёбу. Ён ніколі не здрадзіць, бо яшчэ не ведае зла, але тая, якая кахае самым моцным каханнем, здрадзіць позна ці рана... пра гэта я магу здагадвацца толькі тэарэтычна, бо ніколі не ведаў, што такое сяброўства і каханне і, магчыма, ніколі не даведаюся ані пра адно, ані пра другое, ва ўсялякім выпадку, не ад людзей. Калі твае ўласныя кроў і слёзы табе не агідныя, сілкуйся, сілкуйся крывёй і слязьмі таго хлопчыка. Хай у яго будуць завязаныя вочы, калі ты будзеш разрываць яго дрыготкае цела,

---

[3] *першыя шчаслівыя гады жыцця* – не выключана, што за гэтымі радкамі стаіць рэальнае жыццё хлопчыка Дзюкаса ў забяспечанай сям'і французскага дыпламата.

[4] *пазногці адрошчваюцца на працягу пятнаццаці дзён* — магчымы перыфраз верша Шарля Бадлера "Благаславенне" са зборніка "Кветкі Зла".

а калі ўжо праз цэлую гадзіну ты наслухаешся яго цудоўнага лямanту, падобнага да пранізлівага іржання коней на полі бітвы, адсунься ад яго, імклівa, як лавіна, а потым прыбяжы з другога пакоя так, каб было падобна, што ты прыйшоў яго ратаваць. Развяжы яму рукі з набрынялымі цяглiцамі і венамі, вярні зрок бледным вачам і зноў прыступі да злізвання крыві. Якая сапраўдная пакора ахопіць цябе ў той момант! Як жа радасна б'еццa сэрца, калі можа суцешыць нявінную істоту, якой зроблена крыўда! "Бедны хлопчык, ад каго ты перацярпеў такія жахлівыя пакуты, хто ж мог учыніць над табой такое злачынства, якому няма нават імя? Няшчасны! Твая родная маці не спалохалася б за цябе больш, так узненавідзеўшы тваіх крыўдзіцеляў, чым я ў гэтую хвіліну. Але! Што такое дабро, і што такое зло! Можа гэта ўсяго толькі тая адна рэч, якая служыць нам, каб натхнёна ўказваць на нашыя немачы і жарслівую патрэбу бясконцага, нават спосабам самым шалёным? Ці ўсё ж гэта дзве розныя рэчы? Не... для мяне лепш, каб гэта было адно і тое... бо калі інакш, што ж мяне спаткае ў судны дзень? Хлопчык, даруй мне прабачэнне! Гэта той, хто стаіць перад тваім святым і шляхетным аблiччам, паламаў твае косці і раздрапаў цела, што звісае з цябе лахманамі, гэта шаленства майго хворага розуму, ці таемны інстынкт, незалежны ад маіх меркаванняў, такі як у арла, які раздзірае сваю здабычу, штурхнуў мяне на гэта злачынства. Але я цярпеў таксама, як і мая ахвяра! Хлопчык, даруй мне прабачэнне! Калі ўжо будзеш мець за сабой гэтае пралётнае жыццё, я прагну адно каб мы былі сплеценыя разам на цэлую вечнасць, творачы адну істоту, вусны пры вуснах. Але, нават гэткім чынам я не буду дастаткова пакараны. Будзеш няспынна драпаць мяне кіпцюрамі і зубамі адначасова. Агарну сваё цела ў пахучыя гірлянды дзеля пакутнае ахвяры, і абое будзем цярпець, я – бо буду раздзіраны, і ты, бо будзеш мяне раздзіраць. О, яснавалосы хлопчык з лагоднымі вачыма, ці будзеш ты рабіць так, як я табе сказаў? Прагну, каб ты гэта зрабіў насуперак сабе, вяртаючы шчасце майму сумленню". Сказаўшы гэта ўсё, будзеш чалавекам, які прычыніў зло чалавечай істоце, і ў той жа час каханы гэтай істотай, што робіць найбольшае шчасце, якое можна сабе ўявіць. Пазней можаш аддаць яго ў шпіталь, бо калека ўжо не заробіць сабе на жыццё. Будуць казаць, які ты добры. Лаўровыя вянкі і залатыя медалі аздобяць твае босыя ногі, расстаўленыя над магілай, нібы старая статуя. О, ты, той, чыё імя не хачу змясціць на гэтым аркушы, прысвечаным святоўнасці злачынства, я ведаю, што ты праявіў сілу прабачэння, вялікага, як сусвет, а я і надалей існую!

[8] У святле поўні, на марскім узбярэжжы і далёка ў палях, занурыўшыся ў горкія роздумы, можна ўбачыць, як усе рэчы пераапранаюцца ў жоўтыя і няпэўныя фантастычныя формы. Цені дрэваў то хутка, то паволі, хутка перабягаюць і вяртаюцца ў разнастайных кшталтах, прыплюшчваючыся і прыціскаючыся да зямлі. Часам, калі мяне несла на крылах юнацтва, я марыў, і гэта здавалася мне дзіўным, цяпер і я ўжо прызвычаіўся. Вецер стогне ў лісці гэтых млявых натаtак, і кугакаўка нясе свае гучныя скаргі, ад якіх варушацца валасы кожнага, хто іх пачуе. І ў гэты час азвярэлыя сабакі[1] разрываюць свае ланцугі і зрываюцца са сваіх далёкіх фермаў. Яны бягуць у палі там і тут, апантаныя шалам. Раптоўна спыняюцца, азіраючы-

[1] *і ў гэты час азвярэлыя сабакі* – У гэтай страфе азначыліся шматлікія паралелі з вершам Шарля Леконт дэ Ліля (1818) "Выючыя сабакі" (Зборнік "Барбарскія вершы", 1862).

ся па ўсіх баках, з ліхаманкавым непакоем, звар'яцелымі вачыма і, нібы сланы ў гадзіну смерці, якія ўзносяць апошні погляд у нябёсы, роспачліва ўздымаючы свае хоботы, нерухома апускаючы свае вушы долу, так і сабакі нерухома апускаюць свае вушы, узносячы пысы, страшэнна заломваюць шыі ўгору і пачынаюць брахаць раз за разам, нібы галоднае дзіця; нібы параненая ў жывот котка; нібы павінная нарадзіць жанчына; нібы хворы, які чакае смерці ў шпіталі; нібы ўзнёслы дзявочы спеў; на зоркі поўначы, на зоркі заходу; на зоркі поўдня; на зоркі ўсходу; на поўню; на горы, якія здалёк выдаюцца вялізнымі скаламі, што ляжаць у прыцемках; на халоднае паветра, якое яны ўдыхваюць поўнымі лёгкімі, якое ўрываецца ўнутр іхніх ноздраў, пунсовых і распаленых; на маўклівасць ночы; на совах, якія на лёце падцінаюць ім морды, і ў дзюбе нясуць пацука альбо жабу, жывую ежу, ласунак для малых; на зайцоў, якія знікаюць у імгненне вока; на злодзея, які пускае галопам свайго каня, пасля ўчыненага злачынства; на змей, якія варушацца ў верасе, ад якога дрыжыць іхная скура і рыпяць зубы; на свой уласны брэх, які на іх саміх наганяе жах; на рапух, якіх яны трушчаць адным сухім пошчакам сківіцаў (як апынуліся яны так далёка ад балотаў?); на дрэвы, чые лісце мякка калышацца, у якіх столькі таямніцаў, якіх яны не разумеюць, якія яны прагнуць адкрыць сваімі застылымі разумнымі вачыма; на павукоў, падвешаных паміж іх доўгіх лапаў, і якія караскаюцца на дрэвы, каб знайсці паратунак; на варон, якія не знайшлі нічога, каб пад'есці за цэлы дзень і вяртаюцца ў свае сховішчы на стомленых крылах; на прыбярэжныя скалы; на агні, якія мільгацяць на мачтах нябачных караблёў; на глухі шум хваляў; на вялікіх рыбаў, якія плаваюць, паказваючы свае вялізныя чорныя спіны; а пасля знікаюць у бездані і на чалавека, які іх зняволіў. Потым яны зноў кідаюцца бегчы ў палі на сваіх скрываўленых лапах, праз рытвіны, дарогі, палі і травы і пакручастае каменне. Здаецца, яны прыпыняюць сваю лютасць у пошуку прыстанку, каб спатоліць прагу. Іх працяглы рык наводзіць жах на ўсё наваколле. Гора спозненаму падарожніку! Сябры могілак накінуцца на яго, разарвуць, пажруць сваімі пашчамі, з якіх крапае кроў, бо ў іх не бывае хворых зубоў. Дзікія звяры не адважваюцца наблізіцца, каб прыняць удзел у крывавай вячэры і ад жаху ўцякаюць куды вочы глядзяць. Пасля некалькіх гадзінаў, сабакі, знясіленыя беганінай туды і сюды, амаль мёртвыя, з высунутымі з пашчаў языкамі, кідаюцца адзін на аднаго, не ведаючы, што робяць і з неверагоднай хуткасцю разрываюць на тысячы дробных шматкоў. Але іхнімі дзеяннямі кіруе не жорсткасць. Аднойчы мая маці, гледзячы на мяне ашклянелымі вачыма, сказала: “Пакуль ты ляжыш у сваім ложку, слухаючы сабачы брэх у палях, схавайся пад коўдрай і не глядзі на іх з пагардай – яны маюць неспатольную прагу бясконцага, як ты, як я, як большасць людзей з доўгім і бледным аблічам. Нават, дазволю табе сесці перад вакном, каб аглядаць гэтую вытанчаную дзею”. Ад гэтага часу я захоўваю запавет смерці. Як сабакі, я адчуваю патрэбу бясконцага... Не магу, не магу вытлумачыць гэтай патрэбы бясконцага! Я сын чалавека і жанчыны, як мне казалі. Гэта мне здавалася дзіўным... Я спадзяваўся на большае! Урэшце, якая мне розніца, ад каго я паходжу? Калі б гэта залежала ад маёй волі, я жадаў бы быць сынам акулы, чый голад па крыві блізкі да ўрагану і тыгра, слаўнага жорсткасцю, і я не быў бы такі злосны. Вы, тыя, хто на мяне глядзіць, адыдзіце прэч ад мяне, паколькі дух, які ад мяне сыходзіць – гэта дух атруты. Ніхто яшчэ не бачыў ані рэзкіх зморшчынак на маім ілбе, ані касцей, якія тырчаць з маёй

худобнай фігуры, як плаўнікі вялікай рыбы, альбо скал, якімі ўсеянае ўзбярэжжа мора, альбо пакручастых альпійскіх гор, якія я часам аглядаў, тады яшчэ, калі валасы на маёй галаве былі іншага колеру. І я блукаю паміж чалавечых халупаў, у час ураганнай ночы, з палкімі вачыма, валасамі, сцябанымі ветрам навальніцы. Самотны, як камень пасярод дарогі, я накрываю пануры звялы твар кавалкам аксаміту, чорным, як сажа, што бывае ў самым сэрцы комінаў: не трэба, каб вочы былі сведкамі брыдотаў, якімі Вышэйшае Быццё з усмешкай магутнай нянавісці ўзнагародзіла мяне. Кожную раніцу, калі вока сусвету ўзыходзіць дзеля іншых, разліваючы для ўсяго свету дабрачынную радасць і цяпло[1], аніводная з маіх рысаў не здрыганецца, пільна ўглядваючыся ў прастору поўную ценяў; прысеўшы на дне маёй улюбёнай пячоры, у роспачы, якая ап'яняе мяне, як віно, я я растурзаў магутнымі рукамі свае грудзі на шматкі.

А ўсё ж, здаецца, што мне далёка да ярасці. А ўсё ж, здаецца, я яшчэ не адзіны, хто церпіць боль! Аднак, здаецца, што я яшчэ дыхаю! Як пракляты, які спрабаваў свае цяглiцы, разважаючы пра іх, і які неўзабаве збіраецца ўзысці на эшафот, стоячы на нагах, на маім саламяным ложку, я павольна кручу шыяй з правага на левы бок, на працягу цэлай гадзіны, я не падаю мёртвым. Ад моманту да моманту, калі мая шыя не можа круціцца ў тым самым кірунку, калі яна спыняецца, каб пачаць круціцца ў кірунку супрацьлеглым, раптам я гляджу ў бок гарызонту праз рэдкія зазоры, пакінутыя ў кудлатых карчах, якія засцілаюць уваход: я не магу нічога! Нічога, калі няма палёў, якія танчаць у выкрутасах з дрэвамі і доўгімі стужкамі птушак, якія крэсляць паветра. Гэта хвалюе кроў і розум. Але хто ж гэта ў маёй галаве так б'е жалезным кулаком нібы молатам па кавадлу[2]?

[13] Брат п'яўкі вольным крокам ішоў праз лес, не раз спыняўся і адкрываў рот, каб загаварыць. Але кожным разам ягонае горла сціскалася і зноў надзьмувалася ў марным высілку. Урэшце ён закрычаў: "Чалавеча, калі ты сустракаеш здохлага сабаку[3], перакуленага дагары нагамі, абапёртага на плытку, якой перагароджана пратока, не ўцякай так, як іншыя, вазьмі ў далоні чарвякоў, якія вылазяць з яе раздзьмутага чэрава, са здзіўленнем разглядаючы іх, расчыні сцізорык, пасячы яго на мноства дробных кавалкаў, сказаўшы сабе, што і ты таксама не будзеш нічым большым за гэтага сабаку. Якую таямніцу ты шукаеш? Ані я, ані ластаногі марскі коцік Паўночнага Ледавітага акіяну не маглі разгадаць таямніцу жыцця. Глядзі, набліжаецца ноч і ты застанешся тут да раніцы. Што скажа твая сям'я разам з тваёй сястрычкай, убачыўшы, што ты прыходзіш так позна? Вымый рукі і вяртайся той дарогай, якая вядзе цябе туды, дзе ты начуеш... Што ж гэта такое там, на гарызонце адважваецца без страху наблізіцца да мяне крывымі і недарэчнымі падскокамі; якая ў іх веліч і пакора! Погляд такі лагодны і такі глыбокі. Вялікія павекі гуляюць з ветрыкам і здаюцца жывымі. Я не знаёмы з гэтай істотай. Калі гэтыя пачварныя вочы спыняюцца на мне, я ўздрыгваю ўсім целам, гэта са мной упершыню з тае пары, як я смактаў

---

[1] *вока сусвету, на цэлы мір адкрытае з любоўю...* – цытата з драматычнай паэмы Байрана (1788-1824) "Манфрэд" (1817; I,2)

[2] *у маёй галаве так калоціць жалезным кулаком нібы молатам па кавадлу* – у гэтых радках, магчыма, маюцца напаміны аб частых мігрэнях самога Дзюкаса, пра якія сведчыў і Поль Леспес.

[3] *чалавеча, калі ты сустракаеш здохлага сабаку...* – магчымыя перакліканні з інтанацыяй "Падлы" Бадлера ("Краскі зла", "Сплін і ідэал", XXIX).

пасохлыя смочкі той, якую я зваў сваёй маці. Вакол яе свеціцца нешта падобнае да асляпляючай аўры. Калі яна пачынае гаварыць, усё навокал замірае ў трапятанні. Хочаш падысці да мяне, як прыцягнутая магнітам, я не буду супраць. Якая прыгажосць! Якая згрызота ў маіх словах! Ты павінна быць магутнай, бо ў тваёй постаці ёсць звышчалавечае, сумнае, як сусвет, пекнае, як суіцыд. Я ненавіжу цябе, наколькі магу, я б хутчэй хацеў бачыць змяю, абвітую вакол маёй шыі, але не твае вочы. Як!.. Гэта ты, рапуха[1]! Прабач, прабач! Што ідзеш ты рабіць на гэтым свеце, дзе жывуць праклятыя? Што ты робіш тут са сваімі слізкімі гнайнікамі, што смярдзяць так, каб паветра зрабілася салодкім? Калі ты сышла з вышыняў па загаду Найвышэйшага з місіяй суцяшэння самых розных гатункаў жывых істотаў, ты абрынулася на зямлю з імклівасцю каршука, з крыламі нястомленымі гэтым доўгім цудоўным падарожжам; я ўбачыў цябе! Бедная рапуха! Як я тады разважаў пра бясконцае і пра сваю слабасць. Адзін з тых, хто найвышэйшы на зямлі, прамовіў да мяне: ёсць на гэта боская воля. Але чаму так? Каму карысць ад няспраўядлівасці найвышэйшых законаў? Ці ж бязглузды Творца, хаця ён і наймагутнейшы, ярасць яго жахлівая! Але, калі ты з’явілася мне, царыца сажалак і балотаў, пакрытая славай, уласцівай толькі Богу, ты трохі суцешыла мяне, але мой квёлы розум – нішто перад аблічам такой велічы! Хто ты, аднак? Застанься... О! застанься яшчэ на гэтай зямлі! Разгарні свае белыя крылы і не глядзі ўгару праз свае дрыготкія павекі – калі ты йдзеш, пойдзем разам! Рапуха села на заднія ляжкі (якія так падобныя на чалавечыя) і, калі слімакі, макрыцы і смаўжы паўцякалі, убачыўшы свайго смяротнага ворага, яна пачала сваю прамову наступным чынам: “Мальдарор, паслухай мяне. Зірні на маю постаць, спакойную, як люстра, я спадзяюся, што маю розум роўны твайму. Аднойчы ты назваў мяне апірышчам у сваім жыцці. Я не адрынула давер, якім ты мяне адарыў. Я ўсяго толькі жыхарка чаротаў, гэта праўда. Але, толькі раз дакрануўшыся да цябе, мяне захапіла ўсё тое, што было ў табе найлепшага, і душа мая ўзляцела ў неба. Я прыйшла да цябе, каб выцягнуць цябе з багны. Тыя, хто называе сябе тваімі сябрамі, прыгнечана глядзяць пры кожнай сустрэчы з табой, бледным і згорбленым у тэатрах, публічных месцах і касцёлах ці сціскаючага паміж дзвюх нервовых сцёгнаў каня, які скача толькі ўначы, нясе свайго пана – прывіда, загорнутага ў чорны плашч. Пакінь гэтыя думкі, якія спусташаюць тваё сэрца і гараць ярчэй агню. Твой дух такі ж хворы, як і ты, як і тое, што ты лічыш у сабе натуральным, кожны раз, калі з вуснаў тваіх зрываюцца бязглуздыя словы, поўныя пякельнай велічы. Небарака! Што казаў ты ад самага дня твайго нараджэння? О, смутак, які застаецца неўміручаму розуму, які Бог сатварыў з такой любоўю? Ты нарадзіўся з праклёнам больш агідным, чым выгляд згаладалых фурыяў! Лепей мець сляпыя павекі, бязногае і бязрукае цела. Забіць чалавека, калі гэта ты! Бо я ненавіджу цябе. Навошта мець характар, які мяне так ашаламіў? Па якому праву ідзеш ты па гэтай зямлі, каб здзекавацца з тых, хто на ёй жыве, гнілы ападак, раздрапаны скептыцызмам? Калі ты не падабаешся сабе, узнясіся назад у тыя сферы, адкуль ты сышоў. Жыхар гарадоў не павінен сядзець у вёсках, як чужаніца. Мы ведаем, што ў касмічных абшарах існуюць сусветы больш разлеглыя чым наш, і ў якіх духі маюць розум, пра які мы нават не можам здагадацца. Добра, ідзі... выбірайся са

[1] *Як!.. Гэта ты, рапуха!* – на месцы гэтага персанажа ў першым выданні стаяла імя Дазэта..

сваёй зыбучай глебы!.. Пакажы, урэшце, сваю боскую істоту, якую ты ўсё хаваў і найлепей накіруй свой лёт да свайго неба, якое не горш за наша, гордае, як і ты сам! Бо я не паспела распазнаць, ці ты чалавек, ці нешта большае за чалавека. Бывай, аднак, не спадзявайся больш сустрэць рапуху на сваём шляху. Ты стаў прычынай маёй гібелі. Я сыходжу ў вечнасць, каб вымаліць табе дараванне!"

## Песня Другая

[13] Я шукаў душу, падобную да маёй, і не мог яе знайсці. Я пільна абшарыў кожны куток на зямлі, мая настойлівасць была дарэмнай. Аднак, я не мог заставацца самотным, патрэбны быў нехта, хто б адпавядаў майму характару, патрэбны быў нехта, хто б меў такія ж думкі, як я. Была раніца, сонца ўздымалася над гарызонтам ува ўсёй сваёй велічы, і вось, перад маімі вачыма ўзнік малады чалавек, ад прысутнасці якога квітнелі кветкі на ўсім яго шляху. Ён наблізіўся да мяне і працягнуў руку: "Я прыйшоў да цябе, ты, які мяне шукаеш. Блаславі гэты шчаслівы дзень." Але я адказаў: "Ідзі. Я не зваў цябе, мне не трэба твайго сяброўства". Быў вечар; ноч пачынала распраўляць чорнае паскудства свайго вэлюму над светам. Прыгожая жанчына, якую я яшчэ не мог выразна разгледзець, пачала распаўсюджваць на мяне свой чарадзейскі ўплыў, не адважваючыся, аднак, загаварыць. Я сказаў ёй: "Падыдзі да мяне, каб я мог разгледзець твае рысы, бо святла зорак яшчэ не стае, каб асвятліць цябе на такой адлегласці." Вось сціплым крокам, з апушчанымі долу вачыма, яна прымяла траву, накіроўваючыся ў мой бок. Вось што я сказаў: "Я бачу, што дабро і справядлівасць абралі жытлом тваё сэрца, і мы няздольныя жыць разам. Зараз ты захапляешся маёй прыгажосцю, якая ўражвае больш за ўсё іншае, але рана ці позна ты ўсё роўна пашкадуеш, што прысвяціла мне сваё каханне, бо ты не ведаеш маю душу. Не ў тым справа, што я мог бы здрадзіць – калі жанчына ахвяруе мне сябе цалкам і з такім даверам, я адказваю ёй да рэшты з такім самым поўным даверу адданнем, але запомні і ніколі не забывай: ваўкі і авечкі ніколі не глядзяць адны на другіх салодкімі вачыма." Што ж заставалася мне, калі я адрынуў з такой агідай тое, што было найпрыгажэйшага ў людзей! Тое, што мне засталося, я ніколі не быў здольны вымавіць. Ніколі я не меў звычаю карыстацца фенаменам свайго розуму паводле таго метаду, які дае філасофія. Я сеў на скале на беразе мора. Карабель пад усімі ветразямі ішоў, каб дайсці да гэтага месца, нябачная кропка нібы набліжалася ад лініі гарызонту, усё бліжэй і бліжэй, пад шквальнымі павевамі ветру, узрастаючы з раптоўнай сілай. Бура збіралася пачаць свае атакі, і неба ўжо пацямнела і пачарнела[1], амаль так агідна, як сэрца чалавека. Карабель, які быў вялікім вайсковым жагляром, прыйшоў кінуць свае катвігі, каб не разбіцца аб прыбярэжныя скалы. Вецер шалёна дзьмуў з усіх чатырох бакоў свету і раздзіраў ветразі на лахманы. Удары грому раскатваліся на тысячы бліскавіцаў, і не спыняўся лямант, які далятаў з дому без падмурку, плывучай грабніцы. Гойданне гэткай масы вады не парвала ланцугі катвігаў, але ад яе штуршкоў у бартах карабля адчыніліся два праломы для плыняў вады. Пралом агромісты, паколькі моцы помпаў не хапала, каб змагацца з вялізнымі

[11] Бура збіралася пачаць свае атакі, і неба ўжо пацямнела і пачарнела – Падобнае апісанне знаходзіцца ў драме Мэт'юрына "Бертрам, ці замак святога Альдобранда" (1813).

хвалямі салёнай вады, якія з пенай накатваліся на карабельную палубу, нібы горы. Карабель у роспачы выдаваў гарматныя стрэлы алярму, але гінуў павольна... і велічна. Не зразумее той, хто не бачыў карабель, які гіне ў сэрцы ўрагану, паміж бляскам маланкі і найглыбейшай цемрай, у той час, як тыя, хто яе перажывае, знямоглі ад адчаю, немагчымага ў звычайным жыцці. Урэшце, пачуўся касмічны крык бясконцай роспачы знутры карабля, калі мора ўзмацніла ўдвая свае няўхільныя атакі. Кожны апрануўся ў шаты пакоры і перадаў свой лёс у боскую руку. Так звычайна паводзіць сябе статак баранаў. Карабель у роспачы выдаваў гарматныя стрэлы алярму, але гінуў павольна... і велічна. Яны павінныя былі забаўляцца з помпамі цэлы дзень. Марныя высілкі. Надышла ноч, густая і бязлітасная, каб скончыць з гэтым прыўкрасным відовішчам. Кожны ведае, што калі трапляюць у ваду, пачынаюцца цяжкасці з дыханнем, бо, як ні напружваць сваю памяць, ніхто не можа прыпомніць рыбу сярод сваіх продкаў, але, трапіўшы ў ваду намагаюцца затрымаць дыханне як мага даўжэй, каб працягнуць сваё жыццё яшчэ на два-тры імгненні і ў гэтым ёсць зласлівая іронія, за якую трэба быць удзячным смерці. Карабель у роспачы выдаваў гарматныя стрэлы алярму, але ён гінуў павольна... і велічна. Невядомым чынам карабель праваліўся ў прорву, зрабіўшы вялізны вір з дзвюх адтулінаў, якія віруюць вакол сябе, як гразкая буза, памеленая ў бурлівай вадзе, нібы апынуўшыся паміж сілай, што ідзе знізу і навальніцай, якая нясе разбурэнне з вышыні, уключанае ў стыхію разгрому і жаху. Нягледзячы на прыпасы халоднакроўнасці, якія будучы тапелец назапасіў ад пачатку, ён павінен пасля грунтоўных меркаванняў чуць сябе шчаслівым, калі яшчэ працягвае жыць у віхуры бездані, хаця б і на палову нармальнага ўздыху. Таму немагчыма яму будзе больш грэбаваць смерцю, сваёй апошняю воляй. Карабель у роспачы выдаваў гарматныя стрэлы алярму, але ён гінуў павольна... і велічна. Гэта памылка. Не чуваць больш гарматных стрэлаў, ён больш не тоне. Арэхавая шкарлупіна цалкам занурылася ў ваду. О, неба! Як можна жыць, дазнаўшы столькі асалоды! Мне было дадзена быць сведкай смяротнай агоніі мноства маіх супляменнікаў. Хвіліна за хвілінай я сачыў за разгортваннем жахлівай дзеі. Часам, шалёны крык нейкай старой заглушае натоўп на кірмашы. Часам, адзіны піск немаўляці перашкаджае пачуць каманды аддаваныя маракам. Карабель знаходзіўся надта далёка, каб выразна пачуць усе енкі якія даносіліся парывамі ветру, але я наблізіў іх да сябе высілкам волі і аптычная ілюзія была поўнай. Кожную чвэрць гадзіны, калі шквал быў мацнейшы за іншыя, даносіліся гэтыя хаўтурныя гукі праз крыкі спалоханых чаек, выкрываючых месца знаходжання карабля, расколатага ўздоўж, і павялічваў стогны тых, каму належала стаць ахвярай халакосту смерці, я пракалоў шчаку вастрыём жалезнай іголкі і ўпотайкі думаў: “Яны цярпяць яшчэ больш!” Я мог, прынамсі, параўноўваць. З берага я звяртаў у іх бок праклёны і пагрозы. Мне здавалася, што яны мяне пачулі! Мне здавалася, што мае словы пераадольвалі адлегласць, нягледзячы на фізічныя законы гуку, і ўляталі проста да іх вушэй, аглушаных выццём раз’юшанага акіяну. Мне здавалася, што яны павінныя думаць пра мяне і адчуваць сваю прагу помсты ў бяссільнай злосці! Часам я кідаў погляд на гарады, паснулыя на бяспечнай зямлі, і бачыў, што ніхто не сумняваўся ў тым, што карабель павінен патануць у некалькіх мілях ад берага, увенчаны каронай падлажэрных птушак і на п’едэстале з марскіх волатаў з пустым нутром, мужнасць вярнулася да мяне, і надзея таксама вярну-

лася: я быў пэўны ў іх гібелі! Каб забяспечыць меры перасцярогі, я пашукаў дубальтоўку, на той выпадак – калі б нехта з тых, хто пацярпеў крушэнне, спакусіўся б праплыць праз скалы, пазбягаючы немінучай смерці – куля ў плячо раструшчыла б яму руку і перашкодзіла б у выкананні яго намеру. У самы жахлівы момант буры я ўбачыў, па самыя вочы занураную ў адчайных высілках выплысці, энергічную галаву з раскудлачанымі валасамі. Ён глытаў ваду літрамі, знікаў у бездані, боўтаючыся нібы корак. Але, аднак, ён з’яўляўся зноў і зноў са струмяністымі валасамі і пільна ўглядаўся ў бераг, здавалася, ён кінуў выклік смерці. Я быў у захапленні ад такой вытрымкі. Шырокая крывавая рана ад вострых падводных камянёў расцяла шляхетны твар. Яму не было больш за шаснаццаць гадоў, бо ў асвятляючых ноч бліскавіцах можна было разгледзець над верхняй губой толькі персікавае апушэнне. Ён быў ужо ў двустах метрах ад берага, я выразна гэта бачыў. Якая мужнасць! Які непахісны дух! Як нахабна ён, здавалася, глядзеў у вочы прызначэнню, цвёрда трымаючы галаву, смела працінаў хвалі, цяжка адкідваў барозны!... Але я ўжо вырашыў. Павінен быў выканаць сваё абяцанне – апошняя гадзіна прабіла для ўсіх, ніхто не павінен выжыць. Так я пастанавіў, ніхто не здольны гэтага адмяніць. Прагучаў сухі трэск, і галава знікла пад вадой, каб ніколі больш не з’явіцца. Забойства дало мне менш задавальнення, чым можна было спадзявацца. Я быў ужо сыты забойствам, і яно цяпер ужо стала для мяне ўсяго толькі звычкай, без якой нельга абысціся, але якая мала пацяшае. Пачуцці прытупіліся і здзервянелі. Што магла мне даць смерць гэтай чалавечай істоты, калі больш за сто падобных да яго павінна было паўстаць перад маім уяўленнем у апошняй бітве з хвалямі, калі ўвесь карабель схаваецца пад вадой? Тая смерць нават была пазбаўленая зачаравання небяспекі, бо людская справядлівасць, закалыханая ўраганам той жахлівай ночы спачывала ў дамах за некалькі крокаў ад мяне. Сёння, калі ўжо цяжар гадоў дае знакі майму целу, я шчыра вызнаю, як апошнюю і ўрачыстую праўду: я ўсё ж не быў такі жорсткі, як тое пазней казалі людзі, але іхняя зласлівасць доўгія гады аказвала на мяне свой шкодны ўплыў. Маё шаленства тады не ведала межаў, у мяне былі прыпадкі жорсткасці і я быў страшны для кожнага, хто паўставаў перад маімі вачыма, паколькі быў істотай належнай да майго гатунку. Калі гэта быў конь альбо сабака, я дазваляў яму спакойна адысці, чуеце, што я сказаў? На жаль, у гэтую бурлівую ноч у мяне быў адзін з такіх прыпадкаў, і розум пакінуў мяне – звычайна я быў такі самы жорсткі, толькі больш асцярожны, таму, таксама, усё, што тады трапляла мне ў рукі, павінна было загінуць; урэшце, не жадаю ачысціцца ад маіх грахоў. Не ўсе яны абцяжарваюць маіх бліжніх. Сцвярджаю толькі тое, што было, чакаючы Страшнага Суда, ад адной толькі думкі пра які мне робіцца няёмка... Не, не страшыць мяне Страшны Суд! Розум ніколі не пакідае мяне, я казаў так, толькі каб вас ашукаць. Калі я здзяйсняю злачынствы, я ведаю, што раблю, я не хацеў учыніць нічога іншага! Стоячы на скале, калі ўраган раздзьмуваў мае валасы і плашч, я сачыў у захапленні, як сілы навальніцы разносяць карабель у тую бяззорную ноч. Урачыста прагледзеў усю драматычную дзею ад закідвання катвігаў да хвіліны, калі яго апранулі тыя фатальныя шаты, што ўцягнулі ў марское чэрава тых, хто прыбраў карабель, як плашч. Але блізка былі хвіліны, калі я сам павінен быў стаць дзеючай асобай у тых сцэнах расцуглянага разгулу прыроды. Калі месца, дзе карабель мужна змагаўся, выразна прадэманстравала, што ён павінен

быў правесці рэшту сваіх дзён у марскім партэры, пэўная колькасць пацярпелых крушэнне выплыла на паверхню. Яны трымаліся за рукі па двое і па трое: гэта быў акурат той спосаб, каб не ратаваць жыццё – са звязанымі рукамі яны тапіліся, як дзіравыя гаршчкі... Але што гэта за войска марскіх пачвараў з такой хуткасцю прыбірае смецце? Іх шасцёра: магутныя плаўнікі працінаюць сабе шлях праз высокія хвалі. З гэтых чалавечых істотаў, якія варушаць чатырма канечнасцямі, сярод гэтага не надта сталага кантынгенту, акулы нібы гатуюць амлет без яйкаў і дзеляць яго паводле права мацнейшага. Кроў змешваецца з вадой, вада мяшаецца з крывёй. Іхнія драпежныя вочы ясна асвятляюць сцэну разні. Але што гэта за новае хваляванне вады там, далёка на гарызонце? Сказаў бы, што набліжаецца цунамі. Якія ўдары вёслаў! Ужо бачу, што гэта такое. Вялікая самка акулы прыходзіць за сваёй доляй паштэту з качыных вантробаў і порцыяй мяса. Яна шалее, калі адчувае голад. Паміж ёй і іншымі акуламі пачынаецца барацьба за пару дрыготкіх чэлесаў, якія тут і там моўчкі плаваюць на паверхні чырвонай смятанкі. Кідаючыся ўправа і ўлева, акула наносіць смяротныя раны. Але, аточаная трыма іншамі акуламі, яна мусіць кружыцца, каб змарнаваць іхнія манеўры. З нарастаючым узрушаннем, дагэтуль яму невядомым, назіральнік на беразе пільна сачыў за новай бітвай у моры. Вылупіў вочы на адважную саміцу, у якой былі такія страшныя зубы. Не разважаючы, прыкладвае стрэльбу да пляча, і, з уласцівым яму спрытам, усаджвае другую кулю ў вуха акулы, якая паказалася над хвалямі. Дзве астатнія яшчэ больш звар'яцелі. Чалавек з салёнай слінай кідаецца з вышыні скалы ў мора і плыве да міла размалёванага дывана, трымаючы ў руцэ нож, якога ніколі не выпускае. Цяпер кожная акула мае перад сабой аднаго толькі ворага. Чалавек набліжаецца да стомленага драпежніка і, выкарыстоўваючы адпаведны момант, усаджвае яму ў жывот сталёвае вастрыё. Рухавая цытадэль лёгка распраўляецца з апошнім праціўнікам. Плывец і ўратаваная акула блізка. Хвіліну глядзяць адно аднаму ў вочы і кожны адчувае здзіўленне, убачыўшы ў поглядзе іншага столькі дзікасці. Плаваюць кругамі, не адрываючы вока, абодва думаюць: "Гэта непаразуменне – вось істота яшчэ больш злая, чым я." І, па ўзаемнай сімпатыі, яны падплываюць адно да другога з нямым захапленнем у вачах, акула, варушыць сваімі плаўнікамі, Мальдарор разбівае хвалі рукамі; затрымаўшы подых у пачуцці глыбокага шанавання, кожны жадае сузіраць свой жывы партрэт. Падплыўшы на адлеласць трох метраў, без ніякага высілку, яны раптоўна падаюць адно да другога ў абдымкі, як двое закаханых, і абдымаюцца з павагай і ўдзячнасцю з пацiскамі пяшчоты, якая бывае толькі паміж братам і сястрой. Плоцкая пожадзь наступіла неўзабаве пасля гэткай дэманстрацыі сяброўскіх пачуццяў. Дзве нагі нервова ахапілі слізкую скуру пачварыны, як дзве п'яўкі; рукі і плаўнікі любоўна спляліся вакол цела аб'екту кахання, аточанага замілаваннем, глоткі і грудзі спалучыліся ў адзіную шэра-зялёную масу з водарам водарасцяў у самым сэрцы навальніцы, якая ўсё яшчэ ятрылася; на ложы Гіменея ў пеністай хвалі, закалыханыя падводнай плынню, як у калысцы, і, перакульваючыся адно праз другое ў няведамых глыбінях бяздоннай прорвы, яны спалучыліся[1] ў экстазе доўгім, цнатлівым і агідным! Нарэ-

[12] *...яны спалучыліся...* – рэмінісцэнцыя з "Мора" Мішле; Маргарэт Банэ адзначае, што гэтыя радкі Дзюкаса (і самога Мішле) могуць быць нагаданыя таксама і апісаннем злучэння самкі і самца акулы ў Пушэ.

шце я знайшоў некага, хто б мне падабаўся! Яна цалкам падзяляла мае думкі!.. Ніколі ўжо я не буду самотны ў маім жыцці! Я быў перад абліччам майго першага кахання!

## Песня Трэцяя

[2] Вось апантаная ідзе і падскоквае ў марным высілку нешта прыгадаць. Дзеці бягуць за ёй, кідаючы каменне, нібы за драздом. Яна размахвае дубцом і выкрыўляе міны сваім пераследнікам, потым працягвае свой шлях. Яна губляе чаравік на дарозе, і не зважае на гэта. Доўгія павучыныя лапы прабягаюць па патыліцы, гэта яе валасы. Твар яе больш не нагадвае чалавечае аблічча, калі яна выбухвае шалёным смехам гіены. Яна мармыча ашмёткі слоў, у якіх ледзьве можна адшукаць які-небудзь ясны сэнс. Яе сукенка ззяе мноствам дзірак і ў парывістых рухах абвіваецца вакол касцістых і брудных ног. Яна ідзе туды, куды глядзяць яе вочы, праносіцца, як ліст таполі, яе маладосць, ілюзіі і мроі даўно мінулі. Яна глядзіць на сябе праз туман зруйнаванага розуму праз бруенне падсвядомых пачуццяў. Яна згубіла сваё былое зачараванне і прыгажосць, яе хада нязграбная і подых яе вее гарэлачным угарам. Калі людзі і былі шчаслівымі на зямлі, гэта было так даўно, што не выглядае на праўду. Апантаная нікога не папракае, надта гордая, каб скардзіцца, не адкрывае сваёй таямніцы тым, хто цікавіцца ёй, ніколі яна не прамовіла ані слова. Дзеці бягуць за ёй, кідаючы каменне, нібы за драздом.

Яна ўпусціла скрутак паперы, які быў схаваны ў яе на грудзях. Невядомы падабраў яго, разгарнуў і ўсю ноч чытаў рукапіс, у якім было наступнае: “Пасля доўгіх год чакання Прадвызначанасць паслала мне дачушку. Тры дні я кленчыла ў касцёлах і няспынна складала падзякі ў імя Таго, хто ўрэшце зжаліўся над маёй просьбай. Я карміла сваім малаком тую, хто была для мяне больш чым жыццё, і я жадала, каб яна хутчэй вырасла ва ўсёй прыгажосці сваёй душы і цела. І яна мне сказала: “Я хацела б мець маленькую сястрычку, каб забаўляцца разам з ёй, загадай добраму Богу прыслаць мне яе і, каб аддзячыць, я прышлю яму гірлянды фіялак, мяты і герані”. У адказ я толькі ўзяла яе на рукі і пяшчотна прытуліла да грудзей. Яна пачала ўжо цікавіцца светам жывёл і пыталася ў мяне, чаму гэта ластаўкі падцінаюць крыламі стрэхі людскога жылля і не баяцца разбіцца. Але я прыціскала палец да вуснаў, кажучы ёй захоўваць маўклівасць у справах складаных пытанняў, адказ на якія я хацела пакінуць невядомым, каб не пашкодзіць празмернымі ўражаннямі яе дзіцячае ўяўленне, і я пераводзіла размову на іншую тэму, менш балесную для абмяркоўвання істотам, якія належаць да расы вядомай сваім несправядлівым панаваннем над іншымі жывымі істотамі тварэння. Калі яна апавядала мне пра магілы на цвінтары, мне здавалася, што яна дыхае ў гэтай атмасферы лагодных парфумаў і кіпарысаў бессмяротнасці, і асцерагалася ёй пярэчыць, але казала ёй, што гэта быў горад птушак, якія там спяваюць ад світанку аж да самых прыцемкаў, і што магілы былі іх гнёздамі, дзе яны ўкладваліся спаць усёй радзінай, укрыўшыся мармуровай плітой. Усе цудоўныя ўбранні, якія яна насіла, пашыла ёй я, а таксама і карункі з тысячамі арабескаў, якія яна берагла для святаў. Зімой яна займала сваё законнае месца каля вялікага каміна, бо лічылася сур’ёзнай асобай, а ўлетку лужок дазнаваў мяккія прыціскі яе крокаў, калі яна адважвалася туды прыйсці, стоячы на на краі чароту са сваім шаўковым сачком у атачэнні поўных

незалежнасці калібры і дрыготкіх зігзагаў матылькоў. “Куды ты ідзеш, маленькая валачобніца, калі ўжо гадзіну цябе чакае суп з нецярплівай лыжкай?” Але яна зрабіла кульбіт і паабяцала, што не спозніцца больш ніколі. На другі дзень яна выслізнула зноў праз маргарыткі і рэзяду, паміж промняў сонца і хаатычнага палёту эфемернай жамяры, не ведаючы, што ў прызматычным келіху яе жыцця не было яшчэ жоўці, шчаслівая тым, што была крыху большай ад сініцы. Падманутая ласкай, якая спявала горш за салаўя, употайкі паказаўшы язык агіднай вароне, якая на яе пазірала са спагадай, грацыёзная, як маладая котачка. Мне не дадзена было больш цешыцца яе прысутнасцю, набліжаўся час, калі яна была павінна пачварным спосабам развітацца з радасцямі жыцця[1], назаўжды пакінуўшы таварыства галубкоў, рабчыкаў, зеляніны, балбатню цюльпанаў і анемонаў, шэпт балотнай травы, ушчыплівую дасціпнасць жаб і свежыню ручайкоў. Мне было распаведзена, куды яна пайшла, бо я не магла прысутнічаць пры падзеях, наступствам якіх стала смерць маёй дачушкі. Калі б я там была, я магла б, я магла б абараніць гэтага анёлка коштам майго жыцця... Ішоў міма Мальдарор са сваім бульдогам, убачыў дзяўчыну, якая спіць у ценю платана, і спачатку прыняў яе за ружу.

Немагчыма ўзгадаць што паўстала ў яго душы пры відзежы гэтага дзіцяці і спрычыніла да яго наступнага рашэння. Ён распрануўся хутка, як чалавек, упэўнены ў сваіх дзеяннях. Голы, як камень, ён кінуўся усім целам на дзяўчынку, каб здзейсніць замах на чысціню... пры святле сонца! Ён не ўкленчыў, не! Не будзем засяроджвацца на гэтай нячыстай справе. Незадаволены, ён ізноў хутка апрануўся і кінуў асцярожны позірк на пыльны шлях, дзе нішто не пылілася, і загадаў бульдогу задушыць адным рухам сківіцаў акрываўленую дзяўчынку. Ён паказаў горнаму сабаку месца, дзе цяжка дыхала і хрыпела пакутная ахвяра, і адышоў убок, каб не быць сведкам спаткання вострых зубоў і ружовых венаў. Выкананне гэтага загаду падалося бульдогу надта жорсткім. Ён падумаў, што яму было загадана тое, што было ўжо зроблена, і, задаволены, гэты воўк з пачварным подыхам, у сваю чаргу згвалціў дзявоцтва крохкага дзіцяці. З яе разарванага ўлоння кроў зноў палілася ўздоўж сцёгнаў на лугавую траву. Да яе ўсхліпаў далучылася равенне жывёлы. Дзяўчынка працягнула яму залаты крыжык, які ўпрыгожваў яе шыю, каб ён злітаваўся над ёй. Яна не адважылася прапанаваць яго няўмольным вачам таго, хто першым дадумаўся скарыстацца з беззаганнасці яе ўзросту. Але сабака ведаў, што, калі б ён не паслухаўся свайго гаспадара, з манжэты з’явіўся б нож, які б спрытна і без папярэджання растрыбушыў яму вантробы. Мальдарор (як агідна вымаўляць гэтае імя) назіраў гэтыя агоніі болю і здзіўляўся таму, што ахвяра яшчэ мае жыццёвых сілаў роўна столькі, каб не памерці. Ён наблізіўся да алтара ахвярапрынашэння і ўбачыў, як ягоны бульдог аддаецца нізкім задавальненням і ўздымае сваю пысу, як нос караблекрушэння над раз’ятранымі хвалямі. Ён даў сабаку выспятка і трэснуў у вока. Бульдог у ярасці пабег у поле, цягнучы за сабой праз прастору дарогі, заўсёды надта шырокую для ягонага кароткага тулава, зачэпленае цела дзяўчынкі, якое вызвалілася толькі дзякуючы парывістым

[1] *набліжаўся час, калі яна была павінна пачварным спосабам развітацца з радасцямі жыцця...* – не выключана, што гэты сюжэт мае ў аснове рэальныя падзеі ў акрузе Тарба, у прыватнасці, злачынствы пэўнага Вашэ, які забіваў дочак пастухоў. Сцэну, падобную падвойнаму злачынству Мальдарора і бульдога, можна знайсці ў “Споведзі Жульеты” (1797) маркіза дэ Сада. (1740-1814)

рухам бегу, але баяўся атакаваць свайго гаспадара, які на яго больш не зважаў. Той дастаў з кішэні амерыканскі сцізорык, складзены з дзесяці ці дванаццаці лёзаў, якія служаць для размаітага ўжытку. Ён, расчыніўшы вуглаватыя лапы гэтай сталёвай гідры, забяспечыўся гэткім скальпелем, заўважыўшы, што траўнік яшчэ не знік пад наплывам пралітай крыві, пачаў, не бляднеючы, рашуча разрываць похву беднага дзіцяці. З павялічанай адтуліны ён спрытна выцягнуў нутраныя ворганы, кішкі, лёгкія, пячонку і само сэрца, адарваныя ад сваіх падложжаў, жывыя пры дзённым святле. Ахвярапрыношальнік, заўважыўшы, што дзяўчынка, вытрыбушанае кураня, ужо даўно сканала, спыніў нарастаючую ўпартасць сваіх спустошанняў і пакінуў труп спачываць у ценю платана. Падабраў свой сцізорык, пакінуты ў некалькіх кроках.

Пастух, сведка злачынства, дагэтуль незаўважаны аўтарам, распавёў пра ўбачанае толькі праз доўгі час, калі ўжо меў пэўнасць, што злачынца ў бяспецы дасягнуў мяжы і не баяўся ў адпомстку нешта падобнае да адкрыцця гучна супраць яго прамовіць. Я абвінавачваю бяссэнсавасць, з якой было ўчыненае гэтае злачынства, якога законнікі не даказалі, якое не мела прэцэдэнтаў. Я абвінавачваю, наколькі гэта магчыма, у тым, што ён увогуле не клапаціўся аб ужыванні розуму, бо нанёс нажавыя удары чатыры разы, тройчы расцяўшы зверху і данізу ўнутраныя ворганы. Я абвінавачваю яго ў тым, што, калі ён не быў вар'ятам, ягоныя ганебныя ўчынкі павінныя былі быць выкліканымі шалёнай нянавісцю да бліжніх, каб накінуцца на плоць і артэрыі безабароннага дзіцяці, якім была мая дачка. Я дапамагла ў пахаванні тых чалавечых парэшткаў з нямой пакорай і кожнага дня прыходжу маліцца на магілку."

Скончыўшы чытанне, невядомы не здолеў больш трымаць сілы і самлеў. Ён прыйшоў у сябе і спаліў рукапіс. Ён забыў пра гэты ўспамін маладосці (звычка прытупляе памяць!) і праз дваццаць год адсутнасці зноў вярнуўся ў заклятае месца. Ён ніколі не купіць бульдога! Ён не загаворыць з пастухом! Ён не ляжа адпачываць у ценю платана! Дзеці бягуць за ёй, кідаючы каменне, нібы за драздом.

[3] Трэмдаль у апошні раз дакрануўся да таго, хто па сваёй ахвоце быў адсутны, заўсёды ад яго ўцякаючы, сталы вобраз перасledніка чалавека. Жыд-валачобнік сказаў, што калі б уладу на Зямлі перадалі кракадзілам, то горш ужо не было б. Трэмдаль, стоячы ў даліне, выцягнуў руку перад вачыма, каб згусціліся сонечныя промні, і яго погляд зрабіўся больш пранізлівым. Другая рука, нерухома выцягнуўшыся раўнаважна паверхні Зямлі, абмацвала ўлонне прасторы. Нахілены наперад, ён стаяў нібы алегорыя сяброўства, пазіраючы вачыма, таямнічымі як мора, каб узысці на пакручысты схіл у гетрах падарожніка, абапіраючыся на свой жалезны кій. Зямлі, здавалася, нестае яго ног і, нават, калі б ён захацеў, не мог бы стрымаць сваіх узрушаных слёз.

"Ён далёка, я бачу, як яго сілуэт набліжаецца па вузкай сцяжынцы. Куды ён ідзе, накіроўваючы свае цяжкія крокі? Ён не ведае сам. Аднак, адна думка мне не дае спакою, хто гэта ідзе, каб спаткацца з Мальдарорам? Які вялікі гэты цмок, вышэй дуба! Казалі, што яго белыя крылы моцна прывязаныя стальнымі нервамі, расцінаюць паветра. Яго цела пачынаецца з тыгровых грудзей і канчаецца змяіным хвастом. Я не прывык разглядаць падобныя рэчы. Што ў яго на твары? Я апішу вам на сімвалічнай мове тое, чаго я не ў стане расшыфраваць. З апошнім ударам крыла ён

прызямляецца перад тым другім так блізка, што я чую гучанне яго голаса. Ён гаворыць: ”Я чакаў цябе, і ты мяне таксама. Час настаў, я адкрываюся. Прачытай на маім абліччы імя, напісанае іерогліфамі”. Але ён, як толькі ўбачыў ворага, разгарнуў агромністыя крылы і пачаў рыхтавацца да бітвы, самазадаволена ляскаючы крывой дзюбай, паказваючы, што ён сам гатовы раздзерці цмока на кавалкі. Крылы апісваюць колы, іх акружнасць змяншаецца, узаемна правяраючы сваю падрыхтаванасць да змагання, яны ў парадку. Цмок выглядае мацнейшым, падобна, што ён пераможа арла. Адчуваю моцнае хваляванне перад велічным відовішчам, у якое апынулася ўцягнутай частка майго я. Магутны цмок, я падтрымаю цябе сваім крыкам, калі гэта будзе патрэбна, калі гэта дапаможа перамагчы арла. Чаго ж гэта яны марудзяць перад атакай? Я дрыжу смяротнай ліхаманкай. Бачу як ты, цмок, першым пачынаеш бой, б’еш яго вострымі кіпцюрамі, гэта няблага. Я ўпэўнены, што арол адчуў гэта: вецер прынёс некалькі прыгожых пер’яў, кранутых крывёй. О! Арол выдзяўбаў табе адно вока, а ты толькі крыху падрапаў яму скуру, на гэткія рэчы трэба зважаць. Добра, ты возьмеш рэванш і адарвеш яму крыло, і не трэба зашмат распавядаць, якія добрыя твае тыгрыныя іклы, калі ты наблізішся да арла, падчас яго разгортвання ў паветры, пралятаючы бліжэй да зямлі! Я заўважыў, што гэты арол спрабуе схапіць цябе, нават, калі падае. Ён на зямлі і не здольны падняцца. Мяне ап’яняе відовішча яго ззяючых ран. Ты можаш змесці яго да лугавых кветак, якія яго акаляюць, адным ударам твайго змяінага хваста. Адвагі, пекны цмок! Усадзі ў яго свае моцныя кіпцюры і тады кроў змяшаецца з крывёй, каб пацяклі рэкі, у якіх не будзе вады. Лёгка сказаць, цяжка выканаць. Арол вынаходзіць новы стратэгічны план абароны, вымушаны зласлівым паваротам гэтай незабыўнай бітвы.Ён становіцца асцярожным, надзейна прысеўшы ў непахіснай пазіцыі, абапершыся на здаровае крыло, на абедзьве нагі і на хвост, які служыў яму рулём у паветры. Ён супраціўляецца нападам з большай энергіяй, чым змагаўся дагэтуль. Тым не менш, ён рухаецца гэтаксама хутка, як і тыгр, не паспяваючы перадыхнуць, аднак падае на спіну, выставіўшы перад сабой дзьве моцныя лапы, халодна і іранічна пазірае на праціўніка. Урэшце, трэба ж каб я ведаў, хто пераможа, бо змаганне не можа цягнуцца вечна. Я думаю пра яго наступствы! Арол выглядае жахліва, ад яго падскокаў дрыжыць зямля, быццам ён ізноў узляцеў, хаця ён і ведае, што гэта немагчыма. Цмок насцярожліва чакае, што арол у наступную хвілю пачне атаку з таго боку, дзе ў яго няма вока. Якое няшчасце! Канец блізкі. Як цмоку перакуліцца са спіны на жывот? Ён ужывае хітрасць і сілу, але я бачу, як арол прыцiснуўся да яго ўсім сваім целам, як п’яўка, зануpаючы сваю дзюбу ўсё глыбей і глыбей, нягледзячы на новыя раны, якія атрымаў у аснаванне хваста, у жывот цмока. Ён так занурыўся ў цела, што яго не відаць. Відавочна, што ад гэтага ён атрымлівае вялікае задавальненне, ён не спрабуе адтуль вылазіць. Несумнеўна, ён там нечага шукае, тады як цмок з галавой тыгра лямантуе на ўвесь лес. Вось і арол выйшаў з гэтай пячоры. Арол, які ты жахлівы! Ты чырванейшы за мора крыві! Хаця ты сціскаеш у дзюбе нервовае дрыготкае сэрца, ты настолькі пакрыты ранамі, што ледзьве трымаешся на сваіх апераных нагах, ты хістаешся, але не расціскаеш дзюбу перад паміраючым у страшэннай агоніі цмокам. Перамога дасталася цяжка, але гэта неістотна, важна, што ты перамог, трэба, прынамсі, прызнаць праўду... Ты дзейнічаў згодна з правіламі розуму, агарнуўшыся ў арліную форму, а між тым – гэта ты адыходзіш

ад сканалага цмока. Так, Мальдарор, ты перамог Надзею! Ад гэтай хвілі твая істота будзе жыць толькі адчаем! Незважаючы на тое, кім ты быў, гэтак кажучы, перасычаны цярпеннем чалавек, апошні ўдар, які ты нанёс цмоку не пакінуў мяне абыякавым. Гэта твая віна, што я цярплю! А ты мяне напалохаў. Зямля пад яго целам выглядае дасканала, праклён густа расквітнеў сваёй лістотай, ён пракляты і ён праклінае. Куды ты скіруеш свой шлях? Куды ты пойдзеш, хістаючыся, як самнамбула, пад якую страху? Які жахлівы лёс цябе чакае?

Бывай, Мальдарор. Бывай, да вечнасці, дзе мы ніколі не сустрэнемся!

## Песня чацвёртая

(4) Я брыдкі. Мяне абгрызлі вошы. Свінні, калі глядзяць на мяне, ванітуюць. Струпы і пролежні панцырам пакрылі маю скуру, па якой цячэ жоўты гной. Я не зведаў ані вады ручаёў, ані нябеснай расы. На маёй патыліцы, як на кучы га...на вырас вялізны шампіньён на магутнай кветканожцы. Седзячы на бясформенным крэсле, я не парушыў сваіх цяглiцаў, мае ногі пусцілі карані ў глебу і складаюцца аж да самага майго жывата з нейкай жывой расліннасці, напоўненай агіднымі паразітамі, якія яшчэ не належаць да расліны і якія ўжо больш не плоць. Аднак, сэрца маё тахкае. Але як яно тахкае, калі гной і смурод майго трупа (не асмеліўся б назваць яго целам) шчодра не гояць яго? Пад маёй левай падпашкай пасялілася сям'я рапух, і калі адна з іх пачынае варушыцца, мне казытліва. Паглядзіце, ці не ўцякла адна з іх і не збіраецца сваім ротам скрэбці пад вашым вухам, а яна можа ўлезці ў вашы мазгі. Пад правай падпашкай ёсць хамелеон, які няспынна на іх палюе, пакуль не памрэ з голаду; трэба, каб кожны застаўся жывы. Але калі ўся партыя цалкам разбураецца, праз хітрасці другога, яны ўсе не знаходзяць нічога лепшага, як, не замінаючы адно аднаму, далікатна сасмоктваць слізь, якая пакрывае мае бакі: я да гэтага прызвычаены. Злая гадзюка адгрызла мой дубчык і заняла сваё месца: яна зрабіла мяне еўнухам, якая нягслава! О! Калі б я мог бараніцца сваімі спаралізаванымі рукамі, але, здаецца, яны ўжо ператварыліся з чурбакі. Як бы там ні было, важна адзначыць, што кроў ужо больш не разганяе тут сваю чырвань. Два маленькія вожыкі, якія больш не вырастуць, старанна трыбушылі мае яйкі, кінуўшы іх змесціва ў пашчу сабаку, які ад гэтага не адмовіўся і старанна вычысцілі скуру, яны ў ёй жывуць. У заднім праходзе ўладкаваўся краб. Насмелены маёй нерухомасцю, ён збіраецца ўвайсці ўнутр мяне са сваімі клюшнямі і нарабіць там шкоды! Дзве мядузы пакінулі мора і адразу ж былі спакушаныя надзеяй, якая іх не падманула. Яны ўважліва аглядзелі дзве мясістыя часткі, з якіх складаецца чалавечы зад і, прычапіўшыся да іх сваімі выпуклымі формамі, так сціскалі іх сваімі прысмочкамі, што два кавалкі плоці зніклі, а засталіся дзве пачварыны, якія прыйшлі з царства ліпучасці аднолькавыя па колеры, па кшталтах... Вы ведалі б, што чалавек, убачыўшы, што я ўзяў шлюб жыць у хваробе і нерухомасці, аж да тае пары пакуль бы я пераканаў Творцу, падкраўся да мяне ззаду на дыбачках, але не так ціха, каб я не пачуў. Я не адчуў больш нічога ў хвілю, якая трывала не вельмі доўга. Яго востры кінжал занурыўся па самы тронак паміж плячыма ахвярнага быка, касцяны каркас якога задрыжаў, як пры землятрусе. Лязо так моцна ўвайшло ў цела, што ніхто дагэтуль не мог яго выцягнуць. Асілкі, механікі, філосафы, дактары раз за разам спрабавалі самыя розныя сродкі. Яны не ведаюць, што зло,

зробленае чалавекам, ужо нішто не можа выправіць! Ад глыбіні душы прабачаю іх прыроднае невуцтва і вітаю іх павекамі маіх вачэй. Падарожнік, калі ты будзеш праходзіць блізка ад мяне, не вітайся, прашу цябе, адно слоўца суцяшэння і ты аслабіш маю мужнасць. Дазволь мне пагрэць маю ўпартасць на агні дабраахвотных пакутаў. Ідзі... Бо мне не трэба ніякага жалю. Нянавісць больш забаўная, чым табе здаецца, яе паводзіны невытлумачальныя, як відовішча пераламанага адбітку кія ў вадзе. Такім, як ты мяне бачыш, я яшчэ магу прагуляцца да самых нябесных муроў на чале легіёну галаварэзаў і зноў заняць гэты пост, каб зноў паразважаць аб высакародных праектах помсты. Бывай, я больш цябе не затрымаю і, каб цябе навучыць і перасцерагчы, параю табе паразважаць аб тым злым лёсе, які прывёў мяне да бунту тады, калі я магчыма быў яшчэ добры! Ты распавядзеш свайму сыну пра ўсё, што ўбачыў і, узяўшы за руку, запросіш яго палюбавацца прыгажосцю зорак і цудамі сусвету, гняздом малінаўкі і храмамі Госпада. Ты будзеш здзіўлены, калі ўбачыш, як ён пакорліва слухае бацькоўскія парады і ўзнагародзіш яго ўсмешкай. Але тады, калі ён будзе пэўны, што за ім не назіраюць, паглядзі на яго, як ён выплюне ўсю сваю сліну на дабрачыннасць: ён падмануў цябе, той, хто належыць да чалавечай расы, але больш ён цябе ўжо не падмане: ад гэтай хвілі ты будзеш ведаць усё, што яго чакае. О, няшчасны бацька, падрыхтуйся, каб скіраваць крокі тваёй старасці ў бок непапраўляльнага эшафоту, на якім адсякуць галаву зачасна даспелага злачынцы, і жалоба пакажа табе шлях, што вядзе да магілы.

### Песня Пятая

[1] Хай не пакрыўдзіцца чытач, калі мая проза не мае шчасця яму падабацца. Ты думаеш, што я і мае ідэі – гэта адно і тое ж. Гэта, шаноўны чытач, безумоўна, праўда, але праўда частковая. Але якая б акавітая крыніца памылак і пагарды не была частковай праўдай! Шпакі лятаюць спосабам вядомым толькі ім адным[1], падпарадкаваным, як здаецца, адной рэгулярнай тактыцы, той, якую мае злучананая адзінай дысцыплінай група, строга паслухмяная голасу аднога правадыра. Гэта голас інстынкту, якога слухаюцца шпакі, і інстынкт нясе іх, каб наблізіць да самага гушчару чарады, у той час як хуткасць палёту нясе іх няспынна ўсё далей; лёс злучае гэткую колькасць птушак у адзіным імкненні да пэўнага намагнічанага пункту, ляцяць і далятаюць, кружачы і перакрыжоўваючыся ва ўсіх сэнсах, ствараюць прастору моцна бурлівага віхру, якога агульная маса, цалкам не следуючы ў выразна акрэсленым кірунку, падобным да руху самой эвалюцыі, у наступстве асобных рухаў уласных цыркуляцый асобных частак, цэнтр якіх знаходзіцца ў у імкненні да вечнага развіцця, але ў няспынным паскарэнні моцна адштурхоўвае ўціск акаляючых яго лінёў,

---

[1] *шпакі лятаюць спосабам вядомым толькі ім адным ...* – гэта апісанне, як і астатнія апісанні птушак у гэтай песні, з'яўляецца даслоўным паўтарэннем – без двукоссяў – артыкула Гено дэ Манбельяра ў "Энцыклапедыі натуральнай гісторыі" доктара Шэно ("Птушкі, частка пятая", 1853). Відавочна, што тут востра паўстае праблема плагіяту, – менавіта такога гледзішча прытрымліваецца большасць даследнікаў (гл. падрабязней – Viroux M. Latréamont et le Dr. Chenu //Mercure de France, 1 dec. 1952); аб неабходнасці плагіяту Дзюкас пазней скажа ў "Паэзіях", з агульнага хору абвінавачванняў у плагіяце выбіваецца Карадэк, называючы такія запазычанні "непрамымі цытатамі" – дакладнасць выкладання павінна адсылаць чытача да шырока вядомых крыніцаў.

кожны з якіх мацнейшы, наколькі бліжэйшы да цэнтру. Нягледзячы на гэткі незвычайны спосаб кружыцца, шпакі разрываюць навакольнае певетра з імклівай хуткасцю, пакрываючы прыкладна за кожную секунду адлегласць, дакладна патрэбную, каб скончыць свае пакуты і дасягнуць мэты свайго падарожжа. Ты нават не звяртаеш увагі на дзіўны стыль кожнага з гэтых радкоў. Але я перакананы, што фундаментальныя правілы вершавання не змушаюць больш мой розум падпарадкоўвацца сваім абсалютным законам. Не абагульняйма гэтых выключных фактаў, я і не спрабую; мае паводзіны, прынамсі, не выходзяць па-за ўсталяваны парадак магчымых рэчаў. Няма сумневу, што паміж дзвюма тымі скрайнімі канцэпцыямі літаратуры, той, якую ты чакаеш, і маёй, ёсць безліч пасярэднікаў, і разрыў будзе лёгка вызначаны, але з гэтага не будзе ніякага плёну, будзе небяспека атрымаць строга акрэсленае і фальшывае, як у вышэйшай ступені паняцце філасофіі, што губляе рацыянальнасць, што не ўспрымаецца розумам, але ўяўляецца, а гэта значыць, набывае нейкі размыты сэнс. Ты можаш спалучыць энтузіязм з унутраным холадам, даследчык засяроджанага гумару, урэшце, для сябе, я знаходжу цябе дасканалым... І ты не жадаеш мяне зразумець! Калі ты яшчэ не ў адпаведным стане здароўя, слухай мае парады, і гэта лепшае, што я магу табе даць, зрабі, найперш, шпацыр у чыстым полі. Няважная, кажаш, замена? Паколькі ты збіраешся ўдыхнуць паветра, вярніся, каб мяне знайсці, дай адпачынак пачуццям. І больш не плач, я не хацеў бы прычыніць табе боль. Ці ж гэта не праўда, сябра, што да пэўнай ступені твае сімпатыі ўсё яшчэ на баку маіх песняў? І што перашкаджае табе перакрочыць іншыя межы? Мяжа паміж тваім густам і маім – няўлоўная. Ты ніколі не здолееш яе ўхапіць, гэта доказ таго, што сама па сабе мяжа не існуе. Падумай, такім чынам, што далей (я толькі асвятляю пытанне) не будзе немагчымым, каб дамоўленасць аб саюзнай дамове ты пацвярджаў з упартасцю, гэтым мілым дзіцяткам мула, акавітай крыніцай неталерантнасці. Калі б я не ведаў, што ты не дурны, я б не вынес табе аніводнага папроку. Дарэмна было б гаварыць гэта табе, пакрытаму хрусткім панцырам аксіёмы, у якую ты святоўна павcovерыў. Ёсць і іншыя аксіёмы, таксама непахісныя, якія дзейнічаюць раўналегла з тваёй, калі табе смакуюць карамелькі (цудоўная гульня прыроды) ніхто не будзе разглядаць гэта за злачынства; але тыя, чый розум больш спрытны, здольныя на большае, жадаюць перцу і арэшніку, маюць добрую рацыю дзейнічаць такім чынам, не імкнучыся накладаць іх спакаёвую дамінацыю на тых, хто дрыжыць ад страху перад землярыйкай, альбо выразам, пачутым з паверхні куба. Я так кажу, бо маю досвед, не збіраючыся тут граць ролю правакатара. І, калі нават калаўроткі і ціхаходкі[1] могуць быць падагрэтыя да тэмпературы патрэбнай для кіпення, не губляючы пры гэтым сваёй жыццёвасці, тое самае будзе і з табой, калі ты здолееш з перасцярогай засвоіць вострую гнойную сываратку, якая выцякае з павольнай дакукай, выклікаючы маю навуковую зацікаўленасць. Табе яшчэ не даводзілася перасадзіць[1] хвост жывога пацука, адцяты ў другога пацука? Паспрабуй, аднак, яшчэ перанесці ў свае мроі разнастайныя мадыфікацыі майго трупнага розуму. Але асцярожней. У той момант, калі я гэта пішу, новая сутарга

[1] *калаўроткі і ціхаходкі...* – падобныя навуковыя тэрміны (назвы вадзяных чарвей і беспазваночных, блізкіх да членістаногіх) маглі быць вядомыя Дзюкасу з прац Мішле альбо Пушэ, апошні, у прыватнасці, палемізаваў з Пастэрам, сцвярджаючы, што гэтыя жывёлы гінуць пры закіпанні вады.

***– Дык як усё-такі можна коратка вызначыць твае ідэйныя прынцыпы?***

– А што іх вызначаць? Яны тыя ж, якія былі запісаны ў Бібліі. Адданасць роднай зямлі, Бацькаўшчыне, адданасць нацыянальнай гісторыі, павага да гэтай гісторыі, поўная любоў да тых, хто нешта стварыў значнае, выдатнае для сваёй Айчыны, для літаратуры ў прыватнасці. Літаратуру я лічу галоўнай справай свайго жыцця. Гэта для мяне святое. Зразумела, не магу зусім не заўважаць і палітыку. Яна ёсць, яе трэба не толькі ўлічваць – з ёю трэба лічыцца. Але, думаю, што як пры капіталізме, так і пры сацыялізме людзі розныя: і сумленныя, таленавітыя, шчырыя, адданыя, і хітруны, кар’ерысты, лаўкачы.

Хацелася б, каб рэальная палітыка супадала з маімі чалавечымі прынцыпамі. І калі яна супадае — у маім разуменні — я за гэтую палітыку цалкам. Калі не супадае, я гэткую палітыку прыняць не магу, нават калі б яна магла мне даць нейкія выгоды, перспектывы ў сэнсе кар’еры, дабрабыту.

***– А маральныя прынцыпы?***

– Ідэйнае і маральнае цяжка разарваць. Для мяне якраз мараль стаіць на першым месцы. Я не прыймаю амаральную палітыку. Не можа быць святой мэта, калі дзеля яе забіваюць людзей, хлусяць, подлічаюць. Таму калі я бачыў, што высокія камуністычныя чыноўнікі сваёй некультурнасцю, неадукаванасцю, хлуснёй і шкурнасцю абражаюць высокія ідэі, аб якіх гавораць з трыбун, калі бачыў, што ў партыі многае робіцца не тое, дзеля чаго я ўступаў у яе шэрагі, я КПСС дараваць не мог.

Аднойчы мае былыя калегі па наменклатуры мяне папракнулі, што я, маўляў, здрадзіў Камуністычнай партыі, у якой многія гады быў і нават выбіраўся ў кіруючыя органы. Што ж, напэўна, той-сёй мае паводзіны можа кваліфікаваць і так. Але чаму вы не думаеце, сказаў я сваім апанентам, што партыя не здрадзіла мне? Партыя, у якую я ішоў, шчыра верачы ў яе ідэалы. А яна сваёй практыкай гэтыя ідэалы спаскудзіла, закрэсліла, а ўладныя чыноўнікі сваёй дзейнасцю, сваімі паводзінамі, сваёй маной вытапталі ў маёй душы многае чыстае і святое. Як я павінен быў да ўсяго гэтага паставіцца? Спакойнаназіраць і рабіць выгляд, што нічога не адбываецца? Гэта не для мяне.

***– А калі маральныя прынцыпы крыху зазямліць, перавесці іх у агульначалавечы, бытавы кантэкст…***

– Вялікай розніцы няма. Тыя ж хрысціянскія прынцыпы. Шчырасць, поўная адданасць справе, сяброўству. Разуменне чалавечых слабасцяў, дараванне некаторых грахоў. Але ні ў якім разе не дараванне здрады.

Было ў мяне некалькі выпадкаў, калі мы сябравалі, і сябравалі вельмі блізка, але калі я бачыў, што мой сябрук хоча мець ад сяброўства асабістую выгаду, больш таго, хоча падпарадкаваць мяне сабе, я рашуча адносіны парываў. Можа, цяпер я крыху і шкадую, але што было, тое было.

Для мяне ў сяброўстве вельмі важная роўнасць. Скажам, я добра разумеў, што такое Быкаў, якая ў ім глыбіня і таленту, і жыццёвай мудрасці, і філасофскага асэнсавання рэчаіснасці. Урэшце ён намнога старэйшы і, канечне ж, поўнай роўнасці паміж намі быць не магло. Але ў сяброўстве мы былі роўныя. Сярод нас не было “галоўнага” і “падначаленага”.

На жаль, у жыцці нярэдка здараецца так, што, калі ты займаеш высокае становішча ў грамадстве, у цябе багата сяброў, а як толькі перастаеш гэтае становішча займаць, аказваецца, што ў цябе сяброў і няма. Я рады, што пры глыбінных і даволі рэзкіх паваротах, якія апошнім часам адбываліся ў жыцці грамадства, у гісторыі нашай маладой беларускай дзяржавы, большасць маіх блізкіх сяброў засталіся са мною. І не дай Бог, каб яны раптам узялі і зламаліся або прадаліся — я не знаю, як бы я са сваім характарам жыў. А так я ведаю, што ёсць людзі, якія цалкам мяне разумеюць, поўнасцю мне давяраюць і якія заўсёды будуць са

мною побач. Калі я бачу, што людзі, якім я абсалютна давяраю, ставяцца да мяне добра, то раблю вывад, што жыву правільна.

***– Ці значыць у гэтым выпадку, што ў сяброўстве павінна быць стопрацэнтнае супадзенне поглядаў?***

– Не, я не думаю. Такога не бывае. Вось, скажам, майму сябру падабаюцца бландзінкі, а мне – брунеткі. Што ж тады? І нават у нейкіх палітычных момантах можа быць несупадзенне. Але толькі не ў галоўным. Па прынцыповых і самых важных пытаннях павінна быць згода.

***– Ну і нарэшце колькі слоў пра эстэтычныя прынцыпы.***

– У гэтым сэнсе я чалавек традыцыйны, можа, нават кансерватыўны. Для мяне ва ўсіх відах мастацтва галоўнае – рэалістычная аснова. Я не адвяргаю пошукі. Напрыклад, я з захапленнем чытаў “Сто дзён адзіноты” і іншыя творы Маркеса. Але калі сцвярджаюць, што гэта зусім новая літаратура, новы метад, я пагадзіцца не магу. Усё, за што так хваляць (заслужана!) Маркеса, было ўжо ў Гогаля. Проста Маркес гогалеўскія традыцыі прыклаў да сваёй зямлі, да свайго народа. І паколькі напісана гэта здорава, гэта цікава ўсяму свету.

Я не адвяргаю пошукі і нашых сённяшніх маладых. Адзінае, чаго я хачу, каб у іх заўсёды быў змест, быў сэнс. Бо проста займацца гульнёю ў нешта незразумелае — неразумна. І па праўдзе кажучы, мне шкада тых людзей, якія трацяць і талент, і маладыя гады на гэткую, у прынцыпе пустую, справу. Літаратура ўсё ж павінна выказваць глыбіні чалавечага быцця, чалавечага, духоўнага свету. Вядома, выказваць сваімі сродкамі, арыгінальнымі, наватарскімі, але абавязкова, каб быў змест. Бо калі чалавек проста дэманструе, што ён нешта ўмее, міжволі думаеш: а дзеля чаго, што ж у выніку?

Для мяне ў гэтым сэнсе дарагі вопыт майго вялікага сябра Рыгора Барадуліна. У яго быў перыяд, калі ён захапіўся гульнёй са словам. І гэта было бліскуча. Ён паказваў не толькі рэдкія магчымасці свайго таленту, але і надзвычайнае багацце і шматфарбнасць беларускай мовы. Аднак гэта не стала для яго самамэтай, і ў выніку ён прыйшоў да той мудрай прастаты, у якой арганічна спалучаюцца філіграннае валоданне словам і глыбіня філасофскага роздуму над жыццём.

Калі мастацтва спыняецца толькі на пошуках, мне гэтага мала. Хацелася б, каб любы твор мне нешта сказаў, адкрыў у людзях тое, чаго я, можа, не ведаў, аб чым не здагадваўся. А калі не адкрыў, то хоць бы падштурхнуў да гэтага.

Васіль Быкаў не раз казаў: “Я не ведаю, добра гэта ці дрэнна, але я прыхільнік рэалізму, таму што рэалізм – гэта нешта жывое, тое, што вытрымала выпрабаванне часам.” Канечне, і ў рэалізме могуць быць розныя плыні. А калі мяне хочуць здзіўляць толькі тым, што гэта ні на кога і ні на што не падобна, я такога мастацтва не прыму. Мне гэта нецікава.

***– Адзін з галоўных эстэтычных прынцыпаў – праўдзівасць, праўда. Але, як вядома, праўда жыцця і праўда мастацтва не заўсёды супадаюць. І з гэтым звязана шмат непаразуменняў ва ўспрыйманні мастацкага твору чытачамі, уладнымі чыноўнікамі. Пісьменніка часам незаслужана абвінавачваюць у скажэнні праўды жыцця. У чым тут, на твой погляд, праблема?***

– Праўда жыцця і праўда мастацтва – паняцці дастаткова блізкія, але яны і сапраўды не заўсёды супадаюць. Калі мы гаворым пра рэалізм, то ён праяўляецца найперш у праўдзе. Праўдзе факта, праўдзе акаляючага асяроддзя, праўдзе часу. І яшчэ – у праўдзе чалавечага характару, псіхалогіі. Сапраўдная, вялікая праўда бывае тады, калі праўда аднаго чалавека супадае з праўдаю многіх. І тут не можа і не павінна быць дробязяў!

Я быў сведкам такога выпадку. Здымаўся фільм “Воўчая зграя” па аповесці Быкава. Рэпеціравалі эпізод, як партызаны вараць ежу ў чыгунку. Мы з Васілём падыйшлі бліжэй і бачым, што над агнём вісіць кацялок, куплены ў Мінску ў

турыстычным магазіне. “Хлопцы, – кажам мы пастаноўшчыкам фільма, – што ж вы робіце? Такога кацялка тады не было не толькі ў вёсцы, але і ў горадзе. Яго ж толькі нядаўна сталі вырабляць...” “Хіба гэта важна? – запярэчылі нам. – Галоўнае – стварыць характары, раскрыць ідэю твора. А вы пра нейкую драбязу...”

Васіль толькі махнуў рукою, і мы паехалі.

І сур’ёзнай з’явы мастацтва з фільма, на жаль, не атрымалася.

***– Але ж не толькі з-за кацялка...***

– Канечне, не толькі. Але няпраўда з кацялком непрыкметна перайшла і на ўсё астатняе.

І другі эпізод, калі да Быкава прыехала Ларыса Шапіцька, вядомы маскоўскі кінарэжысёр, якая вырашыла здымаць “Сотнікава”. Васіль спачатку аднёсся да яе даволі насцярожана. Але калі яна пачала ў яго дапытвацца пра розныя дэталі беларускай сялянскай хаты (якія былі вокны – вялікія ці малыя; якія стаялі лавы – шырокія ці вузкія, якая была падлога – драўляная ці гліняная), Васіль радасна сказаў: “Я ў гэтага чалавека веру...”

І фільм, як ты ведаеш, атрымаўся выдатны. І сярод іншага таму, што рэжысёр хацела праўды ва ўсім. Не толькі праўды перажыванняў, праўды сутыкненняў двух характараў – героя і здradніка. Яна хацела праўды і тых умоў, у якіх жылі і дзейнічалі персанажы фільма.

Так што, вяртаючыся да твайго пытання, паўтару яшчэ раз: вядома ж, праўда жыцця і праўда мастацтва – не адно і тое ж. Але нельга і адрываць адно ад другога, а тым больш нельга іх супроцьпастаўляць. Без праўды жыцця няма праўды мастацтва. Найбольш ёмка вызначыў мастацкую праўду Пушкін: “истина страстей в предполагаемых обстоятельствах”.

***– Сёння мы часта прыгадвалі Быкава. Дык вось франтавікі ў свой час папракалі Васіля Уладзіміравіча тым, што ў ягоных кнігах не ўся праўда вайны. Яна ў яго, маўляў, няпоўная, даследуецца галоўным чынам здрадніцтва. А дзе ж гераізм?***

– Гэта несправядліва. У яго ўсюды – ад першай аповесці да апошняй – ёсць сапраўдны гераізм. Толькі многія прывыклі да гераізму плакатнага, а ў Быкава ён непаказны, глыбінны. Той жа Сотнікаў — хіба не герой? Нездарма ж Шапіцька ўзяла на галоўную ролю акцёра Плотнікава, які абліччам падобны на Ісуса Хрыста. Вось якога ўзроўню быкаўскі герой!

Іншая справа, што Быкаву можна прад’явіць прэтэнзіі, што ў яго творах не ўся праўда вайны. Але на гэты конт вельмі хараша сказаў Сіманаў: “Усю праўду ведае толькі народ”.

Быкаў узяў тую праўду, якую добра ведаў. Салдацкую праўду, акопную праўду. Была вялікая ваенная эпапея, а ўнутры яе былі лакальныя эпізоды, без якіх гэтая эпапея будзе няпоўная. Дык вось Быкаў якраз і паказвае нам праўду эпізодаў. Невыпадкова ў яго няма ніводнага рамана – толькі аповесці.

Папрокі, пра якія ты сказаў, ідуць альбо ад неразумення, скажам, таго, што ёсць літаратура, альбо ад вельмі ідэалагізаванага падыходу не толькі да літаратуры, але і да гісторыі вайны. Быкаў даваў нам такую вайну, якую ён бачыў. З усімі яе плюсамі і мінусамі. Некаторыя пры гэтым гаварылі: так, гэта праўда, але навошта яна нам патрэбна?

У тым уся справа, што якой бы горкай праўда ні была, яна патрэбная. І не толькі літаратуры, але і чытачу, гучна кажучы, народу. Іншая справа, што сёння такая праўда яшчэ не ўсімі ўспрыймаецца, але заўтра, паслязаўтра яна будзе ўспрынята. Калі гэта праўда, калі яна глыбокая, шчырая, таленавіта паказаная.

***– Недзе блізка да нашых разважанняў такія твае радкі: “Будзь чалавекам між людзей, жыві законам Боскім”. Што значыць у тваім разуменні быць чалавекам?***

– Перш за ўсё – разумець іншых. Гэта не значыць, што трэба абавязкова падзяляць іх погляды. Але абавязкова – разумець. І жадаць людзям таго, чаго жадаеш сабе. А законы... законы ўсё тыя ж, якія запісаны ў Бібліі. Не даравацъ сабе таго, чаго не прыймаеш у іншых.

***– Якія якасці ў чалавеку табе найбольш сімпатычныя?***

– Гэта найперш дабрыня. Гэта – адданасць і ў самым высокім сэнсе, і ў сэнсе больш простым, штодзённым. Высока цаню ў людзях талент. Паважаю абавязковасць. Дарэчы, гэтай якасцю вызначаліся многія нашыя класікі – Міхась Лынькоў, Іван Мележ, Пятрусь Броўка...

***– А самыя непрымальныя, недаравальныя якасці?***

– Здрада. Хамства. Хлусня. І самыя розныя іх разнавіднасці. Іх многа і з імі вельмі няпроста змагацца.

***– Скажы, калі ласка, а ці былі ў тваім жыцці памылкі, ці здаралася нешта такое, за што даводзілася пасля чырванець?***

– Наконт чырванець... Такога не прыгадваю. Хутчэй за ўсё часам было няёмка. А памылкі, канечне ж, здараліся. Іншы раз я, магчыма, быў залішне катэгарычны да канкрэтных людзей, залішне запальчывы. Недзе мне не хапала ўступчывасці, мяккасці. Асабліва калі ўспамінаю сваю працу на тэлебачанні і радыё. Цяпер, калі б мне пачаць усё нанова, я б быў больш цярпімы, больш лагодны, як гэта не здасца некаму дзіўным.

Вялікай сваёй памылкай лічу тое, што ў свой час не авалодаў ніводнай замежнай мовай. Пасля ў Нью-Ёрку кусаў сябе за локаць.

Ніякавата мне і за тое, што не зрабіў усяго, што мог бы зрабіць. Задумваў нейкую рэч, а пасля з-за розных прычын адкладваў, адкладваў, ды так і не напісаў. Часам ахвотна ішоў за патрабаваннем дня. Пісьменнік, канечне ж, павінен адгукацца на тое, што робіцца ў яго народзе, у яго дзяржаве, але наўрад ці павінен адгукацца на ўсё і адразу. Пры тым я не скажу, што рабіў нейкія непатрэбныя справы.

***– Ці былі ў тваім жыцці ўчынкі, якімі ты можаш цяпер ганарыцца?***

– Я назаву два, якімі я ганаруся і за якія ў канцы свайго жыцця, калі давядзецца падводзіць нейкую рысу, я сам сябе пахвалю.

Першы – калі мы разам з Анатолем Вярцінскім збіралі подпісы пад пісьмом у абарону Быкава. І сабралі больш за шэсцьдзясят. Гэта быў, як на маю цяперашнюю пасівелую галаву, даволі рызыкоўны крок. Мы адкрыта выступілі супраць афіцыйнай лініі ў адносінах да Быкава. Усё было абсалютна шчыра, па-маладому безаглядна. Хаця мы разумелі, што нам такога могуць і не даравацъ.

Для мяне гэта быў вялікі ўрок жыцця. Прынамсі, у тым, як розныя людзі ставілі свае подпісы. Дарэчы, тым, хто займаў адказныя пасады, мы не прапаноўвалі падпісвацца, каб не “падстаўляць” іх. Але некаторыя літаратары і без пасад вагаліся, казалі, што мы толькі нашкодзім Быкаву. Некаторыя хацелі падпісаць, але мы ім не далі з ідэйна-этычных меркаванняў. А былі і такія, хто спачатку адмовіўся, а пасля ледзь не на каленях упрошваў дазволіць паставіць свой подпіс. Як узор мужнасці і мудрасці былі для мяне подпісы Міхася Лынькова, Аркадзя Куляшова, Івана Мележа, Янкі Брыля...

І другі ўчынак. Гэта – стварэнне нацыянальнай тэлевізійнай праграмы. Людзі часам не ведаюць, чаго мне гэта каштавала... Два гады я вёў калектыў да таго, каб зрабіць такую праграму.

***– І ўсе гэтыя два гады быў, як кажуць, паміж двух агнёў.***

– Так. З аднаго боку, далёка не ўсе ў калектыве былі ў захапленні ад майго намеру — трэба ж вучыць мову, прыкладаць нейкія намаганні. А навошта, калі можна спакойна жыць і так? А з другога боку, калі мы ўжо рэальна сталі пераходзіць да беларускага вяшчання, пачалося глухое, але дастаткова ўпартае супраціўленне ўладных структур.

Хаця павінен сказаць, што спачатку супраціўлення не адчувалася. Мы ж не былі першаадкрывальнікамі, такія праграмы ўжо існавалі амаль ва ўсіх рэспубліках. Таму адпаведнае рашэнне ЦК было прынята дастаткова спакойна. А вось як толькі пачаліся перадачы на беларускай мове (а мы ўжо і спартыўныя рэпартажы сталі весці па-беларуску), тут усё і закруцілася. У ЦК пасыпаліся пісьмы з пратэстамі. Мы з Болтачам іх уважліва прааналізавалі і вось што высветлілася: пераважная большасць "сігналаў" была з ваенных гарадкоў, ад жонак афіцэраў. Беларускай мовы яны не ведалі і ведаць не хацелі. Такая катэгорыя гледачоў складала недзе дзясятую, а можа і сотую долю працэнта. Астатнія жыхары рэспублікі прынялі новы фармат прыхільна.

На жаль, аўтары ваяўнічых пратэстаў знайшлі ў галоўным партыйным штабе сваіх прыхільнікаў. Пахіснуўся і Ц. Я. Кісялёў, які тады быў першым сакратаром ЦК. Ён спалохаўся, што сігналы пойдуць вышэй, і Масква можа абвінаваціць Беларусь у нацыяналізме. У выніку быў падрыхтаваны праект пастановы ЦК КПБ аб вяртанні да ранейшага парадку вяшчання, калі нашы перадачы ўціскваліся ў праграмы Цэнтральнага, Усесаюзнага тэлебачання. Уся агромністая падрыхтоўчая работа ішла на глум.

Мяне паклікаў А. Т. Кузьмін, сакратар ЦК па ідэалогіі, паклаў на стол праект і амаль загадаў падпісаць. Я катэгарычна адмовіўся.

– Што трэба, каб ты падпісаў? — запытаўся Александр Трыфанавіч.

– Патрэбен яшчэ адзін пункт: вызваліць Бураўкіна ад займаемай пасады. Я не хачу ўдзельнічаць у ганебнай справе.

– Вось што, дарагі мой, – узлаваўся Кузьмін. – Ты дужа не выпендрывайся. Ты што не бачыш, чые подпісы тут стаяць? Я пакідаю цябе на паўгадзіны ў кабінеце, а калі прыду, каб подпіс стаяў.

Я не здаўся. Пасля гэтага вакол мяне ўтварыўся нейкі вакуум. Прыходжу на работу, а мне ніхто не звоніць, ніхто не заходзіць. Усе звяртаюцца да Чаніна, майго намесніка. Так цягнулася, можа, з месяц.

Неўзабаве збіраецца чарговы партыйны з'езд, дэлегатам якога я з'яўляўся. Усе чакаюць: прапануюць маю кандыдатуру ў члены ЦК ці не? Напружанне знікла толькі тады, калі зачыталі спіс і сярод іншых назвалі маё прозвішча.

Пасля ўжо Кузьмін расказаў, як усё было. Калі пытанне аб беларускай тэлепраграме абмяркоўвалася на Бюро ЦК, Ціхан Якаўлевіч пацікавіўся, чаму няма візы Бураўкіна. Яму растлумачылі маю ўмову. Нехта з членаў бюро тут жа прапанаваў:

– Дык давайце вызвалім, раз просіцца, ды яшчэ і з партыі папросім...

Аднак Кісялёў не пагадзіўся:

– Давайце не будзем спяшацца. Ён жа выдатна разумее, што яго чакае, тым не менш не падпісаў. Значыць, нешта ведае такое, чаго не ведаем мы. Прапаную справу адкласці...

Так што, як бачыш, на валаску вісела не толькі мая кар'ера (кар'ера – Бог з ёю, можна і без яе жыць), а галоўнае – магла быць загублена важная справа. А так, дзякуючы маёй упартасці, мы стварылі ў рэспубліцы сваю, беларускую праграму. І цяпер мне, пасівеламу чалавеку, пенсіянеру, прыемна пра гэта ўспамінаць.

***– Генадзь Мікалаевіч, а ёсць адчуванне ўзросту? І якое яно ў цябе – мінорнае, мажорнае?***

– Скажу так: яно ў мяне, відаць, такое ж, як і ў астатніх. Душа нібыта яшчэ маладая, а цела ўжо ўзрост адчувае. Няма былога імпэту, і ад гэтага часам бывае некамфортна. От, здаецца, пабег бы, ухапіў бы, а сіл ужо не стае. І яшчэ лічу, што адчуванне ўзросту таксама ў тым, што з гадамі (даруй мне такую фармулёўку) мудрэеш, становішся больш разважлівым.

***– Дык што, сталы ўзрост мае і свае перавагі?***

– Бясспрэчна. І калі хто гаворыць кепска пра старасць, то гэта проста неглыбокі чалавек.

***– Ну ў гэтым выпадку чалавек, можа, баіцца не столькі ўзросту, колькі нямогласці, хворасці?***

– Гэта, вядома, ёсць. Нікуды ад хворасцяў не падзенешся. Але ёсць і іншае. Жыццёвы вопыт. Больш глыбокае разуменне многіх рэчаў. Вытрымка, разважлівасць, чаго часам не хапае маладым.

***– Генадзь Мікалаевіч, ты сказаў, што шчаслівы сябрамі. А калі браць шырэй – працу, сям'ю, літаратуру – ты можаш сказаць, што і ў гэтым таксама шчаслівы?***

– У прынцыпе, так. Не хачу сказаць, што маю абсалютна поўнае шчасце, але, бясспрэчна, я чалавек шчаслівы. Таму што займаўся любімай справай. Таму што мая сям'я была і застаецца надзейным тылам. Жонка – і мой аднадумца, і мой анёл-ахоўнік. Дзеці блізкія мне не толькі па крыві, але і па сваіх поглядах, па сваіх пазіцыях. Спадзяюся, што тое ж самае будзе і з унукамі. А гэта вельмі і вельмі важна. Гэта сапраўды шчасце, вялікае шчасце.

***– Пра сына я крыху ведаю. Аляксей адзін час працаваў загадчыкам кафедры ў Інстытуце культуры. Кандыдат навук. Падрыхтаваў цікавую доктарскую дысертацыю. Цяпер недзе ў прыватнай фірме. А што дачка?***

– А Святлана скончыла беларускае аддзяленне філфака БДУ. Свабодна валодае ангельскай мовай. Працуе ў пасольстве ЗША. У сваіх справах яна, можа, і далёкая ад маіх інтарэсаў, але па светаўспрыманні, па адносінах да жыцця яна — наша з Юляй аднадумка.

***– А цяпер пытанне больш глабальнае. Як ты лічыш, у чым заключаецца місія чалавека на зямлі? Які сэнс нашага зямнога існавання?***

– Калі гаварыць глабальна, то сэнс чалавечага існавання ў тым, каб дапамагчы працягу жыцця. Кожны на сваім канкрэтным месцы павінен зрабіць усё, каб жыццё было вечным, каб былі дабро і справядлівасць, каб светлай была будучыня. А будучыня – гэта нашыя дзеці, нашыя ўнукі. Галоўны прынцып прыроды, я лічу, у тым і заключаецца, каб чалавек спрыяў гэтаму працэсу. Спрыяў тымі сіламі, якія ў яго ёсць, тымі талентамі, якія даў яму Бог. І важна, каб гэта здзяйснялася агульнымі, супольнымі намаганнямі, а не толькі высілкамі адзіночак, геніяў.

## З любоўю і нянавісцю зямною

***– Наша гісторыя... Яна ўсё яшчэ няпоўная. Усё кідаемся ў крайнасці. То пачынаем сваё жыццё ад Кастрычнікай рэвалюцыі, то зводзім, звужаем яго выключна да барацьбы з "маскалямі". Калі б гэта было толькі ў асяроддзі навукоўцаў, то хай сабе. Палеміка, дыскусіі нават карысныя для навукі. Але ж мы на гэтых гістарычных арэлях спрабуем выхоўваць нашу моладзь... Дык вось у гэтай сувязі хачу папытацца, ці можна, абапіраючыся на сённяшні ўзровень гістарычных ведаў, на сённяшні наш досвед, зрабіць жыццяпіс беларусаў больш-менш поўным, аб'ектыўным? Наогул, якім табе бачыцца школьны падручнік па гісторыі?***

– Якім бачыцца? Ну, па-першае, я не надта сачу за тымі падручнікамі, якія выходзяць і якімі цяпер карыстаюцца ў школе. І таму, магчыма, не маю падстаў для таго, каб параўноўваць, якія ў нас падручнікі былі, якія ёсць і якія мне хацелася б бачыць.

Але тое-сёе я ведаю, бо ўнукі падышлі ўжо да таго ўзросту, калі ў школе пачынаюць вывучаць гісторыю Беларусі. Тое, што мне трапляла ў рукі, выклікае засмучэнне. Па-першае, падручнікі вельмі сумна напісаныя. А гісторыя, калі яе ўзяць такой, як мне бачыцца, – гэта ж адзін з выдатнейшых, рамантычных

твораў, у якім столькі цікавых падзей, захапляльных сюжэтаў, неверагодных прыгод, столькі неардынарных людзей, загадкавых, таямнічых лёсаў. І ўсё гэта, я перакананы, можна выкласці ў падручніках. Што гэта магчыма, засведчыў той жа Уладзімір Караткевіч кнігай “Зямля пад белымі крыламі”.

Дык вось першае, што мяне ў падручніках, якія давялося трымаць у руках, насцярожвае, – нейкі бюракратычны, казённы стыль выкладання. Ён не толькі не заахвочвае да вывучэння нашай гісторыі, а, наадварот, адпалохвае.

Другое, што мяне не задавальняе, – непаўната гістарычных падзей, выкладзеных у гэтых падручніках. Некаторых момантаў проста няма, а некаторыя пададзены аднабакова, па лякалах старых часоў. Скажам, абсалютна подбегам праскокваецца і перыяд Полацкага княства ды і перыяд Вялікага Княства Літоўскага. Для сённяшніх вучняў, мне здаецца, наўрад ці трэба ведаць усе тонкасці калектывізацыі і індустрыялізацыі. А пра культ асобы Сталіна і трагедыі, звязаныя з ім, толькі ўпамінаецца як бы між іншым.

Я не кажу ўжо пра тое, што ў некаторых падручніках вельмі, як мне здаецца, несучасны падыход да вызначэння ролі і характарыстыкі пэўных гістарычных асоб. У адным з такіх падручнікаў, я не помню ўжо для якога класа, з жахам можна прачытаць, што Каліноўскі – тэрарыст, а Мураў’ёў-вешальнік – умелы менеджар, добры арганізатар. Даруйце, што ж гэта такое, калі наш выдатны рэвалюцыянер, змагар за волю і шчасце народа атрымлівае ацэнку горшую, чым кат-вешальнік?!

Мы ніяк не можам зразумець, што ў нас, як і ўва ўсякага народа, ёсць свая гісторыя. І яна трошкі іншая, чым у суседніх народаў. Калі, скажам, для расіян Сувораў – выдатны палкаводзец, то для беларусаў, для жыхароў Брэстчыны, ён адзін з самых жорсткіх забойцаў. І нічога ў гэтым крамольнага няма. Хай сабе Сувораў застаецца выдатным расійскім палкаводцам, але не трэба рабіць яго любімай постаццю для Беларусі.

Альбо, як я пераканаўся, у нашых сённяшніх падручніках абсалютна недастаткова і не зусім аб’ектыўна выкладаецца гісторыя Беларусі 20-30-х гадоў. Там няма дастатковага асэнсавання таго, за што змагаліся і што паспелі зрабіць, напрыклад, Цішка Гартны і Аляксандр Чарвякоў... Усё гэта неяк нівелюецца, і атрымліваецца, нібыта ў нас гісторыі сваёй і не было, а была толькі гісторыя Савецкага Саюза, а яшчэ раней – гісторыя Расіі.

Вядома, мы былі і часткай Расіі, і часткай Савецкага Саюза, і тое, што рабілася з гэтымі імперыямі (і расійскай, і савецкай) нам трэба ведаць. Але ж мы там, у гэтых імперыях, мелі сваё месца і мелі сваю гісторыю. І мелі сваіх герояў. І мелі сваіх пакутнікаў.

Замест таго, каб падрабязна вывучаць жыццё і дзейнасць нейкіх чужых, далёкіх ад нас людзей, мы павінны як мага болей ведаць пра сваіх. У нас ёсць гістарычныя постаці, вартыя і славы, і раманаў альбо паэм. Тая ж Еўфрасіння Полацкая, той жа Францішак Скарына. Пра іх гаворыцца, але гаворыцца, як мне здаецца, па-першае, недастаткова, а па-другое, так казённа, што яны не паўстаюць людзьмі, вартымі грамадскай, пісьменніцкай увагі.

Напрыклад, у Расіі ёсць шмат фільмаў пра выдатных гістарычных асоб – Дзмітрыя Данскога, Аляксандра Неўскага, Пятра Першага... У нас, на жаль, гэтага няма. Наколькі я помню, ёсць усяго толькі даўні-даўні фільм пра Скарыну ды нядаўна знятая кінастужка пра Анастасію Слуцкую. Ну яшчэ сюды можна дадаць фільм “Чырвонае лісце” пра Сяргея Прытыцкага. І практычна – усё.

Утварыліся шматлікія пустоты, і трэба, каб гэтыя пустоты хаця б запаўняліся ў школьных падручніках. Для гэтага ў нас ёсць усе ўмовы. Мы маем дастаткова вялікі атрад сур’ёзных даследчыкаў. Не трэба рабіць выгляд, што іх няма, што ў нас нібыта захаваліся толькі асобныя астраўкі, такія, як Мікола Ермаловіч. Больш за тое, у нас ёсць цяпер шмат маладых гісторыкаў, цікавых, разумных, дасведчаных.

Трэба іх прыцягнуць да гэтай справы, а калі неабходна, то і навучыць выкладаць свае веды папулярна, займальна. Бо адна справа – пісаць навуковыя трактаты, дысертацыі і зусім іншая – стварыць падручнік, які б школьнік ахвотна чытаў, і не таму, што далі заданне, а таму, што яму цікава даведацца пра гісторыю свайго народа, пра гісторыю той зямлі, на якую яго, як кажуць, пусціў Бог.

Вось гэтага, на жаль, не хапае. Разам з тым я радуюся, што гістарычная тэма не прападае з нашай літаратуры. Але зноў жа, мне здаецца, што яна яшчэ недастаткова ўвасоблена ў яркія, таленавітыя творы. Тое, што робяць Уладзімір Арлоў, Вольга Іпатава, Леанід Дайнека – гэта ўсё добра. Аднак мне хацелася б, каб такіх твораў было больш і каб яны былі разлічаны на розныя аўдыторыі.

Я турбуюся перш за ўсё за маладых, за тое, каб яны ішлі ў жыццё ўжо з веданнем сваёй гісторыі, каб, пасталеўшы, стаўшы сапраўднымі прафесіяналамі ў той галіне, якую яны для сябе выбралі, мелі таксама і грунтоўную гістарычную адукацыю. Бо не кожны пасля, у сталыя гады, захоча запоўніць тыя прабелы, якія ўтварыліся ў ягоным юнацтве.

***– Адным з такіх прабелаў у нашай найноўшай гісторыі застаецца, на мой погляд, асэнсаванне распаду Савецкага Саюза. Як ты лічыш, тое, што з намі адбылося, гэта дабро ці зло?***

– Нехта ў свой час сказаў: “У таго, хто не шкадуе пра развал СССР, няма сэрца, у таго, хто хоча вярнуць СССР, няма розуму...” Гэта сказана, як мне здаецца, вельмі дакладна. Савецкі Саюз, па маім глыбокім перакананні, не мог не разваліцца.

Гэта была вялікая, магутная дзяржава. І ў ваенных адносінах, і ў адносінах навукі, культуры і нават эканомікі. Яна, на жаль, не здолела цалкам выкарыстаць патэнцыял, які быў закладзены ў агромністай тэрыторыі, у шматмільённым народзе, у багатай гісторыі. Не ўсё было выкарыстана, хаця і выкарыстана было многае. Што б там ні казалі, але і для Беларусі савецкі перыяд гісторыі даў дастаткова шмат. Гэта і тое, што мы атрымалі сучасную прамысловасць на вельмі сур'ёзным навукова-тэхнічным узроўні, і тое, што склалася і набрала моцы беларуская навука. Я ўжо не кажу пра тое, што звязана з дваццатымі, трыццатымі гадамі. Адбыўся ўзлёт і літаратуры, і мастацтва. Калі, скажам, да савецкага перыяду ў нас ведалі толькі Багдановіча, Купалу, Коласа, то пасля – дзясяткі нашых пісьменнікаў сталі шырока вядомыя, калі не на ўвесь свет, то на Еўропу дакладна. Не трэба забываць і тое, што нашыя вучоныя дацягнуліся да касмічных вышынь. Усё гэта было ў савецкім перыядзе нашай гісторыі.

Але разам з тым, як гэта ні горка, як гэта ні сумна, як гэта ні трагічна, было дастаткова многа таго, што не магло ўтрымаць дзяржаву на тым узроўні, на які яна замахнулася. Гэта і перакосы ў палітыцы, звязаныя з калектывізацыяй, якую праводзілі такімі метадамі, што не дай Бог, як кажуць, нікому. Гэта і рэпрэсіі, страшныя, невытлумачальныя, трагічныя. Гэта і занядбанне, пагардлівае занядбанне нацыянальнага пытання. Гэта і перабольшанае да неразумнасці месца партыі, адной партыі, у грамадстве. Гэта, урэшце рэшт, тое, наколькі не адпавядаў часу, патрабаванням грамадства ўзровень кіраўніцтва краіны. Сумна, але ў нас дзесяцігоддзямі кіравалі, калі гэта можна назваць кіраваннем, бяздарныя, а часам, даруй, проста геранталагічныя асобы. Таму не дзіўна, што хлусня была ледзь не асноваю ідэалогіі, а сама ідэалогія часта займала непрапарцыянальна вялізнае месца ў жыцці народа. Нярэдка дзеля ідэалагічных меркаванняў прыносіліся ў ахвяру і эканоміка, і палітыка, і мараль.

Таму для мяне распад СССР быў лагічны, заканамерны. Я быў тады ў Амерыцы, і калі ўсё адбылося, калі былі створаны СНД, абмяркоўваючы падзеі з дыпламатамі, якія працавалі ў ААН, мы шчыра радаваліся. Усе імперыі рана ці позна распадаюцца. Радасна ж было таму, што гэта адбылося без крыві.

Савецкага Саюза не стала, з'явілася новае ўтварэнне – Садружнасць незалежных дзяржаў. Былыя савецкія рэспублікі сталі незалежнымі, але яны не парывалі паміж сабой адносіны, а проста ставілі іх на іншую платформу, пераводзілі ў новую якасць. І гэта таксама цешыла, грэла душу. Мне вельмі сумна, што тыя мары пра новы шлях садружнасці, пад якім, як мне здавалася, быў вялікі грунт розуму, вопыту, урэшце рэшт рэальных планаў, ажыццяўляюцца не так, як думалася, як хацелася.

Чаму так атрымалася? Адназначна на гэта не адкажаш. Можа ад таго, што ўсё-такі бюракратычная дзяржаўная машына, якая была створана ў Савецкім Саюзе, засталася. І агромністую чыноўніцкую раць, якая паказала геніяльную здольнасць да мімікрыі, не ўдалося поўнасцю перамагчы. Але ўсё ж многіх дэмакратычных заваёў удалося дамагчыся. Гэта і тое, што мы можам сёння гаварыць даволі смела, што для гэтага ў нас ёсць адпаведныя трыбуны, і тое, што мы больш адкрытыя свету і ўсё больш у гэты свет уваходзім.

Ну а тое, што мы назіраем пэўную настальгію па Савецкаму Саюзу, гэта цалкам зразумела. Мы ўсе былі разам, мы былі магутныя. Разам, канечне ж, быць добра. Асабліва ў культуры, калі вельмі добра і вельмі шырока ведалі, што робіцца ў літаратуры (бяру тое, што мне блізка) у кожнай з савецкіх рэспублік. Цяпер жа, калі, здавалася б, павінна быць яшчэ лепш, бо маем усе магчымасці для росквіту нашых талентаў – паказвайце суседзям, што вы можаце, — цяпер гэтага якраз і не хапае, сувязі разарваліся.

Асабіста я некалі абменьваўся кнігамі і з Андрэем Вазнясенскім, і з Іванам Драчом, і з Дзмітром Паўлычкам, і з Паўлам Боцу, і з Юстынасам Марцінкявічусам, і з Марысам Чаклайсам... Гэта ж была яшчэ і своеасаблівая вучоба. Хацелася нешта зрабіць на іх узроўні. І гэта не толькі маё асабістае адчуванне. Гэта – я дакладна ведаю – адчуванне многіх і многіх маіх літаратурных аднагодкаў. Нам шкада, што гэтага цяпер няма.

А сам факт распаду СССР, з'яўленне многіх незалежных дзяржаў – справа добрая. Што б там ні казалі, але адчуванне свайго дому, таго, што ты не прымак, што ты не на правах нейкага малодшага брата – разнявольвае, дае магчымасць зрабіць усё, што можаш для сваёй зямлі, сваёй краіны.

Як засведчыў сусветны вопыт, нацыянальная дзяржава – найлепшая форма выяўлення дадзенага народу прыродай, Богам патэнцыялу. І такая магчымасць намі была атрымана. Не варта залішне охаць і ахаць, што нешта робіцца марудна. Галоўныя дасягненні ў нас яшчэ наперадзе.

***– У свой час мы вывучалі з табой марксісцка-ленінскую філасофію, дзе гаварылася аб ролі асобы ў гісторыі, аб тым, што тая ці іншая асоба не здольная павярнуць аб'ектыўны ход падзей, але яна можа накласці пэўны адбітак на гэтыя падзеі. Дык вось, зыходзячы з гэтага, як мне здаецца, правільнага пастулата, мы можам сказаць: за ўсё тое, што рабілася ў нашай нядаўняй гісторыі, адказнасць нясуць перш за ўсё кіраўнікі савецкай дзяржавы – Ленін, Сталін, Хрушчоў, Брэжнеў. Але ці справядліва будзе, як гэта робіцца цяпер, маляваць іх асобы толькі чорнаю фарбаю?***

– З гісторыі выкрэсліваць нічога нельга — яны ж, гэтыя асобы, былі, рэальна дзейнічалі, рэальна ўплывалі, як ты кажаш, на ход падзей. А вось строга ацэньваць іх дзейнасць можна і трэба. Ацэньваць па тым, што яны зрабілі і як зрабілі, што яны значылі для свайго народа, для сваёй краіны. У тым ліку трэба ўлічваць і тое, як іх прымала і ацэньвала сусветная супольнасць.

Наша вялікая бяда і наша несусветнае глупства, што некаторыя савецкія палітыкі хацелі, каб было дзве гісторыі. Адна – наша, Савецкага Саюза, а другая – астатняга свету. Але ж мы не на астраўку жывем. Мы жывем на планеце Зямля, дзе многа іншых народаў і дзяржаў. І наша гісторыя – гэта частка сусветнай гісторыі...

Што датычыцца тых асоб, якіх ты назваў, то ў мяне адносіны да кожнага з іх вельмі неадназначныя. Я не хачу бяздумна закрэсліваць іх шматгадовую дзейнасць, але і не магу дараваць ім людскія ахвяры, злачынныя рэпрэсіі і проста элементарнае глупства.

Быў урэшце (і не малы) і такі перыяд у савецкай гісторыі, калі да ўлады прыйшоў цэлы атрад наогул дзіўных людзей, якія і ў сілу свайго інтэлекту, і ў сілу абставін не маглі нічога добрага, разумнага зрабіць. І пачаўся застой, як бы цяпер некаторыя палітыкі не спрабавалі перафармуляваць гэтую ацэнку, пачаўся менавіта перыяд вялікага застою, які і прывёў краіну да распаду.

***– Дэн Сяопіна нам не хапіла?***

– Ну хто яго ведае, каго нам не хапіла... Многія ж кіраўнікі не самі прыходзяць да ўлады. Іх да ўлады нехта прыводзіць. І не трэба рабіць выгляд, што за імі няма ніякіх сіл, няма гістарычнай логікі. Усё гэта ёсць. Кіраўнікі сапраўды бываюць розныя. І калі народ разумны (і гэта адзін з вельмі важных урокаў савецкай гісторыі), калі ён думае, узважвае ўсё, ён не павінен доўга цярпець нявартых кіраўнікоў.

***– Ладна, не будзем болей варушыць далікатную тэму. Давай пяройдзем да праблем, якія нам бліжэй і якія тычацца непасрэдна нас з табою. Возьмем хоць бы тую ж цэнзуру. Вось кажуць, што яна звязвала творчага чалавека па руках і нагах, не давала гаварыць праўды. Далібог, не магу з гэтым пагадзіцца. Можа я быў занадта малады, не ўсё разумеў, але я гэтай цэнзуры не адчуваў. Працуючы ў "Звяздзе", органе ЦК, я крытыкаваў і міністраў, і сакратароў абкамаў, і ніколі ні на кога не аглядваўся. А як ты, будучы ўласным карэспандэнтам "Праўды", ці адчуваў гэтую цэнзуру?***

– Ну, я вазьму сваю працу не толькі ў "Правде", але і ў іншых сродках масавай інфармацыі – на розных пасадах, на розных узроўнях. Цэнзура была. І яна, канечне, шкодзіла, але, магчыма, у нечым была і карысная. Асабліва, калі гаворка ішла пра нейкія маральныя рэчы. Альбо калі гэта датычылася дзяржаўных, ваенных сакрэтаў.

***– Дык я ж не пра гэта кажу.***

– І я зараз буду гаварыць не пра гэта. Цэнзура была двух відаў. І першая з іх, можа, самая галоўная, – гэта калі чалавек сам сябе абмяжоўвае, калі ведае, як я пісаў у адным з вершаў, дзе крычаць, а дзе прамаўчаць. Гэта так званая самацэнзура.

***– Прабач, калі ласка, але ў гэтым ужо вінавата не столькі дзяржава, колькі сам чалавек. Ты ж вось не маўчаў.***

– Было, што і я сябе стрымліваў, разумеючы, што крамольная думка, выказаная напрамую, рэзка, не пройдзе. Даводзілася хітраваць, гаварыць эзопавай мовай. Але гэта я ўжо кажу пра другую цэнзуру, дзяржаўную.

Зноў жа, як гэта звычайна бывае, многае залежыла ад канкрэтных людзей, якія працавалі ў органах цэнзуры. Я памятаю, калі быў галоўным рэдактарам "Маладосці", галоўліт тады ўзначальваў Маркевіч, партызан з Полаччыны, былы рэдактар "Чырвонай змены". І калі мы друкавалі аповесці Быкава, раманы Чыгрынава, дзе былі няпростыя па тым часе падыходы да ваеннай тэматыкі, у цэнзараў узнікалі вострыя пытанні. Я тады ішоў да Маркевіча, мы садзіліся побач і спрабавалі разабрацца разам. Не скажу, што ўдавалася зняць усе пытанні, але многія здымалі.

А былі і іншыя цэнзары, якія рабілі абсалютнае глупства, і калі ты ім на гэтае глупства ўказваў, спрабаваў даводзіць, што так рабіць нельга, замест таго, каб разам знайсці кампраміс, яны адразу станавіліся ў позу і рабілі яшчэ болей глупстваў.

***– Зноў жа, пры чым тут дзяржава? Гэта тое, пра што вельмі трапна***

***пісаў у сваім дзённіку Аляксандр Твардоўскі. У мяне недзе была выпіска. Вось паслухай: “Ох, эта наша готовность угодить, упредить, угадать желание власть предержащих. Никаких указаний нет, но мы хотим угадать указание. Это самая противная черта. Лакейство.”***

– Але, згадзіся, пад гэтым лакействам быў свой грунт. Канечне, указанняў, каб нельга было крытыкаваць таго ці іншага начальніка, не чапаць тую ці іншую праблему, не было. Але быў няпісаны закон, які мы ўсе добра ведалі і стараліся яго не парушаць. Скажам, нельга было крытыкаваць сакратароў ЦК, кіраўніцтва Савета міністраў. А вось ужо на ўзроўні вобласці можна. Але сваю крытыку ты павінен быў дастаткова аргументавана пацвярджаць дакументамі, фактамі.

А калі прыйшла перабудова, то цэнзура, напрыклад, на тэлебачанні, перадачы, з якімі была нязгодная, прапускала ў эфір пад адказнасць кіраўніка. І былі выпадкі, не скажу, што іх было шмат, калі супрацоўнікі прыходзілі да мяне з “незалітаванымі” матэрыяламі, і я падпісваў матэрыялы ў эфір. Гэта цэнзарам, вядома, не падабалася, яны скардзіліся ў высокія інстанцыі. Але я не помню, каб на мяне накладвалі строгія спагнанні...

Цэнзура была. І, бясспрэчна, яна тармазіла развіццё грамадства, бо не дазваляла гаварыць усю праўду. Але казаць, што яна абсалютна ўсё душыла, не магу. Урэшце рэшт і аповесці Быкава выходзілі, хай сабе трошкі абскубаныя, але ж выходзілі. І Салжаніцын быў надрукаваны. А Віктар Някрасаў за свой раман “В окопах Сталинграда” атрымаў нават дзяржаўную прэмію. Многае, паўтаруся, залежыла ад канкрэтных людзей. Нам, беларусам, часта шанцавала, што ў нас былі дастаткова разважлівыя, дастаткова разумныя людзі і ў органах цэнзуры.

***– Мяне хвалюе яшчэ вось якое пытанне. Некаторыя з нашых грамадзян пасля развалу СССР рэзка, ледзь не за адну ноч, памянялі свае погляды. У гэтым сэнсе мне спадабалася ацэнка тваёй грамадзянскай пазіцыі нашым вядомым літаратуразнаўцам Дзмірыем Бугаёвым. Ён сцвярджае, што ў 90-я гады ў Бураўкіна адбыўся пераход на новыя ідэалагічныя пазіцыі, але рэзкай мяжы паміж ранейшым і сённяшнім не існуе. Гэта так?***

– Я да людзей, якія рэзка памянялі свае погляды і пазіцыі, адношуся падазрона. Я абсалютна разумею і дапускаю, што чалавек можа мяняцца. Больш за тое, лічу не надта разумным, калі нехта, як кажуць, тупа прытрымліваецца аднойчы засвоеных поглядаў, аднойчы выбраных пазіцый. Па-першае, можна было нечага не ведаць; па-другое, прыходзіць новы час, новыя людзі, прыходзяць урэшце новыя магчымасці для параўнання, для таго, каб зрабіць нейкія высновы.

Таму перамены ў людзях я дапускаю. Але калі нехта спярша быў крайне правым, а потым хуценька стаў крайне левым, то такім людзям я не веру. Гэта або кан’юнктуршчыкі, кар’ерысты, або бяздумныя халуі. Таму што, як паказвае практыка, такія людзі часцей за ўсё мяняюцца толькі ў адзін бок — у бок начальства.

Вядома ж, з цягам часу асабістыя пазіцыі могуць карэкціравацца, могуць набываць нейкія новыя рысы, але яны ў аснове сваёй павінны захоўвацца. Успамінаючы тыя часы, калі быў на адказных дзяржаўных пасадах, скажу, што я і тады выступаў і на пленумах ЦК, і на розных ідэалагічных нарадах з крытыкай некаторых нашых чыноўнікаў, некаторых партыйных рашэнняў, бо і тады лічыў, што не ўсё, з майго пункту погляду, робіцца правільна. І цяпер я выступаю з крытыкай канкрэтных спраў, а не проста адвяргаю ўсё агулам.

Таму я ўдзячны Дзмітрыю Бугаёву, што ён убачыў у маіх цяперашніх пазіцыях не здраду былым прынцыпам, а перамену ў адносінах да гэтых прынцыпаў.

***– Яшчэ адно вельмі балючае пытанне – становішча цяперашняй вёскі. Нашай традыцыйнай, глыбіннай вёскі. Яна співаецца, дэградуе, вымірае. На гэты конт у вучоных розныя погляды. Адны лічаць гэта катастрофай.***

***Другія – непазбежнай, заканамернай з'явай. Маўляў, не трэба плакаць, адраджэнне вёскі адбудзецца, але ўжо на якасна новай аснове. А як адносішся да гэтых працэсаў ты?***

– Так, вёска, якую я ведаў і з якой прыйшоў у горад, у літаратуру, тая вёска, на жаль, адыходзіць у нябыт. Мяне гэта трывожыць, непакоіць. Аднак ёсць тут і свая заканамернасць. Бо што такое вёска? Вёска – гэта кавалак зямлі з яе прыродай, з тым, што сілкуе літаратуру, што выклікае эмоцыі, блізкія да вечнасці, – дрэвы, рачулкі, валуны... Гэта тое, што цябе акружае і ў чым ёсць душа. У гарадскіх камяніцах усё-такі гэтай душы амаль няма. У вялікім доме людзі, жывучы разам дзесяцігоддзямі, могуць нават не ведаць адзін аднаго. Хочаш не хочаш, а тут пануе нейкая адчужанасць. У вёсцы ж непараўнана большая набліжанасць душы да душы. Сама вясковая атмасфера спрыяла духоўнасці людзей. Успомнім тыя песні, якія нашы бабулі нам спявалі, тыя казкі, якія дзяды нашы расказвалі, тыя легенды, якія перадаваліся з вуснаў у вусны. Ва ўсім гэтым жыла высокая духоўнасць, і яна была тут больш сканцэнтраваная, больш адкрытая і даступная для чалавека.

І яшчэ адна асаблівасць. Вясковыя дзеці ўжо змалку ўцягваюцца ў зараблянне хлеба, і праца для іх – прывычная неабходнасць. Яны адчуваюць пэўную адказнасць, бо ім даручылі нешта зрабіць, і яны ведаюць, што гэта адказнасць не толькі за сябе, але і за сваіх бацькоў, за сваю сям'ю. Урэшце нікому не хочацца быць горшым, чым суседзі. Таму праца для вяскоўца нешта большае, чым проста праца – яна дае яму магчымасць адчуць сябе чалавекам. І гэтае адчуванне ў вёсцы больш глыбокае, больш натуральнае, чым у горадзе.

Спаконвеку вёска была ў нас захавальніцай нацыянальных традыцый, маральных прынцыпаў, менталітэту. Канечне, і ў вёсцы ёсць людзі, якія вельмі любяць начальства, вельмі паслухмяныя перад тымі, у каго ўлада, але ў горадзе іх больш, бо горад дае больш прыбытку ад улады. Таму невыпадкова, што ў Беларусі людзі творчых прафесій былі часцей за ўсё вясковага паходжання. Яны ўбіралі ўсё тое вечнае, што мае ў сабе прырода, што даюць нам нашы беларускія карані.

Для мяне сапраўды трагічна, калі я бачу, што значэнне вёскі як духоўнага апірышча, усё змяншаецца і змяншаецца. Раней, калі я прыязджаў у сваю вёску, я з радасцю чуў, як жанчыны, ці то ідучы з сенакосу, ці са жніва, абавязкова спявалі песні. Цяпер гэтага няма. Адна з маіх зямлячак так і сказала мне: "Чаго я буду горла дзерці, калі я пастаўлю на падваконне магнітафон, і ён будзе спяваць лепш за мяне."

У людзей траціцца разуменне глыбінных, адвечных каштоўнасцяў. Горш за тое, яны замяняюць іх эрзацам, бо магнітафон, які чалавек паставіць на падваконне, і з якога нейкі папсавік будзе крычаць на ўсё наваколле, – гэта зусім не тое, што калісьці спявалася ў вёсцы.

Для мяне гэта жахліва. Гэта не проста бяда. У гэтым я бачу вялікую небяспеку для духоўнага жыцця вёскі. Правільна, трэба, каб тут умовы жыцця рабіліся лепшымі, каб у нечым яны набліжаліся да гарадскіх, але не трэба сюды пераносіць гарадскую маскультуру.

Ну і ўжо сапраўднай карай, нейкім насланнём з'яўляецца алкагалізацыя вёскі. Пасля вайны – я гэта добра ведаю, – калі б жанчына выпіла лішняе, нават у вялікае свята, дзе без чаркі ніколі не абыходзілася, – гэта была б ганьба для ўсяго роду. Уся вёска хапалася б за галаву: як гэта так, жанчына і напілася? Або калі б раптам нейкі маладзён прайшоў па вуліцы, хістаючыся, ці, не дай Бог, зваліўся, — гэта была б такая бяда, што бацькі і сваякі замардавалі б яго: як ты мог? Як ты людзям будзеш глядзець у вочы?

Цяпер я прыязджаю і з жахам бачу, як бабулі (а ў цяперашніх вёсках усё меней і меней маладых людзей, застаюцца адны старыя), атрымаўшы пенсію, ідуць

на аўтобус, едуць у Полацк і назад вяртаюцца з сетачкамі чарніла, збіраюцца то ў адной хаце, то ў другой і п'юць, п'юць...

П'е моладзь. Адкрыта і пастаянна. На вечарынках ужо лічыцца нармальным, калі нехта прыйшоў відавочна п'яны. Некалі гэта было б дзівам, цяпер – нармальна.

***– Горкая нармальнасць... Ці не здаецца табе, што над нашай моладдзю таксама навісла страшная небяспека? Гэта і бездухоўнасць, і страта некаторых маральных каштоўнасцяў, і пагружэнне ў ліпкую павуціну Інтэрнэта.***

– Ну так, паявілася ўжо хвароба такая – інтэрнэтзалежнасць. А што датычыцца моладзі ў цэлым, то па тых сустрэчах, па тых справах, якія час ад часу зводзяць мяне са школьнікамі, са студэнтамі, у мяне складваецца адчуванне, што ў сённяшняй моладзі вельмі многа добрага. І, шчыра кажучы, на маладое пакаленне я ўскладаю ўсе свае надзеі. Я не хачу крыўдзіць старэйшых, але яны ўжо іншымі быць не могуць, яны ўжо сваё зрабілі і дзякуй ім за гэта. Новае ж жыццё выстаўляе новыя патрабаванні і, як мне здаецца, сённяшняя моладзь ім калі не цалкам, дык у многім адпавядае.

Чаму? Па-першае, таму што яны выхаваны ў іншым асяродку, у іншых традыцыях. Над імі няма тых жахаў, што віселі над намі — жахаў вайны, пасляваеннай галадоўкі. Жахаў ад таго, што рабілася з некаторымі сваякамі, якіх арыштоўвалі, садзілі ў турмы, а то і расстрэльвалі. Над імі, дзякаваць Богу, такога ўжо няма. Яны ў гэтым сэнсе больш свабодныя.

Другое. У нас не было магчымасці з-за нашай беднасці, ды і па іншых прычынах, выхаду на шырокія абсягі свету. Цяпер – калі ласка. Раней любая паездка за мяжу была падзеяй. Цяпер – радавая з'ява, едзь куды хочаш. І я ведаю па сабе, што калі б не пажыў чатыры гады ў Нью-Ёрку, я быў бы іншым чалавекам. Я паглядзеў свет, я паглядзеў дзяржаву, якая жыве па іншых законах і традыцыях, па іншых правілах і звычаях, чым наша дзяржава. І калі некаторым у нас здаецца: ну, ладна, так дык так, то я ведаю, што так не павінна быць, бо я бачыў, як яно можа быць.

Маладзёны нашыя цяпер могуць лёгка ўсё бачыць, ім ужо не тэлевізійныя каментатары нешта ўталкоўваюць, а яны самі, сваім розумам могуць усё спасцігаць. Гэта вельмі важна.

Іншая справа, што той жа Інтэрнэт, які намнога пашырыў нашы магчымасці, як мне здаецца, многіх пачынае калечыць. Ён выплёсквае такую масу інфармацыі, прытым абы-якой, без разбору, вельмі часта з прэтэнзіяй на сенсацыйнасць, на вычварнасць, што не кожная псіхіка, тым больш маладая, няўстойлівая, гэта вытрымае.

Кепска і тое, што Інтэрнэт залішне забірае ў маладых часу, адцягвае ад жывога знаёмства з літаратурай, з музыкай, жывапісам. Урэшце адцягвае ад храма, нават ад тэлебачання. Адвучае думаць. І ў гэтым я бачу пэўную небяспеку. Бо што такое Інтэрнэт? Ён дае нам канчатковы інфармацыйны прадукт, а для душы добра тады, калі яна гэты прадукт, даруй за такое слова, выпрацоўвае сама.

Вось, скажам, малады чалавек чытае кнігу Талстога або Чорнага, ён перагортвае старонкі, удумваецца ў кожны радок, "працуе" не толькі ягонае вока, "працуе" душа. Або чалавек слухае канцэрт класічнай музыкі — ён не проста слухае, а нейкім чынам на яе адгукаецца. Або глядзіць карціны, здзіўляецца, як мастак здорава перадаў тое, што ён не ўбачыў, не разгадаў.

Інтэрнэт жа дае яму гатовы прадукт, прытым дае нярэдка нахабна, катэгарычна, безапеляцыйна. А ў маладога чалавека яшчэ няма неабходнага жыццёвага вопыту, каб зразумець, што вось тут сапраўды нешта сур"ёзнае, а тут – драбяза, а то і лухта. У гэтым я бачу небяспеку.

Але, паўтараю, па тых магчымасцях, якія цяпер моладзь мае, яна стаіць вышэй за нашае пакаленне. Урэшце, я не веру, што ў маладога беларуса нічога ў душы не зварухнецца, калі ён пачуе пра гісторыю сваёй роднай зямлі, пра справы сваіх бацькоў, дзядоў. Іншая справа, што ў маладыя душы нярэдка сеецца невуцтва, іх прывучаюць да аднабаковай інфармацыі. А трэба, каб чалавек меў рознабаковую інфармацыю. Грамадзянінам можна стаць толькі тады, калі сам, свядома, выбіраеш сваю пазіцыю, ведаючы і тое, што гавораць справа, і тое, што гавораць злева, і тое, што гаварылі раней, і тое, што гавораць цяпер. У гэтым сэнсе мне хацелася б, каб у маладых было больш магчымасцяў для самавыхавання, духоўнага і маральнага, больш магчымасцяў дасканала ведаць той куточак зямлі, на якім яны жывуць – ведаць яго гісторыю, культуру, літаратуру, яго нацыянальныя асаблівасці і адметнасці.

Тое, што ў нас цяпер сталі мала чытаць, – гэта бяда, якую мы яшчэ да канца не ўсвядомілі. У Расіі, напрыклад, наконт гэтага б'юць ужо трывогу на дзяржаўным узроўні. Аказваецца, выпускнікі цяперашніх школ у большасці сваёй абсалютна бязграматна пішуць. Яны не ўмеюць толкам напісаць ні пісьма, ні заявы, ніякага дакумента. А чаму? А таму, што прывыклі да ўспрыймання тэксту вухам, а не вокам. А чалавек, калі чытае і бачыць, як тое ці іншае слова напісана, дзе якія стаяць знакі прыпынку, фіксуе гэта вокам і ў яго ўсё падсвядома адкладваецца ў памяці. А калі гэтага няма?

Хваля непісьменнасці вельмі і вельмі хвалюе расійскіх дзеячаў навукі і культуры, настаўнікаў. Тое, што мы пра гэта маўчым, зусім не значыць, што ў нас лепшая сітуацыя.

Таму, калі мы гаворым пра моладзь, у мяне і вялікія спадзяванні на яе, і вялікія апасенні, каб тыя магчымасці, якія ў яе ёсць, былі выкарыстаны. Урэшце рэшт, на каго ж нам спадзявацца, як не на моладзь? За ёю, як гэта кажуць, – будучыня. А кожнаму з нас хочацца, каб гэтая будучыня была светлая, сумленная, разумная, высокаінтэлектуальная. Каб не сорамна было выйсці ў свет. Каб можна было ганарыцца, якія мы, беларусы, сучасныя, цывілізаваныя людзі.

***– Кажуць, народ заўжды мае рацыю. А ці заўжды? У прыватнасці, хачу ў цябе запытацца, чаму наш народ такі пасіўны, абыякавы да сваёй гісторыі, да сваёй роднай мовы? Некалі, яшчэ ў трыццатыя гады, гэтае горкае пытанне задаваў сабе Максім Танк і не знаходзіў адказу. Можа, цяпер мы можам на яго адказаць?***

– Гэтае пытанне і для мяне вельмі балючае, можа, самае балючае з таго, над чым я думаю. На яго ўжо спрабавалі адказаць многія мае аднадумцы, і я сам рабіў гэта, але не ўпэўнены, што мы знайшлі вычарпальны адказ. Калі гаварыць коратка, то, мне здаецца, уся бяда ў нашым характары, у нашым менталітэце, урэшце рэшт у нашай гісторыі, якую нам даў Бог, і якую мы рабілі самі. Так атрымалася, што многія вякі мы не мелі сваёй дзяржаўнасці, а значыць не мелі і сваёй дзяржаўнай мовы.

***– А Полацкае княства? А Вялікае Княства Літоўскае?***

– Так, і ў Полацкім княстве, і ў Вялікім Княстве Літоўскім была ва ўжытку старабеларуская мова. А потым? А потым, замест таго, каб яе развіваць, яе занядбалі. Негатыўную ролю сыграла паланізацыя і русіфікацыя, якія мы перажылі у 18-19 стагоддзях. Наша асаблівасць і наша бяда ў тым, што руская і беларуская, польская і беларуская мовы блізкія. Мы разумеем адзін аднаго. І гэтым подла і вельмі актыўна карысталіся непрыяцелі беларушчыны. Я маю на ўвазе і польскіх каралёў, і рускіх цароў. Яны не проста насаджалі, прывучалі нас да чужой мовы, а забаранялі беларускую мову сваімі ўказамі. Гэта ж сапраўднае злачынства.

А потым, улічы яшчэ, на якую раллю падалі гэтыя "зярняты". Беларусы – людзі разважлівыя, спакойныя. Калі б нешта такое паспрабавалі зрабіць з грузінамі, яны

тут жа ўзяліся б за зброю і стралялі б у таго, хто сказаў нешта зняважлівае пра іх родную мову. А беларусы маўчалі. Так, яны перажывалі, у душах іхніх, магчыма, усё кіпела, але часцей за ўсё маўчалі. І гэта яшчэ адна асаблівасць беларусаў, якая, скажам шчыра, захавалася і да гэтага часу. Простыя людзі (а беларуская мова, так гістарычна склалася, многія вякі была моваю простага люду) вельмі хацелі ладзіць з начальствам, бо ад начальніка многае залежала. Ён мог забраць зямлю, мог аддаць у салдаты, мог практычна зрабіць з табой усё, што захоча. А паколькі падладзіцца пад гэтага начальніка не было асабліва чым, дык бедны беларус стараўся хоць бы гаварыць з ім на ягонай мове.

Першы ўсплёск беларушчыны адбыўся ў 1905-1906 гадах. Паявіліся першыя беларускія газеты, шматлікія літаратурныя творы на беларускай мове. Пра нашых выдатных творцаў Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча загаварылі ў Расіі.

Другая хваля беларусізацыі прыйшла ў дваццатыя – напачатку трыццатых гадоў. Чым усё гэта скончылася, ты сам добра ведаеш. Таму сёння, горка думаючы пра стан роднай мовы, я ўсё ж дзіўлюся, як яна, знаходзячыся ў такіх умовах некалькі стагоддзяў, выжыла, як яе ўсё-такі не знішчылі. Бо ёсць прыклады, сумныя прыклады, калі знікалі мовы народаў. Наша мова, на шчасце, не знікла. І для мяне не зразумела, чаму, калі Беларусь стала незалежнай, суверэннай дзяржавай, калі, здавалася б, для яе павінен наступіць час самага вялікага росквіту, мы атрымалі нешта процілеглае?

Я не супраць рускай мовы. Не трэба яе забараняць, адпіхваць, але, даруйце, трэба ж помніць, што ў нас усё-такі Беларусь. У рускай мовы ёсць свой абсяг, дзяржаўны, з агромністымі прасторамі, з выдатнейшай культурай. А ў нас, беларусаў, няма больш на зямлі куточка, дзе б беларуская мова магла па-гаспадарску квітнець і развівацца. Толькі тут, у Беларусі! А што мы бачым? З кожным годам усё менш і менш беларускіх школ. З кожным годам усё менш і менш беларускіх выданняў. Ідзе адкрытая, нахабная палітыка барацьбы з беларускай мовай.

Я часта думаю над гэтым і сапраўды не магу зразумець: адкуль гэта і чаму? Быццам і ведаю, адкуль і чаму, але не магу сабе і іншым растлумачыць. Не горшыя ж беларусы за іншых. Я шмат дзе пабыў, трохі паглядзеў свет. У той жа ААН сярод супрацоўнікаў беларусы былі на самым добрым рахунку, да іх не было ніякіх прэтэнзій – ні да падрыхтаванасці, ні да дысцыплінаванасці, ні па чыста чалавечых якасцях. Або калі прыязджаюць нашы вучні, студэнты за мяжу, яны таксама аказваюцца сярод лепшых. Дык чаму ж самае святое, самае дарагое – мову сваю – у нас не шануюць, не берагуць?

***– А ці не здаецца табе, што ў вырашэнні гэтай праблемы недастатковая роля нашай інтэлігенцыі? Ці ўсё яна зрабіла і робіць?***

– Не ўсё яна зрабіла, але калі ўжо гаварыць, хто змагаецца за мову, то найперш інтэлігенцыя.

***– Адзінкі...***

– Адзінкі, але — інтэлігенты. Ды яшчэ свядомая моладзь, якая блізкая да інтэлігенцыі. Наша бяда ў тым (мы некалі з Васілём Быкавым пра гэта гаварылі), што ў нас слой нацыянальнай інтэлігенцыі аказаўся вельмі тонкі. І гэта адбылося невыпадкова, у выніку свядомай савецкай палітыкі. У Беларусі кадраў нацыянальнай інтэлігенцыі ў 1937-1938 гадах было знішчана намнога больш, чым у іншых рэспубліках. Азначэнне “нацыянальны” ў адносінах да беларускіх дзеячаў практычна не ўжывалася, толькі – “нацыяналістычны.” Магло быць нацыянальнае дзе хочаш, але не ў нас. Убілі ў людзей такі страх, што не дай Бог ты дасі падставу назваць сябе нацыяналістам, дык гэта будзе азначаць для цябе самае страшнае, што можа быць. І гэты страх стаў ужо страхам на генным узроўні.

Другая акалічнасць. Беларусь – няшчасная краіна. Няшчасная ў тым сэнсе,

што праз яе войны пракочваліся двойчы – у адзін бок, а потым назад, у другі бок. І кожны раз праходзіліся па нашай зямлі агнём і мячом. Вось і пасля Вялікай Айчыннай вайны наша гаспадарка была абсалютна разбурана. Будзем гаварыць шчыра, без дапамогі іншых саюзных рэспублік, і ў першую чаргу Расіі, нам было б вельмі цяжка. На сваё аднаўленне мы патрацілі б куды больш часу. Гэта рэальнасць.

А бяда ў тым, што ў Беларусь на аднаўленне гаспадаркі, навукі, культуры хлынулі не нацыянальныя кадры, прыйшла не беларуская інтэлігенцыя. Людзі прыязджалі з Расіі, Украіны, іншых рэспублік, не паспяваючы, а хто і не жадаючы, уліцца ў нацыянальную беларускую сям'ю. Яны не хацелі сябе абцяжарваць вывучэннем беларускай мовы. Нашто, калі мяне і так усе разумеюць? Хай беларусы будуць нам удзячныя, што мы прыехалі ім дапамагаць. І першае праяўленне ўдзячнасці было – адмаўленне ад сваёй мовы.

Усё гэта і вылілася ў тое, што на гістарычных паваротах інтэлігенцыя, якая заўсёды была мозгам і памяццю нацыі, у нас аказалася вельмі тонкім слоем грамадства. Больш таго, аказалася залішне памяркоўная, занадта талерантная. Будзем гаварыць адкрыта, калі ў дзевяностыя гады мінулага стагоддзя інтэлігенцыя ў Прыбалтыцы, у Закаўказзі і нават на Украіне была ваяўнічай, то ў нас яна ўсё-такі была спакойная. З аднаго боку, гэта добра, бо мы пазбеглі сутычак там, дзе магла праліцца кроў, але пры гэтым мы дазволілі малаадукаваным палітыкам замахнуцца на тое, на што нельга замахвацца. У выніку сёння маем тое, што маем.

***– Зменім трошкі тэму. “Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць…” Дзе ўдалося пабываць табе? Што з убачанага, пачутага найбольш уразіла, і які найпрыгажэйшы для цябе куток на зямлі?***

– Я пабыў практычна на ўсіх кантынентах. На некаторых бачыў больш, на некаторых – менш. У Афрыцы, напрыклад, менш, а ў Еўропе аб'ехаў амаль усе краіны, у Азіі – усе вялікія краіны. Іншая справа, што падоўгу я там не быў. Гэта ўсё-такі былі кароткатэрміновыя службовыя камандзіроўкі ці турысцкія паездкі. Дастаткова доўга давялося мне пажыць у Нью-Ёрку. Ведаю трохі Паўднёвую і Паўночную Амерыку.

Што я адтуль вынес? Я адтуль вынес некалькі прынцыповых рэчаў. Перш за ўсё я зразумеў, што ёсць разнастайнасць не толькі людская, але і палітычная, дзяржаўная. Што існуе нямала краін, у якіх нам ёсць чаму павучыцца. Я з маленства быў выхаваны на тым, што самая лепшая ў свеце краіна – наша, савецкая, самы справядлівы лад – наш. А тут на свае вочы ўбачыў, што людзі жывуць і па-іншаму, жывуць цікава. І ў мяне, канечне, асабліва на самым пачатку, калі я атрымаў магчымасць ездзіць па свеце, паявілася нейкае неўразуменне. Я сапраўды верыў, што сацыялізм – найлепшая сістэма, найлепшая форма жыццеўладкавання, але чаму ж тады, пытаўся я ў сябе, народы, якія жылі пры сацыялізме, жылі горш, чым тыя, якія жылі пры капіталізме?

А па другое – замежныя падарожжы далі мне пэўную цвярозасць погляду на жыццё. Я ніколі не спяшаўся бяздумна ацэньваць іншых і сябе таксама. У нас, і асабліва ў палітыкаў, ёсць адна нядобрая рыса: няма адчування меры, мы ўжо або любім без мяжы, або ненавідзім абсалютна ўсё. Таму, калі нехта сцвярджае, што вось Амерыка – гэта ікона, на якую мы павінны маліцца, з якой павінны сваю ікону малявць, я гэтага не прымаю. У Амерыкі ёсць і свае праблемы, і свае цяжкасці, і свае слабасці. Але там ёсць некалькі рэчаў, якія я хацеў, каб яны былі ў нас.

Едучы туды, я, як і большасць савецкіх людзей, не надта разумеў, чаму амерыканцы прыдаюць такое вялікае значэнне правам чалавека. Што ім больш няма пра што турбавацца? Дык вось, пажыўшы там, я зразумеў, што яны многія надзённыя пытанні, такія, скажам, як забеспячэнне сябе хлебам, атрыманне адука-

цыі, магчымасць службовага росту, вырашылі. І таму ім вельмі важная праблема правоў чалавека, пацверджанне павагі да іхняй годнасці і іхніх інтарэсаў.

У Амерыцы, як і ўсюды, у любой сучаснай дзяржаве, існуе адказнасць грамадзяніна перад дзяржавай, і яна, гэтая адказнасць, дастаткова жорсткая. Калі чалавек свядома нешта робіць на шкоду дзяржаве, яна з ім можа быць нават бязлітаснай. Але там ёсць і другое, чаго я не надта бачу ў нас, — адказнасць дзяржавы перад грамадзянінам. Калі дзяржава табе нешта павінна забяспечыць і не забяспечыла – падавай у суд, і можаш не сумнявацца, што ты суд выйграеш. Вось гэта тое, чаго я хацеў бы, каб было і ў нас.

І яшчэ адно. Там людзі, якія працуюць, вельмі даражаць месцам працы. Страціць яго для іх – страшная рэч. Яны трымаюцца за сваю працу і ўсё робяць, каб павышаць сваю кваліфікацыю. Калі ты добра працуеш, табе літаральна праз тыдзень могуць павысіць зарплату. Калі яшчэ лепш стаў працаваць – зноў павысяць. Працуючы сумленна, кваліфікавана, ты забяспечыш сваёй сям'і сучасны, цывілізаваны ўзровень жыцця. Што гэта значыць для так званага сярэдняга амерыканца? Гэта значыць, што ў цябе будзе або кватэра, або ўласны дом, машына ў кожнага дарослага члена сям'і, ты зможаш даць сваім дзецям адукацыю (а яна там часцей за ўсё платная) і апошняе, вельмі важнае: ты забяспечыш сабе спакойную старасць.

На што яшчэ я звярнуў увагу? На культуру палітычнага жыцця. Ідзе непрымірымая барацьба паміж рэспубліканцамі і дэмакратамі на выбарах, пад час іх там хапае ўсяго. Але пасля таго, як нехта перамагае, пачынаецца супрацоўніцтва ў імя дзяржавы, Амерыкі, адносна якой ніхто там не сумняваецца, што яна самая магутная, самая дэмакратычная, самая разумная. Чаму б нам не павучыцца такому?

Ну а калі гаварыць пра нейкія духоўныя рэчы, я, на жаль, не магу сказаць, што лёгка магу параўноўваць тамтэйшую культуру з нашай. Малавата я паспеў уведаць. Аднак ёсць рэчы, як кажуць, на відавоку. Выяўленчае мастацтва ў Злучаных Штатах Амерыкі найчасцей абстрактнае, якое мяне не надта прыцягвае і хвалюе. Усе паліцы ў кнігарнях і бібліятэках забіты таннымі выданнямі, дэтэктывамі, "жаночымі" раманамі, словам, чытвом, сур'ёзнай літаратуры там малавата...

Ну а які самы прыгожы куток на зямлі? Для мяне – гэта мая родная Полаччына. З замежных краін найбольш прыемна мне было ў Чэхіі. Я вельмі люблю Злату Прагу. Гэтым самым я зусім не хачу сказаць, што для мяне Парыж не Парыж, і Варшава не Варшава. Яны гарады цікавыя, прыгожыя. Але чамусьці на душу легла менавіта Прага – і сваім хараством, і сваёй утульнасцю, і сваёй высокай культурай.

***– А як жа быць з формулай "каб любіць Беларусь...?"***

– Ну, я думаю, што гэтая формула не самая дакладная. Хаця, бясспрэчна, усё пазнаецца ў параўнанні, і для таго, каб зразумець вартасці свайго роднага, нядрэнна пабываць у розных краях. Але ж нашы эмігранты, дзясяткі гадоў жывучы ў чужых краінах, усё-такі душою цягнуцца сюды, на Радзіму. Я не лічу, што для таго, каб "любіць Беларусь нашу мілую", абавязкова трэба павандраваць па замежжы. Мой бацька не быў ні ў якіх краінах, акрамя роднай Полаччыны, мама таксама нідзе не была, а любілі яны Беларусь так шчыра, як можа любіць толькі чалавек гэтай зямлі. Таму я ўспрымаю словы Алеся Ставера хутчэй як паэтычную метафару.

***– Генадзь Мікалаевіч, ты прыгадай сваю родную Полаччыну. З чым ці можа з кім яна ў цябе асацыіруецца? Што пры гэтым прыгадваецца перш за ўсё?***

– Я прыгадваю найперш той куточак, дзе нарадзіўся, рос. На жаль, цяпер там ужо многіх вёсак няма, адны знішчаны вайной, другія, як кажуць, памерлі сваёй

смерцю пасля вайны, стаўшы неперспектыўнымі. Я прыгадваю сваю рэчачку Дрысу, цудоўныя бары, што былі вакол вёскі Малюціна, светлыя сцежкі-дарожкі маленства.

Прыгадваецца і вайна. Нікуды ад гэтага не дзенешся. І тыя людзі, што дапамаглі выжыць у тых страшных абставінах, уклалі ў душу адчуванне дабрыні і справядлівасці.

А калі браць малую радзіму трошкі шырэй – як усю Полаччыну, то, канечне ж, назаўсёды леглі ў памяць і Францішак Скарына, і Еўфрасіння Полацкая, і Сафійскі сабор...

***– Можна сказаць, табе дужа пашанцавала – правесці маладосць на такой святой зямлі.***

– Так. І хаця я ў дзяцінстве на Расоншчыне пражыў не менш і таксама люблю яе, Полацк быў і застаецца для мяне самым дарагім і сапраўды святым месцам. Бо што б там ні казалі, але калі ходзіш па гэтаму старажытнаму гораду, то нават нагамі адчуваеш тысячагадовую гісторыю, і здаецца, што энергетыка стагоддзяў сама сабой уваходзіць у цябе. Лічу за шчасце, што магу называць сябе сынам Полаччыны.

***– У маладыя гады ты шмат вандраваў па Беларусі. І з Рыгорам Барадуліным, і з Нілам Гілевічам. Што даюць чалавеку такія вандроўкі? І што за імі стаяла: звычайная цікаўнасць ці нешта большае?***

– Ну, была, вядома, і цікаўнасць. Але найперш — духоўная патрэба. Я адчуваў, што ведаю мала, што трэба ў розных кутках пабываць. Тым больш, што і ў Ніла Гілевіча, з якім мы вельмі блізка сябравалі, былі такія ж настроі. Ён хацеў лепш уведаць маю Полаччыну, а я – ягоную Лагойшчыну.

***– А дзе вы разам пабывалі?***

– Вельмі цікавым было наша двухтыднёвае падарожжа ад Нарачы да Расонаў. Частку дарогі мы адолелі на “перакладных”, частку ішлі пешшу. Начавалі ў просценькіх мястэчковых гасцініцах, а то і ў стагах сена. У адной вёсцы памагалі тушыць пажар. Рабілі фота, разам з вясковымі жанчынамі спявалі народныя песні. На Шаркаўшчыне завіталі ў госці да знакамітага садавода-селекцыянера Івана Паўлавіча Сікоры, які аказаўся надзіва цікавай асобай, перапісваўся з Львом Мікалаевічам Талстым, меў ад яго некалькі аўтографаў і пісем. У Полацку правялі незабыўны, чароўны вечар з кампазітарам Міколам Пятрэнкам. Сустрэчы з неардынарнымі людзьмі, знаёмства з новымі краявідамі – усё гэта, бясспрэчна, многае давала і для творчасці.

***– Ёсць два падыходы да жыцця. Адзін з іх выказаны ў вядомых паэтычных радках: “Прежде думай о Родине, а потом – о себе.” Другі, які асабліва культывуецца ў нашыя дні, наадварот, нацэльвае чалавека на меркантыльна-эгаістычнае: “Перш за ўсё любі самога сябе. Бяры ад жыцця ўсё, што можаш. Жыві адным днём.” Які з гэтых прынцыпаў табе бліжэй?***

– Я выхаваны, вядома, у адпаведнасці з першым прынцыпам. Спярша думай пра нешта высокае, пра ідэі, якім ты адданы і дзеля якіх жывеш. Урэшце, жывём жа мы не для таго толькі, каб есці, апранацца, старэць. Такое, чыста фізіялагічнае ці, можа, нават расліннае жыццё, не надта цікавае. А вось жыццё з духоўнымі мэтамі, з духоўнымі памкненнямі, дае адчуванне, што яно – вечнае, і ты можаш хоць трошачкі да гэтай вечнасці далучыцца. Таму першы прынцып для мяне больш важны. Хаця лічу, што ён зрабіўся істотным недахопам нашага савецкага жыцця, калі мы пра будзённага чалавека, кажучы шчыра, не надта думалі.

***– Паэт і службовая кар’ера. Ці сумяшчальна гэта? Я задаю табе такое пытанне, таму што амаль усё сваё свядомае жыццё ты быў звязаны з тымі ці іншымі пасадамі. Ці не прыводзіць гэта да нейкіх, перш за ўсё творчых страт, калі чалавек вымушаны займацца адміністрацыйнай работай?***

– Гэта цяжка сумяшчальнае, але сумяшчальнае. І, азіраючыся на пражытое,

я магу сказаць, што, канечне, мае службовыя абавязкі забралі ад мяне, як ад аўтара вершаў, вельмі многа. Я нават прыкінуў быў у свой час, што мая праца на Дзяржтэлерадыё забрала ў мяне мінімум тры ненапісаныя кніжкі. У мяне быў такі ўзрост, калі я сапраўды мог зрабіць, можа, найлепшае з таго, што хацеў, і не зрабіў. І ўжо не зраблю ніколі.

Але не скажу, што мае службовыя пасады, даволі высокія і значныя, нічога мне не давалі. Яны далі нямала ў разуменні часу, людзей, урэшце, у разуменні адносін чалавека і дзяржавы. І калі крытыкі адзначалі, што ў мяне, у маіх вершах, шырэў кругагляд, то без майго службовага досведу гэта, відаць, наўрад ці было б.

***– Ведаю, што ў тваёй службовай кар'еры былі як узлёты, так і падзенні. Скажы, калі ласка, дзе было цікавей за ўсё працаваць?***

– Найцікавей, напэўна, было ў "Маладосці". Я ўспамінаю цяпер пра гэта і з прыемнасцю, і з вялікай удзячнасцю. Можа, ад таго, што ў нас быў выдатны творчы калектыў, калектыў аднадумцаў. Мы друкавалі вельмі цікавыя рэчы, якія сёння можна смела назваць класікай нашай літаратуры. Я маю на ўвазе творы і Васіля Быкава, і Янкі Брыля, і Аркадзя Куляшова, і Уладзіміра Караткевіча, і Івана Чыгрынава... Я ўжо не кажу пра тых, каго мы "адкрывалі", каму давалі, як кажуць, пуцёўку ў літаратуру.

Калектыў быў невялікі, але вельмі яркі. Арганічнае спалучэнне сталых, знакамітых пісьменнікаў і маладых. Мікола Аўрамчык, Вера Палтаран, Вячаслаў Адамчык, Янка Сіпакоў, Уладзімір Дамашэвіч, Леанід Дайнека, Алесь Жук, Сцяпан Кухараў, Валянцін Ждановіч, Мікола Гіль... Працаваць з імі было і цікава, і прыемна. У нас не здаралася асаблівых спрэчак, акрамя творчых, не было прынцыповых разыходжанняў, лінія, якую мы стараліся праводзіць, была для нас агульнай практычна ва ўсім. А яшчэ праца ў "Маладосці" давала магчымасць і самому нешта пісаць.

Цяжэй было ў Дзяржтэлерадыёкамітэце. Але разам з тым працу на тэлебачанні я таксама прыгадваю з вялікай цеплынёй. Гэта была вельмі адказная і важная праца. Калектыў быў вялікі, недзе за тры тысячы чалавек, але цікавы, творчы ў большасці сваёй. І жылі мы не заробкамі, што стала цяпер ужо бядой, а найперш творчасцю, беларушчынай.

Бясспрэчна, цікава было працаваць і ў ААН. І таму, што гэта была для мяне абсалютна новая справа, і таму, што быў вельмі высокі ўзровень людзей, з якімі мне даводзілася мець службовыя і чалавечыя стасункі.

Практычна ўсюды, дзе я працаваў, мне было цікава і карысна. Тая ж "Правда", напрыклад, дала добрае адчуванне і разуменне адказнасці за тое, што пішаш. Як мне здаецца, у сённяшніх журналістаў гэтага пачуцця часта не хапае.

## Лісты да запатрабавання

***– Давай пагаворым пра літаратуру. Пра тое, чаму ты аддаў больш за паўстагоддзя свайго шчырага, адданага служэння. Дык што гэта за феномен такі – літаратура? Якая яе роля і значэнне ў жыцці грамадства? Крыніца пазнання, як лічылі многія мысліцелі мінулага? Сродак выхавання, як даводзілі нам камуністычныя ідэолагі яшчэ зусім нядаўна? Ці проста форма адпачынку, забавы, як спрабуюць унушыць нам сёння некаторыя бізнес-спрытнюгі?***

– У нейкім сэнсе ўсё гэта можна да літаратуры прыкласці. Але для мяне літаратура – з'ява намнога больш глыбокая і шырокая, чым тыя вызначэнні, якія ты назваў. Для мяне гэта не "чытво", а куды больш сур'ёзная рэч. Гэта – памяць свету, памяць пакаленняў, памяць народа, якая ўбірае ў сябе і веды, і маральны свет людзей, і жывыя, адметныя рэаліі канкрэтнага часу.

Узровень любога мастацкага твора вызначае талент. Літаратура тут не выключэнне. Толькі сапраўдны талент можа пранікнуць у глыбіні складаных сацыяльных з'яў, грамадска-палітычных працэсаў. Толькі таленавіты пісьменнік зможа пра ўсё гэта расказаць так, каб было і цікава, і дакладна, і праўдзіва, і сумленна. Менавіта на гэтым трымаецца ўся сусветная класіка. Чаму мы не трацім цікавасці да твораў Багушэвіча, Багдановіча, Купалы, Коласа? Таму што яны здолелі ўвабраць, увасобіць усё тое, чым жыў, пра што думаў, на што спадзяваўся родны народ, і для нас гэта і цяпер цікава, а ў многім і павучальна.

Так што для мяне літаратура – гэта цэлы свет. Агромністы, шматгранны, шматзначны. І пры ўсім пры тым яшчэ і непаўторны. Непаўторнасць яго ў тым, што кожны талент нясе адметнасць, асаблівасць свайго народа, сваёй зямлі, сваёй гісторыі. Вось чаму сапраўднага нацыянальнага генія перакласці на іншую мову практычна немагчыма.

***– Асабліва ў паэзіі.***

– Так. Найбольш яркія нацыянальныя творы на іншай мове ніколі не маюць свайго адэкватнага выяўлення. Менавіта гэтым тлумачыцца феномен Пушкіна: перакладаў, вартых яго генія, практычна няма. Многія тонкія знаўцы літаратуры сцвярджаюць, што Пушкін па-французску або па-ангельску – дастаткова сярэдні паэт.

Тое ж самае можна сказаць пра пераклады твораў Лермантава. Асобныя яго вершы, пераствораныя Куляшовым, гучаць па-беларуску выдатна. Абсалютна дакладна перададзены і настрой, і глыбіня думкі, і багацце асацыяцый. Але чытаць Лермантава хочацца ўсё ж у арыгінале.

***– Напрошваецца пытанне, а ці трэба наогул перакладаць тую ж рускую класіку?***

– А чаму ж не трэба? Хто сказаў, што мы ўсе выдатна чытаем у арыгінале? Я думаю, што кожная нацыянальная культура павінна развівацца не толькі за кошт таго, што ствараюць яе геніі, яе таленты, але і за кошт засваення вопыту ўсяго свету. Ну, напрыклад, няма ў нас фантастыкі ўзроўню Брэдберы. Няма. А жыць без гэтага – значыць адставаць ад працэсу сусветнай цывілізацыі. І таму трэба, каб Брэдберы беларусы чыталі па-беларуску. Пераклады – гэта важны, абавязковы складнік развітой, сучаснай літаратуры.

Ну а той, хто бліскуча валодае і адной мовай, і другой, калі ласка, ён мае права выбіраць: чытаць твор у арыгінале або ў перакладзе. Аднак жа ёсць людзі, якія натуральна сябе пачуваюць толькі ў беларускім моўным асяродку. Дык, каб не абкрадаць іх, мы павінны даць ім магчымасць на роднай мове авалодаць багаццем усяго таго, што створана чалавецтвам.

***– Ну што ж, планка ўзнята даволі высока. Хацелася б, каб, не паніжаючы гэтай планкі, ты сказаў пра стан нашай сённяшняй літаратуры – паэзіі, прозы, драматургіі, крытыкі. Адны сцвярджаюць, што літаратуры ў нас наогул няма. Другія кажуць, што мы па праву можам ганарыцца сваім прыгожым пісьменствам. А як на тваю думку?***

– Літаратура ў нас, бяспрэчна, ёсць, і літаратура прафесійная, цікавая. Іншая справа, што ў кантэксце ўсёй гісторыі беларускай літаратуры мы, можа быць, перажываем не самы лепшы перыяд. Але заявы, якія і я чую часамі, што вось, маўляў, літаратура памерла, я сур'ёзна прыняць не магу. Помню горкія выказванні таго ж Быкава, які ў сваім пісьме да мяне скардзіўся на час (і ён гэта гаварыў не толькі ў адносінах да беларускай, але і ўсёй літаратуры), у якім літаратура нікому не патрэбная, а кніга нікога не цікавіць, бо ёсць тэлебачанне, інтэрнэт.

Ну што ж... Я лічу, што ў кожным перыядзе ёсць свае плюсы і свае мінусы, але калі гаварыць пра тое, жыве літаратура ці не жыве, то я скажу адназначна: беларуская літаратура, безумоўна, жыве. Сваю выснову магу пацвердзіць тым, што ў нас і цяпер, хай можа не ў такой колькасці і не на такім узроўні, як хацелася б, адбываюцца яр-

кія літаратурныя падзеі. Узяць, напрыклад, апошнія аповесці Віктара Казько. На мой погляд, гэта выдатная проза. Творы напісаны на такім узроўні літаратурнага майстэрства, на такім узроўні думання, філасофіі, што ўжо сёння іх можна смела ставіць побач з найлепшымі дасягненнямі.

Або кніга Рыгора Барадуліна “Ксты”. Паэзія самай высокай пробы! Мудрая, глыбокая, бліскуча зробленая.

Перакананы: з такімі набыткамі нам не сорамна выходзіць у шырокі свет.

Канечне, у нас даўняя бяда з крытыкай. Яе, калі браць па высокаму рахунку, практычна і няма. Бо тыя водгукі на кнігі, што выходзяць, проста інфармацыйныя і ў аналітычным плане бездапаможныя. Сапраўднага аналізу, разумення месца сённяшніх працэсаў у гісторыі нашай літаратуры, разумення месца канкрэтных аўтараў, дынамікі іх развіцця, – на жаль, не відно.

І няма таго, што пачынаў рабіць і рабіў паспяхова, але з-за вялікай занятасці іншымі справамі не дарабіў Алесь Адамовіч. Я маю на ўвазе такую надзвычай важную і сур’ёзную тэму, як “Беларуская літаратура ў кантэксце сусветнай літаратуры”.

Мяне засмучае, што ў некаторых літаратурных выданнях апошнім часам паявілася страшная хвароба – пісаць толькі пра “сваіх” і не пісаць пра “чужых”. Гэта не спрыяе развіццю літаратуры. Вось тут бы і сказаць сваё сур’ёзнае слова крытыцы, для якой вышэйшым суддзём, галоўным крытэрыем павінна быць ісціна. Менавіта крытыка павінна высвятляць, што ў сённяшняй нашай літаратуры ёсць сапраўды таленавітае, сапраўды яркае, сапраўды грунтоўнае. А яна, зазначу са шкадаваннем, або займаецца абслугоўваннем нейкіх не надта прадуманых групавых інтарэсаў, або наогул раўнадушная да таго, што робіцца ў прозе і паэзіі.

У цэлым наша крытыка, як мне здаецца, шкалярская, бяздумная. Мы прывыклі да бюракратычных справаздач — нейкія агляды ў сувязі з пэўным этапам, з тым або іншым юбілеем. А навошта яны? Ёсць жа добрыя, надзейныя арыенціры – Бялінскі, Дабралюбаў, Пісараў, Адамовіч, Каваленка... Як яны літаратуру свайго часу тлумачылі, якой даносілі да грамадства – вось чаму трэба вучыцца. Калі б мы не мелі такіх крытыкаў, то, магчыма, і да гэтага часу не ўбачылі б усёй вышыні Гогаля, Пушкіна, Някрасава, Чорнага, Гарэцкага...

Грунтоўныя крытычныя даследаванні нам вельмі патрэбныя. Яны патрэбныя пісьменнікам, але яшчэ больш — чытачам, грамадству. Бо не кожны чалавек (не будзем тут надта хваліцца нашымі культурніцкімі дасягненнямі) зможа адразу адчуць і зразумець глыбіню мележаўскіх раманаў, аповесцяў Быкава, мастацкую асаблівасць твораў Караткевіча. Да гэтага яго трэба “падпіхнуць”. Якраз крытыка павінна чытачу падказаць, растлумачыць, чаму тая ці іншая кніга выдатная. І тым самым чытач падымецца ў сваім духоўным развіцці. Трэба, каб так было, але ў рэальнасці такога рэдактара няма. І гэта вялікая бяда, якая тармозіць не толькі літаратурны працэс, але і духоўнае развіццё нашага грамадства.

Ну а што датычыцца драматургіі, то я не настолькі абазнаны ў гэтай галіне, каб рабіць сур’ёзныя высновы, але мне здаецца, што такіх яркіх рэчаў, як у свой час былі ў Макаёнка, у Дударава на пачатку яго творчасці, няма.

***– А не здаецца табе, што некаторыя п’есы Макаёнка цяпер ужо састарэлі?***

– Можа быць... Справа ў тым, што Макаёнак быў моцна прывязаны да праблем свайго часу. Некаторыя з іх не страцілі сваёй актуальнасці і сёння, а некаторыя – адышлі са сваім часам, як тая ж “Лявоніха на арбіце”.

Што тут трэба яшчэ мець на ўвазе? Мы часта прыгадваем той ці іншы спектакль, не чытаючы самой п’есы, па якой ён пастаўлены. А спектакль, па-першае, можа быць зроблены вельмі цікавым і глыбокім рэжысёрам, а можа і павярхоўным. А па-другое, трэба ўлічваць, як ігралі акцёры. Часам роля так сабе, слабенькая, а

акцёр так сыграе яе, што мы ахнем. Драматургія – вельмі своеасаблівы від літаратуры. Нездарма ж нехта з класікаў нават вызначыў яго як найвышэйшы.

***– У свой час многа было шуму вакол імя Андрэя Курэйчыка. На яго ўскладваліся вялікія надзеі, яго абвяшчалі ледзь не рэфарматарам беларускага тэатра. І што атрымалася?***

– Некаторыя рэчы яго я чытаў, некаторыя глядзеў, але вельмі і вельмі недастаткова. Курэйчык – бясспрэчна чалавек таленавіты, актыўны, сучасны. На жаль, ён, як мне здаецца, яшчэ не дужа глыбокі і арыгінальны. Але ў яго многае наперадзе. Дай Бог, каб ён стаў у сваёй творчасці першаадкрывальнікам і філасафам, а не проста вынаходлівым прафесіяналам.

***– Цяпер ён, кажуць, заключыў кантракт з Галівудам і будзе працаваць на амерыканскае кіно.***

– Дай Бог! Можа, ён там і здабудзе сусветную славу. Хацелася б, каб стаў ён па-сапраўднаму беларускім драматургам. Бо чалавек, які не мае моцных нацыянальных каранёў, непазбежна нешта страчвае. Як страчвае і той чалавек, які засяроджваецца толькі на сваім, нацыянальным, ці, як казаў Адамовіч, местачковым. Трэба, каб творца быў каранямі на гэтай зямлі, а кронай імкнуўся ў зеніт. Сапраўдны поспех, сапраўдная творчая ўдача можа быць толькі тады, калі карані твае ў роднай зямлі, а крона недзе высока пад сонцам. Тады тваё лісце будзе так шалясцець, што гэты пошум будзе чутны і зразумелы ўсім.

***– Наша размова будзе няпоўнай, калі мы не скажам хоць колькі слоў пра літаратуру замежжа.***

– Зноў-такі я не магу сказаць, што надта тут дасведчаны. Але мне здаецца, што мы ў савецкія часы, у сілу сваёй заідэалагізаванасці, то недаацэньвалі тое, што было ў замежнай літаратуры, то пераацэньвалі. Нешта з гэтага перайшло і ў сённяшні дзень. Возьмем такое гучнае імя, як Каэльё. Яго слава пачала грымець колькі гадоў таму, і я сябе дакараў, што ніяк не выберу часу, каб усур'ёз пазнаёміцца з ягонымі творамі. Нарэшце ўзяў, прачытаў – і здзівіўся: чаму такі ажыятаж? Абсалютна сярэдняя літаратура. Тое, што пісаў у сваіх кнігах Каэльё, было напісана яшчэ ў Бібліі і напісана намнога глыбей і цікавей. Мне гэта нецікава.

У той жа час я помню, як некалі прачытаў Хемінгуэя, які ў нас тады быў невядомы ці мала вядомы. Гэта была не толькі радасць адкрыцця, гэта было адкрыццё! З такімі ж пачуццямі я чытаў Фолкнера, Маркеса...

Падобных адкрыццяў, на вялікі жаль, цяпер амаль не здараецца. Але я задаю сабе пытанне: а можа там, за мяжою, ёсць і цяпер не менш значныя пісьменнікі, але мы іх проста не ведаем? Асабліва ў апошні час, калі мы кінуліся на дэтэктыўшчыну, на так званае "чытво", а сур'ёзная, таленавітая літаратура застаецца недзе ўбаку.

Калі ж казаць пра творы нашых суайчыннікаў, то перш за ўсё адзначу, што ў нас вялікая віна перад нашымі таленавітым землякамі. Так атрымалася, што многія з іх пачыналі сваю творчасць тут, у Беларусі, пры Савецкай уладзе, аднак лёс закінуў іх за акіян. Але і там, за акіянам, яны працягвалі пісаць. Прытым нярэдка ў такіх умовах, што, як кажуць, не дай Бог нікому.

Па-першае, яны былі адарваныя ад роднай зямлі, ад свайго народа, ад мовы. А мова, як вядома, – першаэлемент літаратуры. Па-другое, ніколі пісьменнік не можа існаваць не ў сваёй канкрэтнай "абалонцы". Тыя трагедыі, якія ён перажыў, тыя несправядлівасці і балючыя крыўды, якія ён у сабе нясе, не могуць не праяўляцца і ў ягоных творах.

З многімі нашымі пісьменнікамі замежжа, а гэта перш за ўсё тыя, хто жыў у Злучаных Штатах Амерыкі, у Канадзе, я быў знаёмы. Я сустракаўся з Наталляй Арсенневай, Масеем Сяднёвым, Кастусём Акулам, Міхасём Міцкевічам, братам Якуба Коласа, Янкам Золакам, Міхасём Кавылём... Гэта ўсё былі людзі

бясспрэчна здольныя, нават таленавітыя. І хацелася б падкрэсліць: яны не былі антыбеларускімі і антысавецкімі. У той жа Арсенневай, у якой муж быў актыўным калабарантам, практычна няма антысавецкіх вершаў. А Сяднёў? У яго ёсць толькі адзін верш, які, праўда, вельмі часта і са смакам цытавалі нашыя ідэалагічныя апосталы, — верш пра тое, як чужыя самалёты прынеслі яму волю. Паколькі Сяднёў ярка выражаны лірык, то ён, як кажуць, выліў у гэтым вершы сваё асабістае пачуццё, бо варожыя самалёты сапраўды падаравалі яму волю. Ён сядзеў у турме, сядзеў за любоў да беларускай мовы і Беларусі. Яго павінны былі расстраляць. Выпадкова застаўся жывы. Аднак у вершы няма ніякіх праклёнаў, ніякай апантанай злосці супраць савецкай улады. Там боль і прэтэнзіі да лёсу, які так несправядліва з ім абыйшоўся.

Пасля турмы, калі Сяднёў вярнуўся на радзіму, у сваё Мокрае, акупанты хацелі яго ўзяць на службу, у шэрагі сваіх актыўных паслугачоў, але ён не пайшоў, працаваў звычайным пісарчуком. На ягоных руках крыві няма.

У Арсенневай сын удзельнічаў у другім кангрэсе беларусаў, які праходзіў у памяшканні Купалаўскага тэатра і загінуў у выніку партызанскай дыверсіі. Як у маці, у яе была на гэта адпаведная рэакцыя. Але як чалавек таленавіты, яна паднялася вышэй горкіх асабістых перажыванняў і не апусцілася да кляпання антысавецкіх агітак.

Арсеннева вельмі ўважліва сачыла за тым, што было тут, у Савецкай Беларусі. Яна выпісвала ці нейкім чынам даставала амаль усе літаратурныя выданні. Асабліва цікавілася паэзіяй. Ведала і пра Дануту Бічэль-Загнетаву, і пра Уладзіміра Караткевіча, і пра Ніла Гілевіча, і пра Анатоля Вярцінскага. Яна чытала і мае вершы, што мне было прыемна пачуць.

Лічу, што мы яшчэ і сёння толкам не зрабілі таго, што павінны зрабіць — спакойна прааналізаваць творчасць землякоў-эмігрантаў. Не трэба рабіць выгляд, нібыта такой літаратуры не існуе. Яна ёсць і ў ёй ёсць аўтары, якія пацвярджаюць таленавітасць беларускага народа.

Мы абядняем сябе, калі адкідаем цэлы кавалак нашай літаратурнай гісторыі. У гэтым плане нам ёсць чаму павучыцца ў нашых бліжэйшых сяброў і братоў — расіян. Яны ж Буніна не адкінулі, хоць ён быў адкрыты і злосны антысаветчык. Яны не адкінулі іншых таленавітых людзей. І нам не трэба адкідаць. Іншая справа, што не трэба заслугі нашай літаратурнай эміграцыі перабольшваць. Усё-такі ніводзін з яе прадстаўнікоў не падняўся да ўзроўню нашых класікаў. Але некаторыя з іх упаўне маюць права стаяць побач з тымі знанымі пісьменнікамі, якіх мы ўпамінаем, калі гаворым пра беларускі літаратурны працэс.

***– Вернемся, як кажуць, да родных пенатаў. Недзе мне даводзілася чытаць такое катэгарычнае патрабаванне: маўляў, нашай літаратуры трэба выходзіць на новы ўзровень – больш інтэлектуальны, больш філасофскі і больш мадэрновы. Што значыць “больш мадэрновы”? І ці справядлівае такое патрабаванне?***

– Калі б я ведаў, што такое мадэрновы ўзровень, я б адказаў. Ну а тое, што нашай літаратуры трэба выходзіць на больш высокі інтэлектуальны ўзровень, – гэта абсалютна справядліва. На больш філасофскі – таксама згодны. Як бы мы ні любілі нашу літаратуру, як бы яе ні цанілі, трэба прызнаць, што яе галоўныя таленты, асноўныя дасягненні звязаны з зямлёю, з вёскаю, з побытам вясковых людзей. Гэта вельмі ярка відно на прыкладзе поспеху Івана Мележа. У яго раманах закранаюцца вялікія і даволі складаныя сацыяльныя працэсы, але ўсё гэта пабудавана на бліскучым веданні псіхалогіі вясковых людзей і іх побыту.

Тое ж у рамане “Плач перапёлкі” Івана Чыгрынава. Чаму ён стаў з’яваю не толькі ў беларускай, але і ўва ўсёй савецкай прозе? Таму што ў ім адлюстраваны такі бок вайны, які да гэтага ніхто не паказваў. Першыя дні вайны ў глыбокім

тыле. Людзі разгубіліся, не ведаюць, што рабіць, да каго кінуцца, наколькі можна, не прызнаючы немцаў за гаспадароў, з імі паладзіць, паразумецца. І ўсё гэта зроблена на бліскучым веданні побыту Магілёўшчыны.

Мы сапраўды маем многа выдатных твораў, пабудаваных перш за ўсё на побыце. Нельга сказаць, што гэтыя творы не інтэлектуальныя. Але іх "інтэлект" вырастае з тых вясковых глыбінь, які да нас, можа, і не даходзіць. А хацелася б інтэлекту больш высокага, больш адкрытага, што прабівалася ў творах Караткевіча, Быкава, Брыля, Пташнікава...

Наконт мадэрновасці... Я не супраць пошукаў. Наадварот, я актыўны прыхільнік таго, каб людзі шукалі, каб яны знаходзілі тое, чаго да іх не было. Вось прыходзяць людзі маладыя, у іх іншы духоўны вопыт, яны жывуць у іншым часе. І, канечне ж, многія рэчы, якія для нас прывычныя і нават святыя, для іх, відаць, не такія блізкія. Я маю на ўвазе перш за ўсё літаратурныя традыцыі. Ім, можа, хочацца нечага новага. І калі за гэтымі пошукамі стаіць вялікі пласт інтэлекту, філасафічнасці, то хай сабе будзе і мадэрновасць. Але калі я бачу, што чалавек свядома, даруйце, выпендрываецца – абы толькі было не так, як у іншых – то гэта мяне засмучае.

Можа, я тут і несправядлівы. Не хачу браць на сябе ролю суддзі. Аднак пакуль што мадэрнісцкіх рэчаў, якія сталі б гонарам, прыкметнаю з'яваю ў беларускай літаратуры, нешта не бачу. Дарэчы, мадэрнісцкія пошукі былі і ў дваццатыя гады, і ў трыццатыя. І вельмі актыўныя. А што засталося? Засталіся Купала, Колас, Гарэцкі, Чорны, Хадыка, Дубоўка... Хай маладыя шукаюць, і дай Бог, каб яны нешта знаходзілі.

Мне, напрыклад, было вельмі цікава, як, так бы мовіць, мадэрнова пачынаў пісаць Юрый Станкевіч. Але сурёзнага працягу я, на жаль, не бачу. Заўважаю нейкія спробы да мадэрновага падыходу (давай ужо будзем да гэтага слова прывыкаць) у творчасці Андрэя Федарэнкі, на мой погляд, вельмі таленавітага і цікавага празаіка.

Мне вельмі цікавы Алесь Наварыч, ягоны "Літоўскі воўк". Ён піша пра той перыяд нашай гісторыі, пра які пісаў Караткевіч, але піша па-новаму, арыгінальна. Урэшце рэшт, тое, што робіць у прозе Уладзімір Някляеў, мне таксама здаецца і мадэрновым, і таленавітым...

Я – не вялікі тэарэтык. Я люблю тэорыю, якую пацвярджаюць рэальныя, канкрэтныя рэчы. Калі мне пакажуць такі твор, як "Нос" Гогаля альбо ягоныя ж "Вечары на хутары паблізу Дзіканькі" і скажуць, што гэта мадэрнізм, я за такі мадэрнізм дзвюма рукамі. Але калі мне падсоўваюць, даруй, нейкае няўцямнае вярзенне, нейкую абракадабру, я тут катэгарычна супраць.

***– Кажуць, што лепшыя творы мастацтва, літаратуры нараджаюцца на пераломах часу. Мы ў сваёй найноўшай гісторыі перажылі сур'ёзны пералом. Дык чаму ні ў нашай, ні ў суседніх літаратурах не нарадзілася нічога такога, што стала б літаратурным адкрыццём, кажучы па-руску, потрясло общество? Дзе новыя "Людзі на балоце", "Знак бяды", "Каласы пад сярпом тваім"?***

– Гэтае пытанне няпростае. Каб адказаць на яго, трэба спачатку дакладна высветліць: а што такое вось гэтыя пераломныя моманты. У гістарычным сэнсе – зразумела. У сэнсе нейкіх перамен у дзяржаўным будаўніцтве – таксама. Але для літаратуры гэтага, відаць, малавата. Вось калі мы гаворым пра рэвалюцыю, грамадзянскую вайну, пра Вялікую Айчынную вайну, то там гэты пералом быў відавочны. Тады ў самым прамым сэнсе слова стаяла пытанне жыцця і смерці: чырвоныя пасякуць шашкамі белых ці белыя – чырвоных; гітлераўцы перамогуць савецкіх воінаў ці савецкія людзі – гітлераўцаў. І гэтая праблема ўвасаблялася ў канкрэтныя чалавечыя лёсы, якія былі заарыентаваны на высокія ідэалы, на

высокія паняцці. Таму, напрыклад, мінулая вайна стала для беларускай паэзіі (бяру тое, што мне бліжэй) перыядам відавочнага і вельмі высокага ўзлёту. Возьмем, скажам, лірыку Пімена Панчанкі, балады Аркадзя Куляшова, альбо — у суседзяў — творчасць Аляксандра Твардоўскага ці Андрэя Малышкі. Ды нават у тых паэтаў, якія не вызначаліся асаблівымі дасягненнямі, вершы часоў Вялікай Айчыннай — адны з лепшых, а можа і самыя лепшыя ў іх.

А вось гэты перыяд, пра які ты кажаш, ён хоць і пераломны, але такога сутыкнення, бязлітаснага, крывавага, на шчасце, не даў. Барацьба з алігархамі – гэта зусім не тое, што барацьба з гітлераўцамі. Тое, што нехта адстойвае прынцыпы свайго жыцця, прынцыпы ўзаемаадносін з уладай – гэта ўсё ж зусім не тое, што пытанне жыцця і смерці. Перад намі стаіць пытанне, як жыць, а там было — жыць або не жыць.

Таму ў дачыненні да такога тонкага інструмента як літаратура патрэбна пэўная дыстанцыя часу. Нездарма ж класік пісаў: “Большое видится на расстояньи...” Мы яшчэ гэтага пералому, які адбыўся, да канца не ўсвядомілі, не зразумелі. Бо тут барацьба дабра і зла не такая адкрытая, відавочная, як у вайну. Ды і трэба яшчэ разабрацца, дзе яно дабро, а дзе зло. Таму, як мне здаецца, папракаць літаратуру ў тым, што яна не стварыла новых шэдэўраў, ранавата. Трэба пачакаць.

Хаця, як казаў Броўка, не трэба прыбядняцца, бо за тое, што ёсць у нас, у прыватнасці, у беларускай паэзіі і асабліва ў публіцыстыцы, не сорамна. Такой публіцыстыкі, якая з’явілася ў нас апошнім часам, па яе адкрытасці, па глыбіні пранікнення ў працэсы грамадскага быцця, урэшце па форме, – у нас раней не было.

***– Генадзь Мікалаевіч, задам можа трохі наіўнае, дзіцячае пытанне: а што такое паэзія?***

– Гэта не наіўнае і не дзіцячае, а надзвычай сур’ёзнае і важнае пытанне. І я наўрад ці змагу на яго адказаць. Я скажу, што такое паэзія асабіста для мяне.

Калі мець на ўвазе лірыку, то гэта – зафіксаванае ў слове імгненне пачуцця. Тое, што нарадзілася ў душы і вымусіла цябе перадаць яго іншым (ці то радасць, ці нянавісць, ці расчараванне). Але я думаю, што нешта падобнае ляжыць у аснове і больш грунтоўных, эпічных твораў – паэм, балад. Без пачуцця не можа быць паэзіі. Пры гэтым я абсалютна не адвяргаю так званую паэзію інтэлектуальную, пабудаваную на думцы. Але для мяне паэзія абавязкова павінна ісці ад сэрца. Яна, канечне, не можа быць зусім бяздумная, але перш за ўсё трэба, каб у ёй было сэрца. Калі ж паэзія ідзе ад галавы і міма сэрца – гэта не “мая” паэзія. Ад галавы праз сэрца ці ад сэрца праз галаву – вось шлях сапраўднай паэзіі. Таму калі гаварыць, напрыклад, хто для мяне больш блізкі: Бродскі ці Мандэльштам – я адназначна выбіраю Мандэльштма. Нават Пастарнак для мяне ідзе пасля Мандэльштама. Леаніда Мартынава я чытаю з цікавасцю, а перачытваю Твардоўскага.

***– А з чаго пачынаецца паэт?***

– Мне здаецца, паэт пачынаецца са здзіўлення. Ён раптам у свеце, які вакол, у людзях, якія побач, убачыў нешта такое, што яго здзівіла і захапіла. Захацелася сказаць: Божа мой, які чароўны свет! Якія цудоўныя людзі! Вось ад гэтага ўнутранага жадання, унутранай патрэбы і нараджаецца паэзія. Ад здзіўлення і жадання падзяліцца сваім здзіўленнем з іншымі. Добра, калі гэтае здзіўленне набывае з гадамі мудрасць, вопыт, майстэрства. Але трэба, каб заставалася і нешта дзіцячае, чыстае, наіўнае, тое, што цяжка перадаць і што немагчыма нічым замяніць.

А яшчэ для мяне ў паэзіі вельмі важная інтанацыя. Калі ў творы ёсць інтанацыя, якая мяне захапіла з першых радкоў ці з першых строф, я далей магу дараваць нават некаторыя хібы. Прычым для кожнага моманту павінна быць свая інтанацыя, каб яна дакладна перадавала тое, што ў цябе ў душы.

Мне смешна, калі ў мяне іншы раз пытаюцца: што вам больш прыдатнае – ямб, харэй ці які-небудзь іншы памер? Як вы пішаце? Я не ведаю, як я пішу.

Для мяне памер абсалютна не мае значэння. Галоўнае – улавіць інтанацыю. І не згубіць яе да канца. А дзе там ударныя ці безударныя склады – хай разбіраюцца крытыкі.

***– Паэтаў часам называюць прарокамі. Гэта – метафара? Ці тут сапраўды ёсць доля праўды?***

– Бясспрэчна, ёсць доля праўды. Я не думаю, што паэт свядома, абдумана, мэтанакіравана да гэтага імкнецца. Справа, відаць, у тым, што кожны талент, а тым больш талент выдатны, кажучы высока, ад Бога. А паколькі Богу ўсё відаць шырока, відаць далёка, відаць глыбока, то, надзяляючы чалавека талентам, ён дае яму магчымасць бачыць і адчуваць тое, што большасць людзей не бачаць і не адчуваюць. І таму многія геніяльныя паэты або прадбачылі свой лёс, прычым даволі дакладна, або ўгадвалі нейкія падзеі, звязаныя з іх блізкімі людзьмі, або прадчувалі, і даволі дакладна, нават з называннем канкрэтных дат, нейкія сацыяльныя зрухі ў грамадстве. Маякоўскі, напрыклад, прадказаў рэвалюцыю з памылкай усяго на адзін год.

Што за гэтым стаіць – навука адназначнага адказу не мае. Для мяне асабіста – гэта воля і ласка Бога.

***– Ці мае паэзія нацыянальнасць? Альбо, як сцвярджаюць некаторыя крытыкі, паэт павінен быць грамадзянінам свету?***

– Паэзія, канечне ж, павінна мець нацыянальнасць. Бо што такое грамадзянін свету? Гэта той, хто, будучы на сваёй зямлі, у сваім народзе, не абмяжоўваецца толькі гэтым астраўком, на якім жыве, культурай, у якой працуе, а і падцягвае сябе да ўзроўню сусветных, агульначалавечых патрабаванняў. Для мяне, напрыклад, бясспрэчна вялікімі паэтамі з'яўляюцца тыя, якія, будучы гранічна нацыянальнымі, змаглі ў сваёй нацыі, у сваім народзе, сваёй гісторыі ўбачыць, адчуць тое, што цікава для ўсяго чалавецтва. Таму грамадзянін свету наўрад ці будзе цікавы без нацыянальнай адметнасці.

***– Палітычная лірыка. Грамадзянская лірыка… Ці магчыма такое парадаксальнае спалучэнне? Бо палітыка і грамадзянскасць падразумяваюць у першую чаргу публіцыстычнасць, а яна, на мой погляд, несумяшчальная з лірыкай.***

– Не, тут я з табой не згодзен. Я лічу, што гэтыя рэчы сумяшчальныя. Некалі крытыкі, як ты ведаеш, заклікалі тварыць чыстае мастацтва. Было нават проціпастаўленне Някрасава і Фета. Я думаю, што ўсё гэта трошкі штучнае. І Фет, і Някрасаў – лірыкі.

Альбо возьмем нашага самага тонкага, самага бліскучага лірыка Масксіма Багдановіча. Што такое ягоная "Пагоня"? Высокая грамадзянская паэзія. І разам з тым гэта глыбіннае выказванне яго асабістых, нават інтымных пачуццяў. Тое, чаго і патрабуе лірыка. А ўспомні "На смерть поэта" Лермантава. Публіцыстыка вышэйшага класу, але і выдатная, высокая лірыка.

***– Згодзен, пераканаў.***

– Мне таксама некалі як прыклеілі ярлык паэта грамадзянскага, дык я яго і да гэтага часу нясу. Але я лічу, што я паэт лірычны. І тады, калі пішу пра каханне, і тады, калі пішу пра нейкія палітычныя, сацыяльныя з'явы.

***– Хачу закрануць вось такую тэму: паэт і ўлада. Ці заўсёды творчы чалавек павінен быць у апазіцыі да ўлады? Яўтушэнка аднойчы сказаў так: "Спорить с властью нужно делами, а не грубыми фразами и хулиганством. Выражать свое несогласие надо, не впадая в крайности". А як на гэты конт думаеш ты?***

– Я думаю, што ўся справа ў тым, якая ўлада і які паэт. Я лічу, што самае шчаслівае спалучэнне, калі асноўныя прынцыпы ўлады і асноўныя прынцыпы паэта супадаюць, калі яны служаць свайму народу, сваёй Айчыне. Гэта і для паэта, і для ўлады ўдача. Бо што б там ні казалі і як бы там ні філасофствавалі, улада

мае агромністую сілу ўздзеяння на людзей. Але толькі з-за таго, што ўлада мае гэтую сілу, імкнецца ўсіх падпарадкоўваць, паэту – творчаму, свабоднаму чалавеку — ісці на канфлікт, я думаю, неразумна.

Права і абавязак паэта — паказваць тое, у што ён верыць, што адчувае. Калі гэта супадае з памкненнямі ўлады – добра. Калі не супадае – што ж, такое здараецца, і я не ведаю, хто тады больш прайграе: паэт ці ўлада? Часцей за ўсё — улада. Калі яна змагаецца з таленавітым чалавекам, гэта сведчыць як мінімум пра яе неразумнасць.

Чаго заўсёды хоча ўлада? Умацавання, падтрымкі, каб у яе быў аўтарытэт і тут, і за мяжой. І для гэтага ёй патрэбны людзі, якія будуць гэта сцвярджаць. Таленавітыя, адукаваныя людзі. Але з імі трэба абыходзіцца тонка, далікатна, разумна. А калі імі пачынаюць камандаваць, змагацца з імі, гэта плёну не дасць. Ніводная ўлада яшчэ не перамагла ніводнага сапраўднага творцу. Хто выйшаў пераможцам у процістаянні: Леў Талстой або царская ўлада? Леў Талстой.

Некалі Маякоўскі сказаў, што тэхнічны прагрэс – гэта выдатная рэч, але калі на яго не надзець аброць маралі, ён загрызе чалавецтва. Як на маю думку, без маралі не можа быць ні эканамічных, ні палітычных, ніякіх іншых сур'ёзных дасягненняў. Могуць быць часовыя ўдачы, але сур'ёзнага поспеху быць не можа.

Я не асуджаю людзей, якія ідуць ва ўладу. Салтыкоў-Шчадрын таксама служыў ва ўладзе. Іншая справа, што пратрымацца доўга не змог. А вось выдатнай з'явай у літаратуры стаў. Больш пашанцавала Цютчаву. Ён шмат карыснага зрабіў на сваёй дыпламатычнай службе і пісаў выдатныя вершы.

Таму я радуюся, калі таленавітыя людзі ідуць ва ўладу, з хваляваннем назіраю, як яны ва ўладзе працуюць, як улада прымае іх творчасць. Улада павінна быць інтэлектуальнай, адукаванай, нацыяльнасвядомай. Калі яна такая, то да яе ахвотна і лёгка пойдуць творчыя людзі. Калі ж не такая, то як бы яна ні старалася, таленты да яе не пойдуць. Яна будзе акружана шэрасцю.

***– Вядома, што П. М. Машэраў ведаў і любіў літаратуру і літаратараў. А цяпер той-сёй кажа, што сваімі падачкамі, гульнёю ў сяброўства ён ангажыраваў пісьменнікаў, стрыножваў іх свабоду.***

– Не знаю, я да Машэрава стаўлюся з вялікай павагай. Разумею, што ён быў чалавекам свайго часу, сваёй сістэмы, урэшце рэшт, чалавекам сваёй пасады. Але тое, што ён інтэлігенцыю, асабліва творчую, любіў, гэта я магу пацвердзіць. Гэта, як мне здаецца, было ў ягонай душы.

Як ён паводзіў сябе з канкрэтнымі прадстаўнікамі інтэлігенцыі? Па-рознаму было. Я не замахваюся на тое, каб сцвярджаць, што ведаю ўсё, але трохі ведаю. Да таленавітых людзей Пётр Міронавіч заўсёды адносіўся шчыра і стараўся ім дапамагчы. Я маю на ўвазе ягоныя адносіны да Аркадзя Куляшова, да Івана Мележа, да Анатоля Анікейчыка. А як ён любіў Андрэя Макаёнка! З якой увагаю і цікавасцю глядзеў па тэлебачанні творчыя вечары! Пасля званіў мне і вельмі зацікаўлена дзяліўся ўражаннямі: "Вы звярнулі ўвагу, як слухала Барадуліна зала? Вы заўважылі, колькі моладзі прыйшло да Брыля?.." Для яго, як палітыка, быў вельмі важны грамадскі рэзананс творчасці пісьменніка. Пра вечар Васіля Быкава казаў: "Не ва ўсім я з Васілём Уладзіміравічам згодны, але якая магутная асоба! Як ён цікава разважае, прапускаючы ўсё праз свой розум, сваё сэрца! Вось так і трэба гаварыць з людзьмі – адкрыта, чэсна..."

У яго была радасць і нават захапленне ад таго, што творчыя людзі ўмеюць тое, чаго не ўмее ён. Для кіраўніка такая якасць — рэдкасць. Аднойчы ён мне сказаў: "Чытаў твае новыя вершы. Малайчына, што знаходзіш час пісаць. Вершы мне спадабаліся, я гатовы пад кожным радком падпісацца. І вось дзіўлюся, чаму ты можаш так напісаць, а я не магу? У мяне ўсё гэта таксама ёсць у душы, а вось напісаць не магу..."

***– Генадзь Мікалаевіч, у маладыя гады ты пісаў не толькі вершы, але і прозу, гумар, сатыру, публіцыстыку. А цяпер засталіся адны вершы…***

– Ну, па-першае, я пераканаўся, што мая стыхія – паэзія. У прозе я не адчуваю сябе так упэўнена. Па-другое, мае выхады ў публіцыстыку былі звязаны з маёй першай спецыяльнасцю — з журналістыкай. Я і цяпер не баюся называць сябе журналістам і адчуваю сябе ў гэтай сферы прафесіяналам. Што ж датычыцца гумарыстычных рэчаў, то гэта ў пэўным сэнсе звязана з тым, што я немалы час працаваў у часопісе “Вожык”, хаця, думаю, што адчуванне гумару, іроніі, вострага слова — у самім маім характары. Аднак, бясспрэчна, самым дарагім і, напэўна, самым паспяховым (даруй за такую смелую фармулёўку) была і застаецца для мяне лірыка.

***– Табой напісана шмат тэкстаў да песень, якія да гэтага часу не страцілі сваёй папулярнасці. Як яны ствараліся? Якая з песень табе найбліжэй, найдаражэй?***

– Я шчаслівы чалавек, бо на мае вершы сапраўды напісана нямала песень, у тым ліку песень — “доўгажыхароў”.

Скажам шчыра, вершы не даюць такой папулярнасці, як песні. Мяне, як паэта, звычайныя людзі ведаюць перш за ўсё праз песні.

А ствараліся песні па-рознаму. Найбольш пісаліся на апублікаваныя вершы. Так паявілася, напрыклад, “Зачарованая мая”. Верш быў напісаны даўно, друкаваўся і ў часопісе, і ў кнізе. І вось аднойчы мой сябар Ігар Лучанок “зачапіўся” за яго і напісаў песню. Яна імгненна стала папулярнай. І колькі гадоў таму на фестывалі “Віцебскі базар” ізраільскі спявак менавіта з ёю выйграў Гран-пры.

Другая папулярная песня “Завіруха” нарадзілася так. Эдуард Ханок, які жыў тады ў Брэсце, ехаў аўтобусам у Мінск. Была зіма, за акном ішоў снег. Эдуард дастаў маю кніжку і натрапіў на верш “Снежная імпрэсія”. І пакуль даехаў да Мінска, мелодыя была гатова.

Былі і выпадкі, калі я пісаў верш, свядома нацэльваючыся на песню. Так здарылася з “Канём незацугляным”. Я напісаў яго ў Аксакаўшчыне, дзе падлечваўся, і паказаў Ханку. Ён абрадавана ўсклікнуў: “Божа мой! У мяне ж ёсць мелодыя менавіта для гэтага”. Так паявілася песня, якая доўгі час была своеасаблівай візітоўкай ансамбля “Песняры”.

Здаралася і такое, калі я пісаў тэкст пад гатовую мелодыю, хаця я гэта не вельмі люблю і не дужа ўмею. У прыватнасці, так паявілася наша з Васілём Раінчыкам “Калыханка”...

Для таго, каб песня мела поспех, трэба тры складнікі: кампазітар, паэт і выканаўца. У тым, што цяпер амаль няма папулярных песень, вінаваты перш за ўсё тыя выканаўцы, якія самі пішуць і музыку, і тэксты. Мне такіх аўтараў, шчыра кажучы, шкада, бо часам бяруцца яны не за сваю справу.

***– Я быў прыемна здзіўлены, калі, перачытваючы твае кнігі, выявіў, што ў цябе, аказваецца, напісана шэсць выдатных паэм. Давай крыху пагаворым пра гэта.***

– Ну, паэмы мае — ліра-паэмы. Яны пабудаваны больш па законах лірыкі, чым эпікі. Хаця нейкія эпічныя элементы ў іх ёсць.

Першая паэма – “Чужая споведзь”. Пасля напісаўся “Хатынскі снег”. Гэта для мяне была рэч не толькі важная, але і знакавая. Справа ў тым, што многае з таго, пра што я пісаў, я перажыў асабіста. Хросную маю маці спалілі гітлераўскія карнікі ў будынку школы. Добра помню той дзень, калі мама прывяла нас з сястрой Рымай туды, каб пакланіліся яе светлай памяці. Здаецца, і да гэтага часу я адчуваю той горкі, цяжкі чад спаленых людзей...

Пішучы “Хатынскі снег”, мне нічога не трэба было прыдумваць. Я толькі знайшоў “ключ” да сюжэта: тры снягі – белы, чырвоны і чорны. Паэма для мяне

дарагая, па-першае, – асабіста перажытым, глыбінна-інтымным, а па-другое, тым, што вывела мяне на ўсесаюзную арэну. Асабліва ганаруся тым, што пераклад яе да друку ў часопісе “Новый мир” паспеў падпісаць Аляксандр Твардоўскі. А пазней на яе аснове кубінскі кампазітар напісаў араторыю, якая ў Маскве гучала з удзелам славутай Ірыны Архіпавай.

Дарагая мне і паэма “Ленін думае пра Беларусь”. Яе я выношваў даволі доўга. І яна не столькі пра Леніна, колькі пра Беларусь. Калі я думаў пра лёс Беларусі, беларускай дзяржаўнасці, у прыватнасці, пра тое, што павінна цэментаваць нашу годнасць, прыходзіў да натуральнай высновы: аб’яднальным элементам павінна быць нацыянальная ідэя. Карацей кажучы, гэта паэма была спробай неяк вызначыць і асэнсаваць для сябе, што такое наша нацыянальная ідэя.

Уладзіміра Ільіча я ўвёў сюды не таму, што меў на ўвазе нейкую палітычную кан’юктуру. Не. У той час, калі пісалася паэма, і ў друку, і на навуковых канферэнцыях многія разважалі: што такое Ленін для Беларусі? Дык вось я паставіў для сябе пытанне: а што такое была Беларусь для Леніна? І не толькі паэтычна, лагічна, але і гістарычна пастараўся ўявіць яго думкі пра беларускую дзяржаўнасць, пра нашых вялікіх нацыянальных дзеячаў – Скарыну, Каліноўскага, Купалу.

Спярша за гэтую паэму мяне хвалілі, а потым, калі прыйшлі дзевяностыя гады, час забурэнняў ці разбурэнняў, сур’ёзна дзяўблі. Было, вядома, непрыемна. Але я ад яе ніколі не адмаўляўся. Ды і мяне хораша падтрымаў Масей Сяднёў: “Ты не надта перажывай. Паэма ў цябе не пра Леніна. Яна – пра Беларусь”.

І надзвычай дарагая для мяне рэч, – паэма “Узнясенне” — пра Францішка Багушэвіча, аднаго з пачынальнікаў беларускай літаратуры, выдатнага дзеяча нацыянальнага адраджэння, аднаго з апосталаў у нашым беларускім храме. Ён абараняў інтарэсы беларусаў не толькі сваім палымяным радком, але і ў прамым сэнсе — як адвакат. Перачытваючы ягоныя творы, я падумаў, што ён мог быць і суддзём у самым высокім значэнні гэтага слова. Ён меў права сказаць беларускаму народу і нейкія непрыемныя, горкія рэчы. І найперш пра мову, ад якой (хай сабе і не па сваёй волі) многія тады адракаліся. Мне вельмі хацелася, каб тое, пра што я сказаў у паэме вуснамі Багушэвіча, дайшло да як мага большага кола чытачоў, было імі правільна зразумета і самае галоўнае – каб былі зроблены належныя высновы.

***– Генадзь Мікалаевіч, ты сам не аднойчы казаў, што навучыць чалавека добра, таленавіта пісаць немагчыма. Інстытут настаўніцтва тут не падыходзіць. І ўсё ж кожны творца, асабліва напачатку свайго шляху ў літаратуру, выбірае нейкі свой ідэал, свой аўтарытэт. А на каго ў свой час раўняўся Бураўкін?***

– Літаратура – гэта ўнікальная рэч. У ёй адначасова жывуць і вучні, і настаўнікі. Вучні робяцца настаўнікамі, а настаўнікі на нейкі час могуць стаць вучнямі.

Для мяне маімі настаўнікамі былі перш за ўсё Багдановіч, Купала, Колас. Пасля прыйшлі Куляшоў і Панчанка, з якім мы блізка сышліся, пасябравалі.

Як рэдактар для мяне быў узорам Анатоль Вялюгін. Ён ніколі не перапісваў аўтара, нічога ад сябе не дапісваў. Звычайна мяняў адно-два словы (але як дакладна, удала, бліскуча!) і бласлаўляў у друк. Або, калі верш быў слабы, бракаваў. Шмат добрага зрабіў для мяне і мілы, клапатлівы, дабразычлівы Мікола Аўрамчык...

***– Як табе сёння працуецца? Якога ты прытрымліваешся правіла: ні дня без радка ці пішаш толькі па натхненню?***

– Ніколі ў мяне не было і быць не магло правіла – ні дня без радка. Вершы мне трэба пісаць, што называецца, пад натхненне.

Што такое натхненне? Гэта нейкае боскае бласлаўленне, такі асаблівы, надзвычайны душэўны стан, калі чалавеку пад сілу многае.

Да мяне вершы заўсёды прыходзілі тады, калі нейкія пачуцці перапаўнялі

душу. Звычайна спачатку нараджаецца інтанацыя, нейкі радок, можа нават страфа, а пасля ўжо з гэтага вырастае верш. Мне, калі я пішу, трэба, каб нічога не адцягвала. Я павінен быць адзін. Найлепш пішацца, калі я бываю на лецішчы і застаюся сам-насам. Я ніколі сябе не прымушаю...

Аднойчы пра нешта падобнае запыталіся ў Твардоўскага, і той адказаў прыкладна так: вершы я пішу лёгка і хутка, а вось выношваюцца яны доўга. У мяне атрымоўваецца гэтак жа.

## Гняздо для птушкі радасці

***– Сябры, кнігі, сустрэчы з цікавымі людзьмі, каханне – вось тое гняздо, дзе месціцца птушка радасці. Кажуць, сяброў многа не бывае. Мне ж здаецца, што ў цябе як раз сяброў багата. Каго б ты з іх найперш назваў, хто вытрымаў, што называецца, праверку часам, а хто – не?***

– Я не скажу, што ў мяне так ужо багата сяброў, але тыя людзі, каго я называю сябрамі, мне вельмі блізкія і дарагія. Гэта перш за ўсё Мікола Матукоўскі, які, на жаль, пайшоў з гэтага свету. Я быў знаёмы з ім з шостага класа. Мікола тады працаваў у райкаме камсамола.

***– У Полацку?***

– Не, у Расонах. Паколькі я спрабаваў нешта пісаць, а ён ужо нават друкаваў вершы ў раёнцы, мы з ім пазнаёміліся і сышліся. Як аказалася, на ўсё жыццё. І для маёй мамы было дзіва дзіўнае, што Мікола, сталы хлопец, сябруе з падлеткам. А для мяне гэта было шчасце, бо ён кіраваў тым, што я чытаў, быў маім літаратурным настаўнікам.

Другім сябрам – па блізкасці і духоўнай, і чалавечай – быў Васіль Быкаў. Здавалася б, у нас была вялікая розніца ва ўзросце, вялікая дыстанцыя ў літаратурным вопыце, але ўсё жыццё ў нас былі блізкія, даверлівыя адносіны. Ён быў з тых людзей, хто заўсёды мог цябе зразумець, падтрымаць і ніколі не прадаць.

***– Вы пазнаёміліся з ім у “Маладосці”?***

– Не, трошкі раней. Калі я збіраў подпісы ў яго абарону. Васіль жыў у Гародні, а я працаваў у “ЛІМе”. Мы, як аказалася пасля, былі ў свой час на адной нарадзе маладых у Каралішчавічах. Ведалі адзін аднаго па публікацыях, але асабіста не былі знаёмыя.

Трэцім я назваў бы Валянціна Болтача. Гэты чалавек прыйшоў у маё жыццё пазней. Мы пазнаёміліся з ім, калі ён працаваў у Гародні, і пазнаёміў мяне з ім Васіль Быкаў. Ён аказаўся чалавекам настолькі блізкім мне літаральна па ўсіх пазіцыях, што мы адразу ж сталі патрэбнымі адзін аднаму. І пасля мы многае рабілі разам – і ў службовых справах, і ў літаратурных. Практычна ўсе свае творы ён даваў мне чытаць яшчэ ў рукапісе. Так сталася, што ва ўсе цяжкія і шчаслівыя моманты жыцця майго мы былі разам. Для мяне страта Валянціна вельмі і вельмі адчувальная і балючая.

Акрамя таго, ёсць сябры, якія ў бытавым сэнсе, можа, і не такія блізкія, як гэтыя трое, але сяброўства з якімі для мяне важнае. Гэта і Ніл Гілевіч, які вельмі многа зрабіў для таго, каб я адчуў, усвядоміў сябе беларусам. Ён даваў мне чытаць кнігі, якія тады немагчыма было знайсці ў бібліятэках, спрыяў станаўленню маёй нацыянальнай свядомасці.

Безумоўна, не магу не назваць Рыгора Барадуліна. Мы з ім землякі, літаратурныя аднагодкі. Адначасова паступілі ва ўніверсітэт, адначасова пачыналі свой творчы шлях. Здаралася, па розных прычынах, то аддаляліся, то збліжаліся, але ніколі не парывалі сяброўскіх адносін.

Ёсць блізкія, дарагія для мяне людзі сярод мастакоў. Гэта і Леанід Шчамялёў, якога я люблю і як мастака, і як чалавека. Гэта і Гаўрыла Вашчанка, майстра іншай

манеры, але вельмі таленавіты, шчыры, адданы беларус. Я з імі сышоўся крыху пазней, чым з літаратурнымі пабрацімамі, але мне здаецца, што мы патрэбныя адзін аднаму. А як я даражу сяброствам з акадэмікам, выдатнай асобай Радзімам Гарэцкім!..

Хацеў бы назваць і сяброў з блізкага замежжа, з якімі я, на жаль, сустракаюся нячаста. Гэта перш за ўсё ўкраінскія калегі – Дзмітро Паўлычка, жывы класік, чалавек шматгранны і па таленту, і па дасведчанасці, эмацыянальны, яркі паэт (невыпадкова ён адным з першых стаў Героем Украіны), Іван Драч, выдатнейшы паэт, таксама Герой Украіны, Раман Лубкіўскі, львавянін, бліскучы знаўца і перакладчык беларускай паэзіі, вельмі блізкі мне чалавек.

Ёсць у мяне сябры і ў Маскве. Я з радасцю назаву Віктара Сухадрэва, былога дыпламата, з якім пазнаёміліся, калі працаваў у Нью-Ёрку у пастпрэдстве, а ён быў намеснікам генеральнага сакратара ААН. Цікавы, таленавіты чалавек. Хачу прыгадаць і Андрэя Вазнясенскага, Бэлу Ахмадуліну, Ігара Шклярэўскага, з якімі ў мяне заўсёды былі добрыя адносіны.

Не магу не згадаць Сяргея Законнікава, Анатоля Кудраўца, Уладзіміра Някляева. І, канечне, Віктара Казько, які для мяне сёння – празаік нумар адзін. Тое, што ён піша, над чым думае, пакутуе, для мяне вельмі блізкае і дарагое.

Словам, калі пачынаеш прыгадваць, то, аказваецца, што сяброў у мяне сапраўды нямала.

***– А ёсць жа і проста добра знаёмыя, і гэта таксама вядомыя, знакамітыя людзі...***

– Тут я магу пахваліцца знаёмствам з нашымі касманаўтамі – Пятром Клімуком і Уладзімірам Кавалёнкам. Доўгія гады мы мелі даволі цесныя адносіны. Яны заўсёды, калі бывалі ў Мінску, заходзілі да мяне. А я, калі быў у Маскве, адведваў іх у Зорным гарадку.

Добрым словам хачу ўспомніць людзей, якія адыгралі ў маім лёсе вельмі важную ролю – Кірылу Трафімавіча Мазурава, Пятра Міронавіча Машэрава, Ціхана Якаўлевіча Кісялёва. Гэтыя людзі многае значылі ў маім асабістым жыцці, бо яны дапамаглі мне праявіцца як службоўцу. Яны разумелі мяне і часам, калі трэба было, абаранялі, хаця былі гаспадарамі “высокіх кабінетаў” і прытрымліваліся правілаў знаходжання ў іх. Да такіх людзей адношу таксама і Аляксандра Нічыпаравіча Аксёнава, Аляксандра Трыфанавіча Кузьміна, Уладзіміра Ігнатавіча Бровікава...

***– Ты сказаў, што з’яўляешся даўнім кнігалюбам. Па якіх прынцыпах фарміраваў ты сваю хатнюю бібліятэку? Якой яна наогул, на твой погляд, павінна быць?***

– Ну, мая хатняя бібліятэка сфарміравана па маіх інтарэсах. І, можа быць, самае цікавае і дарагое ў ёй – кнігі з аўтографамі, падораныя маімі калегамі, сябрамі. У мяне ёсць практычна ўсе кнігі, выдадзеныя Нілам Гілевічам, з подпісамі. Усе кнігі Рыгора Барадуліна. Многія кнігі Пімена Панчанкі, Івана Мележа, Янкі Брыля, Уладзіміра Караткевіча. Практычна ўся беларуская паэзія, пачынаючы з пяцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя...

***– А найбольш дарагі для цябе аўтограф?***

– Іх многа. Гэта і надпісы Куляшова, Крапівы, Віктара Астаф’ева. Ёсць нават першая кніга Андрэя Вазнясенскага з ягоным аўтографам.

Ну вось, гэта адзін “аддзел” маёй бібліятэкі. Другі, не менш значны і аб’ёмны, складаецца з гістарычнай літаратуры, літаратуры па культуры Беларусі. Сюды ўваходзіць трыццацітомны Збор фальклору, розныя энцыклапедычныя выданні, шматлікія даведнікі. Руская і беларуская класіка. Поўная “Библиотека поэта”. Ну і ёсць у мяне літаратура з палітычным ухілам. У свой час я збіраў кнігі на антыфашыскую праблематыку – зборнікі дакументаў, успаміны ўдзельнікаў антыфашысцага руху...

***– І чым гэта было выклікана?***

– А выклікана гэта тым, што мне цікава было даведацца, што такое фашызм не проста ў агульных рысах, а ў механізме, у дэталях. Напрыклад, у мяне ёсць кніга па гісторыі фашызму ў Германіі, выдадзеная ў 1936 годзе. Яе мне, дазнаўшыся пра маё хобі, падарыў калега-праўдзіст. Іван Чыгрынаў, калі пісаў свае раманы, браў у мяне некаторыя з гэтых кніг, у прыватнасці, дакументы па гісторыі партызанскага руху.

Цяпер мая бібліятэка істотна парадзела. Адна яе частка тут, у гарадской кватэры, другая, ці не большая, – на лецішчы. Акрамя таго, значную частку кніг я перадаў сыну, дачцы.

***– Ці можаш ты назваць адну-дзве свае самыя любімыя кніжкі альбо аднаго-двух найбольш шаноўных аўтараў? Прабач за такі трохі шкалярскі падыход.***

– Гэты падыход для мяне сапраўды не надта сур'ёзны. Можа лепей было б сказаць, каго я найчасцей перачытваю?

***– Можа.***

– Найчасцей перачытваю Багдановіча, Купалу, Пушкіна. З прозы – Брыля, Гарэцкага, Гогаля.

***– А Талстога, Дастаеўскага?***

– Іх я таксама вельмі люблю, але больш звяртаюся да Гогаля. А ў Дастаеўскага нядаўна перачытаў "Бесы". Выдатная рэч! Вельмі многае дапамагае зразумець і ў нашым нядаўнім мінулым, і ў нашым сучасным жыцці. Час ад часу перачытваю Быкава, Панчанку, Пысіна... Перачытваю і заўсёды знаходжу ў іх нешта новае, і гэтаму вельмі радуюся.

***– Пагаворым яшчэ пра адзін складнік радасці – пра каханне. Маючы два зборнікі інтымнай лірыкі, ты ўжо можаш смела лічыцца спецыялістам у сферы гэтых пачуццяў. Дык вось як у спецыяліста я хачу ў цябе запытацца: што такое сапраўднае каханне і як яго можна адрозніць ад простай закаханасці?***

– Ну хто яго ведае. Я калісьці нават пісаў у вершы, што гэта вечная таямніца і сакрэт, колькі б пра яго ні гаварылі. Ні вучоныя, ні паэты так і не разгадалі гэтую таямніцу. Я таксама не ведаю, што гэта такое, бо цяжка вытлумачыць. Яго проста трэба адчуць.

***– І ў кожнага яно сваё?***

– Напэўна. З чаго б тады з усіх жанчын ты выбіраў адну?

***– Ды і не кожнаму гэты боскі дар даецца...***

– А я пра гэта ў адным са сваіх вершаў пісаў: "Непрыгожых жанчын не бывае, проста шмат невідушчых мужчын..." Так што можна ўбачыць жаночую прыгажосць, а можна і не ўбачыць.

***– Каханне з першага погляду бывае?***

– У мяне такое было. Калі я ўбачыў Юлю, яна адразу мяне паланіла.

***– Вы былі на адным курсе?***

– Не, я быў ужо на трэцім, а яна толькі паступіла на першы. І вось, як убачыў яе, нешта ўсярэдзіне страпянулася. Ну а пасля, на шчасце, гэтае пачуццё не прайшло, не знікла. Наадварот, набывала штосьці новае, тое, што прывяло нас да сям'і, тое, што вось ужо паўвека трымае нас на гэтай зямлі разам.

***– Можа, ты са мной і не пагодзішся, але як мне здаецца, як я назіраю ў паўсядзённым жыцці, каханне вельмі рэдка бывае ўзаемным. Звычайна нехта адзін у сям'і кахае, а другі – дазваляе сябе кахаць. Такія сем'і нават больш моцныя, таму што калі абое апантаныя пачуццём, у іх часцей узнікаюць канфлікты, крыўды, яны цяжэй знаходзяць згоду.***

– Ну, гэта трэба разбірацца ў кожным канкрэтным выпадку. Але я думаю, што

калі каханне зямное, чалавечае, узаемнае, то, наадварот, яно дапамагае закаханым ва ўсім – і глыбей зразумець адно аднаго, і шукаць згоду, і ладзіць сям’ю. А калі ж гэтае пачуццё набывае форму нейкага фанатызму, робіцца незямным, нечалавечым, то гэта жах. Хаця, напэўна, бывае і такое.

Наша, маё каханне прайшло ўсякія выпрабаванні, усякія прыгоды. Спачатку была закаханасць – юначая, безаглядная. Пасля рамантычная ўзнёсласць адступіла на другі план, а на першы выйшлі шматлікія будзённыя праблемы. Урэшце рэшт усё мінула, а засталася духоўная еднасць, павага адно да аднаго, жаданне быць побач.

***– А як ты ставішся да пушкінскіх радкоў: “Чем меньше женщину мы любим, тем легче нравимся мы ей”? Гэта – праўда?***

– Не ведаю. Пра гэта трэба ў жанчын запытацца. Мне не хацелася б, каб так было. Трэба быць шчырым і сумленным.

***– Ці можна пранесці каханне праз усё жыццё?***

– Можна. Але для гэтага трэба, каб хапіла і мудрасці, і цярплівасці, і яшчэ шмат чаго іншага. Каханне – найвялікшы боскі дар, і яго неабходна ўсяляк берагчы і шанаваць.

***– Як ты ставішся да хадакоў “налева”? Можна сабе такое дазволіць, нават кахаючы сваю палавінку?***

– Ну, я лічу, што ўсякія могуць быць выпадкі ў жыцці. Галоўнае, каб у гэтым не было брыдкага. А мімалётныя захапленні могуць здарацца.

***– У чым сакрэт трывалай сям’і?***

– Часткова мы ўжо пра гэта гаварылі. Паважаць адно аднаго. Разумець адно аднаго. Мець духоўнае адзінства. І, канечне ж, умець дараваць адно аднаму.

***– Хто ў вас галоўны ў сям’і?***

– У штодзённых, сямейна-бытавых справах, бясспрэчна, Юля, а ў важных, так сказаць, стратэгічных справах мы дзейнічаем разам, сумесна. Я ніколі не прэтэндаваў на першае месца. Але хачу, каб улічвалі маю думку, калі я ў нечым перакананы, каб жонка прызнавала гэта. Проста ж для таго, каб паказаць, што я галоўны... у мяне такога ніколі не было.

***– Скажам, каму мыць посуд, у вас наконт гэтага праблемы не ўзнікала?***

– Ну, можа, часам і ўзнікала. Але калі трэба, то памыю. Што тут такога?

***– А схадзіць у краму?***

– Таксама магу. Радасці вялікай ад гэтага ў мяне няма, але калі трэба, дык і схаджу.

***– “Душу маю сумленне дагрызае – не здолеў, не дамогся, упусціў…” – так напісаў ты ў адным са сваіх нядаўніх вершаў. А ў другім сцвярджаеш: “Век, адведзены мне, я пражыў не дарма”. Ты не бачыш у гэтым супярэчання?***

– Ніякага. Я сапраўды лічу, што пражыў жыццё не дарма і што змог нешта зрабіць для беларускай справы. Але тое, што зрабіў далёка не ўсё, што мог, не цалкам рэалізаваў тое, што мне дадзена Богам, таксама адчуваю. Адсюль і незадаволенасць сабой.

***– Ты маеш на ўвазе літаратурную справу?***

– Не толькі літаратурную. І ў службовай кар’еры я мог пайсці і больш далёка, і больш высока. Мяне запрашалі ў Маскву на сур’ёзную працу, тут мог стаць сакратаром ЦК. Так што нейкі патэнцыял мой не быў выкарыстаны цалкам. Так склаліся абставіны. Хаця, зноў-такі, не хачу прыбядняцца, і, можа быць, добра, што я не дабраўся да самых высокіх бюракратычных вышынь. Зямныя радасці, хвіліны шчасця, дзякуй Богу, не абміналі мяне. Кажучы словамі нашага песняра, “я адплаціў народу, чым моц мая магла...” Адданасць Беларусі, роднаму слову, нацыянальнаму адраджэнню – галоўны сэнс майго жыцця і ўсёй маёй працы.

Алесь Плотка



...Двубой.
З сабой ці з супрацiўнiкам —
гэта спорт для мяне...

# «Перашкоды і націскі» Дзмітрыя Плакса...

***2 чэрвеня ў межах дзён культуры Швецыі ў Беларусі кампанія "Будзьма беларусамі!" прэзентавала праект «Перашкоды і націскі». Стылістычную прыналежнасць праекту кожны вызначыць для сябе сам, калі пачуе, але тое, што вызначэнне гэтае не будзе лёгкім – відавочна ўжо цяпер.***

***«Перашкоды і націскі» – гэта: Дзмітры Плакс — тэкст, чытанне; Філіп Чмыр — музыка; Андрэй Жукаў — гукарэжысёр.***

***З Дзмітрыем ПЛАКСАМ, стваральнікам непаўторных тэкстаў, якія зрабіліся адпраўным пунктам «Перашкодаў і націскаў», пра праект, інтэрактыўнасць мастацтва і пра тое, чаму інтэрв'ю з пісьменнікамі няўдзячная справа гутарыць Алесь ПЛОТКА.***

***— Вы не адмаўляеце, што Вам падабаецца ўвага да сваёй асобы, але яна павінна быць, так бы мовіць, на***

***вашых умовах... На якіх умовах увага да сваёй «каштоўнай» асобы Плаксу падабаецца?***

— Прафесійная. Увага не да прыватных абставін, а да працы.

***— Раскажыце тады, як узнікла ідэя менавіта такога працягу кнігі «30 тэкстаў».***

— Ідэя не мая. Я люблю выступаць з «Drum Ecstasy» і рабіў гэта таксама і на прэзентацыі гэтай кніжкі, пасля якой шмат хто мне гаварыў, што гэта трэба неяк зафіксаваць. Гэта, так бы мовіць, па пажаданнях працоўных.

***— Пра тэксты ў кніжцы «30 тэкстаў», вы раней казалі, што яны не могуць лічыцца завершанымі творамі, бо вымагаюць нейкага кшталту інтэрактыўнасці. Ці можна лічыць праект з «Drum Ecstasy» тым, што зрабіла гэтыя тэксты завершанымі? Ці ўсё ж гэта толькі звяно?***



*Дзмітры ПЛАКС.*

— Гэта цалкам іншы праект, не аўдыёкніга і не чытанне пад музыку. Да кнігі ён мае апасродкаванае дачыненне.

***— Што тады магло б стаць інтэрактыўным працягам ці завяршэннем «30 тэкстаў»?***

— Цяпер актыўна развіваецца галіна электроннай кнігі — e-book. Было б цікава зрабіць нешта такое, бо там можна шмат матэрыялу размясціць самым натуральным чынам. Не як дадаткі, а як натуральную частку.

***— Чаму было вырашана назваць праект менавіта так?***

— Я назваў яго «Перашкоды і націскі», каб падкрэсліць, што гэта не акампанемент, а ўзаемадзеянне кантрадыкцыйнага характару.

***— Што можа стаць перашкодай да ўспрымання праекту публікай, і на што Вы б хацелі зрабіць націск, гэты праект анансуючы?***

— Такога кшталту рэчы, як мне падаецца, спажываюцца людзьмі, якія маюць схільнасць да «незабаўляльнай», умоўна кажучы, культуры. У такіх людзей перашкоды для ўспрымання могуць быць прыватнага характару, напрыклад, незадаволенасць націскамі, якія ўжываюцца даволі адвольна. Людзі, якія чакаюць нечага лёгка-прыемнага, думаю, такое і слухаць не будуць, таму ў іх перашкодаў не ўзнікне. А націск я б хацеў зрабіць: а) на падсвядомасць, б) на барабанныя перапонкі. Ці ў адваротным парадку.

***— Ці ёсць у Вас адмысловая назва графічнай падачы тэксту, ужытай у кнізе?***

— Гэта звычайнае графічнае пісьмо. Графіка важная ў тэкстах канкрэтысцскіх, паэтычных, дый нават газетных. Тут няма нічога новага, акрамя, можа, разбіўкі на галасы, бо я пішу тэксты, якія гучаць, так скажам... Ну, кшталту шматгалосся грузінскага. Некаторыя тэксты маюць два-тры галасы, якія я на пісьме вылучаю памерам шрыфтоў — гучней-цішэй, калі спрошчана трактаваць.

***— Як думаеце, магла б такая падача ў, напрыклад, публіцыстыцы даць***

***плён? Больш крануць чытача, падкрэсліць — нават у межах аднаго інтэрв'ю — стан і інтанацыі чалавека?***

— Нешта падобнае робіцца ўжо ў сеціве падчас падачы электронных тэкстаў, але там ідуць ад «значнасці». Я ішоў ад гучання...

***— Цяпер праекты на мяжы музыкі і паэзіі набываюць даволі шырокую папулярнасць... Ці будзе для Вас нечаканым поспех праекту? Што для Вас творчы поспех увогуле?***

— Я не думаю ў такіх катэгорыях. Мне, шчыра кажучы, не вельмі важна: шырокая папулярнасць, вузкая... Гэта ж не камерцыйны праект, дзе ад папулярнасці залежаць прыбыткі. Поспех, напэўна, калі задавальненне хаця б прыкладна адпавядае колькасці затрачанай энергіі. Не ведаю, я слаба сабе ўяўляю, што такое «поспех» і «папулярнасць» у дачыненні да такога выключна інтымнага праекту.

***— У «30 тэкстах» і «Націсках» задавальненне з энергастратамі супала?***

— У «30 тэкстах» — не, у гукавым праекце — трохі больш, але гэта збольшага заслуга Філа, а не мая. І Жукава, канечне. Мая заслуга ў тым, што мне, мяркуючы па выніку, удалося «завесці» іх на творчую працу.

***— Пра што Вас ніколі не пыталі ў інтэрв'ю і пра што б Вам вельмі хацелася сказаць? Вось хацелася — але ніхто дагэтуль чамусь не спытаў. І як чалавека, і як пісьменніка.***

— Хм. Я не памятаю ўсіх маіх інтэрв'ю, але мне, як правіла, не хапае размоваў менавіта на мастацкія тэмы, тэарэтычныя. Не «што, уласна кажучы, аўтар хацеў сказаць гэтым самім сваім мастацкім творам», а адкуль бярэцца мова, што яна такое, як спалучаецца з іншымі з'явамі жыцця. Што можна і што нельга перадаць гукам, знакам, які шлях ад вобразатвору да сэнсу і назад, ну і гэтак далей. Пра гэта я і расказваю па меры сілаў у тым, што раблю.

***— Вельмі часта інтэрв'ю з пісьменнікам — вялізны тэкст на тэмы, якія ідуць, скажам так, побач з мастаком...***

— Так, лічыцца, што цікава тое, што побач, бо тое, чым я, напрыклад, займаюся, лічыцца заскладаным і для неспецыялістаў. З іншага боку, гэта зразумела, бо аналіз, глыбокая размова патрабуюць іншага часу і іншага фармату, чым інтэрв'ю. Нават, напэўна, іншага форуму. Інтэрв'ю ж звычайна робяцца з нагоды, як і цяпер вось гэтае. Выйсце, напэўна, у кнігах, кшталту тых, што піша Волкаў, але я не Бродскі (смяецца).

***— Калі б Вы былі б спартоўцам, то ў якім відзе спаборніцтваў?***

— Я ўжо быў спартоўцам, спаборніцтваў не люблю і калектыўных відаў спорту не разумею. Двубой. З сабой ці з супраціўнікам — гэта спорт для мяне...

*Як гучаць паэтычныя тэксты ў выкананні Дзмітрыя Плакса і ягоных сяброў Філіпа Чмыра і Андрэя Жукава чытачы «Дзеяслова» гэтым разам могуць пачуць з дыска «Перашкоды і націскі», далучанага да гэтага нумару часопіса...*

Кацярына Безмацерных



...добра, калі чалавек, які побач,

разумее, чым ты займаешся...

# «Няма мастака без любові...»

## *Гутарка Кацярыны БЕЗМАЦЕРНЫХ з мастакамі Аленай ШЛЕГЕЛЬ і Уладзімірам ГАНЧАРУКОМ*

***“Я не намалюю птушку лепш, чым зрабіў яе Творца...”, – кажа Уладзімір.***

***Уладзімір Ганчарук і жонка яго Алена Шлегель – сябры Беларускага саюза мастакоў, а таксама аб’яднання “Артэль”. У “Артэлі” ёсць прыгожы сайт у Сеціве (www.art-fakt.com) і агульная сістэма каштоўнасцяў. Дасканалая форма, гармонія – вось што ў карцінах істотна!***

### “Гэта ўжо як душа падказвае: дзе праўда, а дзе хлусня”.

*Не паспела я і пытанні агучыць, як палкі мастак Уладзімір эмацыйна распачаў:*

***Уладзімір:*** Я студэнтам кажу: “Глабальна новага чалавек не можа ўнесці ў мастацтва, калі ён будзе размнажацца так, як цяпер размнажаецца, і будуць існаваць маці і бацька-

ка.” Мы нічога прынцыпова новага не выдумаем, бо чалавека што закранае? Мацярынства, любоў, дзіця... Проста ў якім свеце і ракурсе ты ўбачыш гэтыя спрадвечныя тэмы.

*У гутарцы Уладзімір расцякаецца няўрымслівай, смелай хваляй – і ўжо не прыпыніш натхненне...*

***У.:*** У папярэдняга пакалення была свая сістэма суадносін з мастацтвам: карціны належалі музеям. Не было свабоднага рынку, калекцыянераў. Але ж мастацтва жывое толькі тады, калі яно запатрабаванае. А запатрабаваным яно будзе, калі народ стане больш-менш матэрыяльна забяспечаны. Лозунг дзядулі Леніна: “Мастацтва належыць народу!” – мне не падабаецца. Не, мастацтва належыць збіральнікам! І ў кожнага народа ёсць збіральнікі – арыстакратыя ў вышэйшым сэнсе гэтага слова. Карціна мастака мае пэўную сакральнасць. Палатно – гэта момант пакутаў і радасці жывога чалавека. Ён перажывае і як бы нараджаецца наноў. Чым больш чалавек мае грошай, тым больш ён жадае мець сур’ёзны твор мастацтва ў сваёй калекцыі. Калі ўзяць, напрыклад, малых галандцаў, то яны пісалі партрэты бюргерам, прадаўцам, рыбакам. Вялікія галандцы, як Рэмбрандт, пісалі на замову кардыналам.

***– Калі ўжо закранулі Нідэрланды… Ван Гог цяпер – брэнд гэтай краіны для турыстаў. А ў амстэрдамскім музеі мастака ладзяцця дыскусіі: што такое карціны Ван Гога? Геніяльнасць ці не?***

***У.:*** Гэтыя сланечнікі, што як сонца гараць! Ёсць вельмі высокае мастацтва, ёсць менш высокае. А што тычыцца Ван Гога, тут, бясспрэчна, высокае мастацтва! Пошук новага, пошук душы ў мастацтве... Усе хочуць быць Ван Гогамі, але не хочуць пражыць жыццё Ван Гога, разумееце? Ван Гог быў чалавекам вечнага пошуку, вечных пакутаў...

***Алена:*** Шмат мастакоў, якія працуюць шчыра, з усім полымем душы. Падчас апошняга наведвання Пушкінскага музея мяне ўразіла адна маленькая карціна. Тая ж галандская школа, партрэт жанчыны. Тады было вельмі шмат мастакоў такога плана, але менавіта гэта праца, настолькі тонкая і віртуозная, зачапіла за жывое! Але ж на хвалю знакамітых мастакоў аўтар гэтай працы не ўзняўся. Напэўна, у яго заўжды былі такія маленькія камерныя партрэты, але, для мяне асабіста, гэта мастацтва больш блізкае і слушнае, чым працы многіх знакамітасцей! Геній альбо не? Што за пытанне! Геній – шчыры мастак, які жыў гэтым, атрымліваў ад творчасці найвышэйшую асалоду. І валодаў сапраўдным майстэрствам.

***– Але, вось Гётэ, які размяшчаецца на паліцы “геніі”, казаў, што жыццё для яго – усяго матэрыял для літаратуры. А пра Салжаніцына ёсць меркаванне, што адмыслова ён у ГУЛАГ трапіў, каб напісаць потым.***

***А.:*** Не судзі, ды не асуджаны будзеш. Я б наконт Салжаніцына не была такой даверлівай. Гэта ўжо як душа падказвае: дзе праўда, а дзе хлусня. А ўвогуле, я думаю, што праўдаў шмат, а ісціна адна.

***– Алена, а што такое ісціна?***

***А.:*** Паверхневыя падзеі, якія мы бачым, і нашыя меркаванні аб іх таксама не ісціна. Я думаю, ёсць нейкі вышэйшы парадак рэчаў, недзе там усё выбудоўваецца і мусіць быць так, а не інакш. Вось гэта, напэўна, блізка да ісціны. Але яна для нас закрытая, бо слабы чалавечы розум. Мы можам толькі інтуітыўна калі-некалі адчуваць яе. Уся надзея на нутраны духоўны зрок, з дапамогай якога можна прыадчыніць фіранкі над вялікімі таямніцамі. Ці не гэта асноўны сэнс існавання творцаў у чалавечай супольнасці? Можа, для таго і даюцца камусьці з іх нейкія асаблівыя жыццёвыя абставіны, якія дапамогуць зняць шалупайку з рэчаіснасці. Гэта калі вярнуцца да Гётэ с Салжаніцыным.



*Уладзімір ГАНЧАРУК і Алена ШЛЕГЕЛЬ.*

## Уладзімір Ганчарук прывабіў Алену Шлегель сваім талентам

***А. :*** Я ўжо ў чатыры гадкі казала, што хачу быць мастаком. Малявала заўжды. У школцы, здаецца, і нядрэнна вучылася, але настаўнікі ўсё роўна: “Мастачкай будзе!” Само сабой, што я пасля восьмага класа пайшла ў мастацкую вучэльню.

*А знаёмства з будучым мужам Уладзімірам Ганчаруком адбылося ў Тэатральна-мастацкім інстытуце.*

***У:*** Я ў Кішынёўкім мастацкім вучылішчы вучыўся. Бацька – будаўнік, ездзілі паўсюль па Саюзе. Нарадзіўся я на Паўночным Каўказе. Але продкі мае з Вялікага Княства Літоўскага, з Каменю Падольскага, які яшчэ вялікі князь літоўскі Гедымін заснаваў. У Мінск, у Тэатральна-мастацкі інстытут, я прыехаў да Гаўрылы Вашчанкі пасупаць, на манументальны жывапіс. Мне хацелася менавіта ў яго вучыцца. А з першага разу не паступіў, таму што сачыненне пісаў з памылкамі *(гучны смех)*

*І Алена з першага разу на “манументалку” не паступіла.*

***А.:*** У той час дзяўчынак вельмі слаба бралі, максімум адну на групу. Гэтая спецыялізацыя ў мастацтве тады лічылася не зусім жаночай. Але ж потым неяк удалося даказаць сваю прафпрыдатнасць. Я вельмі ўдзячная сваім настаунікам Г. Х. Вашчанку, А. В. Бараноўскаму, У. Л. Зінкевічу і інш. Вучыцца ў тыя гады на “манументалцы” было вялікім гонарам.

*У.:* Я памятаю Алена стаяла, нядрэнна так пісала. Танклявая, высокая... Я думаю: “Што гэта за дзяўчынка?” *(гучны смех)* Мяне здзівіла, што яна не паступіла

адразу... Калі здавалі іспыты, то мелі тры майстэрні, глядзелі, хто там як малюе, параўноўвалі. У Алены за плячыма ўжо быў манументальны роспіс – дыпломная праца ў фае мастацкай вучэльні. Нас з ёй аб’ядноўвала тое, што мы Тэатральна-мастацкі інстытут успрымалі, як нейкі Храм Мастацтва, думалі, што гэта казачны свет такі, трапіць туды хацелі...

***– Алена, а чым жа вас прывабіў Уладзімір?***

***А.:*** Таленавітасцю сваёй! З усіх пяці курсаў ён быў, напэўна, самы заўважны. Я толькі на першы курс прыйшла, а ён ужо быў на трэцім. Як сапраўдная жанчына, я найперш шукаю ў мужчыне моц. Ён абавязкова мусіць быць у чымсьці лепшы за мяне. Прафесійна ў момант нашага знаёмства Уладзімір быў на галаву вышэйшы за ўсіх, каго я ведала. Канечне, асобы ў мастацтве не могуць ісці адным шляхам, але ў яго заўсёды было чаму павучыцца. І тады, і цяпер ёсць у ім нейкая непарушная ўпэўненасць, дух лідэра, які вельмі прыцягвае, магнетызм моцнага чалавека.

***У.:*** А потым аказваецца, што ўсё наадварот... Жанчына – яна больш мабільная, больш дасканалая. А мужчына што? Стрэсавы стан – стамляецца хутка. Жанчына лягчэй пераносіць стрэс, можа сабрацца, гэта прыродай закладзена, бо яна маці. А маці заўжды думае не толькі пра сябе. Вялікі мужчына можа паплакацца маленькай жанчыне – тут нічога такога няма. І гэта крохкая істота дасць яму моц.

## “Чалавек, Сусвет і Бог адзіныя.”

***– На сайце аб’яднання “Артэль” ёсць радкі: “Мы забыліся, што ёсць Бог, прыгажосць, любоў, што без іншых людзей мы нішто, што чалавек, сусвет і Бог адзіныя і ў гэтым адзінстве вечныя”. Давайце пагутарым пра любоў у вашым жыцці.***

***А.:*** Складаная тэма – любоў. Прасцей, вядома, успрымаць як “мужчына і жанчына”, але, напэўна, гэта толькі малая частка нечага вялікага. Любоў – гэта ўсё. Напрыклад, у майстэрні ты працуеш з любоўю – і гэта адзін са складнікаў творчасці мастака. Ёсць любоў у яго працы ці не? Ты ўстаеш зранку, любіш свет ці не? Я, мусіць, яшчэ не саспела да сапраўднай любові. Хаця я і прымаю жыццё, але не хапае нейкай духоўнай моцы рабіць усё правільна! Тады, можа быць, і прыйшло б больш чыстае ўспрыманне ўсяго...

***У.:*** Любоў – усеабдымнае паняцце. Нават не ведаеш, з чаго пачынаць. Адно магу сказаць: няма мастака без любові! Ты не можаш адарвацца ад працы! І ў гэтым любоў. Вось гэты кавалак ты не дарабіў і сядзіш, яго ўдасканальваеш. Любоў – гэта шчырасць, гэта самаахвяраванне. Любоў – гэта вялікая праца. Праца ўспрымаць іншага чалавека з яго хібамі, недасканаласцю. Любоў – гэта ўменне даравацЬ. У любой рэлігіі ёсць панятак даравання.

***– Хрыстос казаў: “Я і Бацька – адно”. Можа быць, усведамленне сваёй еднасці з Іншым, усведамленне, што ён – гэта і ёсць ты, можа быць, гэта і ёсць любоў...***

***А.:*** Калі мая дачка была яшчэ маленькая, у нас якраз пераклалі “Хронікі Нарніі”. Я ўзяла пачытаць для свайго дзіцяці, але сама зачыталася і была вельмі ўражаная кніжкай. Льюіс казаў: “Я напісаў казку, якую сам хацеў бы прачытаць.” Я думаю, што ў творчасці важна рабіць для сябе і для людзей адначасова.

***– Але творчы чалавек сядзіць сабе адзін, корпаецца ў вобразах уласнай галавы, прагне прызнання і поспеху... Часам яшчэ і заклапочаны тым, што нешта недасканала рэалізаваў, нешта не паспеў... Ніколі не здавалася, што творчасць сама па сабе з’ява эгаістычная?)***

***А.:*** Можна заняцца чым-небудзь іншым, але і гэта будзе свая форма эгаізму, бо мы так уладкаваны, што ўсё праз сябе прапускаем. Сваімі вачыма глядзім на

ўсю бязмежную прыгажосць сусвету. Сваёй душой успрымаем багацце культурнай скарбніцы чалавецтва. Але ісціна пасярэдзіне. Калі чалавек у сваёй творчасці толькі сябе і сцвярджае як цэнтр сусвету, гэта незразумела. У мастацтве ёсць катэгорыя рэчаў, якія я не ўспрымаю ўвогуле. Калі гэта выразна антычалавечае, калі апелюе да нейкіх нізкіх інстынктаў, палкасцяў, калі ўсё гэта ніжэй пояса... Якім бы ні быў твор геніяльным у прафесійным сэнсе, я не лічу гэта мастацтвам.

***У.:*** Творчы момант закладзены ў кожным чалавеку! Проста адзін яго развівае, другі не.

## “У кожнай долі выпадковасці ёсць кропля бацькоўскай крыві – стваральніка”.

***– Алена, Уладзімір, у чым вы розніцеся як творцы?***

***А.:*** Я азначаю вобразы, апрацоўваю дэталі свайго твора толькі да стану пазнавальнасці – і прыпыняюся. Галоўнае для мяне – стварэнне шматслойнага фантастычнага асяроддзя, у якім існуюць казачныя ці міфічныя істоты. А Валодзя даводзіць выяву да звышрэальнай дасканаласці, быццам выцягвае на паверхню сутнасць рэчаў, іх душу. Ступень і мова стылізацыі ў нас таксама розныя.

***У.:*** У мяне трывання хапае толькі на адзін вобраз, а Алена імкнецца больш да сумяшчэння ў адной працы мноства розных сімвалаў, знакаў, стварэння нейкай новай рэальнасці з мноствам дзеючых асобаў.

***А.:*** Агульнае ў нас у тым, што ў кожнай карціне і ў мяне, і ў Валодзі ёсць нейкая гісторыя, інтрыга. Сітуацыя, што стварае магчымасць для сутворчасці гледача.

*Алена і Уладзімір выхоўваюць дзвюх дачок – дзесяцігадовую Лію і Паліну васемнаццаці гадоў. Алена кажа пра мужа:*

– Добра, калі чалавек, які побач, разумее, чым ты займаешся! Валодзя вельмі падтрымлівае мяне як творцу, бо мне ўласціва заўсёды сумнявацца. А раптам гэта недастаткова добра? Можа, недапрацавана? Ты, здаецца, мусіш радавацца завяршэнню працы, але не атрымліваецца. Я ведаю, што ў яго высокі ўзровень, і магу яму верыць, калі кажа, што твор адбыўся.

*Уладзімір Ганчарук яшчэ і фатаграфуе, шануе старую добрую стужку.*

– Стужка – гэта выпадковасць. Поль Валеры казаў: “У кожнай долі выпадковасці ёсць кропля бацькоўскай крыві – стваральніка.” А калі ёсць гэты момант выпадковасці, то тут ужо ёсць пэўны момант мастацтва. Стаіць палатно, я павярнуўся – і яно ўпала. Нейкія плямiны з’явіліся. Можна адразу пачаць выціраць. А потым прааналізуеш... а можа, гэтых плямінаў і не хапала? Амерыканскі мастак Эндру Уайт, часам проста праліваў на карціну разбаўленую фарбу, каб збіць лішнюю правільнасць.

Аляксей Рагуля



...людзі забылі
першапачатковыя інтарэсы і патрэбы
ў пагоні за насалодай
і не заўважаюць,
што воз новай цывілізацыі коціцца ў пекла...

# Сярод лесу, сярод поля – у цэнтры Еўропы

## *Эстэтыка і сацыялогія прозы Генрыха ДАЛІДОВІЧА*

*Заканчэнне. Пачатак у №3 (52)*

Патэнцыял нацыі. Параўноўваючы стваральны патэнцыял людзей з розных сацыяльных праслоек, Г.Далідовіч асабліва пільна прыглядаецца да настаўніцтва. Адметнасць настаўніцкай тэмы ў тэтралогіі – “Усё яшчэ наперадзе”, “Міланькі”, “Завуч”, “Дырэктар” складае аўтарскі падыход да актуальнай праблематыкі. У 70-х гадах шмат пісалі пра школу, як і пра вёску, пра настаўнікаў-наватараў, новыя методыкі, універсальныя спосабы выхавання. Г.Далідовіч традыцыйна засяроджвае ўвагу на асобе вясковага настаўніка, яго чалавечым патэнцыяле. Бюракратычны апарат паслухмяна выконваў вышэйшую партыйную волю і клапаціўся пра камфортную статыстыку. Настаўнік заставаўся сам-насам з клубком нявырашаных праблем. Выпрабаванне ў такой сітуацыі вытрымліваюць нямногія. Агульная сітуацыя ў сацыялогіі адукацыі добра вядома беларускаму чытачу яшчэ па трылогіі Я.Коласа “На ростанях”, у якой выпрабаваннем на чалавечую і грамадзянскую годнасць стала сустрэча маладога настаўніка не толькі з “казённай трухляцінай”, але і квазігероямі рэвалюцыйнага падполля.

Тэтралогія Г.Далідовіча пра настаўнікаў тыпалагічна блізкая да хранікальных раманных формаў 50-70-х гадоў. Пісьменнік даследуе гісторыю нацыянальнага духу на сацыяльна-бытавым матэрыяле і ў сілавым полі ідэі беларускага гаспадарства – дзяржавы-дома. З хронікі паўстае партрэтная галерэя сейбітаў на духоўнай ніве. Гэтая гісторыя ёсць карціна кароткачасовага ўздыму і хранічнага заняпаду. Аўтар не называе сацыяльных прычын, але яны адчуваюцца ў творы выразна. Галоўная з іх – гэта адчужанасць сейбіта ад нівы. Настаўнікі не з'яўляюцца гаспадарамі ў школе. Раённыя і абласныя органы адукацыі імітуюць кіраўнічую дзейнасць, праводзячы "на месцах" семінары, якія не маюць нічога агульнага з актуальнымі нацыянальнымі патрэбамі часу. Наогул у васьмігодцы ў Міланьках, у Вішнёўцы кіраўнікі і настаўнікі не адчуваюць духоўнай патрэбы ў тым, каб разважаць пра адукацыю і выхаванне на ўзроўні задач нацыянальна-дзяржаўнага маштабу. Настаўнікі, якія не пайшлі ў прыслужнікі бюракратыі і працуюць па-сапраўднаму творча, застаюцца свядома незаўважанымі начальствам.

Галоўны герой хронікі – спачатку малады настаўнік, а потым завуч і дырэктар Васілец Павел Мікалаевіч – прыязджае на працу ў школу двойчы: пасля заканчэння ўніверсітэта і пасля службы ў войску. Дырэктар Іван Сямёнавіч пазнаёміў яго са сваёй праграмаю і кіраўнічым прынцыпам: "Вы ж, маладыя, для мяне пакуль што самалёты без апазнавальных знакаў..." [3, 23]; "Не падабаюцца нашы парадкі – загадзя шукайце лепшай школы, лепшага дырэктара" [3, 24]. Маладым спецыялістам – аднакурснікам Паўлу і Ларысе – выказана непрызнанне іх прафесійнай падрыхтоўкі і ўльтыматыўнае патрабаванне пакоры яшчэ да пачатку іх самастойнай дзейнасці. Іван Сямёнавіч і прысутныя не заўважылі ў выказванні дырэктара абразу чалавечай і прафесійнай годнасці маладых педагогаў.

Бесперспектыўнае жыццё школы, самаізаляцыя настаўніцтва ад нацыянальнай духоўнай культуры сталі прычынай яго дэградацыі. Завуч Міхась Рыгоравіч знаходзіцца ў поўнай залежнасці ад чаркі. Дырэктар Іван Сямёнавіч жыве адзіным клопатам – утрымацца ў дырэктарскім крэсле. Спачатку можа паказацца, што яму ўсё ўдаецца: трымае школу ў паслушэнстве, карыстаецца падтрымкай начальства, мае ладны дом з агародам і садам, уладкавалі ў школу сына, а ён ажаніўся з выдатнай настаўніцай малодшых класаў Маяй Сцяпанаўнай. Аднак паступова ўсё прыходзіць да заняпаду. Вялікі дом застаецца пустым, а Мая Сцяпанаўна рвецца на свабоду з абязлюджанага дырэктарскага раю і шукае блізкасці ў новага дырэктара – Паўла Васільца. Іхняе збліжэнне таксама адлюстроўвае адметную рысу духоўнага свету сучасніка – імітацыю паўнацэннага жыццядзеяння. Надзеленыя спадчыннай душэўнай шчодрасцю, жаночыя персанажы тэтралогіі Г.Далідовіча не могуць сябе рэалізаваць у грамадстве, для якога сям'я – гэта не духоўная і сацыяльная каштоўнасць, а ўсяго толькі "ячэйка", патрэбная для функцыянавання сістэмы.

У такой сітуацыі жаночая прага паўнацэннага жыццядзеяння перарастае ў разбуральны комплекс мадам Бавары ці Ганны Карэнінай. Патаемнае "каханне" Маі Сцяпанаўны і наваспечанага дырэктара Паўла Мікалаевіча, спантанная правакацыя рамантычных барваў у Таццяны Сяргееўны ў педагагічнай тэтралогіі Г.Далідовіча ўспрымаюцца як імітацыя эмацыянальнай паўнаты ў атмасферы бездухоўнага жыцця. Імітацыяй ролі кіраўніка была і праца Васільца на пасадзе завуча і дырэктара школы, хоць і не па яго віне. Быў у Васільца і час высокага духоўнага ўзлёту і натхнення. Менавіта тады ён па-новаму ўбачыў сваю былую аднакурсніцу Ларысу, жанчыну сканцэнтраваную і мэтанакіраваную. Упарадкаваная ёю школьная бібліятэка з вымытай падлогай – гэта, па сутнасці, сімвал беларускай інтэлігентнасці, ачышчанай Ларысай і Паўлам ад бруду казённай абыякавасці. На новым месцы, у Вішнёўцы, Ларыса дэманстрацыйна прыходзіць на працу разам з мужам – ды яшчэ "пад ручку" – і з сынам. Трывога за ўстойлівыя межы свайго свету закрадваецца ў яе душу невыпадкова. Ларыса свядома падкрэслівае

сваё права і прызначэнне быць гаспадыняй у абноўленай яе рукамі беларускай культурнай мікрапрасторы.

Стаўшы завучам у Міланьках, настаўнік Васілец адчуў сябе "здраднікам" перад вучнямі свайго класа. Яшчэ далей ад іх ён адышоў, калі яго прызначылі дырэктарам. Клопат пра дзіцячыя душы быў выцеснены клопатам пра "мерапрыемствы", навязаныя зверху. Дырэктар школы звычайна быў яшчэ і сакратаром партыйнай арганізацыі саўгаса. Круцячыся ў бюракратычным коле, Павел Мікалаевіч не заўважае, як паціху ён растрачвае духоўнае і фізічнае здароўе. У душы ўжо няма ранейшай цеплыні ў адносінах ні з Ларысай, ні з Маяй. Ёсць нейкі сурагат шчырасці ці кахання. Няма блізкасці і паразумення на ўзроўні экзістэнцыі. Васілец напісаў заяву аб звальненні, але ён сустрэў рэзкі адпор з боку загадчыка РАНА і паслухмяна забраў заяву назад. Чым закончыцца гэты крызіс асобы, па-свойму неардынарнай? Пісьменнік не спяшаецца звесці калізію да павярхоўна аптымістычнага яе вырашэння. Пакуль што працягваецца "абяссіўная", паводле сучаснага псіхааналізу, неўрастэнія – беларуская цягамоціна. У гэтым, зразумела, няма віны пісьменніка. Наадварот: у адлюстраванні псіхічнага комплексу эпохі яго заслуга.

Покліч жыцця, пачуты Г.Далідовічам у рытмах пасляваеннага адраджэння ў выпаленым Налібацкім краі, сёння патрабуе звароту да спасціжэння і адлюстравання экзістэнцыяльнай для беларускага этнасу праблемы – дзяржаўнага суверэнітэту. У краіне застаецца нявырашаным на ўзроўні культурнага жыццядзеяння пытанне пра статус беларускай мовы. Усё гэта ставіць пад сумненне культурную паўнацэннасць тытульнай нацыі ў Беларусі ў бліжэйшай будучыні. Сітуацыя ўскладняецца тым, што сялянства, носьбіт нацыянальнай традыцыі, рассялянена калгасамі і індустрыялізацыяй. Рассяляньванне вядзе да разбурэння культурнай памяці.

У трылогіі "Свой дом" Г.Далідовіч бачыў сваю задачу ў тым, каб аднавіць праўду ў гісторыі станаўлення беларускай дзяржаўнасці ў час чарговай смуты ў Расійскай імперыі на пачатку ХХ-га стагоддзя. Раманы "Гаспадар-камень", "Пабуджаныя", "Свой дом" сталі, бадай, ці не першымі ў беларускай літаратуры творамі гісторыка-палітычнага жанру, у якіх выкрываецца хлусня пра стваральную дзейнасць бальшавіцкіх эмісараў у Беларусі. Яшчэ да распаду СССР Г.Далідовіч паказаў двурушніцкі характар бальшавіцкай нацыянальнай палітыкі. Фрунзе, Кнорын, Мяснікоў адкрыта ставілі задачу вынішчэння беларускай культуры нібыта на карысць інтэрнацыяналізму і не грэбавалі ніякімі сродкамі, каб не дапусціць да кіраўніцтва З.Жылуновіча, А.Чарвякова і іншых дзеячаў нацыянал-камуністычнай арыентацыі, не кажучы ўжо пра нацыянал-дэмакратаў. Г.Далідовіч у названых вышэй раманах яшчэ да распаду СССР пераадолеў савецкую традыцыю алейнай ідэалізацыі высока пастаўленых партыйных функцыянераў. У 2002 г. выйшла гістарычнае эсэ аўтара "БНР і БССР: Роздум аб беларускай дзяржаўнасці ў ХХ стагоддзі". У гэтай працы адлюстраваны новы, заснаваны на асэнсаванні рэальных фактаў этап сутнаснага пазнання дзяржаўнага будаўніцтва ў ХХ-м стагоддзі ў Беларусі. Г.Далідовіч стварае партрэты рэальных дзеячаў, прысланых у Беларусь бальшавіцкім цэнтрам. Фрунзе (М.Міхайлаў) усюды вызначаўся кемнасцю і "неверагоднай жорсткасцю (было, што па яго загадзе палонных белых афіцэраў вывозілі ў мора і тапілі жывымі)" [1, 19]. У снежні 1917 г. па волі Ландара і Мяснікова быў разагнаны Усебеларускі з'езд, пры гэтым вызначыўся п'яны мінскі камендант, нехта Крывашэін. Кнорын патрабаваў ад падданых "изжить" самабытныя рысы беларусаў. Г.Далідовіч звяртае ўвагу на трагічны лёс як заснавальнікаў БНР, так і стваральнікаў БССР. Гістарычны змест раманаў Г.Далідовіча абвяргае домыслы сучасных "тэарэтыкаў" пра адсутнасць у беларусаў пасіянарнасці – волі да дзяржаўнай творчасці.

Эпічную манументальнасць раманнаму цыклу Г.Далідовіча надаюць малюнкі народнага жыцця. Узровень жыцця людзей вёскі з'яўляецца пробным каменем для

праверкі дзеяздольнасці ўрада і палітычнай сістэмы ў цэлым. У раманах “Гаспадар-камень”, “Пабуджаныя”, Свой дом” улады цікавяцца сялянскім жыццём толькі тады, калі ім трэба праводзіць рэквізіцыю – браць у сялян для войска коней, фураж і прадукты харчавання. Адсутнасць хоць якой перспектывы ў Расійскай імперыі прымушае сялян шукаць заробку за морам. Так разбураюцца традыцыйныя сямейныя сувязі. Яшчэ больш абясцэньваюцца інтымныя пачуцці. Яны прыносяцца ў ахвяру ілюзіям індывідуальнага заможнага жыцця ў “забраным краі”.

Па-філасофску ўсведамляючы трагічны характар эпохі вялікіх перамен і абнаўлення, Г.Далідовіч імкнецца ўзмацніць мабілізуючую функцыю вобразнай думкі, актуалізаваць рэсурсы духоўнага і сацыяльнага вопыту нацыі. Адлюстраванне пачатку ХХ ст. у беларускай літаратуры пачыналася з вырашэння праблемы выбару інтэлігенцыяй “сцежак-дарожак” у будучыню. На пачатку 30-х гадоў прыярытэт аддаецца праблеме Бацькаўшчыны – гістарычнага лёсу нацыі. Творчы шлях Г.Далідовіча таксама пачынаўся са звароту аўтара да праблемы грамадзянскага станаўлення асобы: гэта была актуальная праблема пасля духоўных і чалавечых стратаў у часы сталінізму і фашысцкай акупацыі. З цягам часу пісьменнік усё больш заглыбляецца ў мастацкае даследаванне праблемы станаўлення беларускай суверэннай дзяржавы. Покліч жыцця заканамерна ставіць асобу перад неабходнасцю асэнсаванага падыходу да вырашэння экзістэнцыяльнай праблематыкі ў цеснай сувязі з комплексам праблем сацыяльных. “Спажыць шанец – яшчэ не ўсё, – разважае ў рамане “Кліч роднага звону” заснавальнік беларускай Наваградскай дзяржавы-зямлі, князь Ізяслаў. – Гэты шанец яшчэ трэба спраўдзіць, адстаяць” [14, 183].

Г.Далідовіч у раманах канцэнтруе ўвагу менавіта на значэнні вопыту і запасаў духоўных і сацыяльных рэсурсаў беларускай нацыі ў сферы дзяржаўнай творчасці пасля шматгадовага бездзяржаўнага яе існавання.

Зварот аўтара да жанру гісторыка-палітычнага рамана ставіў яго перад неабходнасцю ўдасканалення ўласнай эстэтычнай праграмы. Гэтая задача пераканаўча вырашаецца на ўзроўні вобразнага мыслення ў своеасаблівай мастацкай прэлюдыі да трылогіі “Свой дом” – першым раздзеле рамана “Гаспадар-камень”. Камень, як і “ўздзірванелы курган векавечны” ў беларускай культуры топас, які мае ўстойлівую і разам з тым дынамічную семантыку ў творах Я.Купалы, Я.Коласа, М.Багдановіча, К.Чорнага. Да “каменя з бруку нашага горада” і “акамянелых волатаў” з беларускай гісторыі сістэматычна звяртаўся М.Танк. У рамане Г.Далідовіча магутны валун сімвалізуе акамянелую энергію чалавечага болю, якая пры пэўных умовах можа вырвацца снопам іскраў і запалаць паходняй у начной цемры.

Пачатак рамана “Гаспадар-камень” нагадвае аповесць-прыпавесць. Важнейшымі складнікамі сімвалічнага раду з’яўляецца, акрамя каменя, дэнататы: марозная ноч, шлях у два канцы праз пушчу, стагі і вазы сена – прадметы, уласцівасцю якіх з’яўляецца кансістэнцыя, сукупнасць значэнняў. Сімволіка стога і воза сена, як і сімволіка снапа і зерня, мае свае вытокі ў глыбокай старажытнасці і не толькі ў беларускай сялянскай культуры. Паліфанічны сэнсавы патэнцыял гэтых вобразаў актыўна дзейнічае ў эпохі культурных зрухаў. Падчас еўрапейскага Рэнесансу арыентацыя на культурную семантыку земляробчага календара назіраецца не толькі ў патэтычных ці ідылічных жанравых формах, але і ў сатыры. Гаронім Босх аднаму са сваіх сатырычных трыпціхаў даў назву “Воз сена” (1502). На фоне раскошнага паэтычнага пейзажу мастак паказаў абагульненую карціну абсурднага існавання ў свеце, у якім людзі забылі першапачатковыя інтарэсы і патрэбы ў пагоні за насалодай і не заўважаюць, што воз новай цывілізацыі коціцца ў пекла.

Да вобразу стагоў сена неаднаразова звяртаўся заснавальнік еўрапейскага імпрэсіянізму Клод Монэ: мастак шукаў гармоніі ў спалучэнні няспыннай каларыстычнай дынамікі і манументальнай гаспадарскай устойлівасці, уласцівай сялянскаму дому (“Стагі сена раніцаю”, “Канец лета”. 1890). У жывапісе Г. Вей-

сенгофа, у паэзіі і прозе Я.Коласа стагі сена з’яўляюцца вобразамі поліфункцыянальнымі. Семантыка маленькага стажка на гумнішчы дзеда Талаша з “Дрыгвы” скандэсавала ў сабе важнейшыя сэнсы сацыякультурнай дынамікі на паверхні беларускага жыцця ў час пераваротаў і войнаў на пачатку XX ст. Я. Драздовіч у вобразе характэрных для Палесся стажкоў імкнуўся, як і Н.Орда, захаваць архітэктурны вобраз беларускай культурнай прасторы ў пэўным гістарычным часе.

У прозе Г. Далідовіча семантычныя значэнні стога і воза сена вырастаюць да канцэптуальных ёмкасцяў, насычаных match шматпланавай інтэнцыяй. Сустрэча Нямкевічаў і Гарбацэвічаў са сваімі стагамі на зімовым абшары балотна-ляснога Шубіна выявіла розныя каштоўнасныя арыентацыі і розныя ўзроўні якаснага спажывання плёну працы і жыццёвага вопыту. Супольная дарога не зблізіла суседзяў. Маючы больш за дваццаць дзесяцін зямлі, Петрык Гарбацэвіч зайздросціць Ясю Нямкевічу, які і палавіны таго не меў: “Заўсёды яны спраўнейшыя. І ўсюды. Што ні робяць, усё аж гарыць у іхніх руках” [9, 29]. Шлях, якім у маладосці ішоў да заможнага жыцця парабак Гарбацэвіч, – гэта шлях гвалту над сваёй чалавечай прыродай. У выніку праз усё жыццё яго нішто не радуе, нават у сваёй хаце ўсё і ўсе яму чужыя:

“Злосць ела яго душу, як іржа жалеза. Усё жыццё. Пякла крыўда, лютасць на ўвесь свет, што бог даў яму такога, як лічыў, бесталковага бацьку, што ён, сын, мусіў змалку ратавацца ад беднасці, ісці ў пастухі, а пасля ў парабкоўцы да Свістунова, што ад яго адмовілася некалі цяперашняя Мішучыха – красуня, што яго жонка была калісьці ў старога Свістунова пакаёўкаю, і нібы гэты хваравіты, нездаляшчы да гаспадарскай работы Віця ад панскай крыві, што пан толькі з-за гэтага, як смяяліся за вочы, адпісаў яму пару дзесяцін зямлі і лесу, памогшы ўзбіцца на гаспадарку, злаваў, што на яго долю выпала столькі цяжкай працы, што яго за нешта – можа і за тое, што сам выбіўся ў гаспадары, багацейшы за ўсіх, – не любяць у вёсцы” [9, 29-30].

Узяўшы “панскае пакідзішча”, Пётра Гарбацэвіч парушыў закон натуральнай самарэалізацыі чалавека, пазбавіў сябе і блізкіх “радасці існавання”. У свой час да гэтага матыву звяртаўся К.Чорны (Ксавэр Блецька ў рамане “Вялікі дзень”), І.Мележ (Глушак у “Палескай хроніцы”). Ацэньваючы сітуацыю з пазіцыі покліча жыцця-хараства, Г.Далідовіч узмацняе ролю эстэтычнага крытэрыю ацэнкі нездаляшчых нашчадкаў Гарбацэвіча ад панскай крыві – белых, “як без крыві”:

“Янка зірнуў на аднагодка Віцю – той які ўжо тыдзень няголены, але не з густой шчэццю, як у бацькі ці ў яго, Янкі, а з рэдзенькім светлым пушком пад носам і на шчоках, мала большым, чым у яго сястры Анелькі, у аблезлай заечай, усё яшчэ завязанай пад падбародкам аблавушцы, у латаных-пералатаных, некалі пафарбаваных сажаю, а цяпер аблезлых портках, нібы жабрак, стаяў і пазіраў на ўсё – на сані з сенам, на агонь, што паспеў ужо раскласці Янка, – з абыякавасцю” [9, 14].

Хранатоп Г.Далідовіча сінхронна сумяшчае ў сабе вялікую і малую прастору. Глянуўшы на свет з вышыні стога, Янка тым самым пашырыў прастору свайго духоўнага свету, разняволіў думкі і пачуцці:

“Вочы аж разбегліся. Адчуваючы лёгкую дрыготку ў каленях і хмялеючы ад вышыні, бачыў доўгі-доўгі, аж за ружовы небакрай, чысцюткі, нібы вялізнае прасцірадла, луг, дзіўныя і файныя ўзоры на ім: чужыя рыжыя стагі з белымі шапкамі, вузкую няроўную, засланую белаю коўдраю рэчачку, сцішаныя алешыны аберуч яе. Абапал рэчачкі і шырокага лугу – па адзін і другі бакі – густою сцянаю стаяла Налібацкая пушча. Нідзе ёй ні канца ні краю. Маўклівая. Пагрозная. Нібы пустынная” [9, 8].

Унутраным зрокам Янка бачыць прасцягі хараства велькага свету і за межамі пушчы. Адна з такіх таямніц не так і далёка за лясамі – “стары і, як кажуць, пававабны і слаўны горад Навагародак, што некалі быў нават сталіцаю магутнай

дзяржавы”. Сузіранне з вышыні стога абуджае ў Янкі зусім новыя думкі і пачуцці, далёкія ад будзённых клопатаў:

“Ад незразумелага хвалюючага пачуцця яму хацелася зняць з галавы аблавушку, узяць яе ў руку і доўга стаяць, пазіраць удалячынь, аддаючы свету даніну загадкі, здзіўлення і павагі. І зняў, схіліў бы галаву ў пашане, каб не саромеўся суседзяў. Бо тыя раскажуць пра такі яго ўчынак – тады ўся вёска будзе смяяцца як з дзівака. Ён ужо ведае: людзі сваёй шчырасці саромеюцца, з чужой – смяюцца...” [9, 9].

Эстэтычнае перажыванне і філасофскі настрой сына перадаліся і старому Нямкевічу:

“Бацька замаўчаў і не падганяў скідаць сена, нібы дазволіў: зірні, сын, зірні на свет вялікі, на чужое багацце. Зайздросціць, можа, надта не варта, а па-добраму, па-гаспадарску і чужое агледзець ніколі не зашкодзіць” [9, 10].

Успрыманне паэзіі і хараства разлегласці выводзіць бацьку і сына на шлях філасофскага спасціжэння быцця. У забраным краі (Беларусі) з часоў забароны беларускага права – Статута рэдакцыі 1588 г. – застаецца нявырашаным кола важнейшых этыка-філасофскіх праблем, няма агульнага паразумення ў такіх пытаннях, як вышэйшая справядлівасць і парадак, пануюць фальсіфікаваныя ўяўленні пра сваё і чужое, роднае. У выніку няма цвёрдага грунту для ўвасаблення разумнага ў сапраўднае. Такая сітуацыя прыгнятае асобу, асуджае на існаванне на ўзроўні рабочай жывёлы:

Янка пазіраў-пазіраў удалячынь, а пасля адчуў: ужо не толькі здзіўляецца, хвалюецца, але пачынае і разгублівацца, нібы меншаць, нікнуць ад адчування вялікасці свету, вялікасці нечага багацця, нечай улады. І ад нейкай незразумеласці ды глыбока схаванай несправядлівасці. Бо што ні кажы, а ў жыцці яе вельмі і вельмі шмат. На кожным кроку. Усё гэта не толькі ўражвае, але і прыгнятае. Цяжка, непасільна, пакутліва і паныла [9, 11].

У сваім станаўленні Янка ўзняўся на вышыню “задумных” персанажаў у псіхалагічнай прозе М. Гарэцкага і выйшаў на паласу пераадолення беларускага гамлетызму – паныласці і прыгнечання. Яго старэйшы брат, настаўнік Алесь Нямкевіч, ужо выйшаў са стану “быць ці не быць”. Яго загартаваны дух гатовы да дзеяння на шляху адраджэння Бацькаўшчыны. Алеся не палохае ні царскі суд, ні турма, ні рэнегацтва прыстасаванцаў да рэжыму. Дзеячы нацыянальнага адраджэння ў беларускай літаратуры прынцыпова адрозніваюцца ад плакатных вобразаў рамантызаваных “рыцараў рэвалюцыі” і “жалезных” змагароў натуральнасцю чалавечага аблічча. Г.Далідовіч падкрэслівае, што ўлада якраз больш за ўсё баіцца натуральнасці і шчырасці ў адносінах нацыянальнай інтэлігенцыі з людзьмі сацыяльнага нізу. У асветніцкай працы настаўніка Нямкевіча ўлады ўбачылі пагрозу існаванню Расійскай імперыі, адхілілі яго ад працы ў школе, выгналі з Вільні. У Янкавінах Алесь са згоды бацькоў сабраў групу дзяцей і стаў іх вучыць па-беларуску. Роднай мове, захаванню нормаў народнай этыкі і народнай педагогікі Нямкевіч свядома адводзіў вядучую ролю ў фарміраванні комплексу роднасці – асновы сапраўднага патрыятызму. Апора на традыцыйна шанаваныя ў сялянскай грамадзе рэгулятывы па-новаму зблізіла Алеся з духоўна актыўнымі ў вёсцы людзьмі. Такімі з’яўляюцца нормы людскасці, чалавечай роднасці па крыві і па духу. Г.Далідовіч пераканаўча паказвае, што праблема “бацькі і дзеці” не з’яўляецца, як гэта прынята лічыць прыхільнікамі фрэйдызму, прыроджаным комплексам варожасці. Ясь Нямкевіч ацэньвае дзейнасць сына ў даступным яму кантэксце чалавечых пошукаў справядлівага ладу. Інтэлектуальны ўзровень беларускага селяніна-гаспадара дастатковы для таго, каб разважаць і думаць на ўзроўні філасофскага мыслення эпохі. Г.Далідовіч па-майстэрску ўзнаўляе іманентныя стылю нацыянальнага мыслення формы беларускай філасофскай гутаркі:

“Трэба, канечне, каб быў парадак <...> Але пры няпраўдзе, пры несправяд-

лівасці яго не было і не будзе... Дык таму каторыя людзі і дабіваюцца вот якраз гэтага – праўды і справядлівасці... Але такіх людзей век не любяць, душаць... Болей баяцца, стражэй караюць, чым казнакрадаў і забойцаў <...> А Алесь наш ... – зноў уздыхнуў. – Я яму, Петрык, нямала гаварыў: адумайся, сын, ці туды ідзеш, ці таго хочаш? Туды, адказвае, іду, і таго хачу, чаго трэба. Ён пра сябе не думае. Дбае пра тое, пра што мы, цёмныя людзі, не тое, што падумаць добра не ўмеем, але і не дагадваемся...” [9, 28].

Выказванне янкавінскага земляроба нагадваюць этычную аснову філасофіі Артура Шапэгаўэра ў яго працы “Свет як воля і ўяўленне”. Абодва яны бачаць перастваральную сілу ў вышэйшай справядлівасці. Ясь Нямкевіч, праўда, абыходзіцца без катэгорыяў “воля” і “ўяўленне”, але імпліцытна ў яго выказванні яны існуюць. А.Шопэнгаўэр лічыў волю эгаістычнай істотай, якая дзеля ўласнага здаволення можа зруйнаваць усё існае. Ён бачыў выйсце ў самагубстве волі на карысць незацікаўленага, эстэтыка-філасофскага сузіральнага спасціжэння хараства свету. Праўда, акрамя волі, ёсць, прызнаваў філосаф, яшчэ і жаданне (жыць), а яно, як вядома, не абмяжоўваецца эстэтычным сузіраннем. Так што вышэйшую справядлівасць, лічыў “геній песімізму”, не так проста сцвердзіць. На гэта патрэбны розум і воля. Чалавек еўрапейскайй цывілізацыі якраз і страціў волю да паўнацэннага жыцця ў пагоні за ўяўнымі каштоўнасцямі геданізму.

Погляд Г.Далідовіча на вышэйшую справядлівасць адлюстраваны ў мастацкай логіцы (унутранай форме) яго вялікага трыпціху “Свой дом”. Унутраным зрокам ён бачыць волю не ў адной, а ў некалькіх постацях. Ёсць воля добрая і злая, свая і чужая. Панаванне ў Беларусі чужой волі прывяло да аслаблення сваёй супольнай волі, да абясцэньвання сваіх духоўных і сацыяльных каштоўнасцяў. Важнейшая з іх – пачуццё роднасці: па крыві, па духу, па культуры, па мове. Дэнацыяналізаваная інтэлігенцыя ў Беларусі (як і ўсюды, дзе яна ёсць) на працягу стагоддзяў удасканальвалася ў прыстасавальніцтве да чужой волі, падтрымлівала зневажальныя канцэпцыі “заходніх” і “ўсходніх” квазівучоных. У раманным трыпціху празаік паказаў не толькі сацыяльныя і гістарычныя, але і псіхалагічныя вытокі беларускай трагедыі ХХ веку. Раманы Г.Далідовіча пра падзеі 1914 – 1920 гг. у Беларусі пісаліся як альтэрнатыва казённай гімнаграфіі бальшавіцкаму кіраўніцтву, якое нібыта жыло клопатам пра аднаўленне і ўмацаванне незалежнай беларускай дзяржавы.

Гістарычная проза Г. Далідовіча набірае сілу ў рэчышчы той плыні ў мастацтве, якую можна характарызаваць як эстэтыку пераадолення асобай і нацыяй паласы анамальнага сімбіёзу ў сваім станаўленні – таго рубяжа, на якім змагла “поруч з смеццем гожасць пышная ўзрасці” (Я. Колас). Канцэпт “перадолення”, характэрны як для эстэтычнай, так і для этычнай праграмы пісьменніка, можна разглядаць як мадыфікацыю характэрнага для Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча маральнага імператыву выйдзі , адрасаваны перш за ўсё “чулым сэрцам” – інтэлігенцыі: пачуй кліч роднага звону, устань і выйдзі на шырокі прастор грамадзянскага жыццядзеяння.

Я. Купала неаднаразова падкрэсліваў значэнне ў мэтанакіраваным адраджэнскім руху калектыўнай волі:

Ляці, імчыся, думка, вышай, далей,
Як вокам стрэліць можна у блакітну даль!
Схапі стуль песню з перуновай сталі
І прынясі мне волю сільную, як сталь! [23, 119]

Выхаваныя ў духу афіцыёзнага нігілісцкага стаўлення да сваёй культурнай спадчыны, апалагеты ўсходняй і заходняй “апекі” пастараліся дагадзіць гаспадарам. Падначаленыя ўладзе і чужыя народу афіцыйныя інстытуцыі духу – царква і школа – не паказалі народу яго ўласныя арыенціры і рэсурсы духу і фактычна

далучыліся да глумлення культурнай памяці беларускай нацыі, намагаліся ўбіць селяніну ў галаву комплекс, што ён “дурны, як варона” – якраз тады, калі еўрапейская цывілізацыя апынулася на ростанях, перад пагрозай правалу ў цёмнае Нішто, а ў беларускай інтэрпрэтацыі – у “ваўчыную яму”. У “бурапеннай” сітуацыі татальнага крызісу натуральнай жыццёвай патрэбай інтэлігенцыі павінна было б стаць жаданне актыўнай кансалідуючай дзейнасці. Менавіта на гэтым напрамку рэалізавала свой патэнцыял беларуская інтэлігенцыя ў мінулым. У сітуацыі крывавых разборак XII ст. Еўфрасіння Полацкая ставіла сабе задачай аб’яднаць этнас “яко душю єдіну”. Клопатам беларускіх мысляроў і асветнікаў наступных стагоддзяў была створана нацыянальная палітычная воля, якая рэалізавала ў той ці іншай меры ідэю душы адзінай у дзяржаўных структурах. Спачатку былі створаны баярскія рэспублікі – дзяржавы-княствы і дзяржавы-землі. У часы позняга Сярэднявякоўя была створана слаба цэнтралізаваная абмежаваная манархія, па сутнасці – шляхецкая рэспубіка без тыраніі. Дзейнічалі гэтыя ўтварэнні на грунце традыцый беларускага звычаёвага права (веча) і духоўных каштоўнасцяў земляробчага календара, маральнага кодэксу гераічнага эпасу, у якім галоўнымі героямі былі Гарошак, Музыка-чарадзей, Мікула Селянінавіч. Заснаваная на ўласных духоўных каштоўнасцях, беларуская дзяржаўнасць існавала ў Еўропе як рэальная альтэрнатыва тыраніі. Гэты статус быў неаднаразова пацверджаны ў збройным змаганні з “набрыддзю”. Высокі ўзровень беларускай нацыянальна-дзяржаўнай свядомасці знайшоў сваё адлюстраванне ў дактрыне літвінізму, увасобленай у трох рэдакцыях канстытуцыі XVI ст. – Статутах 1529, 1566, 1588 гадоў. Пра гэта ўсё паведаміў сваім вучням Алесь Нямкевіч у час першай з імі сустрэчы.

З пункту гледжання метадычнага ў лекцыі Алеся Нямкевіча не ўсё адпавядае ўзроставым магчымасцям вучняў, але ў святле мастацкай канцэпцыі аўтара гэтае педагагічнае выказванне ўспрымаецца яе істотны кампанент яго творчай праграмы. Абуджаны да асветніцкай працы, Алесь Нямкевіч ніколі не бывае абыякавым, але заўсёды застаецца ўраўнаважаным. Суд і турма не зламалі яго волю, не выбілі з творчага настрою. Вярнуўшыся праз тры гады з турмы, ён далучаецца да палітычнага змагання за адраджэнне беларускай дзяржаўнасці. Імперыялістычная вайна паскорыла сканчанне Расійскай імперыі Раманавых. У 1914 – 1920-х гадах беларускі рух апынуўся ў жорнах паміж двума імперскімі камянямі. Настаўнік Алесь Нямкевіч не хварэў на заходне- русізм, а нямецкая салдатня ў яго вачах была акупацыйнай арміяй. Мерай ісціны для Нямкевіча была мужыцкая праўда і нацыянальная беларуская “крыўда ўся”. Глыбока захаваная ўнутры энергія болю стала надзейным компасам ў калейдаскопе канцэпцый пад час чарговай смуты ў Расійскай імперыі. Для асабістага і нацыяльнага самавызначэння беларуская інтэлігенцыя павінна была пераплавіць пачуццё крыўды і напластаваныя ў душы пакуты ў “волю сільную, як сталь”. Узнікла патрэба мець здольнасць сказаць сваё “не для вас, паны”, перш за ўсё – “купленым прарокам”.

Беларускае мастацкае слова з часоў К.Каліноўскага перакоўвала песню-жальбу ў “дух непрыгонны”, пераплаўляла энергію болю ў сілу прасветленага дзеяння. Такі шлях станаўлення змаглі прайсці толькі тыя інтэлігенты, якія самі здабылі сабе духоўную свабоду ад афіцыёзу.

Сур’ёзным і небяспечным выпрабаваннем на гэтым шляху была спакуса абяцанага бальшавікамі пралетарскага раю. Дзеля яго дасягнення новая ідэалогія патрабавала адпрэчання ўсяго таго, што ўваходзіць у змест паняцця роднае. Замест традыцыйных каштоўнасцяў была прапанавана салідарнасць на аснове класавай прыналежнасці, катэгорыі вельмі рухомай і неакрэсленай у сучасным унутрана мабільным соцыуме.

Алесь Нямкевіч – адзін з найбольш задумных герояў трылогіі. Гэтая асаблівасць зближае яго з персанажамі беларускай прозы 20-х гадоў. Нямкевіч намагаецца

зразумець сутнасць бальшавізму і з павышанай цікавасцю і павагай ставіцца да ссыльнага інтэлігента Юрыя Казлова – пакутніка ідэі перабудовы ўсяго свету на камуністычны лад, каб жыць без войнаў і багоў. Нямкевіча мучыць пытанне, як гэта зрабіць. У Казлова на гэты конт ёсць простае і яснае рашэнне: “Трэба забраць уладу ў эксплуататараў, што вядуць войны для свайго ўзбагачэння і аддаць яе працоўным” [9, 29].

Пачутае не развеяла сумненняў у Нямкевіча, але шчырасць і самаахвярнасць адзінокага рускага аскета, асуджанага на забыццё і ціхае скананне ў хаце беларускай сялянкі, пакінулі ў свядомасці Нямкевіча глыбокі след. Юры Казлоў – яшчэ малады, але пасля чарговай хваробы “зусім худы, бела-жоўты, а вусы і бародка-клінок усохліся і ссівелі” – ціха сышоў у нябыт. Яго смерць сімвалізуе канец рамантычна-інтэлігенцкага перыяду ў гісторыі расійскага камунізму. Наступны этап – трансфармацыя камуністычнай утопіі ў антыутопію. Ідэолагі новага пакалення перайшлі ад мараў да гвалтоўнага ўкаранення свайго праекту. Этыку самаахвяравання пакінулі шараговым членам ордэна, сабе ўзялі кірунак на агрэсіўнае некрафільства. Паказваючы сутнасць нацыянальнай палітыкі расійскай кампартыі ў Беларусі, Г.Далідовіч адначасова адлюстраваў з’яву трансфармацыі камуністычнай ідэі ў Расіі: ад пропаведзі сусветнага братэрства і інтэрнацыяналізму камуністычная вярхушка хутка перайшла да ліквідацыі “нацыянальных рагаткаў” – нацыянальных культур, моў і саміх нацыяў. Беларускія нацыянал-камуністы бачылі і разумелі пагрозу новага імперыялізму пад чырвоным флагам, але іх моцна трымала ва ўладзе ілюзія абяцанага сацыяльнага разняволення нізоў. Патрэбна была палітычная воля нацыі, каб выйсці з-пад улады чужой волі. Патрэбна было адзінства трох палітычных цэнтраў, у якіх групаваліся дзяржаватворчыя сілы Беларусі: мінскага, віленскага, маскоўскага. Яшчэ большае значэнне мела праблема духоўнага вызвалення людзей сацыяльнага дна і аб’яднанне іх намаганняў у барацьбе за нацыянальна дзяржаўныя інтарэсы Беларусі. Беларускія патрыёты ў 1918 г. адчулі, што яны апынуліся на ростанях, у сітуацыі выбару паміж пагрозай хуткага ці павольнага скanання на вялікім гістарычным перавале. У беларускіх дзеячаў не было фінансавых сродкаў і часу наладзіць асветніцкую дзейнасць, сабраць з усіх франтоў салдат-беларусаў і стварыць сваё войска. Культурныя сілы былі таксама распылены на вялікім абшары імперыі. Прыгнечаныя галечай, выгнаныя казакамі ў бежанства беларускія сяляне не разумелі значэння сваёй незалежнай дзяржавы ў сваім жыцці і ў лёсе сваіх дзяцей. З вопыту сяляне ведалі, што дзяржаўны апарат – гэта “цемень-сіла”. На сходах яны галасавалі так, як загадвалі начальнікі. Бальшавіцкім верхаводам у Беларусі адкрыліся вялікія магчымасці для разгортвання прапаганды і арганізацыйнай дзейнасці.

Г.Далідовіч упершыню ў літаратуры савецкай эпохі выразна акрэсліў антыбеларускі характар дзейнасці бальшавіцкіх эмісараў у Беларусі. На з’ездзе сялян Віленскай і Мінскай губерняў у 1917 г. старшынёй камітэта быў выбраны Фрунзе. “Ты што – селянін? – папракае яго Максім Лашковіч, які некалі на катарзе ўратаваў знясіленага таварыша па долі Міхайлава-Фрунзе ад смерці. – Разумееш іхнія клопаты – клопаты нашых вяскоўцаў у тым ліку?” [10, 311]. Пасля падзення царызму у Фрунзе з’явіўся новы партыйны клопат – захаваць імперыю, перафарбаваўшы яе ў чырвоны колер. Беларускім сялянствам ён цікавіцца толькі таму, што камуністам трэба адлучыць сялянства ад беларускіх сацыялістаў, каб разваліць “нездаровы сепаратысцкі рух” за беларускую ўсяго толькі аўтаномію ў Расіі. Пытанне пра сувернітэт у яго поўным аб’ёме беларускія нацыянал-камуністы ўвогуле не ставілі.

У рамане “Пабуджаныя” ўпершыню паказана дзейнасць у Беларусі масонскага падполля – палітычнай сілы, з якой вымушаны лічыцца бальшавікі, нягледзячы на тое, што пасля перавароту ў іх распараджэнні засталася руская армія. Масонскі

цэнтр у Беларусі быў цалкам задаволены прызначэннямі на адказныя пасады новых кіраўнікоў Паўночна-Заходняга краю, які па ініцыятыве Мяснікова атрымаў назву Заходняй вобласці, перайменаваную пазней у Заходнюю камуну. У прэзідыум выканкама ўвайшлі Алібегаў, Осіпаў, Крывашэін, Казлоў. Старшынёй прызначылі Рагазінскага. Мяснікоў узначаліў два органы: Аблвыканкамзах і Паўночна-Заходні абласны камітэт РСДРП(б). Старшынёй СНК і камісарам унутраных спраў стаў Ландар. Берсану была адведзена пасада камісара па справах нацыянальнасцяў, Калмановічу – камісарыят харчавання, Фрэйману – камісарыят гандлю. Мяснікоў разам з Каменшчыкавым камандаваў яшчэ і войскам. Кадры былі падабраны так, каб выкрасліць назаўсёды з жыцця і з памяці ідэю беларускай дзяржаўнасці. Мяснікоў у бліжэйшай будучыні бачыў сябе ўжо дыктатарам на абшары Заходняй вобласці. Спачатку здавалася, што ў няроўным змаганні за беларускую аўтаномію беларускія патрыёты начале са Зміцерам Жылуновічам атрымалі перамогу. Іх падтрымаў Ленін, са Сталіным узгоднілі склад ураду. Аднак на партканферэнцыі ў канцы снежня 1918 года ўзгоднены спісак членаў беларускага ўрада быў парушаны. У яго склад былі ўключаны праціўнікі беларускай дзяржаўнасці і сярод іх – найбольш апантаныя: Мяснікоў, Калмановіч і Пікель. Беларусам адводзіліся другарадныя ролі. З.Жылуновіч, А.Чарвякоў, Я.Дыла нават і падумаць не маглі, што словы вышэйшых кіраўнікоў савецкай Расіі – не што іншае, як загадзя спланаваная хлусня. “Дэкларацыя правоў народа” была ўсяго толькі тактычным ходам. З цэнтра пільна сачылі за ходам нацыянальнага “ўпарадкавання” на ўскраінах імперыі і рабілі істотныя карэкціроўкі. Вельмі актыўныя Фрунзе і Мяснікоў былі адкліканы з Беларусі, а ў 1925 г. яны развіталіся з жыццём. Адзін – на аперацыйным стале, другі – у авіякатастрофе. Праз нейкі час зніклі Ландар і Кнорын.

Масонска-сіяністкі цэнтр у 1918 годзе быў задаволены вынікамі дзяржаўнага будаўніцтва і кадравай палітыкай бальшавікоў у Беларусі і прыступіў да вырашэння новых задач на шляху да мэты. Стаўка рабілася на фарміраванне ў грамадстве атмасферы татальнай нянавісці:

“ – Адпаведна, – даваў устаноўкі падначаленым і платным агентам Дзядзя, непрыкметны ў легальным жыцці бібліятэкар, – узмацняем ва ўсіх нянавісць да цара і да старога ладу, да легенды пра залаты век у мінулым (пра эпоху незалежнай беларускай дзяржавы ВКЛ – А.Р.), няспынна вяшчаем, выхоўваем любоў, цягу “да светлай будучыні” і няспынна множым, яшчэ раз паўтару, множым хаос, неразбярыху, распальваем варожасць паміж Саветамі і іх праціўнікамі, сутыкаем розныя палітычныя групіроўкі. Трэба яшчэ болей усіх заблытаць, знясіліць – вось тады, калі настане суцэльная неразбярыха, ва ўсіх апусцяцца рукі, – прыйдзе наша сапраўдная часіна ” [10, 530]. Класічны ўзор такой неразбярыхі – праведзеныя ў Брэсце перагаворы Троцкага з нямецкім камандаваннем пад лозунгам “ні вайны, ні міру”.

Вынікі філасофскага асэнсавання сацыяльнай дынамікі на пачатку XX веку ў трылогіі “Свой дом” адлюстраваны ў кагнітыўным змесце топікі, характэрнай для ўсіх трох раманаў. Сэнсы ключавога топасу “сярод” у трэцім рамане выходзяць далёка за межы канкрэтнага часу. Раскрытая аўтарам логіка змагання беларусаў за сваю дзяржаўнасць дае чытачу падставы для самастойнага заключэння: беларускія дзеячы пачыналі працу “сярод раз’юшаных сатрапаў”. Кожны з наезджай набрыдзі імкнуўся ператварыць беларускую нацыянальную культурную прастору ва ўласную сатрапію, народ – у натоўп бязвольных і бяспамятных абарыгенаў.

Г.Далідовіч знайшоў аптымальны варыянт адлюстравання спецыфічнага, знешне някідкага гераізму беларускага духу. Створаныя аўтарам партрэты беларускіх дзеячаў, у абліччы якіх выразна бачыцца рэальна існаваўшыя прататыпы, рашуча абвяргаюць выдумку пра грамадскую пасіўнасць і бязмежную талерантнасць беларускага характару. Таленту Г. Далідовіча арганічна проціпаказана казённая

патэтыка. Пісьменнік абыходзіцца без ходульнай тэатралізацыі і катурнаў. Рэзультат стрыманай манеры пісьма відавочны. Жывое чалавечае аблічча такіх персанажаў, як Максім Ласковіч, браты Ян і Антон Лапкінскія, браты Янка і Адам Аўторкі, Тарас Баравік, толькі падкрэслівае вышыню іх духу, самаахвярнасць у змаганні за справядлівасць і чалавечую будучыню нашчадкаў. У кожным з гэтых партрэтаў па-новаму бачыцца гераічнае аблічча рэальных змагароў-адраджэнцаў, якія ўступілі ў палітычную барацьбу, калі нават абуджаным патрыётам здаваліся фантастыкай такія паняцці, як беларускі ўрад і незалежнасць.

Гераізм без патэтычных аксэсуараў – гэта адзін бок стылю гісторыка-палітычнага рамана Г. Далідовіча. Не менш важнае значэнне мае спосаб актуалізацыі сэнсаў і ўрокаў гісторыі, кругі якой, на жаль, часта паўтараюцца не на дабро чалавеку. Г.Далідовіча ў аднолькавай меры цікавяць як здабыткі, так і страты на шляху да паўнацэннага самасцвярджэння беларускай нацыі ў агульнаеўрапейскай гісторыі. Вялікім дасягненнем герояў 1917 – 1918 гадоў з’яўляецца тое, што ўся іх дзейнасць разгортвалася на аснове духоўных каштоўнасцяў свайго народа, хоць нацыянальны вопыт на той час па-філасофску быў асэнсаваны толькі часткова. Навуковае афармленне беларускай нацыянальнай дактрыны і па сённяшні дзень застаецца актуальнай праблемай гуманітарыстыкі.

Укараненне ў жыццё вышэйшай справядлівасці, у існаванні якой не сумняваліся Платон, Гегель, Шопэнгаўэр і беларускі селянін Ясь Нямкевіч – гаспадар з-пад Налібакаў, можа быць дасягнута намаганнямі вышэйшага розуму ў згодзе з добрай воляй нацыі. Беларуская палітычная інтэлігенцыя ў 1917 – 1920 гг. яшчэ не ўсведамляла таго факту, што існаванне незалежнай нацыянальна-дэмакратычнай Беларусі вызваляе еўрапейскую цывілізацыю ад пагрозы апынуцца ў XX ст. у непасрэднай блізкасці з тыраніяй усходняга тыпу. У свой час бар’ерам на шляху татара-мангольскай навалы на ўсходзе Еўропы была беларуская незалежная дзяржава ВКЛ. Плаваючы ў скаламучаных хвалях карыслівага прагматызму, еўрапейскі аналітычны розум не заўважыў у агульнаеўрапейскай гісторыі такой “дробязі”, як роля беларускай дзяржаўнасці ў захаванні каштоўнасцяў заходняй цывілізацыі. Усведамленне гэтай з’явы магло бы мець пэўнае дзеянне, скіраванае на кансалідацыю дэмакратычных сіл у Еўропе перад пагрозай сацыяльных эксперыментаў.

Г. Далідовіч прапануе чытачу ацаніць значэнне рэальнага ўзроўню гістарычнай свядомасці стваральнікаў беларускай дзяржавы. Заклікаючы “да сумлення” Ландара і Мяснікова, якія “кінулі нас пад ногі немцам і Доўнар-Мусніцкаму”, і, уцякаючы, прыхапілі з сабою “казну”, удзельнікі снежаньскага Усебеларускага кангрэсу годна адказалі на абвінавачванні ў самазванстве:

“Цяпер мы як законны Беларускі Прадпарламент бяром на сябе законнае права клапаціцца пра свой народ. А вось вы, чужакі, гвалтам захапілі тут уладу, штыкамі разагналі наш з’езд і ўрад, дык вы сапраўды самазванцы. Але вам нічога не дапаможа, бо ў вас свая карыслівая мэта, дык і не будзем дыскутаваць. Тым больш, што справядлівасць усё ж ёсць: вы, адкуль прыйшлі, туды і ўбірайцеся, а мы бяром уладу, ахоўваем родны край, ад якога нам няма куды ўцякаць” [11, 47].

Гэтак жа годна на сустрэчы ў Леніна адказвае Мяснікову Зміцер Жылуновіч на яго рэпліку, што ў Расіі нібыта няма сярод беларусаў тых, хто можа ўвайсці ва ўрад, тым больш – узначальваць яго:

“ – Калі гэта, таварыш Мяснікоў, ваш апошні аргумент супраць таго, каб абвяшчаць Беларусь, то ён вельмі ж надуманы і несумленны, – рэзка сказаў. – Паверце, і я, калі будзе згода ЦК, Савецкага ўрада, здолею сфарміраваць беларускі ўрад. І з інтэлектуальных таварышаў, сапраўдных камуністаў. Так што яшчэ можам падумаць, ці ўключаць туды вас ” [11, 312 – 313].

Гісторыка-палітычныя раманы Г. Далідовіча пераканаўча паказваюць, што ў час нямецкай акупацыі, як і на Усебеларускім кангрэсе ў снежні 1917 г., была

рэальная магчымасць кансалідацыі на патрыятычнай аснове беларускіх нацыянал-дэмакратаў і нацыянал-камуністаў. Камуністычнае кіраўніцтва ў Маскве не грэбавала ніякімі сродкамі, каб перашкодзіць утварэнню незалежнай беларускай дзяржавы.

Відаць, першым у Беларусі палітыкам, які гаспадарскую парадыгму ліцвінізму вярнуў у грамадскае жыццё, быў Кастусь Каліноўскі, ён жа – Яська гаспадар з-пад Вільні. Г. Далідовіч падкрэслівае, што змагары за адраджэнне беларускай дзяржавы адчуваюць сябе не неафітамі ці апалагетамі нейкага вучэння, а сынамі свайго народа, законнымі гаспадарамі сваёй зямлі і культурнай спадчыны, адказнымі за лёс народа на зломе эпох. Яны не маюць патрэбы ў культуртрэгерах. Г. Далідовіч выкрасліў з паэтыкі гістарычнага рамана абавязковыя на працягу доўгага часу матывы выхавання ці прасвятлення тубыльцаў “пад уплывам”. Не засталося следу і ад абразлівай канцэпцыі “старэйшага брата” ці класава свядомага пралетарыя. Мудрасць свайго народа (у Ф.Скарыны – “закон прыроджаны”, у Я. Коласа – “мудрасць зямлі”, у рамане “Кліч роднага звону” – дзедаўшчына) пралівае святло на шлях да прарыву, да выйсця з блакады ў сапраўднае жыццё і, галоўнае, абуджае патрэбу ў самасцвярджэнні на самых высокіх узроўнях палітычнага функцыянавання нацыі:

“Я – сын таго амаль дзесяцімільённага народа, які і раней не прызнавалі, і цяпер многія, у тым ліку і некаторыя нашы камуністы, не лічаць за народ, а за галінку вялікарускага дрэва” [11, 308 – 309], так прэзентуе сябе З.Жылуновіч на прыёме ў Леніна. Гэта быў заадно і пратэст супраць разбуральнай дзейнасці Мяснікова і яго “сяброў”, якія “лёгка русіфікаваліся”, а цяпер ім “вельмі не церпіцца адвабіць ад свайго і астатнія нацыянальныя меншасці”.

Сутнасць паказанай у раманах Г. Далідовіча дзейнасці Мяснікова раскрывае ён сам на прыёме ў Леніна:

“Мы, камуністы, павінны сыходзіць з тых пазіцый, што час нацыянальных дзяржаў і ўвогуле ўсяго нацыянальнага мінуў. Мы ідзём да наднацыянальнага аб’яднання дэмакратыі, працоўных. Пагэтаму цяпер неразумна бурыць той вялікі расійскі дзяржаўны арганізм, што склаўся за стагоддзі, дзяліць яго на асобныя рэспублікі, свядома распальваючы ў іх нацыяналістычны сверб. Мы ў гэтым сэнсе павінны не адракацца ад заслуг імперыялізму, які зрабіў нямала для таго, каб утварыць новы тып дзяржаўнасці – наднацыянальнай дзяржавы” [11, 307].

Сутычка З. Жылуновіча з Мясніковым на прыёме ў Леніна нагадвае бітву Удовінага сына са шматгаловымі змеямі ў іхнім логаве. З.Жылуновіч валодаў энергіяй змагара за жыццёвыя інтарэсы народа і належным веданнем. Імперская рыторыка Мяснікова, моўчкі падтрыманага Леніным і Сталіным, не выбіла Жылуновіча з каляіны.

Беларуская думка яшчэ да бальшавіцкага перавароту дала належны адказ на прыхаваныя шавіністычныя выклікі заходнерусізму. Канцэпцыя адзінага народа перакрэслівала нацыянальную годнасць беларусаў і украінцаў, якія не прызнаваліся за самастойныя народы з іх правам на сувярэннае дзяржаўнае жыццё. Бальшавікі пераняў эстафету расійскага імперыялізму, але не ўсе ў вышэйшым кіраўніцтве дзейнічалі так адкрыта і прымітыўна, як гэта ў Беларусі рабілі Мяснікоў і Кнорын. Сцэна на прыёме ў Леніна вылучаецца вытанчаным майстэрствам апісальнага партрэта і псіхалагічнага аналізу, які працуе на спасціжэнне філасофскага кораня эпохі. З.Жылуновіч бачыў Леніна раней, “заўсёды жвавага, запалістага, гаваркога”. Цяпер ён быў “не то Ленін, не то не”: у вачах – “нейкая бездань стомы, якогасьці цяжару, а на твары бледнасць”. Правадыр усё ж вымушаны весці пачатую ім вялікую гульню ў справядлівасць. Сёння ён абвясціў правільнае рашэнне, каб заўтра верныя ленінцы зрабілі ўсё наадварот. Сталін таксама дэманстраваў стомленасць і падкрэсленую абыякавасць да таго, чым гарэў З. Жылуновіч: “зноў апусціў га-

лаву і зноў штосьці маляваў у сваім блакноціку", "усім выглядам паказваў сваю стомленасць, а то і не такую ўжо вялікую важнасць таго, пра што тут гаварылі" [11, 313]. Пытанне было ўжо вырашана. Мяснікову, якому не дадзена зразумець вытанчаны макіявелізм правадыроў, адведзена роля выканаўцы мудрага рашэння – будаваць незалежную Беларусь без беларусаў. А З. Жылуновіча правадыры дзеля ўласнага камфорту супакоілі абяцанкаю: кіраваць будзеце на парытэтных пачатках. А на канферэнцыі таварышу Мяснікову было даручана агучыць спіс, зроблены рукою таварыша Сталіна: "У склад Прэзідыума ЦБ КП(б)Б прапануюцца: Мяснікоў – старшыня, Калмановіч – намеснік, Кнорын – сакратар ".

З. Жылуновіч быў аглушаны здрадным ударам: ён ведаў, чым скончыцца для Беларусі апека тройкі, прызначанай маскоўскімі правадырамі. У адчаі і надзеі ён звярнуўся да сумлення камуністаў у зале: "Я прашу вас, таварышы: не дапусціце несправядлівасці. Нашых і вашых камуністаў павінна быць у ЦБ толькі пароўну. І беларускую кампартыю павінен узначаліць карэнны чалавек" [11, 332]. Гэта быў крык адзінокага ў пустыні. "Таварышы" прайшлі добрую вывучку ў правадыроў і ўжо ведалі: камуністы не бываюць нашымі ці вашымі. У іх не павінна быць нацыянальнай прыналежнасці і радзімы. Камуністы – салдаты партыі і павінны дбаць толькі пра сусветную камуну і сусветную рэвалюцыю. На канферэнцыі ў снежні 1918 г. Мяснікоў яшчэ раз абвясціў гэтыя ісціны камуністам Беларусі. У новенькай вайсковай форме ён адчуваў сябе ўжо трыумфатарам у сваёй сатрапіі – Заходняй камуне, якую, праўда, усё ж перайменавалі ў Беларускую сацыялістычную рэспубліку. Аднак у павярхоўна абруселага Мяснікова ў душы ўжо нічога не засталося ад усходняй мудрасці продкаў, а новае, нігілісцкае веданне затуманіла зрок. Мяснікоў не бачыць, што яго трыумф – гэта пачатак яго канца. Бальшавізм трымаецца на некрафільстве.

У рамане "Свой дом" духам некрафільства прасякнуты ўсе сітуацыі, у якіх адлюстравана дзейнасць масонскага падполля і бальшавіцкага кіраўніцтва. Адна з найбольш па-мастацку пераканаўчых у гэтым плане сітуацый – сцэна ў кабінеце Леніна. Фарбы, якімі намалявана карціна учыненага Леніным і Сталіным здзеку з Жылуновіча і беларускага народа, нагадвае "трупежоўтую" (Я. Купала) каларыстыку "ленініяны" ў творах М. Савіцкага.

Кіраўнічыя вярхі масонскіх і сіянісцкіх рухаў не хавалі каставай сутнасці сваёй ідэалогіі, трактуючы яе як абсалютную ісціну. Бальшавіцкае кіраўніцтва мела патрэбу ў палітычных падпорках з боку сацыяльных нізоў. Яно вымушана было хаваць свае сапраўдныя інтарэсы пад покрывам дэмакратычнай рыторыкі. У рамане "Пабуджаныя" Г. Далідовіч паказаў, што масонскі рух у Беларусі не мае ні сацыяльнай, ні духоўнай базы. Да яго на службу могуць пайсці толькі асобныя выраджэнцы нацыянальнай інтэлігенцыі. Бальшавіцкая ж тактыка прадугледжвае шырокую ўтылізацыю люмпенізаванай масы. "Паўстанне масаў" (Артэга-і-Гасэт) у сітуацыі крызісу і пры адсутнасці ў імперыі традыцый грамадзянскага грамадства, грамадскіх інстытуцый бальшавікі выкарысталі для таго, каб перахапіць ініцыятыву, прысвоіць сабе манаполію на народнае прадстаўніцтва, гаварыць ад імя народа, які ў Расійскай імперыі на працягу вякоў "безмолвствует". Вера ў сацыяльныя міфы бальшавіцкай ідэалогіі ў свядомасці беларускіх нацыянал-камуністаў суадносілася з разуменнем справядлівасці ў народнай свядомасці. Бальшавіцкая прапаганда ў сваіх карыслівых мэтах спрытна выкарыстала давер людзей, для якіх паняцце людскасці ніколі не было пустой абстракцыяй. Кіруючыся этычнай нормай грамады (абшчыны), беларускія нацыянал-камуністы не валодалі ў належнай меры філасофскім разуменнем сацыяльнай дынамікі ў эпоху татальнага крызісу гандлёвага грамадства. А. Чарвякоў, З. Жылуновіч, Я.Дыла, Лагун не маглі ўявіць, што "свой чалавек", кіраўнік працоўных мас, якія змагаюцца за светлую будучыню, можа апусціцца да ўзроўню разбэшчаных раскошай і ўладай

над падданымі тыранаў ў палацах, пабудаваных, калі выкарыстаць метафару народнай казкі, на чалавечых касцях.

Падобнага роду біфуркацыю ў грамадстве прадбачылі выдатныя дзеячы культуры яшчэ на пачатку індустрыйна-гандлёвай цывілізацыі. Бальшавікі праблемы духу аднеслі да другасных невыпадкова. Заснавальнік нэакантыянскай плыні ў філасофіі В. Віндэльбанд у працы "Пра свабоду волі" (1904) пісаў пра пагрозу духоўнай дэградацыі: "Але грамадзянская несвабода заключаецца не толькі ў адкрытым знішчэнні свабоды дзеяння: да фізічнага прпымусу, да звязвання і зняволення яна далучае псіхічны прымус, які, быць можа, яшчэ больш пакутлівы" [21, 29]. Праз усю творчасць Я. Купалы праходзіць матыў Сам-сітуацыі, якая можа быць няволяй ці ямай, створанай чалавекам самому сабе. Пра пагрозу ачмурэння алкаголем бальшавіцкай прапаганды гаварыў беларускі філосаф Ул.Самойла ў рабоце "Гэтым пераможаш!.." (1924). Менавіта ў такое становішча загналі сябе члены беларускіх камуністычных секцый у Маскве. З. Жылуновіч, А. Чарвякоў не прымалі ўдзелу ў сустрэчы кіраўнікоў БНР і БРВ (Беларускай Рады Віленшчыны), якія ў 1918 г. імкнуліся аб'яднаць намаганні ў палітычным супрацьстаянні нямецкаму і бальшавіцкаму імперыялізму. Пераадоленне супярэчнасцяў у поглядах беларускіх патрыётаў у Мінску, Вільні і Маскве на дзяржаўнае будаўніцтва было відавочнай неабходнасцю на шляху паспяховага вырашэння праблемы самастойнай беларускай дзяржавы. Змагаючыся супраць прамаскоўскіх ліквідатараў беларушчыны, З.Жылуновіч усё ж не дапускаў нават думкі пра аб'яднанне з патрыётамі БНР і БРВ, агульна абвінавачваючы іх у супрацоўніцтве з буржуазіяй. Разыходжанні былі пераадолены ў 1925 годзе, але гэта было ўжо зроблена па часе: рэпрэсіўная машына пачала набіраць абароты.

Трылогія "Свой дом" заканчваецца двума своеасаблівымі эпілогамі. Першы – гэта прасякнутая прасветленай элегічнай настраёвасцю сцэна сціплага свята. Сустрэча З. Жылуновіча і Я. Дылы з Я. Купалам у яго кватэры стала часінай ціхай урачыстасці творцаў, якія вярнулі з нябыту і ўвасобілі ў сацыяльную рэальнасць беларускую ідэю.

Другі эпілог нагадвае рэквіем, прысвечаны памяці "ахвяраў незлічоных, рукой гвалтоўнай кінутых на дол" (А. Куляшоў). Ворагамі народа былі абвешчаны ўсе стваральнікі БНР, БРВ і БССР. Пераважная большасць іх загінула ў гады рэпрэсій. Такі ж лёс напаткаў і іншых персанажаў трылогіі – тых людзей, якія ўвогуле не займаліся палітычнай дзейнасцю.

Аўтарская вобразная думка ў фінале трылогіі прасякнута ўсведамленнем неабходнасці прадоўжыць мастацкі і філасофскі пошук ісціны – шлях да вышэйшай справядлівасці. Проза У. Караткевіча забяспечыла чытачу магчымасць узняцца на вышыню духоўнага паяднання з героямі 1863 года. Трылогія Г. Далідовіча адкрывае шлях да спасціжэння трагедыі герояў 1918 года, якія вырвалі Бацькаўшчыну з брудных рук набрыднікаў і не дазволілі ператварыць старонку родную ў цэнтральнаеўрапейскую сатрапію.

Мастацкі змест заключнай часткі трылогіі не вычэрпваецца настраёвасцю. Праблематычнае адзінства цыклаў малой і вялікай жанравай формы адлюстроўвае характар той звышзадачы, ад якой Г. Далідовіч ніколі не адыходзіць у працэсе творчасці, – паказу канцэнтрацыі гісторыятворчай энергіі нацыі. Пісьменнік нястомна трымае ў полі зроку дзеездольную сілу народа, працэс тварэння меншага і большага соцыуму – ад узнікнення сям'і да крышталізацыі нацыянальна-дзяржаўнага аблічча народа. Перавага пры гэтым аддаецца паказу да цэнтрабежнай дынамікі. Здольнасць тварэння (у любым асяроддзі) чалавечай сітуацыі трактуецца як важнейшы крытэрый годнасці грамады і асобы. Гэтым самым здымаецца дыхатамія грамадскага і асабістага інтарэсу. Г. Далідовіч паказвае інтымныя адносіны ў іх першапачатковай чысціні і першасным, экзістэнцыяльным значэнні – як покліч

таямнічай сілы тварэння з глыбіняў космасу, цела і духу, як заклік да працэсу жыцця і дасканалення чалавечага роду. І ў гэтай сферы празаік застаецца рэалістам. Семантыка і эмацыянальны змест характэрнага для беларускай літаратуры фрэйму "маладыя гады, маладыя жаданні" ў яго прозе не абсалютызуецца і не ўздымаецца па-над агульнай культурай персанажаў. Наадварот: аўтар выразна дае адчуць, што культура інтымных адносін янкавінцаў абумоўлена іх агульнай культурай, схільнасцю і здольнасцю бачыць і тварыць хараство там, дзе яно ёсць і павінна быць, на сваёй спрадвечна роднай дзялцы на планеце Зямля. Своеасаблівым працягам беларускай песні песням, створанай Я.Купалам у паэме "Яна і Я", быў паэтычны псіхааналіз М. Багдановіча, К. Чорнага і І.Мележа. Ідучы ў рэчышчы гэтай традыцыі, Г. Далідовіч адкрывае жыццятворную сілу хараства – першых парасткаў новых пачуццяў, думак і спадзяванняў, якімі жывуць яго юныя героі ("Гаспадар-камень"). Пранікнёна гаворыць аўтар пра паэзію мацярынства і бацькоўства, пра агульначалавечы сэнс спадчыннай, закладзенай у падсвядомасці маладых бацькоў устаноўкі на жыццё ў шчаслівым клопаце і дбайнасці пра гарантаваную будучыню сваіх дзяцей ("Заходнікі"). Культура чалавечых пачуццяў і мудрасць грамадскага ўладкавання ўдасканальваліся ў народзе на працягу тысячагоддзяў існавання ў агуле, у клопатах пра агульныя інтарэсы грамады.

У новым часе (з XVII ст.) чалавецтва ("люд паспаліты") пачынае ўсведамляць, што рухацца далей, у новую стадыю чалавечага быцця, можна толькі ў новай "агромністай такой грамадзе" – у формах этнічна-тэрытарыяльнай дзяржаўнасці – аптымальнага на сучасным этапе спосабу дасканалення чалавека і сацыякультурнай сітуацыі ў цэлым. На гэтым шляху чалавецтва зноў сутыкнулася са спрадвечным злом – імперыялізмам у мадэрнізаваных яго формах. Гэтак званы культурны імперыялізм імкнецца падарваць знутры чалавечую прыроду. Дзеля гэтага ствараецца магутная індустрыя абясцэньвання і разбурэння першаасновы духоўнай культуры – пачуцця чалавечай роднасці, якое ў сялянскай грамадзе лічылася вышэйшай сацыяльнай каштоўнасцю.

Істотным кампанентам рэалістычнай эстэтыкі Г. Далідовіча з'яўляецца праўда пра пагрозу культурнай дэградацыі ў тупіковай сітуацыі сялянства – сацыяльнага рэзерву культуратворчай энергіі нацыі. Ясь Нямкевіч ("Гаспадар-камень"), празваны вяскоўцамі Мудрым, раптам рэзка памяняў арыентацыі і ацэнкі на процілеглыя, калі з'явілася магчымасць далучыць да свайго кліна ажно сем дзесяцін пасагу, які Гарбацэвіч павінен даць за Анэлькаю, калі хто-небудзь возьме яе замуж. Так што з Шубіна гаспадар Нямкевіч прывёз не толькі два вазы сена, але і цвёрдыя намеры навязаць сыну сваю бацькаву волю: пакінуць Зоську і пасватацца да Гарбацэвічавай дачкі. Тут мудрасць філасофскага развагажання пакінула старога Нямкевіча, яе перамаглі разлік і тупая воля. І толькі пасля імперыялістычнай і грамадзянскай войнаў Ясь Нямкевіч убачыў першыя вынікі свайго рашэння – скалечаныя лёсы Янкі і Мішуковай Зосі. Ды і Анэлька адчувала сябе беспрытульніцай у хаце Нямкевічаў. Зосьчыны бацькі, як і яна сама, таксама не мелі ўцехі ад сваяцтва са знелюдзелым Гарбацэвічам. А сама Зося, гадуючы сваіх і Янкавых дзяцей, жыла ў Гарбацэвічаў з пачуццём агіды да Віці – нібыта мужа, які ўсё больш і больш становіцца падобным да тыпу Смердзякова, створанага Ф. Дастаеўскім. Вернасць Янкі і Зосі пачуццям свайго юнацтва ў сталыя гады трансфармавалася ў "загуменнае" каханне. Ясь Нямкевіч перад смерцю папрасіў у Янкі даравання за тое, што не даў дазвол на сватанне да Зосі. Без сватання, без згоды бацькоў вяселлі ў вёсцы не спраўляліся. Другога, жахлівага выніку выбару нявесткі з пасагам стары ўжо не ўбачыў: ён памёр да таго, як пасля "ўз'яднання" гаспадарка Яна Нямкевіча была прызнана кулацкай, а яго самога разам з жонкай і дзецьмі вывезлі. Калі і дзе яны згінулі – пра гэта ніхто з вяскоўцаў нічога не ведае.

Вартасці рэалізму Г. Далідовіча вымяраюцца не толькі дакладным узнаўленнем побытавых ("тыповых") дэталяў і акалічнасцяў. Увага пісьменніка засяроджана на вялікіх аб'ектах сацыяльнага працэсу, на абагульненне сэнсавых значэнняў сацыяльнага быцця. Г. Далідовіч імкнецца ахапіць нацыянальна-гістарычную карціну быцця ў яе цэласным выглядзе, паказаць нацыю як гістарычна ўстойлівую супольнасць сацыяльных страт і этнічных групаў, аб'яднаных адзінствам жыццёвых інтарэсаў у працэсе сацыякультурнай творчасці, у ходзе пераадолення хваробаў росту і пошасцяў, занесеных набрыддзю. Самай небяспечнай, разбуральнай з'яўляецца пошасць нацыянальна-этнічнага нігілізму, які праз усе вякі быў ядром імперскай ідэалогіі, прыкрытай фігавым лістком "абранага богам народа", блакітнай крыві, вышэйнай касты ці пралетарскага паходжання. Гэтая хвароба перш за ўсё прыстае да спешчаных індывідуумаў з вышэйшых кастаў, потым фарміруе схільнасць да рэнегацтва ў асяроддзі інтэлігенцыі і, нібы шашаль, точыць ("шашэліць") кроўную і духоўную повязь агулу сярэдніх слаёў і сацыяльнага дна.

Г. Далідовіч у працэсе станаўлення супольнасці вылучае не толькі рэальныя дасягненні, але і рэальныя страты на шляху беларускай нацыі да суверэннай дзяржавы. Царскі рэжым у Беларусі меў значныя дасягненні ў разбурэнні нацыянальнай асветы, культурнай памяці і ў выніку – нацыянальнай самасвядомасці. Г. Далідовіч паказвае не толькі самаахвярных змагароў-інтэлігентаў, але і нацыянальных рэнегатаў сярод "народнай" па паходжанні інтэлігенцыі. Лідскі і Муха, напрыклад, не толькі ахайваюць свой народ, але і забяспечваюць за грошы інфармацыяй масонскае падполле і паліцыю. Беларусь у найноўшым часе апынулася перад пагрозай застацца краінай, у якой значная частка інтэлігенцыі страціла нацыянальнае аблічча і патрыятычную арыентацыю. Гістарычная проза Г. Далідовіча – гэта кліч, звернуты перш за ўсё да інтэлігенцыі з надзеяй на яе абуджэнне. Раман "Свой дом" заканчваецца словам Я. Купалы да З. Жылуновіча і Я. Дылы, а заадно – і да сучаснай інтэлігенцыі:

"Я, дарагія Зміцер і Язэп, не палітыкаваў, як вы, – быццам цяпер каючыся за тое, што раней лічыў вартасцю, – прамовіў ён. – Але сёння вельмі рады, што ўсё ж былі, ёсць у нас слаўныя сыны, што не цураліся гэтага, смела кінуліся ў вір, што завецца палітыкай, змагаліся, траплялі ў турмы, трацілі змоладу здароўе, цярпелі, гартаваліся і вось нарэшце дабіліся прызнання, пасаду для свайго прыгнечанага і прыніжанага народа " [11, 342].

Словы Я. Купалы ў канцы трылогіі адчыняюць браму да скарбаў беларускага гераічнага духу. Даючы слова волатам, якія вырвалі Бацькаўшчыну з кіпцюроў Цмока, Г. Далідовіч прапануе сучаснікам шлях духоўнага супрацоўніцтва і новага пазнання і разумення лёсавызначальнай ролі гераічнага змагання блізкіх і далёкіх продкаў за незалежнасць краіны. Сыны суверэннай Беларусі ўжо не будуць масціць сваімі касцямі дарогу, па якой трыумфатарская каляска набрыдзі прагне дамчаць да сусветнай тыраніі ад мора да мора, ад акіяна да акіяна. Суверэнная Беларусь – гэта самы пераканаўчы доказ жыццёвасці беларускай народнай думкі, народнай філасофіі існавання. Важнейшы прынцып народнасці культуры – патрабаванне да суб'екта асэнсаванага валодання сумарным вопытам гісторыі, умелай перакоўкі радасці здабыткаў і горычы стратаў у дабрадзейную волю і прасветлены розум супольнага суб'екта, нацыі ў цэлым. Менавіта такая праграма пераадолення ўлады цемры выказана ў "казках жыцця", стваральнікамі якіх былі Рэдкі, Стары Дзед Савіцкі, Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля, М. Гарэцкі, К. Чорны, В. Быкаў.

Сціплая, прасякнутая духам урачыстасці і сардэчнасці ў фінале трылогіі бяседа ў доме Я. Купалы з удзелам З. Жылуновіча, Я. Дылы і цёткі Уладзі непрыкметна пераключаецца ў плоскасць філасофска-эстэтычнага спасціжэння сацыяльнага дзеяння змагароў за незалежную Беларусь. Прызмай, праз якую выразна бачыцца гераічная аснова кансалідуючай дзейнасці, з'яўляецца казка пра Удовінага Сына.

Канцэптуальныя ёмкасці гэтага шэдэўра народнай мудрасці даюць падставы для таго, каб кваліфікаваць чарадзейную казку як разнавіднасць фальклорна-філасофскага мікрарамана. Ідэйны сэнс твора – у закліку да кансалідацыі базавых, ніжэйшых слаёў нацыі з уладай і гандлёвай (купецкай) стратамі ў змаганні за вяртанне ўкрадзенага залётнай набрыддзю агульнага сакральнага скарбу – сонца, зораў і месяца. Галоўнай сілай у змаганні з'яўляецца мэтанакіраваная воля агулу, увасобленая у канцэптуальным вобразе Удовінага сына, дабрыня і шчырасць якога прываблівае да сябе ўсё жывое на зямлі. Перад супольнай дабрадзейнай воляй усе захады, змовы і хітрыкі "аднабокай" тыраніі – бабы Карготы і цара Пастаянца – асуджаны на поўны крах.

Г. Далідовіч падкрэслівае, што апалагеты "тэорыі" дзвюх ісцінаў – Лідскі і Муха – невыпадкова ахайвалі народную мудрасць, "мужыцкую" творчасць Я. Купалы і Я. Коласа і тую ж чарадзейную казку, у якой імпліцытна асуджаецца рэнегацтва і грамадзянская пасіўнасць.

Сюжэтыка і пластыка ў карціне сустрэчы Я.Купалы, З.Жылуновіча і Я.Дылы з удзелам Уладзіславы Луцэвіч у фінале "Свайго дому" вырастае да маштабаў скульптурна адлітага сімвала, у якім сканцэнтраваны момант ісціны – энергія і сіла духу змагароў за вольную Беларусь у ХХ-м стагоддзі.

## Вехі беларушчыны

Над трылогіяй "Свой дом" Г. Далідовіч працаваў з адчуваннем выкліку жывучых імперскіх амбіцыяў і покліч вышэйшай справядлівасці да дзеяння. Па меры заглыблення ў сэнс праблемы ўмацоўвалася перакананне, што, акрамя праўды фактаў, патрэбна яшчэ глыбокае сістэмнае, канцэптуальнае разуменне сваёй гісторыі. Канцэптуалізацыя і рэалістычная сімволіка ў фінале трылогіі засведчылі паварот аўтара на шлях сутнаснага, філасофскага самапазнання, праграму якога на працягу дзесяцігоддзяў фарміравала беларуская філасофская лірыка. У. Жылка ў 1921 г. змест і актуальныя задачы нацыянальнага мыслядзеяння абазначыў сэнсаваёмкім канцэптам палімпсэст:

Краіна родная! Так сталася й з табой.
Багацце й хараство твае прыроды
І прошласць слаўную змяшаў чужак з гразёй
І словы вывеў гідкія для зводу.

Але працоўны дух, разбіўшы мур турмы,
Здалеў вяковы бруд паганы змесці.
І з дзіўнай любасцю чытаем тое мы,
Што захавалася на палімсэсце [29, 29].

У рамане "Заходнікі" Г. Далідовіч у якасці першаснай ставіць задачу ачышчэння беларускага палімсэсту ад паганага бруду з былога і новага часу. З першага да апошняга радка ў рамане арудуе агідная рука набрыдніка Кураглядава, пастаўленага ўладай у Янкавінах на пасаду старшыні, спачатку сельсавета, потым – калгаса. Кураглядаў – адзін з тых "васточнікаў", якіх прысылалі на ўмацаванне савецкай улады ў Заходнюю, "не внушающую доверия", Беларусь.

Спачатку Апанас з Ветрава ўмацоўваў савецкую ўладу на пасадзе дырэктара мясакамбіната. Потым яго за непамерную памаўзлівасць перакінулі ў пушчу. Тут ён таксама заставаўся верным сваёй натуры, якая даўно адышла ад натуральных нормаў чалавечага агулу. "На тваю Марысю пазырквае Кураглядаў" [14, 13] – паведаміў па дарозе дадому пасля доўгіх ваганняў пажылы гаспадар Францішак Грыгарцэвіч свайму пляменніку Сцяпану. Сцяпан, усімі паважаны ў вёсцы каваль, заўсёды спакойны і ўважлівы да людзей, пра гэта ведаў, яму ўжо скардзілася Марыся. Той Курашчуп (за вочы) спачатку "загаворваў гулліва ды непрыстойна, а цяпер пачаў

нахабна заступаць дарогу, хапаць за рукі і абы-што шаптаць на вуха" [14, 13]. У Сцяпана не было сумненняў наконт жаночай вернасці Марысі, але калі падвечар не ўбачыў яе дома, то адчуў, што "ў сэрца нібы кальнула стрэмка" [14, 15].

У "Заходніках" калізія пачынаецца з замаху прыхадня на чысціню дома і інтымных адносін і выходзіць на шырокія гарызонты сацыяльна-гістарычнага быцця. Апанас Кураглядаў, намагаючыся выдаць сябе за вялікага кіраўніка, часта заглядвае ў лес да Францішка і Сцяпана, якія рыхтуюць бярвенні на будаўніцтва ў Янкавінах сваёй пачатковай школы. Старшыня нібыта імкнецца перавыхаваць гаспадароў-уласнікаў на савецкі лад. Ведаў ён не мае ніякіх, але ідэалагічнай рыторыкай ён авалодаў яшчэ ў сваім Ветраве. Заходнікі ж ніяк не хочуць змірыцца з тым, што ўлады бяздумна знішчаюць лясы. Да калектывізацыі гаспадары таксама не выказваюць ніякай прыхільнасці. А гэта якраз і трэба Кураглядаву: некалькі заўваг дастаткова для таго, каб напісаць на чалавека данос і паслаць куды трэба. Увогуле партыйна-савецкае асветніцтва Кураглядава было бесперапыннай абразай абодвух Грыгарцэвічаў за іхнюю несавецкасць, за гаспадарлівую ашчаджальнасць і адсутнасць казённай радасці і паказнога энтузіязму. Манера зносін з людзьмі ў старшыні была ўстойлівая: "ці крычаць ці яхіднічаць". А ў лесе можна было лёгка знайсці формы дадатковага афекту. Кураглядаў падыходзіў да мужчын, якія апрацоўвалі бервяно, і ставіў нагу на дрэва, "любуючыся бліскучым хромавым ботам і сінім, з чырвоным кантам галіфэ" [14, 22]. Ззаду ў гэты час натапырваўся кабур. Акрамя пісталета, Кураглядаў заўсёды браў з сабой аўчара – "рослага, нямецкай пароды" ахоўніка. Ёсць у старшыні і яшчэ адзін памочнік – малады алкаголік Мішка, але ён вельмі мізэрны на выгляд, прыдатны хіба што на роль падбрэхіча ці даносчыка. Праўда, Кураглядаў вельмі спрытна выкарыстаў Мішку яшчэ і ў пікантнай сітуацыі, калі ў крытычны момант яму трэба было тэрмінова збавіцца ад сваёй сакратаркі. Партрэтная характарыстыка Кураглядава дакладна адлюстроўвае сутнасць чалавека сістэмы і сутнасць самой рэпрэсіўнай сістэмы. Дамінуе ў гэтай партрэтнай карціне пастаўленая на ляжачае дрэва нага ў "бліскучым хромавым боце і сінім, з чырвоным кантам галіфэ".

Раман "Заходнікі" адлюстроўвае вынікі будаўніцтва таго соцыуму, асновы якога, не абцяжарваючы сябе развагаю, закладвалі ў Беларусі Фрунзе, Мяснікоў, Алібегаў, Ландар, Кнорын. Атрымалася структура, выкананая паводле прынцыпу васалітэтна-манаднай цэнтралізацыі ад мікрасатрапіі – сельсавета (пазней – калгаса) да глабальнай імперыі – камуны начале з генеральным царом цароў. Агульначалавечыя першасныя каштоўнасці сямейна-родавай абшчыны, вёскі, нацыі выпадаюць з кола дзяржаўнага зацікаўлення. Рассямейванне і рассяляньванне перарастала ў інтэнсіўны працэс расчалавечвання. Новае пакаленне "набрыднікаў" здрабнела да ўзроўню курашчупаў. Рэквізаваць у сялянкі апошні мех бульбы, сабраны на продаж кілаграм масла, вырваць грошы на чарговую "дзяржаўную пазыку" – такі маштаб дзяржаўных клопатаў у ніжэйшых структурах раёна. Вышэйшае над імі звяно – гэта "Першы" са сваім апаратам райкома партыі". Яго прозвішча – Уладароў, ён зямляк Кураглядава. Затым ідуць пракурор Ламідзе, рэдактар Фрайзман, начальнік міліцыі Сасункоў, малады начальнік аддзела дзяржбяспекі Мірзоеў. Іх місія – караць і палохаць. Мірзоеў ведае, што крамы начамі за межамі свайго сельсавета рабуюць людзі Курлова і Кураглядава, але гэты разбой спісваецца на рахунак лясных бандытаў. Складваюцца спрыяльныя ўмовы для пашырэння рэпрэсій супраць незалежных гаспадароў ці проста тых, што не прыйшліся па густу начальнікам. Некаторыя з жыхароў, пераважна каталіцкага веравызнання, карыстаюцца магчымасцю назаўсёды з'ехаць да сваякоў у Польшчу. Іншыя туляюцца ў лесе.

Кураглядаў аператыўна выкарыстаў сітуацыю, каб пазбавіцца ад дзядзькі і пляменніка Грыгарцэвічаў, зламаць урэшце супраціўленне і волю вабнай Марысі,

і заадно зарабіць палітычны капітал, падчысціць сваё маральнае аблічча. Правакуючы на дыскусію Францішка і Сцяпана, ён выкарыстаў іх некаторыя заўвагі, каб абвінаваціць у антысавецкай агітацыі.

Уначы, калі Грыгарцэвічаў з іншымі зэкамі гналі на расстрэл, Сцяпану ўдалося ўцячы. Пасля доўгіх блуканняў ён адважыўся сустрэцца са сваімі крэўнымі. Стала зразумелым, што ў яго сына наперадзе лёс безбацькавіча, лёс удовінага сына. Такая ж доля і ў дачкі, якая яшчэ павінна нарадзіцца. У Сцяпана, на яго думку, засталася толькі адзіная магчымасць уратаваць сям'ю – вярнуцца ў турму. На гэтай дарозе ў лесе ён сустрэўся з Кураглядавым. Той, маючы пры сабе зброю, не ўпусціў магчымасці пацешыць сябе здзекамі з ненавіснага каваля. Смяртэльна параненаму Сцяпану ён нагой у бліскучым хромавым боце наступіў на грудзі:

"Кураглядаў яшчэ раз ціскануў яму на грудзіну:

– Бачыш, душу цябе – і хоць бы што! І думаеш дакараць сябе буду, калі ты аддасі свайму Богу душу? Не! Не буду! Я нават з задавальненнем зводжу цябе з гэтага свету. Ты адразу мне тут не спадабаўся, стаў на маім шляху: Бач, высокі, прыгожы, дужы, спрытны! Чалавек! Гаспадар! Асоба! Вясковы любімец" [14, 215].

Вобраз Кураглядава ў рамане вырастае да маштабаў рэалістычнага сімвалу паразітычнай наменклатуры ў краіне, якая не мае магчымасці самастойна вырашаць праблемы свайго гістарычнага лёсу. Г.Далідовіч стварыў вобраз нікчэмнага чалавека, які стаў носьбітам вялікага зла. Тым самым аўтар дапоўніў галерэю такіх канцэптуальных персанажаў, як Голы звер, Гарлахвацкі, Вялікі злодзей.

Гідкая рука Кругаглядава сёння па-зладзейску цягнецца да свядомасці новага пакалення: ён дамагаецца права на выданне ўспамінаў пра ўласныя подзвігі ў гады вайны і пасляваеннага будаўніцтва.

Як сімвалы нацыянальнай трагедыі ўспрымаюцца ў фінале "Заходнікаў" вобразы ахвяраў злачыннага рэжыму – сейбіта на ніве жыцця Францішка Грыгарцэвіча і каваля дыхтоўнага быцця ў вясковай грамадзе Сцяпана. Яны былі вырваны з жыцця якраз тады, калі толькі пачалі будаўніцтва сваёй школы з надзеяй на асвету, на вяртанне ў жыццё ідэалу – дзяржавы-гаспадарства, у якім маюць аўтарытэт не ўладары, а людзі светлага розуму і вялікага сэрца.

Сімвалам чысціні і вернасці ўзвышаецца ў фінале рамана вобраз нязломнай Марысі, спачатку маладой, а потым састарэлай удавы з сынам і дачкой. Яны доўгія гады жылі ізгоямі ў грамадзе, з бацькавым кляймом крымінальнага злачынца аж да часоў запозненай рэабілітацыі невінаватых ахвяраў. Удовіным сынам і дочкам не заўсёды шанцуе на сустрэчу з зацікаўленым купцом і разумным царом.

Падсумоўваючы вынікі сацыяльна-псіхалагічнай дынамікі ў XX стагоддзі, Г. Далідовіч у рамане "Заходнікі" стварае сітуацыю, у якой дзейнічаюць канцэптуальныя персанажы. Творча выкарыстоўваючы вопыт канцэнтрацыі сэнсаў на малой плошчы ў мінімалізме Ядвігіна Ш., М. Лынькова, К. Чорнага, Я. Брыля, В. Быкава, Г. Далідовіч у жанры гісторыка-палітычнага рамана вылучае знакавыя фігуры на шляхах гістарычнага лёсу народа. Асобая ўвага пры гэтым надаецца носьбітам архетыпнага светаўспрымання, захавальнікам самакаштоўнай нацыянальнай формы, у якой праяўляецца агульначалавечая сутнасць. Такімі з'яўляюцца вобраз беларускай жанчыны – Маці і вобраз культурнага героя, увасоблены ў мадыфікацыях Гаспадара-сейбіта і Каваля (чалавечай долі). Семантычны рэсурс названых дэміургаў чалавечай сітуацыі назапашваецца з часоў сакральнага тварэння быцця. Паказваючы ў "Заходніках" карціну д'ябальскага палявання на творцаў і носьбітаў людскасці ў канкрэтнай сацыякультурнай сітуацыі, Г. Далідовіч адначасова адкрывае шлях да крыніцы духоўных рэсурсаў нацыі, неабходных грамадскай свядомасці для пераадолення сваёй залежнасці ад мадэрнізаванага янычарства.

Творчае мысленне Г. Далідовіча запраграмавана, як ужо адзначалася, на канцэнтрацыю энергіі сацыяльнага дзеяння, інтэграцыю і ўзбуйненне характараў да

ўзроўню тыпаў. Пісьменнік аддае перавагу чалавеку, пакліканаму таямнічай сілай жыцця да сацыяльнай творчасці. Вопыт дзяржаўнага будаўніцтва належыць не толькі сучаснікам, але і будучым пакаленням. Зыходзячы з каштоўнаснага разумення жыцця як стваральнай эстафеты пакаленняў, Г. Далідовіч фарміруе ўласную канцэпцыю гістарычнага часу, у якой дамінуюць два важнейшыя складнікі – канцэпты дзедаўшчына і патомны час, у якіх адлюстравана заканамернасць развіцця аднаго з магчымых планаў іммапенцыі (тоеснасці), закладзеных у канцэпце покліч.

У рамане “Кліч роднага звону” празаік звярнуўся да часу тварэння беларускай цэнтралізаванай дзяржавы. Культурныя дзеячы другой паловы XII ст. – Кірыл Тураўскі, Еўфрасіння Полацкая, невядомыя аўтары агіяграфічных твораў, невядомы аўтар “Слова пра паход Ігаравы” – скіравалі свае намаганні на пераадоленне пагрозы апынуцца ў цэнтралізаванай дзяржаве-тыраніі тыпу Асірыйскай імперыі. Годнасць асірыйскага “цара цароў” у вачах падданых была прапарцыянальна ступені яго жорсткасці. У пачатку XIII ст. такую ж імперыю зла на еўразійскім прасцягу стваралі татара-мангольскія ханы. Сталіца іх дзяржавы была ў Каракоруме (Карэі), а на Захад татара-мангольская арда разгарнулася ажно да Карпатаў. Славянскія дзяржавы-землі ў ардзе сталі сатрапіямі. Галіцка-валынскі князь Даніла ў мусульманскім свеце лічыўся адным з найбольш відных сатрапаў ва ўладаннях Батыгі (Батыя). Еўропа апынулася перад пагрозай паўтарэння шляху, пройдзенага тыраніямі старажытнага Усходу. Тыранія заканамерна ідзе праз эпохі крызісаў да сацыяльнай катрастрофы.

Уладары ў свяшчэнных еўрапейскіх імперыях клапаціліся пра сваю магутнасць і лічылі за лепшае пасылаць рыцарства крыжовым паходам на здабычу ў Канстанцінопаль ці Іерусалім, чым звязвацца з татара-манголамі. Візантыйская дэспатыя павольна, але няспынна ішла да свайго фіналу, не пакідаючы, аднак, намераў каланізаваць славянскую прастору на поўначы ад Чорнага мора. Праваслаўныя патрыярхі добра паразумеліся з татарскімі ханамі. Тых і другіх цалкам задавальняла візантыйская царкоўная ідэалогія – трансфармаванае ў цэзарапапізм афіцыйнае хрысціянства. На прыбалтыйскай прасторы існаванню балтаў і славян пагражаў Лівонскі ордэн, узгадаваны папскім Рымам. У XV ст. узрасла пагроза на ўсходніх межах з боку “трэцяга Рыму” – Масковіі, у якой дзяржава будавалася паводле ардынскага ўзору.

Беларускія дзяржавы-землі ў XIII ст. апынуліся ў блакадзе імперскіх сілаў, але засталіся непадуладнымі ні татарам, ні Ордэну. Галіцка-валынскі князь Даніла лічыў незалежную Наваградскую зямлю галоўнай перашкодай на яго шляху да ўласнай імперыі, якую ён ствараў паводле ўзору Кіеўскай імперыі Рурыкавічаў. Знешняя палітыка Данілы была працягам імперскай палітыкі Уладзіміра Манамаха, які ў час паходаў на падуладныя Полацку гарады не пакідаў жывымі, па яго ж словах, ні чалядзіна, ні гаспадзіна.

Узяўшы ў якасці ацэначнага крытэрыя канцэпт патомны час (аналаг матыву “пошукі будучыні”, фрэйма “трэцяе пакаленне”), Г. Далідовіч тым самым узяў на сябе і пісьменніцкі абавязак намаляваць карціну спраўджаных і страчаных магчымасцяў цывілізацыйнага развіцця ўсходняй славяншчыны ў эпоху сталага Сярэднявечча. Дзяржавы-гарады – Полацкая, Ноўгародская і Пскоўская баярска-купецкія рэспублікі – узніклі на грунце свайго звычаёвага права і спраўваліся вечавай мудрасцю грамады. Гэта быў шлях дэмакратычнага развіцця ў напрамку да парламентарных рэспублік. У Ноўгарадзе і Пскове гэты працэс быў перарваны гвалтоўным далучэннем да Масковіі. У выніку наўгародскія і пскоўскія крывічы страцілі сваю самабытную культуру і сталі правінцыяй у імперыі. Інакш складваўся гісторыка-культурны працэс у Навагародскай зямлі, якая ў варожым атачэнні змагалася за ўтварэнне самастойнай цэнтралізаванай дзяржавы.

Для разумення сутнасці беларускага дзяржаватворчага працэсу важнае значэнне мае адкрыццё сучаснай гістарычнай навукай месцазнаходжання летапіснай

Літвы Міндоўга – беларускай тэрыторыі ў Верхнім Панямонні, паміж Слонімам, Наваградкам, Крэвам і Менскам. Балцкія плямёны на гэтай тэрыторыі к XIII стагоддзю асіміляваліся і ўвайшлі ў склад дрыгавіцка-крывіцкага этнасу. Сталіцай Літвы была крэпасць-гарадзішча на паўднёва-ўсходняй ускраіне Налібацкай пушчы – "пазанёманская глушэчная Рута" [15, 223]. Улада ў княстве належала Міндоўгу. Будучы адным з нашчадкаў полацкай дынастыі Рагвалодавічаў, ён вымушаны быў доўгі час хавацца ад кіеўскіх князёў у нетрах пушчы. Часам наймаўся на службу баявога князя ў багатых феадалаў. Міндоўг выдатна валодаў тактыкай вядзення бою ў лясных нетрах, сучаснікі называлі яго ваўком. Гэтая мянушка цалкам адпавядала яго хіжай і здрадлівай натуры. Самастойна Міндоўг не мог узняцца да ўзроўню Чарадзея. Ён быў ваўкалакам – прадуктам злой волі на пераходным да Протарэнесансу этапе крызісу. Удакладненне гэтых акалічнасцяў адкрывае магчымасці адэкватнага ведання і разумення характару дзяржаватворчага працэсу, фальсіфікаванага імперскай ідэалогіяй. Г. Далідовіч у рамане "Кліч роднага звону" паказаў у поўнай згодзе з логікай гістарычных фактаў нацыянальныя вытокі і рэсурсы дзяржаўнай творчасці беларусаў у эпоху сталага Сярэднявечча. Пісьменнік вывеў з ценю забыцця сапраўдных творцаў сацыяльнай рэальнасці – людзей, якія ў сітуацыі бясконцых крывавых разборак змагаліся за сцвярджэнне ў соцыуме ідэалаў людскасці і маглі, валодаючы багатымі духоўнымі і інтэлектуальнымі рэсурсамі, скіраваць на добрыя справы нават Міндоўга, які паходы рабіў не дзеля будучыні, а дзеля лупу.

Пісьменніцкая цікавасць Г. Далідовіча засяроджана больш за ўсё на паказе чалавечага рэсурсу нацыі. Празаік адлюстраваў характэрную для беларускага дзяржаватворчага працэсу асаблівасць станаўлення сацыяльнай ментальнасці – сінтэз духоўных каштоўнасцяў сялянскай, рыцарскай і царкоўнай субкультураў. Сялянства ўзбагаціла нацыю сілай віталізму ў яго непарыўнай сувязі з энергіяй духу і скіравала асобу на тварэнне ў соцыуме "паспалітага добрага". Беларускае рыцарства сваю годнасць пацвердзіла не паркетным этыкетам, а ўменнем перамагаць імперскае зло і ўмацоўваць дзяржаву высокім узроўнем прававой культуры. Патрыятычна арыентаваныя царкоўныя дзеячы фарміравалі сілу духа, здольнага супрацьстаяць тыраніі і цэзарапапізму.

У рамане "Кліч роднага звону" гэтыя тэндэнцыі ўвасоблены ў дзейнасці наваградскага князя Ізяслава, ваяводы Усяслава і незацверджанага холмскім мітрапалітам біскупа Кірыла. Сярод дзеячаў новай змены нестандартным мысленнем і кіпучай актыўнасцю вылучаецца выхаваны ваяводам Усяславам сын Міндоўга Войшалк (Войшаль), які дзеля інтарэсаў свабоднай Бацькаўшчыны мог быць манахам, князем ці дыпламатам. У Наваградскай зямлі асвечаныя людзі разважалі не толькі над Біблііяй, але і над "Александрыяй", над візантыйскім зборнікам "Мяліса" ("Пчала"), філасофскімі працамі Платона і Арыстоцеля. Клопаты Кірыла Тураўскага пра ачышчэнне і ўзвышэнне душы ў малітве пераклікаюцца з містыкай Рыгора Ніскага, які парадокс "светлага змроку" тлумачыў як духоўнае ўзвышэнне, прасвятленне і спасціжэнне чалавекам боскай энергіі.

Князь Ізяслаў, перадаючы Усяславу эстафету змагання за свабодную Наваградскую зямлю, адзначыў, што некалі ў маладосці ён "захапляўся, трызніў Александрыяй". З гадамі прыйшло іншае бачанне ўладарнага ўзвышэння над светам: "Ці вось славуты Уладзімір Манамах – любімы герой князя Данілы і яго дворскага Андрэя. Прагнуў сам узвысіцца і Кіеў узвысіць над многімі землямі. Колькі дзеля гэтага праліў крыві – скажам, у тых жа блізкім нам Менску, Полацкай зямлі, нават не грэбаваў наводзіць на Полацак полаўцаў – куманаў... Ну й што? Толькі памёр – сабраная мячом яго Русь распалася. Кіеў захізнуў, а цяпер дык зусім у руінах ад Батыевай навалы... " [15, 80 – 81]. У перадсмяротных маналогах князя Ізяслава, альтэрнатыўных па сваёй накіраванасці "Павучанню чадам" У. Мана-

маха, адлюстраваны вынікі ўвасаблення ў жыццё сацыяльнай ідэі беларускага ісіхазму, выкладзенага ў “Словах” і прыпавесцях слупніка Кірыла Тураўскага і рыцарскім ліраэпасе аўтара “Слова пра паход Ігараў”. Вышыні чалавечага духу названыя аўтары вымяраюць клопатам пра ўдасканаленае агульнажыццё людзей у патомным часе.

Рагвалодавічы “па кудзелі” ў дзяржаўным будаўніцтве аддавалі перавагу гаспадарчай і дыпламатычнай дзейнасці: “Я, Усяслаў, хацеў і хачу не толькі пасеяць сваё жыта, але хачу, каб яно пасля мяне і ўзышло, дало добры збор” [15, 81] – тлумачыць сэнс сваёй кансалідуючай дзейнасці Ізяслаў. Г. Далідовіч падкрэслівае, што Рагвалодавічы перавагу аддавалі каштоўнасцям агульнародавым, шанаваным у сялянскай субкультуры. Этыка і эстэтыка земляробчага календара арыентавана на стварэнне ўмоў для людскага жыцця патомкаў. Наваградскі князь-будаўнік Ізяслаў працягваў палітыку сваіх продкаў – полацкіх князёў і асветнікаў. Ён вывеў Наваградак з-пад улады Кіева, стварыў эканамічную і нацыянальную базу для Наваградскай дзяржавы-гаспадарства, якая стала рэальнай альтэрнатывай заснаваным на чалавечых касцях імперыям. Татарскія ханы не лічылі патрэбным прыхарошваць сваю некрафільскую ідэалогію цывілізацыйнымі аздобамі. Пра гэта хан Бурундай адкрыта сказаў Войшалку: “І Папу, і каралёў мы перасцераглі: на іхні крыжовы паход мы адкажам такім паходам, што ваша Еўропа стане адной магілаю! А пачалі сваё з Данілы і з Літвы” [15, 323].

У першай кнізе рамана-хронікі “Кліч роднага звону” (“Мір сярод вайны”) Г. Далідовіч адлюстраваў высокі ўзровень наваградскай палітычнай культуры ў XIII ст., дастатковы для таго, каб “адзяржавіцца” на новы лад і пачаць будаўніцтва цэнтралізаванай дзяржавы на аснове адроджаных каштоўнасцяў чалавечага роду. Гэтым самым аўтар напомніў грамадзе пра прэцэдэнт В.Ластоўскага, які ў мастацкіх творах і культурфіласофскай публіцыстыцы абгрунтоўваў неабходнасць пазнання ролі славянства ў гуманізацыі еўрапейскай, у прыватнасці – грэчаскай культуры ў эпоху ранняй Антычнасці. В.Ластоўскі альтэрнатыву дзяржавам – тыраніям начале з базілеўсамі бачыў у вобразе горада-абшчыны Троі, заснаванага славянамі. Гамэр невыпадкова з сімпатыяй паставіўся да траянцаў Гектара, Андрамахі, Прыяма – трагічных герояў яго славутай “Іліяды”.

Г. Далідовіч у рамане “Кліч роднага звону” па-мастацку ўзнавіў унікальную з’яву сацыяльнага вопыту ў сярэднявяковай Еўропе – яднанне ў Наваградска-Літоўскую дзяржаву славянскіх і балцкіх плямёнаў “вераю, дружбай і сілай”, а не “мячом і няволяй” [15, 81]. Стваральнікі беларускай цэнтралізаванай дзяржавы, якая пазней атрымала скарочаную назву Літва, ведалі, што плён змагання застанецца патомкам. Самі ж змагары з чужой і сваёй набрыддзю “застануцца безымяннымі, за стагоддзі лягуць жменямі пяску ў тоўсты слой зямлі, які вучоныя назавуць “культурным”, і па іх костках, гузіках альбо іхняй зброі будуць спрабаваць зразумець тую эпоху” [15, 364]. Творчая сіла таленту празаіка вярнула да жыцця вобразы творцаў беларускага соцыуму ў XII ст. Г. Далідовіч нарысаваў не толькі сілуэты герояў. Кожны з яго канцэптуальных персанажаў мае непаўторнае духоўнае аблічча. Крытэрыем годнасці чалавека для пісьменніка з’яўляецца ўдзел асобы ў тварэнні патомнага часу, у тварэнні і ўдасканаленні свайго чалавечага роду, супольнага нацыянальнага Я – здольнасці адгукнуцца на ўніверсальны покліч жыцця. Арганічнае спалучэнне экзістэнцыяльных і сацыяльных крытэрыяў, скіроўвае творчы пошук пісьменніка да пашырэння магчымасцяў сацыяльна-псіхалагічнага рэалізму. Тыпізацыя рэчаіснасці ў рамане Г. Далідовіча “Кліч роднага звону” ажыццяўляецца на вышэйшым па-над будзённым узроўнем свядомасці, на вышыні этыка-эстэтычнага і грамадзянскага жыццядзеяння суб’екта. На гэтым напрамку дакладная псіхалагічная характарыстыка спалучаецца з семантычна насычанай міфалагемай. Героі яго гістарычных раманаў ў свядомасці сучасніка сталі

ў адзін шэраг з сакралізаванымі персаналіямі беларускай гісторыі і літаратуры, вобразы якіх асвятляюць патомкам шлях да жыцця ў свабоднай Бацькаўшчыне. Натуральны гераіка-трагедыйны пафас у фінале рамана з'яўляецца заканамерным вынікам развіцця ў творы галоўнай ідэі – рэальнага самасцвярджэння асобы ў тварэнні свайго чалавечага роду, у змаганні за свабоду Айчыны, а, значыць, і за свабоду сваіх нашчадкаў. Эстэтыка духоўнага ўзвышэння асобы у працэсе тварэння чалавечай сітуацыі дае падставы для таго, каб кваліфікаваць хроніку "Кліч роднага звону" як раман-баладу.

У творчасці Г. Далідовіча плённа развіваецца канцэптуалісцкі напрамак беларускай прозы, заснавальнікамі якога былі выдатныя пісьменнікі на пачатку ХХ стагоддзя. Яго вобразная сістэма адлюстроўвае ў рэальных фактах беларускай гісторыі вялікія сэнсы агульначалавечага быцця, логіку пераадолення старых і мадэрнізаваных формаў рабства на шляху да агульначалавечага яднання свабодай, "вераю, дружбай і сілай". Прасякнутыя пафасам гуманізму творы Г. Далідовіча маюць свайго чытача не толькі ў Беларусі, але і за межамі краіны, пра што сведчаць пераклады на армянскую, балгарскую, казахскую, польскую, рускую, славацкую, украінскую мовы.

Л І Т А Р А Т У Р А.

*Творы Г. Далідовіча:*

1. БНР і БССР: Роздум аб пакутным шляху беларускай дзяржаўнасці ў ХХ стагоддзі.— Мінск: "Пейто", 2002.
2. Дажджы над вёскай. Апавяданні. – Мінск: "Маст. літ.", 1974.
3. Цяпло на першацвет. Аповесці і апавяданні. – Мінск: "Маст. літ.", 1976.
4. Маладыя гады. Апавяданні, аповесць. – Мінск: "Маст. літ.", 1979.
5. Міланькі. Аповесці. – Мінск: "Маст. літ.", 1980.
6. На новы парог. – Мінск: "Маст. літ", 1983.
7. Станаўленне. Апавяданні і аповесць. – Мінск: "Маст. літ.", 1985.
8. Міг маладосці. Апавяданні. Аповесць. – Мінск: "Б-ка бел. Прозы", 1987.
9. Гаспадар-камень. Раман. – Мінск: "Маст. літ.", 1987.
10. Пабуджаныя. Раман. – Мінск: "Маст. літ.", 1988.
11. Свой дом. Раман. – Мінск: "Маст. літ.", 1999.
12. Жывы покліч: Выбранае. – Мінск: "Маст. літ.", 1995.
13. Жар кахання. – Мінск: "Маст. літ.", 1996.
14. Заходнікі: Раман. Аповесць. Апавяданні. – Мінск: "Маст. літ.", 1998.
15. Кліч роднага звона: Раман-хроніка. – Мінск: "Юнацтва", 2000.
16. Сярод лесу, сярод поля: Апавяданне-імправізацыя, лісткі запісных кніжак. – Мінск: "Кнігазбор", 2007.

*Крытыка, літаратуразнаўства, культуралагічны кантэкст:*

17. Андраюк С. Вывяраючы жыццём. – Мінск: "Маст. літ.", 1976.
18. Андраюк С. Жыць чалавекам. – Мінск: "Маст. літ.", 1983.
19. Беларускія пісьменнікі: Бібліяграфічны слоўнік. Т.2. – Мінск: БелЭН., 1993.
20. Беларускія пісьменнікі. (1917 – 1990).: Даведнік. – Мінск: "Маст. літ.", 1994.
21. Виндельбанд В. О свободе воли. – Минск: Харвест; М.: АСТ, 2000.
22. Гніламёдаў У. Як само жыццё. – Мінск: "Маст. літ.", 1980.
23. Купала Я. Поўны збор твораў: У 9 т. Т. 6. Паэмы, пераклады. – Мінск: "Мст. літ.", 1999.
24. Савік Л. Адчуванне часу. – Мінск, 1987.
25. Тычына М. Вялікія клопаты малой прозы. //Полымя, 1979, №6.
26. Тычына М. Змена квадры. – Мінск: "Маст. літ.", 1983.
27. Рикерт Г.Науки о природе и науки о культуре. – М.: Республика, 1998.
28. Шопэнгауэр А. Гений пессимизма / Сост. Е.Бельмис. – СПб.: Паритет, 2009.
29. Жылка У. Пожні. – Мінск: "Маст. літ.", 1986.

Марына Весялуха



...аповеды і развагі
выдаюць маладога чалавека
з чыста гарадской свядомасцю...

# Жыць у іншым свеце

***Сяргей Календа. Іржавы пакой з белымі шпалерамі. – Мінск: 2011.***

Перад намі – трэцяя кніга прозы маладога мінскага пісьменніка (тут, можна было б сказаць больш абагульнена – беларускага – але я скажу менавіта мінскага, потым зразумееце, чаму). Не першая – нясмелая, крыху "кульгавая" па стылі пісьма і падборы апавяданняў: пакажу ўсё, што маю. Не другая, ужо эксперымент з традыцыйным жанрам казак: я і так магу. Трэцяя – больш сталая, грунтоўная, прадуманая і з пункту гледжання структуры кнігі ў цэлым, і з пункту гледжання ўнутранай арганізацыі кожнай з яе частак: я доўга і старанна працаваў, у тым ліку падчас літаратурнай стыпендыі ў нямецкім Веймары.

Кніга складаецца з дзвюх частак – збору апавяданняў "Волкі хлеб" і літаратурнага праекта "Апранутыя апавяданні". Пачнём з дэсерту, то бок з літаратурнага праекта. Мне нават падаецца, што кнігу лепш пачынаць чытаць з другой часткі, прызнаюся, што з-за цікаўнасці да гэтага самага "праекту" я рабіла менавіта так. І мая цікаўнасць была задаволе-



ная. Праект сапраўды варты ўвагі. У невялічкай прадмове Сяргей зазначае: “Гэта аўтарская інтэрпрэтацыя альбо, калі хочаце, асабісты адказ на раман Пітэра Грынуэя “Золата”, тут адзежа становіцца здольнай на метафару, а чалавек – на перажыванні і пачуцці”. Заўважу, што прадметам увагі Грынуэя ў гэтым рамане з’яўляюцца залатыя рэчы ахвяраў Трэцяга рэйху: фамільныя ўпрыгожанні, зубы, рэдкія манеты, якія ў працэсе назапашвання “агульнага багацця” страчваюць сваю індывідуальнасць, характар і непаўторную аўру і становяцца залатымі зліткамі. Пры гэтым самі героі, уладальнікі золата, намаляваныя рэжысёрам і пісьменнікам досыць пункцірна, яны не выклікаюць шкадавання (менавіта асобаснага), гісторыі доўгага і пакутлівага працэсу развітання з золатам, распаведзеныя досыць адчужана, без аўтарскай эмпатыі, нібыта падгледжаныя праз вакно. Але ў праекце Календы ўсё зусім па-іншаму. Індывідуальнасць “вандроўных рэчаў” захоўваецца, нават больш, кожная з іх мае свой адметны характар, свой лёс, героі ж намаляваныя з дакладнасцю і любоўю, чытач нават часам падсвядома запамінае іх імёны, а калі не імёны, то хаця б гісторыі жыцця. Самі па сабе апавяданні кароткія (дарэчы, як і ў Грынуэя), але чытаюцца як адзін вялікі расповед пра шлях “з варагаў у грэкі”, але не людзей, адзення.

*У чым жа сутнасць пераймання і вобразу адзежы, “здольнай на метафары”?* А ў тым, што ў кожным апавяданні праекту, расказваецца гісторыя рэчы (штаноў, саколкі, паліто, шаліка, сукенкі), якая мае аднаго першапачатковага гаспадара, а потым – праз мінскую пратэстанцкую царкву “Добрая вестка” ці краму Second Hand – яна, натуральна, знаходзіць новага ўладальніка, які або чымсьці падобны да першага, або цалкам супрацьлеглы і па характары, і па жыццёвых памкненнях. Усе героі па сутнасці розныя, яны жывуць у розных гарадах, рэальных і прыдуманых, маюць розныя заняткі і лад жыцця, рознае сацыяльнае становішча. З імі адбываюцца часам звычайныя, а часам зусім неверагодныя падзеі (нават у духу магічнага рэалізму). У іх вырастаюць крылы, яны абменьваюцца вопраткай у сне, захапляюцца экзатычнымі раслінамі і самі становяцца да іх падобнымі.

Распавядаючы пра герояў і іх адзенне, Календа абачліва і свядома, а па тэксце нібыта ненаўмысна і ненавязліва, звяртае ўвагу і на больш глабальныя сацыяльныя праблемы: неўладкаванасць у жыцці, жорсткасць да дзяцей, складаныя сямейныя адносіны, вар’яцтва, п’янства, тэрарызм. Не застаецца па-за ўвагай аўтара і тэма графаманіі ў літаратуры. Ён адмыслова стварае вобраз тыповага пісьменніка-пачаткоўца, студэнта філфака, які, аднак, ужо мае рукапіс “Рамана ў двух тамах пра Марціна Лютэра” і, галоўнае, – грошы, за якія можа надрукаваць гэты шэдэўр у выдавецтве такога ж тыповага “прыватнага выдаўца” Алеся Алесіна.

*Многа кароткіх апавяданняў, усе героі розныя, не ведаюць адзін аднаго – дзе цэласнасць,* запытаецеся вы. І слушна заўважыце. Але цэласнасць усё ж ёсць, і дасягаецца яна некалькімі шляхамі. Па-першае (і тут я дайшла да свайго любімага вобраза), усе гісторыі аб’ядноўвае адзін агульны герой, які, як бог, мае права распараджацца лёсамі рэчаў і, адпаведна, уплываць на жыцці людзей, ну хаця б нязначна. Гэта ўсемагутны пастар Ігнат, што працуе ў царкве “Добрая вестка” і размяркоўвае вопратку – гуманітарную дапамогу. Ён добры, у меру шчыры, як і належыць пастару, цалкам задаволены сабой. Натуральна, часам карыстаецца службовым становішчам і знаходзіць у гурбе featured вопраткі менавіта яму патрэбныя рэчы. Нейтральная жыццёвая пазіцыя пастара дазваляе яму быць добрым “праведнікам”, чаго не скажаш пра ўладальніка крамы Second Hand Валянціна,

калегу пастара па размеркавальніцкім абавязку. Валік усё ж рэчы прадае, то бок не можа параўноўвацца ў магутнасці з пастарам Ігнатам, які адзежай (і мінулым, што яна ўжо мае) шчодра адорвае прыхаджан і простых наведвальнікаў царквы.

Ёсць і яшчэ адзін "аб'яднальны" фактар: з усёй шматстайнасці герояў, якія ніколі не сустракаліся і не ведаюць адно аднаго, можна выдзеліць асобную "каліцыю" мінчукоў (памятаеце, я падкрэслівала "мінскасць" пісьменніка). Яны жывуць прыкладна ў адным раёне – натуральна, побач з царквой "Добрая вестка". Натуральна, яны не знаёмыя. *Ці адбудзецца іх сустрэча?* Так, адбудзецца (калі б яе не адбылося, можна было б папракнуць аўтара ў непрадуманасці структуры праекта). Каміла, адна з гераінь, будзе бегчы да сяброўкі Юлі, сутыкнецца з Гіляй (з самага першага апавядання), у Гілі з пакунку выпадзе апельсін, які, як сімвал яднання, дакоціцца да бабулькі Агафіі, яна носіць бірузовы шалік аднаго наркамана і штодзень купляе выпіўку свайму мужу-інваліду. У гэты час на машыне будзе ехаць Валянцін. Каміла прыйдзе ў госці да сяброўкі, дзе ўжо будуць пісьменнік-графаман і некалькі знаёмых герояў. Галоўнае – паспяваць пазнаваць асобаў і ўспамінаць, якая вопратка ім дасталася. Апавяданне "Госці" магло б стаць добрым завяршэннем. Але не стала.

Завяршае праект цыкл апавяданняў пра калядныя падарункі, што атрымліваюць дзеці-насельнікі дома-інтэрната. А вось гэта чытво не з лёгкіх. Тут аўтара можна параўнаць са стаматолагам, які, дабраўшыся да нерва ў зубе, нібыта наўмысна яго ўвесь час кранае інструментамі. Чытаеш і думаеш: хутчэй бы гэта ўсё скончылася... і сканчаецца, але апавяданнем "Кругазварот", дзе ў цэнтры ўвагі зноў усемагутны пастар Ігнат, і яго справа размеркавання вопраткі.

А цяпер вернемся да першай часткі кнігі – збору апавяданняў "Волкі хлеб", менш цікавай з пункту гледжання эксперыментальнасці, але не менш значнай па сваім сэнсавым напаўненні. Тут дзейнічае (у большасці апавяданняў, але не ва ўсіх), адзін герой, Гераня Латураў, які "хацеў бы жыць у іншым свеце", і гэты іншы свет робіцца бліжэйшым, але ж сам Гераня "жыве на адной з суседніх сценак" побач з аўтарам. Тут адчуваецца ўплыў бітнікаў (Керуака і Кізі), Чарльза Букоўскі, тут ёсць развагі пра творчасць і каханне, брутальныя расповеды (якія па духу больш адпавядаюць першай кнізе Календы) пра смерць у стозе сена і пра забойства ў дарозе – зноў жа сімвалічная бітнікаўская дарога.

Ёсць у зборы апавяданняў і вельмі яркі аўтабіяграфічны твор (думаецца, яны ўсе ў нейкай ступені аўтабіяграфічныя), але аўтабіяграфічны не толькі для аднаго Календы, але і для ўсяго пакалення дзяцей, хто рос у 1990-х. Напэўна, таму ён так "чапляе", бо распавядае пра знаёмыя з дзяцінства рэчы, уласцівыя "генерацыі фанцікаў і фішак". Усе мы, дзеці гэтага часу, гулялі ў "Тэтрыс" і "Марыё" на прыстаўках, падлучаных да старых чорна-белых тэлевізараў, збіралі фанцікі, з захапленнем глядзелі каляровыя мульцікі Уолта Дыснэя, наведвалі многія гурткі. "Мы імкнуліся кімсьці быць, мы імкнуліся да назапашвання навыкаў і ведаў, якія ў будучыні разаб'юцца аб сцены непаразумення і непатрэбнасці", – разважае аўтар.

Ці варта чытаць новую кнігу Сяргея Календы? Адназначна, варта. Хаця б для таго, каб зразумець нас, пакаленне "фанцікаў і фішак", каб убачыць свет вачыма яго прадстаўніка, адукаванага, але да канца не самарэалізаванага. Але вернемся яшчэ раз да "мінскасці" Сяргея. Яна так і прасвечваецца праз усе яго аповеды і развагі, якія ў сваю чаргу выдаюць маладога чалавека з чыста гарадской свядомасцю...



крытыка

Леанід Галубовіч



...Рыжкоў не замыкае сваю мастацкую прастору на ключы асабістага творчага дыдактызму. Ён увесь у развіцці, яго дух у раскрыленасці...

# Вакол першай кніжкі Віталя Рыжкова

***Тэзісы да ненапісанай рэцэнзіі***

*“Мяне само паэтычнае рамяство ставіла ў тупік.*
*Ды і што тут скажаш... Вызначаць паэзію гэта ўсё адно,*
*як форму ветра шукаць, таму яна больш безадказная,*
*а з другога боку – больш свабодная.”*
Алег ЧУХОНЦАЎ

Задумаўшы пасля прачытання зборніка Віталя Рыжкова “Дзверы, замкнёныя на ключы” (выдавец І. П. Логвінаў, 2010) адгукнуцца на яго ў друку, я час ад часу, перачытваючы старонкі гэтага адметна скроенага выдання, рабіў паметкі на палях, крэсліў заўвагі на шматках паперы і набіраў нейкія тэзісы на кампутары да магчымай рэцэнзіі. Аднак агулам цэльнага тэксту так і не атрымалася. Ды ўсё ж падумалася, што і гэты калейдаскапічны раздроб пры прачытанні можа скласціся ў пэўную суб’ектыўна-ацэначную карціну.

Усім вядома, што цяпер кожны, у каго свярбіць правая рука і хто мае пяцьсот альбо тысячу лішніх даляраў (альбо халяўны грант), можа напісаць і выдаць кніжкай напісанае, назваўшы тое вершамі альбо прозай.

Не навіна, што беларуская літаратура, паэзія ў прыватна-




сці, перажываюць задоўжаную пару стагнацыі. Няма асобаў (пракокаў), няма і чытача. Рассыпалася якая-ніякая, гадамі выстраеная, іерархія, як саміх творцаў, так і створаных імі каштоўнасцяў.

Бо ўся гэтая цяперашняя тэатральна-дэкламацыйная дзейнасць прадстаўнікоў маладзейшай генерацыі сучаснай беларускай літаратуры да мастацкай творчасці часцей за ўсё мае адноснае дачыненне. Згасанне паэзіі пачалося з сярэдзіны 80-х гадоў мінулага стагоддзя (25 гадоў таму) разам з пачаткам перабудовы ў СССР. Справа не ў тым, што распалася імперыя, сапсела сістэма сацыялізма і намецілася змена ідэалагічнай парадыгмы, а справа ва ўнутрана наспелых пераменах самога (савецкага) чалавека, у яго духоўнай сутнасці і бездухоўнай застыгласці. Менавіта пачынаючы з гэтага часу паступова сышлі з літаратурнай сцэны такія постаці як Караткевіч, Стральцоў, Купрэеў, Сыс...

Як быццам нешта адбываецца (паэтычныя вечарыны, прэзентацыі, перформансы), але нічога не здараецца (адкрыццяў, прароцтваў)... Усё творчае жыццё лакалізуецца ў сваім калегіяльным асяродку і набывае камерны характар... Іерархію і вядомасць (ад слова весці) вызначаюць не аб’ектыўнасць незалежнай крытыкі (ці хоць бы яе незалежная суб’ектыўнасць), а паспешлівыя і прагматычныя высновы і ацэнкі абслугоўваючай касты літаратурных журналістаў (не толькі ў літаратурна-мастацкіх, але і ў перыядычных грамадска-палітычных СМІ) разам з прабіўнымі магчымасцямі і кар’ернымі здольнасцямі саміх паэтаў (барацьба за выступы, выезды за мяжу, міжнародныя стыпендыі, прэміі, выданні, пасады)...

Літаратурныя стасункі паміж аўтарамі і чытачамі, а таксама паміж самімі паэтамі адбываюцца гэтак жа, як і ў тым соцыуме, дзе яны жывуць і пішуць, – “по понятиям”...

Хоць, здавалася б, ёсць такія бясспрэчныя аўтарытэты, як Барадулін, Разанаў, Някляеў... І маладзейшыя літаратары *как бы* прызнаюць іх, але гэта толькі даніна літаратурна-гістарычнаму этыкету, а насамрэч сучасны літпрацэс праходзіць лавіруючай хваляй, лоўка абмінаючы “старых мэтраў” і ствараючы пры гэтым свае стандарты мер і даўжыні – “новых метраў”...

Старэйшая генерацыя паэтаў не мае паразумення з маладымі не з прычыны *зацёганасці* традыцыі з аднаго боку і *засцёбанасці* наватарства з другога, а з прычыны рознапалярнасці поглядаў на сучасную светабудову і яе духоўныя і мастацкія каштоўнасці. Непазбежна праяўляецца несупадзенне *часавых* паясоў...

Аднак, трэба прызнаць, сучасныя паэты па-свойму яскрава і неардынарна выяўляюць характар цяперашняга грамадства (яго рытміку, мелодыку, супярэчлівасці, аблуды і памкненні), апроч таго, што яны найперш стараюцца выяўляць саміх сябе ў гэтым свеце... І я думаю, выпісаныя імі постаці, вобразы і карціны выяўляюць сённяшні час не менш *адэкватна*, чым выяўлялі свой час тэксты савецкіх паэтаў (Купалы, Броўкі, Глебкі, Куляшова...). Мне здаецца, што ў творчасці маладой генерацыі няма галоўнага – патаемнай унутранай тугі па былым (мінкінаўскага “голасу сурмы”) і *стражды* па будучым (разанаўскага “шляху-360”). Праўда, не трэба забываць, што кожнае пакаленне творцаў жыве там і так, як ім наканавана. Кім? Магчыма, і Звыш, як на тое спадзяюцца яны самі. Аднак у такім выпадку, – дзе ж хоць адзін прарок, той, сапраўдны, які не змагае сённяшні дзень, а *творыць* будучы?..

У большасці твораў маладзейшых паэтаў адчувальна страчваецца нацыяналь-

ная адметнасць, тая ўнутраная адрознасць беларускай паэзіі ад паэзіі іншых народаў (эксклюзіўнасць *тутэйшай* душы). Я не кажу пра збітыя дзесяцігоддзямі акцэнты і дагматычную зацыкленасць на традыцыі і фальклоры, а пра глыбінныя праявы беларускага духу. Бо сціранне нацыянальных граняў вымагае ад маладых літаратараў усё большай творчай нівеліроўкі і міжвольнага ўцягвання сябе ў глабалізацыйны "інтэлектуальны маскульт"...

Кожны час (і грамадства) патрабуе (а падчас і дыктуе) ад літаратараў пошуку новых формаў і адметнага стылю мастацкіх твораў. Гэта не азначае, што такія творы адразу запісваюцца ў класічныя скрыжалі і хрэстаматыі, але яны пэўным чынам выпрацоўваюць (мяняюць вектар ідэй і сэнсаў, а таксама групуюць асобныя літаратурныя накірункі), дапаўняюць і падштурхоўваюць (нярэдка і штучным метадам) агульначалавечую (адштурхоўваючыся ад агульнанацыянальнай) культурную, этычна-эстэтычную і мастацкую эвалюцыю зямной цывілізацыі.

Паэт піша адзін тэкст, а кожны з яго чытачоў (у дадзеным выпадку 500 чалавек, зыходзячы з накладу зборніка Рыжкова) мае адносна яго сваё разуменне і сваё ўяўленне. Гэта значыць, што адзін тэкст мае (пры шчаслівым выпадку) прыкладна 500 інтэрпрэтацый. А найбольшую здольнасць (патэнцыю) да падобных інтэрпрэтацый маюць, як вядома, таленавітыя і геніяльныя творы. І наадварот, у графамана адзін тэкст – як для яго самога, так і для яго магчымага чытача. Не геніяльная прастата, як у першым выпадку, – а бяздарная просталінейнасць.

*Заўважу, што сур'ёзнасць літаратурнай фігуры Рыжкова змусіла мяне паставіцца да разгляду яго творчасці без цяперашняй "рэкламнай паказушнасці" (маўляў, "бяжы, бяжы, хлопец!") і адразу выставіць яму сталы "гамбургскі рахунак" са спадзевам на хуткі разлік. Паэзія таго каштуе.*

Сям-там у Рыжкова адчуваецца калі не вучоба ці запазычанасць, то паўсячасная аглядка на паэтыку, выбудаваную па лініі Бродскі-Хадановіч (умоўна так называю, вядома), аднак са сваімі аўтарскімі "адхіленнямі". Шчыра кажучы, на маю думку, Бродскага ўжо за пятнаццаць пасмяротных гадоў дарэшты замылілі (яго рытміку, строфіку, формы падачы і мысленне, асабліва апошняе). У Бродскага заўжды быў хоць і нервова-правакацыйны, але бліскучы розум і, ненавязліва пасуючы яму, інтэлектуальна падсвечаны духоўны складнік ды ўнутраная душэўная і фізічная гармонія. Што ад гэтага засталося ў вучняў і паслядоўнікаў? Усё паасобку і нічога разам. Стыхійнасць "подмастерьев" растрэсла гармонію на аскепкі. Не гармонію паэзіі Бродскага, а іх уласную, зразумела.

Але найчасцей Рыжкоў творыць наўзбоч гэтай лініі, ён недасканалы ў сваіх пошуках, аднак спрабуе быць самасным і ўжо сёння адметны ад Шчура-Хадановіча-Прылуцкага-Мартысевіч...

У яго істоце ўзышла і ўжо бродзіць, б'ючы ў нос, тая мастацкая брага для будучага паэтычнага *першаку*, на які будзе попыт (для *апахмелкі* пасля "чумы во время пира")...

Нешта ў Рыжкова ёсць і ад вобразна-стылістычнай "архітэктуры" А. Вазнясенскага. Але гэта выбарачна і на маё занадта асабістае чытацкае ўспрыманне. Безумоўна, і сучасная замежная паэзія (перакладамі якой Віталь даволі паспяхова займаецца) таксама мае свой *паслядоўны* адбітак на яго творчасці. І ўсё ж яму бракуе асабістага вопыту душы, які бы лакмусавая паперка, праяўляў бы сапраўднасць яго мастацкага дару. Зрэшты, гэта з часам прыйдзе...

Часам здаецца, што некаторыя вершы Рыжкова *выцягнутыя* і выснаваны не з рэальнасці, якую пакінулі з аўтарскай волі, а – ледзь не з нябыту ці, як у вядомай карціне Гоі, адтуль, дзе "сон розуму нараджае" сваіх "пачвараў"... Іх воб-

разы і ўмоўныя героі, бывае, палохаюць і адштурхоўваюць ад сябе, але нярэдка і зачароўваюць, прыцягваюць сваёй таямніча-загадкавай сутнасцю. Гіпербалічнасць і натуральнасць, як вобразныя аскепкі героя яшчэ дарэшты “несабранага” ў паэтычным люстэрку...

Нездарма ў вершах Рыжкова Бог можа быць напісаны як з вялікай так і з малой літары.

Канкрэтней пра некаторыя асобныя творы:
добрыя вершы: “дзверы, замкнёныя на ключы”, “Самае цікавае”, “Справаздача па роспачы”...;
вершы, якія не ўразілі: ***“калі мы падаем, зоры...” (чамусьці ім адкрываецца зборнік), ***“Вяртайся да мяне, вяртайся...”, “Верш калясамурайскай тэматыкі”...;
цікавыя паэтычныя медытацыі ў вершах “дарожныя здарэнні” і “Сненні падчас палявання”.

Бывае, што некаторыя вершы Рыжкова сваімі рэфрэнамі напамінаюць мантры ці нейкае шаманства (камланне) як, да прыкладу, у тэксце “Роспач на продаж”:

Выспела роспач,
вы-ы-спела,
вылезла,
воспай на твары высыпала,
воскам, выступамі,
слязамі празрыстымі,
выспамі,
высямі,
няспыннымі выразамі,
выспалася...
Выспела.

Верш “Зялёны чалавечак”, на погляд хрысціяніна, выглядае вульгарным і папросту святатацтвам, аднак аддамо належнае, напісаны ён таленавіта па вобразным мастацкім выяўленні, а да таго ж змешчаны якраз на той старонцы (33), якая як бы няўзнак сімвалізуе ўзрост Хрыста...

Альбо вось такое ў вершы “Загінаючы пальцы”: “бля”, “блядзіна”, “Усраныя каровы і збольшага ўсраныя вяскоўцы”.
Далей падобнае працягваецца ў перакладах (да прыкладу, з Сяргія Жадана):

вось так паэты
кладуцца пад блядскую паэзію,
прадаюцца ёй, вось так
з нармальных мужыкоў
робяць паэтаў.
..............................
..................................
адзін х..., –
яны рэагуюць толькі на х... .

Прычым нецэнзуршчына ў зборніку падаецца без скаротаў. З гэтага можна зрабіць беспамылковую выснову, што аўтару (і перакладчыку) надта ж хочацца быць не такімі як усе (а мо якраз такімі як большасць?!), прычым хочацца быць цынічнымі, каб быць заўважанымі і ацэненымі за смеласць выказвання, а не за мастацкую вобразнасць! Пры тым (“какая изворотливость ума”!) як бы змагаючыся з гэтай нецэнзуршчынай, але такімі ж вульгарнымі метадамі (я, маўляў, толькі таму і пішу *гэта*, бо толькі на *гэта* яны і рэагуюць). Але ж навошта пісаць і арыентавацца ў творчасці менавіта на такіх “чытачоў”?!

І нарэшце гэткае (пішу якраз напярэдадні Вялікадня) у таго ж Жадана ў тым жа рыжкоўскім перакладзе:

Як казаў Ісус, раскінуўшы рукі, –
Я яшчэ вярнуся, сукі.
Такія нежаданыя словы.

Праўда, у перакладзе верша Тэйлар Мэлі “Я магу быць паэтам”, натыкнуўся я і на своеасаблівае самаапраўданне творцы:

І я не баюся абламацца.
І я не баюся выкарыстаць АДНО лаянкавае слова,
каб даць вам зразумець, што я А..УЕННА сур’ёзны!
Я не баюся таксама.

Але ж у гэтым зборніку Рыжкова такіх слоў не адно і не два, а іх – праз-мер-на! Яны ў асноўным і не дазваляюць мне ўспрымаць яго вершы за дасканалую паэзію, як творы высокага мастацтва. Добра, што падобнага адчування самакрытычнасці не пазбягае і ён сам:

бывае, падоўгу ледзь не па мапе шукаеш рыфму –
і тое не так, і гэтае не палезе,
потым паставіш што-небудзь, схалтурыўшы крыху,
і думаеш паэзія гэта ці не паэзія?

Шрыфт зборніка дробны – відаць, спецыяльна разлічаны на маладыя вочы і гэта добра, бо старэйшае пакаленне чытачоў наўрад ці зразумее многія не толькі вульгарна-цынічныя, але і нават станоўчыя пасылы паэта. Затое шырокія старонкі са свабоднай белай прасторай пакідаюць чытачу сумежнае поле для сутворчасці (дадумвання, суперажывання, рэзюмавання).

Ёсць праблема з граматыкай, сінтаксісам і пунктуацыяй. Знакі прыпынку ставяцца толькі там, дзе таго хочацца аўтару. Мае права. Але і мы, чытачы, маем права крытычна ставіцца да такога падыходу. Хацелася б пэўных правілаў “гульні” (альбо са знакамі, альбо без іх), інакш верш ператвараецца ў своеасаблівы “кубік-рубіка”, які трэба так і гэтак круціць-варочаць, каб нарэшце дамагчыся закладзенага ў тэксце сэнсу... Бо ўсякая “гульня”, як і любая зададзенасць, у тым ліку і творчая, мае свае правілы, таму што ў адваротным выпадку папросту не мае права на жыццё (існаванне) і ператвараецца насамрэч у гульню (ужо без двухкосся).

Паэт хоча быць пачутым (натуральна), можа, нават больш, чым прачытаным, бо ведае гібласць апошняй надзеі. Але ў яго г*о*ласе няма г*а*ласу (“sos!”), праявы здарэння бяды ці няшчасця, каб пераканаць і заклікаць чытача да водгуку і зваротнай рэакцыі. Са сваім словам ён пакутуе (унутрана) сам-насам, хоць і выяўляе гэта публічна (вонкава). Заўважу, што я не стаў праслухоўваць дыск з дэкламацыяй вершаў паэта, каб не псаваць уражання ад друкаванага слова (самой кніжкі).

Паэт можа быць цынічным і нават амаральным чалавекам у сваім асабістым жыцці, але яго творы (паэзія) павінны быць маральнымі. Пачытайце Анатоля Сыса альбо Артура Рэмбо, Міколу Купрэева альбо аўтара “Кветак зла”... І справа не ў духоўнай нявыхаванасці ці маральным паралічы сучаснага паэта, а ў тым становішчы, у якое яго паставіла грамадства перад сваім патэнцыяльным чытачом (ён хоча адпавядаць свайму чытачу, а не быць вышэй за яго; памятаеце пушкінскае: “Поэт! Не дорожи любовию народной. (...) ... ты – царь: живи один.”) Час прыгаломшыў норавы не толькі шараговых грамадзян, але і інтэлектуальнай эліты. Зносіны паміж імі пачалі мяняцца ў залежнасці ад паводзін і матэрыяльных затрат і запатрабаванняў, ад чаго сталі залежаць (хай і часова-эфемерныя) поспех і слава сучасных літаратараў, кідкіх да багемнага ўзвышэння (як, дарэчы, і ва ўсе часы). Проста ў кожнага часу свае *кошты*, не зважаючы на тое, што ў рэшце рэшт *каштоўнасці* застаюцца адной пробы – мастацкай.

Віталь Рыжкоў пакуль для мяне самы адметны і арыгінальны з маладых

беларускіх вершатворцаў, якога я заўважыў апошнім часам і спрабую вычуць і зразумець, хаця б па той простай прычыне, што на маё ўспрыманне ён – творца даравіты, а гэта значыць, здарэнне рэдкае і з'ява неардынарная.

Вось і вершы – настолькі маленькія,
што без перашкодаў трапляюць у вока,
асабліва калі такая спёка:
ці то выплакаць іх хочацца,
ці то зразумець – што
гэта было.

І лісце цяпер ірве свае зжаўцелыя пупавіны;
і, здаецца, нішто не нервуе настолькі ў жыцці,
як адчуванне, што нехта вось-вось з'явіцца павінны,
а нехта сысці.

Аказваецца, і *нябожчык* звязаны з жыццём пупавінай, а не толькі *нованароджаны*, якому яе трэба пераразаць, каб ён пачаў жыць самастойна, тады як нябожчыку ўжо трэба разрываць пупавіну з самім жыццём, каб памерці... Выдатная алюзія!

З таго, што запала ў памяць:
Падаюць з неба радкі,
якія нельга сказаць.

Я яшчэ пажыву
хістаннямі.

Скажу шчыра, не без нерваў настроіўшыся на паэзію Віталя Рыжкова, як на цяжка ўлоўныя хвалі беларускага радыё "Свабода", з усімі перашкодамі і пабочнымі шумамі, уважліва ўслухаўшыся, можна пачуць тое, чаго не ўчуеш па звычайнай радыёкропцы, іншым разам улавіўшы толькі пасыл і тон пэўнай тэмы, інтуітыўна ўжо сам даўмеўшыся, што там да чаго... І калі так атрымліваецца, то такія праявы паэзіі Рыжкова, як пісаў Барыс Пастэрнак, – гэта "новость, которая всегда нова".

А што да недагаворанасці-недачутасці ды загадкавасці, то менавіты гэтыя якасці заўжды былі для класічнай і ёсць для лепшых узораў сучаснай паэзіі іх знакавай сутнасцю. (Толькі не трэба блытаць *недагаворанасць* з *недамоўленасцю*, якая часам паўстае паміж аўтарам і ідэйнай задумай, што прыводзіць да правалу мастацкага ўвасаблення. Размова тут, безумоўна, ідзе пра іскру творчага натхнення.) Што праўда, сучасныя маладыя аўтары, у тым ліку і В. Рыжкоў, у асобных сваіх вершах альбо не дагаворваюць УСЁ, пакідаючы чытача з неразгаданасцю тэкста, – без шыфра і ключа, альбо выказваюцца *дарэшты*, пакідаючы ў тэкстах, як нешта незвычайнае і сімвалічнае, усю брудную бялізну чарнавікоў, з лаянкай і амаральнай безразважнасцю разам...

І тут ужо чытачу старой традыцыйнай закваскі, каб усё-ткі адамкнуць "дзверы, замкнёныя на ключы" гэтай паэтычнай кніжкі, даводзіцца "замаўляць "дамушніка" (скажам, І. Шаўлякову, П. Васючэнку, М. Мартысевіч, М. Аляшкевіч ці яшчэ каго). Я ж, прабачаюся, адкрываў як мог, магчыма, і празмерна налягаючы на тое, што паддаецца эмоцыі і сіле, а не тонкаму ўнутранаму вычуванню ды інтэлектуальнаму досведу.

*Але, дзякаваць Богу, насуперак назову зборніка, Рыжкоў не замыкае сваю мастацкую прастору на ключы асабістага творчага дыдактызму. Ён увесь у развіцці, яго дух у раскрыленасці... Віталь* адзін з найбольш яркіх і таленавітых маладых паэтаў*, што знаходзіцца ў працэсе ўласнага самастварэння. Ёсць спадзяванне, што яго новая кніжка будзе адкрытая насцеж, як і сам бунтоўны дух неардынарнага творцы.*

памяць

Алесь Бакач



…На амаль шэкспіраўскае пытанне:
"Жыць альбо піць?",
Збажына адказаў…

# Смяяўся ў вочы жыццю і смерці

***Згадваючы Яна Збажыну***

Каб уявіць сабе, якім быў Ян Збажына, згадайце вобраз Гервасія Вылівахі з «Ладдзі роспачы» Уладзіміра Караткевіча. Гэткі ж светлавокі, рухавы, заўжды выпраменьваючы беларускі гумар, лёгкі на збор у вандроўку, у заўсёдным пошуку навізны і авантуры, ён смяяўся ў вочы жыццю і смерці ва ўласным лёсе і сваіх творах. Ян і Гервасій падобныя не толькі прагавітасцю да "славянскай забавы" і дзявок, рамантыкай натуры, але, найперш, шчырай любоўю да Бацькаўшчыны і ўсяго беларускага.

У скарбонку Беларусі Ян Збажына паклаў усяго адну, падобную на сшытак, кнігу паэзіі і прозы «Пыл саркафагаў», выдадзеную ў 2004 годзе. Наракаюць, што замала. Ды не – многа, бо, па словах Яна Збажыны, нават адзін «добры афарызм варты пэўнай філасофіі».

Ян Збажына адпрыродна валодаў магнетызмам, які ўцягваў людзей у яго энергетычнае поле захапленняў. Дзякуючы яму, у сферу беларушчыны, грамадскага руху і літаратуры патрапіў і я, калі, пасля заканчэння Беларускага

інстытута фізкультуры, працаваў у сваіх Баранавічах інструктарам па плаванні ў басейне сярэняй школы №6. І было ж так наканавана, што менавіта ў гэтай жа школе з 1989 года працаваў будучы Ян Збажына, а пакуль што – Іван Мікалаевіч Савіцкі – студэнт-завочнік гістарычнага факультэта Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Ён выкладаў гісторыю і стварыў школьны выхаваўча-падлеткавы клуб «Усходкі», з якога, неўзабаве, узрасла Баранавіцкая харугва Аб'яднання беларускіх скаўтаў. Менавіта Янка стаў першым, сустрэтым мною ў Баранавічах, беларускамоўным не па вясковасці, а па духу і па інтэлекце. Мы хутка пасябравалі, і пайшло нашае жыццё паралельнымі шляхамі.



*Ян ЗБАЖЫНА.*

Упершыню я ўбачыў у прыватнай бібліятэцы сябра гэтулькі кніг па мастацкай літаратуры, гісторыі, культуры, філасофіі! А сам я тады захапляўся рэрыхаўскім вучэннем “Жывая этыка” і духоўнай літаратурай. Пасеяныя ў нас зярняты набрынялі парасткамі. І вось, аднойчы ў 1991 годзе, дзеля жарту, за кубкам гарбаты ў Янкі, мы дамовіліся, што кожны напіша верш па-беларуску. І – атрымалася! Шчаслівыя імгненні жыцця – быць першымі слухачамі вершаў адзін аднога, друкавацца ў адных нумарах газет і часопісаў! Першым я пачуў і яго літаратурны псеўданім – Ян Збажына.

Шукальнік і вынаходнік навізны і разнастайнасці ў літаратуры, ён удала прадоўжыў справу Максіма Багдановіча і Алеся Разанава, часам інтуітыўна і нечакана выходзячы да новых адкрыццяў спалучэння рытму, графічнай формы, схемаў рыфмоўкі і глыбіннасці сэнсу – як у вершах “Хмары”, “Сахіра”, “Ракако”, “Снег”.

Аднак, і поўны прыгодаў лёс Яна Збажыны ёсць непарыўным працягам яго літаратурнай творчасці. Мабыць, дзякуючы гэткім гульцам у жыццё і складаліся ў народзе быліны і аўцюкоўскія показкі. Да таго ж, ён валодаў дарам іх смешна распавесці і таму быў душою кампаніі.

Разам з выхаванцамі нашай Баранавіцкай харугвы, мы з Янам у 1992-94 гадах ездзілі ў скаўцкія лагеры, дзе на вольнай волі да нас падляталі радкі вершаў, а да мяне яшчэ й мелодыі. Які то быў час веснавога абуджэння народнага духу!

У тыя гады Ян працаваў ужо настаўнікам гісторыі ў школе №20, быў жанаты на першай Людцы (Бурмістравай) і меў сыночка Усяслава. Памятаю, калі я заходзіў да яго па вечарах дадому, на ціхі завулак Паўночны, 12, ён казаў, што знаходзіцца ўжо на “аўтапілоце” пасля праведзеных шасці-сямі ўрокаў, бо на апошнім ужо язык заплятаўся. “Расслабляўся” чаркаю. Не са мною. Са знаёмымі

і выпадкоўцамі. Настаўніцкага заробка не хапала, хоць маладая сям’я і жыла пры яго бацьках у родным доме. Не дзіўна, што сямейнае жыццё распалася, і Янка застаўся адзін. Ледзь трымаўся і за школу.

Тым часам яго “начытанасць” літаратурай і філасофіяй непазбежна вылілася ў знітаваныя агульнай ідэяй цыклы афарызмаў-развагаў “Гербарый” і “Начныя матылі”. Вось адна з тых яго аўтабіяграфічных замалёвак: “Самазабойства – заставацца асобе настаўнікам у казённай школе сярод народжаных люмпенамі». Альбо гэта: «Вучаніцы старэйшых класаў не надта ахвочыя да вывучэння гісторыі – кожны вечар у іх дастаткова ўласных гісторый». І сапраўды, мала хто з пісьменнікаў пасля заканчэння якога філ-, жур- ці гістфака здолеў адпрацаваць у школе больш за некалькі гадоў?

Ян Збажына казаў, што для творчасці яму патрэбна “хімізацыя мозгу”: гарбата, кава, тытунь, алкаголь, і – жанчыны: “Як сімвал гармоніі, ва ўласным гербарыі хочацца мець на адной сцябліне і бутон, і расквітнеўшую ружу”. Эратызм, змяшаны з пагардаю да жанчын, чырвонай ніткай віецца праз усё яго жыццё і творы. Але, за ўвесь яго нядоўгі педстаж, ні раманы са старшакласніцамі, ні лісты з выцвярэзніка не сталі прычынаю звальнення з працы, пакуль ён не “зпалітыкаваўся” ў Аб’яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі і не захацеў стаць дэпутатам...

Школа з нешчаслівым нумарам 13 стала яго апошняй прыступкай... перад выкладаннем сацыяльна-палітычных дысцыплін у ВНУ – Баранавіцкай філіі Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта. Але й там яму нешта не спадабалася...

Спрабаваў сябе Ян і ў якасці журналіста гарадскога тэлеканала (аднойчы нават рабіў рэпартаж з майго дому пра “сябра-паэта”). Быў адным з заснавальнікаў гарадской філіі Беларускай асацыяцыі журналістаў і карэспандэнтам газеты “Шаг”. Але, яго гэтак цягнула на літаратурныя фантазіі, што тыя артыкулы ды “інфармашкі” былі да смешнага далёкімі ад рэальных падзеяў.

Вясною 1996 года я міжволі “сасватаў” Янку з другой Людкай (Сямашка), альбо, як ён яе ласкава назваў – Лю. Гэта чарговая прыгода пачалася падчас мае з Янам паездкі да дзяўчат на лецішча дзеля святкавання дня народзінаў аднае з іх. (Я тады каля сямі гадоў быў вольны). Апоўначы, пасля застолля, дзяўчына адпрэчыла Янку і той, бразнуўшы дзвярыма, пайшоў (пешкі!) за 15 кіламетраў у Баранавічы. Уначы ў прыгарадзе Баранавіч, пераходзячы праз чыгунку, Янка сустрэў дзядзьку з роварам у стане “пасля ўчорашняга”, дапамог яму дайсці да дому, дзе і пазнаёміўся з яго дачкою-дзесяцікласніцаю – Лю. У снежні 1997 года Ян і Лю пабраліся шлюбам і неўзабаве Лю падарыла яму дачушку Волечку.

Ян Збажына заўжды “перабіваўся” выкананнем кантрольных і курсавых завочнікам. А вось “сур’ёзнай” працы з-за несур’ёзнасці так і не займеў, хаця пры яго розуме і дасціпнасці, гэтага грэх было не зрабіць. Казаў, што настаўнікам не бяруць, а іншай працы не ўяўляў. Хаця, выбар быў не малы. Яшчэ ў юнацтве ён скончыў ПТВ №61 на кранаўшчыка, а ў гады завочнага атрымання вышэйшай адукацыі працаваў і пажарнікам, і фатографам... Не стаў ён супермэнам і для маладзенькай Лю, усё часцей “заглядаў у чарку”, што, апускаючы падрабязнасці і злы збег абставінаў, і прывяло яго ў 2003 годзе да цяжкай хваробы падстраўнікавай залозы, аперацыі і разводу.

Пра чары Збажыны на людзей найбольш сведчыць тое, што абедзьве яго жонкі размаўлялі з ім па-беларуску, вучні слухаліся, а маладыя літаратары, як Руслан Равяка, Анатоль Трафімчык і Алесь Гізун, кожны ў свой час, цягнуліся да яго асобы і творчасці, пераймаючы, не толькі лепшае... Свой бязладны лад жыцця ён нарок «збажынізм» і выдумаў жартоўны запавет: «Любі Збажыну і ўсё, што любіць Збажына – і рай табе будзе забяспечаны яшчэ пры жыцці!”

Але, вернемся да творчасці Яна Збажыны. Не спыняючыся на дасягнутым, ён паспрабаваў ствараць хоку, танка, версэты. Асэнсаванне лёсу асобы й народа

адлюстравалася ў яго трох эсэ: пра Адама Міцкевіча, Янку Купалу, Уладзіміра Высоцкага, у рэфлексіях на Фрыдрыха Ніцшэ.

Творы Яна Збажыны падобныя на зіхоткія гронкі крышталяў кварца ў скальнай пародзе. Пры заўважнай «недапрацаванасці» яны не падлягаюць рэдагаванню. Бо, адбіваючы лінгвістычны баласт і браваду, патрушчыш і крышталі. Пакінем разабрацца ў гэтым навукоўцам. Нам важней першабытны дух паэзіі, непрадказальны палёт стралы думкі з гушчара падсвядомасці, важней настраёвасць і мелодыка ўдалых фрагментаў яго літаратурнага калейдаскопа.

Але, нездарма сказана, што веды памнажаюць сум. Няпростае выпрабаванне для любой псіхікі: Ніцшэ, Шпенглер, Шапенгаўэр, Фрэйд, Фром, Блавацкая, Розанаў, Лосеў, ды добры тузін падобнага чытва. А ўрэшце Ян прыйшоў да простай тупіковай высновы Эклізіяста: “Усё – марнасць марнасці”. Як у ягоным афарызме: “Цынізм – рэалізм без пачуццяў”. Прачытанае ён імкнуўся у мастацкай форме перавыказаць па-свойму. Яго філасофскае крэда, з дамешкам напускнога эгаізму і цынізму, увасобілася ў прыпавесцях “Меч гладыятара” і “Піраміда Хеопса”.

Ян Збажына быў “сам па сабе” і не ўступіў у створаную мною ў 1996 годзе грамадскую арганізацыю “Творчае згуртаванне “Святліца”. Але часта ўпрыгожваў яе сходы сваёй эпатажнай прысутнасцю. Надта дапамог ён мне і ў зборы вершаў для кнігі выбранай беларускай паэзіі “Агледзіны”, падказваючы імёны аўтараў і даючы чытаць кнігі са свае бібліятэкі. Я ўдзячны Яну, што напачатку нашага сяброўства, ён пазнаёміў мяне з баранавіцкімі паэтамі Аляксеем Белым, Валерыем Ігнаценкам, з мастаком Міколам Коласам, са слыннай гарадзенскай паэткай Данутай Бічэль і шэрагам іншых Асобаў.

У апошняе Янава дзесяцігоддзе адзіноты, хваробы й нястачы, памёр ягоны бацька і Ян застаўся з нямоглаю маці ў сваім немалым пустуючым доме. Жывучы пад дамоклавым мечам аліментаў, ён працаваў вартаўніком, грузчыкам, качагарам. Але, да яго гонару, ніколі не прадаў ніводнай кнігі...

Было ясна, што вершаў Ян больш ніколі не напіша. Адчувалася і тое, што ён ужо сказаў усё, што мог. Яго апошнім творам стала проза чорнага гумару “Пляванне ў столь”, дзе ў гратэскнай форме ім вымаляваныя вартыя смеху і жалю цьмяныя тыпажы нашага соцыюму. Нават і выдумляць не спатрэбілася: аднойчы сын-школьнік, завітаўшы да таты-пісьменніка, запытаў: “Папа, а когда ты умрёшь, мне достанется твой мобильник?..”

Колькі разоў я казаў Яну: “Ты патрэбен Беларусі!”. Сусед-пяцідзясятнік спрабаваў навярнуць яго да хрысціянства. Ды марна. На амаль шэкспіраўскае пытанне: “Жыць альбо піць?”, Збажына адказаў: “Піць!”

Наведаўшы Яна ў баранавіцкай бальніцы ў снежаньскую нядзелю 2010 года, я апошні раз прачытаў яму свой новы верш, а ён, як і неаднойчы раней, “на выпадак чаго”, тлумачыў, як распарадзіцца яго бібліятэкай і рукапісамі. А 10 лютага 2011 года ў Брэсцкай абласной бальніцы знясіленага і змізарнелага пасля аперацыі Яна Збажыны не стала...

Пры жыцці Яна Збажыны многія сябры ў душы звысок пасміхаліся з яго, а то й грэбавалі ім – філосафам-жартаўніком, гатовым папрасіць пазыку. Яго і пры жыцці і пасля шкадавалі і шкадуюць ілжывым чалавечым шкадаваннем, бо, насамрэч, людзі неўсвядомлена шкадуюць толькі сябе, уяўляючы сябе каханага на месцы шкадуемай ахвяры. Яна Збажыны няма, бо побач не было анікога народжанага звыш, чыя, нават большая за матчыну, божая любоў магла яго ўратаваць.

*P.S.* Кніга Яна Збажыны “Пыл саркафагаў” ёсць на сайце www.tvory.byhost.org

У 2004 і 2008 гадах на відэа мною запісаны расповед Яна Збажыны пра сябе, а таксама яго творы ў аўтарскім чытанні.

# Ян Збажына

## СНЕГ

між зямлёю і небам губляюцца межы
снег кладзецца на снег
прабіваючы вечнасць касцельная вежа
нерухома знікае ў пярэстым бязмежжы
снег кладзецца на снег
ледзянее на вуснах бязмоўна каханне
зошла шкеляцца вочы ад белага ззяння
і цнатлівай дзяўчынаю смерць беззаганна
абдымае і песціць таемным вяртаннем
снег кладзецца на снег
і хаваецца ў боскасці млоснага змроку
што навокал і так неабсяжнае зроку
снег кладзецца на снег
зацярушвае прагу апошняга кроку

## ЖОЎТЫ ТРЫПЦІХ

***Дануце Бічэль-Загнетавай***

*...пажоўклы ліст адзін за адным*
*нясе свой жаль над полем пустым.*
*Уільям Шэкспір*

***I***

Адчуванне смерці неабходна
тым, хто хоча вечна жыць, –
жаўцізною восені паходня
доўга будзе нам свяціць.
Адспяваюць птушкі напрадвесні
толькі раз на цэлы год,
асалодзяць нашых боляў песні,
згорклы ў сэрцы даўні мёд...

***II***

На пытанні, што стаяць спрадвеку,
з цягам часу знойдзецца адказ.
Хваляванні сённяшняга веку
хваляваць не будуць заўтра нас.
Хай жа лёс хвілінай летуцення
нам запаліць жоўтыя агні!..
Тыя словы, рэчы, справы, цені,
з болем сэрца восеньскія дні.

***III***

Але ўсё на свеце з божай ласкі!
Восень сцеле жоўтым дыванам,
і ўсе стомленыя твараў маскі
ціхім спачываюць сном...

## *РУЖЫ*

На труне паміраюць ружы
(іх прынеслі сябры для мяне).
І пунсовасці ветразь кружыць
жаўцізну, што ляжыць у труне.

Не шкадуйце мяне, не трэба.
Шкадаванне не тоіць надзей.
Сілай ружы жывіла глеба,
каб памерлі яны для людзей.

## *АФАРЫЗМЫ*

Ганарыся, што ствараеш мараль для тых, хто дакарае цябе ў амаральнасці.

Гвалтоўнае зачацце менш амаральнае, чым добраахвотны спарон.

Гісторыя чалавецтва распачалася каштаваннем з дрэва ведаў, і ўвесь яго гістарычны шлях – гэта пошук дрэва вечнасці.

Доказы – заняпад інтэлекту.

Жанчыны вельмі хутка выклікаюць аскому. Не абрыднуць толькі мроі аб іх.

Зерне, кінутае фарысеямі, прарастае і на каменні.

Ілюзорная мара маленькай нацыі – бачыць Збавіцеля ў нацыянальным строі.

Ісціна, агульная для ўсіх, шкодная.

Кропля дабра пералівае цераз край зло.

Мараль – гэта балаўніца, якая прываблівае прытворнаю цнатлівасцю.

Мы ўсе родам з вар'яцкага дому, дзе размовы хворых тояць філасафічную глыбіню, а паводзіны лекараў нагадваюць тыранію.

Не глядзі туды, дзе смутак: там пахавалі Хрыста; не глядзі туды, дзе весялосць: там Яго ўкрыжоўваюць.

Пакуты набліжаюць да мудрасці, ісціну знаходзіць радасць.

Пасля смерці кожны сустракае самога сябе... Жахліва?

Разам з начнымі матылямі – праз цемру маралі ў святло агню!

Разбэшчанасць і аскетызм – дзеці інтэлекту.

Разважанні аб смерці прыемна супакойваюць тым, што і сама смерць падуладная ім.

Смерць агідная больш за ўсё тым, што разам з табою не памірае ўсё чалавецтва.

Той, хто пераступае праз мараль, трапляе ў вечнасць.

"Увесь свет – тэатр", але чый – Шэкспіра ці Нерона?

Фром распрануў душу чалавека – і, аголеная, яна засаромелася.

Хто доўга ўглядаецца ў зорнае неба, запаліць на ім сваю Батлеемскую зорку.

Цвярозасць – маці мяшчанства. Мастацтва і навуку нарадзілі п'яная блудніца з галодным аскетам.



# Чыстая краіна

***Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»***



**Бахарэвіч Альгерд. Малая медычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча. (Бібліятэка Свабоды XXI стагоддзе). – Радыё Свабодная Еўропа/Радыё Свабода, 2011. – 320 с. [іл].**

Арыгінальная ідэя (задума) кнігі, арыгінальнае ажыцьцяўленне (рэалізацыя) яе, арыгінальны падбор апісаных (разгледжаных) органаў і хваробаў, арыгінальнае... Арыгінальнае ўсё, што робіць (ставарае) Альгерд Бахарэвіч і чым час ад часу здзіўляе сваіх чытачоў. Нечаканая кніга для тых, хто любіць Бахарэвіча празаіка (творцу), чаканая для тых, хто слухае (і чытае на сайце) Радыё Свабода. "Малая медычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча" яскрава адлюстроўвае сённяшні стан (хваробу) нашага грамадства, "якому тэрмінова трэба медычная дапамога і якое яе катэгарычна адхіляе". Як вынікае з кнігі (і ўсёй творчасці Бахарэвіча) – на жаль...



**Бутрым Венанцы. Маўклівыя сонныя птушкі: эсэ, апавяданні, аповесці. – Смоленск-Пресс, 2011. – 354 с.**

Кніга прозы Венанцы Бутрыма доўга чакала свайго часу. Ён быў вядомы ў сваіх родных Баранавічах і Беларусі найперш як мастак і паэт. А як празаік дэбютаваў публікацыяй у часопісе толькі ў сорак гадоў. Выйшлі тры кнігі паэзіі Венанцы Вікеньцевіча, ён удзельнічаў у шматлікіх выставах, а проза ўсё заставалася на потым. Таму першая кніга апавяданняў і эсэ выйшла... праз восем гадоў пасля смерці, дзякуючы намаганням сяброў і ўдавы. Можна парадавацца, што гэта здарылася і пашкадаваць, што такі незвычайны талент столькі гадоў заставаўся нам невядомым і па годнасці неацэненым...



**Вітушка Сяргей. Дзінь-дзілінь: пара гуляць у казкі, ілюстрацыі Міхала Анемпадыстава. – Мінск: Зміцер Колас, 2011. – 114 с. [іл].**

Хто з нас, расказваючы казкі сваім дзецям ці ўнукам, раптам не пачынаў фантазіраваць і дадумваць вядомыя сюжэты, заўважаючы, што менавіта гэта асабліва падабаецца малым. Але ніхто не здагадаўся запісаць свае версіі казак паводле вядомых сюжэтаў з фальклору ці літаратуры. Зрабіў гэта з дапамогай сяброў Сяргей Вітушка. Сам ён сцвярджае: "Ніякія гэта не казкі-выдумкі. Гэта чыстая праўда. Я доўгі час жыў ды працаваў у Вільні і Менску з ваколіцамі. І ўсе апісаныя мною імёны, адрасы, рэчы і падзеі адпавядаюць рэальнасці. Так што смела бярыце гэтую кнігу як інструкцыю і рушце ў сапраўднае падарожжа". Дададзім: у найцікавейшае падарожжа ў нашую гісторыю, па нашых гарадах, святах і сімвалах, і, вядома ж, па нашых казках...

**Карамазаў Віктар. Мастак і парабкі: раман. – Мінск: Медысонт, 2011. – 272 с.**




З новым раманам вядомага беларускага празаіка Віктара Карамазава чытачы “Дзеяслова” мелі магчымасць пазнаёміцца ў двух папярэдніх нумарах часопіса. Віктар Філімонавіч застаўся верным сваёй улюбёнай тэме – няпростаму творчаму лёсу знакамітых мастакоў, чыё жыццё было звязана з беларускай зямлёй. У цэнтры рамана выдатны расейскі мастак, сябар Сурыкава, Рэпіна, Паленава, Васняцова – Мікалай Неўраў, які жыў, трагічна загінуў і пахаваны ў Лыскаўшчыне, што пад Круглым на Магілёўшчыне, напачатку мінулага стагоддзя.

**Кулікоў Ігар. Паварот на мора: вершы. – Мінск, 2011. – 94 с.**



Чаканая кніга маладога паэта, сёлетняга лаўрэата прэміі “Дэбют” імя Максіма Багдановіча, творы якога палюбіліся аматарам сучаснай беларускай паэзіі. Інтэлектуальнае, вобразнае, маляўнічае пісьмо, багатае на нечаканыя параўнанні і адкрыцці, якімі паэт шчодра дзеліцца са сваімі чытачамі... Вершы па волі аўтара знешне падобныя да прозы, але маючы рыфмы і рытміку то ўзбуджаюць, то закалыхваюць, як песні-медытацыі з невядомай рэлігіі, а дакладней – з далёкага паганства...

**Матывацыі супраціву: кніга апытанняў (пад рэдакцыяй Андрэя Дынька і Валера Булгакава). – Вільня: Інстытут беларусістыкі, Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2011. – 188 с.**




Кніга была задуманая пасля Плошчы-2006 і падрыхтаваная да друку да Плошчы-2010. Мэта яе была акрэсленая так: “высветліць найбольш тыповыя матывы і погляды, стаўленні і адчуванні, зразумець найбольш тыповыя базавыя ўзаемасувязі паміж выхаванем, адукацыяй, жыццёвым досведам і грамадзянскай актыўнасцю...” Дзеля гэтага былі апытаныя больш за трыццаць “прадстаўнікоў беларускай грамадзянскай супольнасці”, сярод якіх журналісты, гісторыкі, моладзевыя і грамадскія актывісты. Светлай памяці, Віталь Сіліцкі ў грунтоўнай прадмове “Тры хвалі, чатыры шляхі” падводзіць вынікі гэтага апытання, зыходзячы ўжо яшчэ і з падзеяў, што адбыліся пасля яго (апытання) – 19 снежня 2010 года. “Сам “выбух” той снежаньскай ночы толькі пацвердзіў устойлівае існаванне патэнцыялу для палітычных і сацыяльных альтэрнатыў у грамадстве”. А значыць, галоўныя падзеі ў нас яшчэ наперадзе...

**Сямёнава Ала. У святой краіне выгнання: імпрэсіі, адлюстраванні. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 488 с. – (Бібліятэка саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”: вып. 10).**




“Пачуццё і факт, эстэтычна-філасофскія разважанні і побытавыя замалёўкі, лірычныя споведзі і лёгкая іронія спалучаюцца ў адзіную плынь – спробу спасціжэння Часу і Вечнасці, Гісторыі і Быцця”, – лепш, чым у гэтай анатацыі, бадай і не сфармулюеш выснову пра змест і сэнс новай кнігі вядомага крытыка, літаратуразнаўцы, празаіка Алы Сямёнавай. Ад першай старонкі кніга ўцягвае чытача ў сваю стыхію і прымушае думаць і пасля перагортвання старонкі апошняй...

**Фростэнсан Катарына. Чыстая краіна: вершы; пераклад са шведскай Дзмітрыя Плакса. – Мінск: Медысонт, 2011. – 40 с. – (Бібліятэка часопіса “Дзеяслоў”).**




“Найшырачэйшае поле пісьма. Кожнае словаспалучэнне, кожнае слова, а часам і склад спараджаюць нечаканыя асацыяцыі, прымушаюць убачыць тканіну мовы па-новаму, даюць магчымасць зазірнуць і за самую гэтую тканіну, здагадацца адкуль ідзе слова, злавіць яго на шляху ад знаку да вобразатвору... Напружаны, насычаны, сканцэнтраваны тэкст, які патрабуе ад чытача поўнае ўвагі, глыбокіх ведаў, шырыні далягляду, тонкасці слыху. Пры гэтым – чыстыя маляўнічыя карціны, моцныя пачуцці, выразны сэксуальны падтэкст”, – да гэтых словаў пра паэзію Катарыны Фростэнсан з прадмовы да зборніка перакладчыка Дзмітрыя Плакса нешта дадаць немагчыма...

# Нашыя аўтары

**Бабкоў Ігар** — паэт, празаік, філосаф. Аўтар кніг «Solus Rex», «Герой вайны за празрыстасьць», «Адам Клакоцкі і ягоныя цені», «Засынаць, прачынацца, слухаць галасы рыб» і інш. Нарадзіўся ў 1964 годзе ў Гомелі. Жыве ў Мінску.

**Бакач (Бокач) Алесь** – паэт, літаратуразнаўца. Вершы і артыкулы друкаваліся ў калектыктыўных зборніках “Агледзіны”, “Дзядзінец. Паэзія Берасцейшчыны”, “Верш на свабоду”, у літаратурным альманаху “Святліца” і розных рэспубліканскіх выданнях. Нарадзіўся ў 1962 годзе ў Баранавічах. Жыве ў Баранавічах.

**Бельская Ірына** — паэт. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» часопіса «Дзеяслоў» за лепшы дэбют (2008 г.). Нарадзілася ў 1989 годзе ў вёсцы Чарневічы на Глыбоччыне. Жыве ў Наваполацку.

**Безмацерных Кацярына** – студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ. Апавяданні і артыкулы друкаваліся ў беларускіх СМІ. Нарадзілася ў 1987 годзе ў горадзе Мінску. Жыве ў Мінску.

**Бураўкін Генадзь** — паэт, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1980 г.). Аўтар кніг паэзіі «Майская просінь», «З любоўю і нянавісцю зямною», «Дыханне», «Жніво», «Выток», «Варта вернасці», «Пяшчота», «Паміж зоркай і свечкай», «Чытаю тайнапіс вачэй», «Лісты да запатрабавання» і інш. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Шуляціна на Віцебшчыне. Жыве ў Мінску.

**Весялуха Марына** – паэт, крытык. Выпускніца Баранавіцкага дзяржуніверсітэта. Нарадзілася ў 1987 годзе ў Мёрах. Жыве ў Мінску.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гілевіч Ніл** — народны паэт Беларусі. Заслужаны дзеяч навукі Беларусі. Прафесар. Паэт, драматург, перакладчык, фальклярыст, літаратуразнаўца. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Аўтар кніг «Песня ў дарогу», «Прадвесне ідзе па зямлі», «Перазовы», «Паэтыка беларускай народнай лірыкі», «Святлынь», «Родныя дзеці», «І чую я голас...», «Замова ад страху» і інш. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Жыве ў Мінску.

**Гізун Алесь** — празаік, паэт. Скончыў філалагічны факультэт БДУ (2006). Працуе ў незалежнай газеце «Intex-press». Нарадзіўся ў 1983 годзе ў Баранавічах. Жыве ў Баранавічах.

**Грыдзюшка Ганна** – паэт. Студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ. Нарадзілася ў 1991 годзе ў Віцебску. Жыве ў Віцебску.

**Дранько-Майсюк Леанід** — паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я» і інш. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Жыбуль Віктар** — паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Калі ў хаце дыверсант», «Рогі гор», «Прыкры крык». Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Законнікаў Сяргей** — паэт, перакладчык, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1991). Аўтар кніг «Бяседа», «Устань да сонца», «Пакуль жыве мая бяроза», «Прысак часу», «Заклінанне», «Лісцем дарога запала...», «Шалёная куля» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Слабада на Бешанковіччыне. Жыве ў Мінску.

**Збажына Ян** — празаік, паэт, эсэіст.

Аўтар кнігі «Пыл саркафагаў», шматлікіх публікацыяў у літаратурных выданнях. Нарадзіўся ў 1964 годзе ў Баранавічах. Памёр у 2011 годзе.

**Камінскі Ілля** – амерыканскі паэт. Аўтар кнігі паэзіі «На Танцах у Адэсе» (Dancing in Odessa) (Tupelo Press, 2004), якая атрымала цэлы шэраг літаратурных узнагародаў (Whiting Writer's Award, the American Academy of Arts and Letters' Metcalf Award, the Dorset Prize, the Ruth Lilly Fellowship). Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Адэсе. З 1993 года жыве ў ЗША.

**Морт Вальжына (Мартынава)** – паэт, перакладчык. Аўтар кнігі «Я тоненькая, як твае вейкі». Нарадзілася ў 1981 годзе ў Мінску. Цяпер жыве ў ЗША.

**Плакс Дзмітры** – паэт, перакладчык, мастак. Аўтар некалькіх кніг паэзіі. Нарадзіўся ў 1970 годзе ў Мінску. Жыве і працуе ў Стакгольме.

**Плотка Алесь** – паэт. Скончыў факультэт замежных моваў Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны. Друкаваўся ў гомельскім самвыдаце. Нарадзіўся ў 1984 годзе ў Гомелі. Жыве ў Мінску.

**Рагуля Аляксей** – літаратуразнаўца, крытык, прафесар. Аўтар манаграфіі «Імгненні...» (1990), зборніка літаратурна-крытычных артыкулаў «Пафас станаўлення» (1991), падручнікаў і навучальных дапаможнікаў па літаратуры, культуралогіі, методыцы выкладання. Нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Сянно на Навагрудчыне. Жыве ў Мінску.

**Рублеўская Людміла** — паэт, празаік, крытык, драматург, эсэсіст. Аўтар кніг паэзіі «Крокі па старых лесвіцах», «Адукацыя», «Замак месячнага сяйва», прозы «Міфы горада Б'», «Сэрца мармуровага анёла», «Пярсцёнак апошняга імператара», «Шыпшына для пані» і інш. Нарадзілася ў 1965 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Серабракоў Дзмітры** — крытык, публіцыст, перакладчык. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут і Каталіцкі ўніверсітэт Любліна, аспірант Інстытуту філасофіі НАН РБ. Нарадзіўся ў 1966 годзе ў Бабруйску. Жыве ў Мінску.

**Стаселька Кірыла** – празаік. Студэнт Факультэта філасофіі і сацыяльных навук БДУ. Нарадзіўся ў 1990 годзе ў Барысаве. Жыве ў Мінску.

**Хадарэнка (Шумская) Ірына** – паэт, празаік, музыказнаўца. Аўтар кніг «Чорная ружа», «Танцы на шкле» і інш. Нарадзілася ў 1976 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску

**Шапран Сяргей** — журналіст, публіцыст. Укладальнік кніг: «Дажыць да зялёнай травы... Ліставанне і аўтографы Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна (1960-2003)», «Паслаў бы табе душу... Ліставанне Рыгора Барадуліна з мамай (1954-1971)» (разам з Н. Давыдзенка), кнігі паэзіі Р.Барадуліна «Перакуленае/Опрокинутое». Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча за двухтомнае даследаванне «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах». Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Рызе. Жыве ў Мінску.

# Contents

***POETRY***

**Siarhiej Zakonnikaŭ.** Barefoot on the Stars. *Poems.*
**Iryna Chadarenka.** Enchanted Wheel. *Poems.*
**Ihar Kananovič.** Walking on. *Poems.*
**Viktar Žybul.** My Color Revolution. *Poems.*
**Iryna Belskaja.** An Angel with Wounded Halo. *Poems.*

***PROSE***

**Ihar Babkoŭ.** The Portrait of Artist, Invisible in the Twilight. *A novel. (Beginning).*
**Leanid Dranko-Majsiuk.** In Vilnius and Nowhere Else. *(Continuation).*
**Alieś Hizun.** The Third Arm of Artist Runievič. *Short Stories.*
**Liudmila Rublieŭskaja.** Bestiary of My Soviet Childhood.

***DEBUT***

**Kiryła Staselka.** The Eternal Children. *A Short Story.*
**Hanna Hrydziuška.** I Won't Go to the Sea. *Poems.*

***TRANSLATIONS***

**Comte de Łautréamont.** Les Chants de Maldoror. *A short story.*
**Ilya Kaminsky.** Dancing in Odessa. *Poems.*

***ARCHIVES***

**Siarhiej Šapran.** "Cinema is collective art..." *Dramatic cinema-dramaturgic destiny of Vasił Bykaŭ. Continuation.*

***DIARIES***

**Nił Hilievič.** The Tragical 96-th. *Selected pages of the diary.*

***ESSAYS***

**Alieś Kirkievič.** The Spring. Antalya. Easter. *The philosophy of the prison yard.*

***WORDS***

"Age Alotted to Me, I Lived Not in Vain". *Hienadz' BURAŬKIN talking to Zmitrok VERAS.*
"Obstacles and Pressures" by Dmitry Płaks... *Dmitry PŁAKS talking to Alieś PŁOTKA.*

***ART***

**Kaciaryna Bezmacernych.** "There Is No Artist Without Love...". *Artists Aliena ŠLEHEL and Uladzimir HANČARUK talking to Kaciaryna Bezmacernych.*

***CRITICISM***

**Aliaksiej Rahulia.** In the Woods, in the Field – in the Centre of Europe. *Ethics and Sociology of the Prose of Hienrych Dalidovič. (Ending).*
**Maryna Viesiałuha.** To Live in Another World. *Notes about Siarhiej Kalenda's book "Rusty Room with White Wallpaper"*
**Leanid Hałubovič.** On the Vital Ryžkoŭ's First Book. *Abstracts for the unwritten review.*

***MEMORY***

**Alieś Bakač.** Laughing in the face of Life and Death. *Remembering Yan Zbažyna.*

***DZIEJASŁOŬ'S STOCK***

*New books on DZIEJASŁOŬ's shelves.*

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленьні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

Гэты нумар часопіса незвычайны тым,
што ў жніўні-верасні адзначаюць свае юбілеі
адразу некалькі вядомых беларускіх пісьменнікаў...
"Дзеяслоўцы" шчыра віншуюць шаноўных

**Ніла Сымонавіча Гілевіча,**
**Генадзя Мікалаевіча Бураўкіна,**
**Сяргея Іванавіча Законнікава**

з чарговымі "круглымі" датамі ў іх жыцці,
зычаць ім добрага здароўя,
плёну на доўгія гады, новых творчых поспехаў...
і далучаюцца да ўсіх прыемных пажаданняў,
што яшчэ прагучаць на адрас нашых слаўных юбіляраў.



У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Сяргея Шапрана, Уладзіміра Крука,
Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага, Юрыя Дзядзінкіна.




# PERAШКОДЫ І NAЩІСКІ

## СУПОЛЬНЫ ПРАЕКТ ДЗМІТРЫЯ ПЛАКСА І ФІЛІПА ЧМЫРА

PERAШКОДЫ І NAЩІСКІ

PERAШКОДЫ І NAЩІСКІ

Тэкст, чытанне: Дзмітры Плакс
Музыка: Філіп Чмыр
Гукарэжысёр: Андрэй Жукаў


Tekst, čytannie: Dmitri Plax
Muzyka: Philippe Tschmyr
Saŭnddyzajn: andrew zhoo


Праект рэалізаваны ў межах кампаніі "Будзьма беларусамі!"

artwork by Сяржук (Zuker) Лапуць
адказны за выхад дыску – Алесь Плотка